Усе апісаныя
ў рамане падзеі
выдуманыя,
любыя супадзенні
з рэальнымі асобамі
выпадковыя

## 1

Я — Імператар. Мне васямнаццаць. Зіма. Пачатак васьмідзясятых. Я еду апошнім аўтобусам з ускраіны ў цэнтр, з Уручча на плошчу Якуба Коласа. У кішэні пачатая пляшка «Кіндзмараулі». Я разбіты і патаптаны. Я закаханы ў смяшлівую каравокую аднакурсніцу Алу. Я прыехаў да яе ў інтэрнат, а ў той на ложку — сірыец са старэйшага курса.

Ноч. Мароз за акном. У горадзе пустэльна і цёмна. У аўтобусе я і тры пралетарыі. Яны моцна п’яныя. У іх у руках пляшкі недапітага піва. Утаропіўшыся на даўгія мае валасы і завушніцу ў вуху, яны абзываюць мяне педэрастам. Адзін пралетар падыходзіць, зрывае з мяне капялюш і моўчкі сыходзіць. Я даганяю яго і б’ю ў ненавіснае рыла. Утрох яны доўга топчуць і топчуць мяне нагамі. Адчыняюцца дзверы. Я лячу на прыпынак. Пустэльная плошча. Коласу помнік. Гіганцкая галава абыякава пазірае бронзавым вокам. Цішыня. Ідзе снег. У вушах гудуць белыя мухі. У кішэні шкло і нешта чырвонае. Віно разбілася.

## 2

На задворках старога тралейбуснага дэпо ў былым пункце прыёму шклатары адчынілася галерэя. Раней у нашым горадзе не было галерэй. То бок, меліся *памяшчэнні*, якія хоць і называлі сябе ганарліва галерэямі, але ўсё адно заста-

валіся *памяшчэннямі* і адпаведна ўтоўплівалі ў сябе ўсё. Хто заўгодна за штуку-дзве баксаў мог зняць залу Палаца прыўкрасных мастацтваў і развесіць там, скажам, выставу цудоўных лірычных пейзажаў. Потым, бывала, прыйдуць папы, дадуць яшчэ штуку-дзве баксаў і атабараць у той самай зале кірмаш цудадзейнага праваслаўнага мёду. Не паспее народ *сьвенты* мёд па хатах разнесці, як абутнікі ўжо ладзяць распродаж шыкоўных канфуцыянскіх ботаў.

Хто яго ведае, чаму не было ў нас у горадзе галерэй, пакуль не адчынілася гэтая. Мо не любяць нашы людзі галерэй. Недалюбліваюць, так бы мовіць. Ці любяць, але не зусім, не настолькі, каб іх цярпець. Бо ясная ж рэч, дзе галерэі — там мастакі. А дзе мастакі — там і багема. А багема — гэта п'янства, бляцтва, смецце, смурод, бляшкі і пляшкі з-пад піва, віна, каньяку ды гарэлкі, адным словам, шклатара і ніякага парадку. А парадак — гэта тое, чым славіцца наш горад. Хто ні прыедзе, усе ў адзін голас: які правільны, які цудоўны, які чысты горад! Газончыкі акуратненькія, вуліцы чысцюткія, машынкі ездзяць, бы карцінкі! І нават людзі ходзяць толькі на зялёнае святло.

Дворнікаў у нас сапраўды хапае. Бывае, не паспееш кінуць недакурак на ходнік, тут жа прылятуць чалавек пяць ды яшчэ паспрачаюцца, каму ён дастанецца. Але і недакуркаў у нас на ходнікі праве ніхто не кідае, бо нашы людзі любяць парадак. Любяць, каб парадак і чысціня. Чысціня ды парадак. Бы на могілках.

Таму, калі ў нашым горадзе адчынілася галерэя, то з'явілася яна там, дзе толькі і магла з'явіцца, — далей ад парадку і людскіх вачэй, на задворках старога тралейбуснага дэпо, у былым пункце прыёму шклатары. Я гэтую шклатару, калі яна была яшчэ шклатарай, памятаю кепска. У маладосці, як мелі мы звычку здаваць пустыя бутэлькі, бо нечага тыя бутэлькі яшчэ каштавалі, я хадзіў у іншую

шклатару, бліжэй да дому. Хоць, прыгадваю, раз, выйшаўшы з хмельнага туману, мы натрапілі й на гэту. Калі тое было, з кім ды чым скончылася, з памяці сцерлася. Відаць, вярнуліся назад, у туман. Помню толькі ліпкае спякотнае лета. Зрэшты, няважна. Важна тое, што адбылося далей, як адчынілася ў той шклатары галерэя.

Яе гэтак і назвалі — «У шклатары». Някепскі назоў. Галоўнае — незвычайна. «У», праўда, неўзабаве само сабою адвалілася, выйшла проста «Шклатара». Зрэшты, трапна. Нашто ўскладняць?

Там жа, у будынку шклатары, прытуліліся дызайн-бюро «Вамп», кавярня «Манага», выдавецтва Сцёпіна ды ягоная ж «Кнігарня». Праўда, у хуткім часе літары «Кні» ад «Кнігарні» таксама адпалі, а замест іх прыляпілася тое «У», што адляцела ад галерэі. Выйшла — «Угарня». Кажуць, літары «Кні» яшчэ нейкі час валяліся ля «Шклатары». Але потым заявіліся дворнікі, паднялі ды занеслі на сметніцу — непарадак жа. У нашым двухмільённым мегаполісе трэба, каб чыста было паўсюль. Нават на задворках старога тралейбуснага дэпо.

Раней я бутэлькі толькі здаваў. Але калі адчынілася гэта галерэя, зразумеў, што значыць «быць на прыёме шклатары». Я сядзеў за канвеерам барнай стойкі «Манагі», а яны ўсё цягнуліся ды цягнуліся: высокія, зграбныя, маленькія, пузатыя, недапітыя, бітыя, поўныя, пустыя, з вытанчанымі рыльцамі і не вельмі, крохкія, таўстаскурыя, піўныя, каньячныя, вінныя, зеленавокія, каравокія, інтэлігентныя ды не надта, бландзінкі, брунеткі, шатэнкі, добрыя, злосныя, пяшчотныя, сцярвозныя.

Калі адчынілася «Шклатара», нешта ў нашым горадзе змянілася. Да гэтага кожны спусташаў і здаваў шклатару ў сваім спальным раёне. А цяпер усе пацягнуліся сюды. Рана ці позна мусіла сюды прыйсці і яна.

## 3

Апельсіны Ян трымаў ў сярэдняй шуфлядзе пісьмовага стала. Ачуўшыся ад нядоўгага сну, ён пацягнуўся да шуфляды рукой і дастаў схаваны пад апельсінамі рэвальвер.

За шчыльна завешанымі парцьерамі згасаў імглісты, пахмурны восеньскі дзень.

Гадзіннік прабіў тры разы. Здрыгануўшыся пры першым удары, Ян нахіліўся пад стол і выцягнуў з цемры цяжкі скураны саквояж. Не зводзячы вачэй з саквояжа, ён узяў апельсін і пачаў абіраць.

Сумневы мучылі яго не першы дзень. Клаўся ён цяпер позна, але нязменна прачынаўся на золку, набіваў люльку тытунём, падыходзіў да чорнага пустога акна, узіраўся ў цмянае, дрыготкае святло ліхтара. Папаліўшы, зноўку клаўся ў пасцель, але заснуць болей не мог.

Сёння Ян задрамаў за сталом ды прысніў, нібы нясецца праз мокры начны гушчар, і гоніцца за ім нехта ў чорным плашчы. Ян задыхаецца, галіны хвошчуць па твары, абсыпаюць кроплямі халоднага страху, а той невядомы ўсё бліжэй і бліжэй. Тут да Яна дайшло: чалавеку ў плашчы патрэбна ягоная галава. Мала таго, Ян з жахам адчуў, што невядомы канечне яе атрымае, як толькі дагоніць. І, мабыць, дагнаў бы, калі б Ян не прачнуўся.

— І праўда, галава ўлезла б, — пазіраючы на саквояж, Ян паклаў дольку апельсіна ў рот.

З пярэдняй пачуўся званок. Ян страпянуўся: хто б гэта мог быць? — гасцей ён не чакаў, апошнім часам іх увогуле не бывала. Ян сунуў рэвальвер у шуфляду, схапіў саквояж, схаваў яго ў шафу.

Пазванілі яшчэ раз, настойлівей. Ян кінуўся да дзвярэй і застыў.

— Чего вам, сударь, угодно? — данёсся Сямёнаў голас.

У адказ раздаліся цяжкія, пагрозліва манатонныя крокі.

— Ээ…й, кудыть вашу! Бога душу! К господину Завальне, что ль? Так бы и сказали. А то молчите, небось, на лбу-то у вас не написано! — голас выдаваў, што Сямён ужо добра набраўся.

Глухія крокі набліжаліся да пакоя. Прыпаўшы да адтуліны замка, Ян цьмяна пабачыў надзвычай высокага чалавека ў чорным плашчы. Твару было не разгледзець, няяснаю плямай той раставаў у цемры. Невядомы моўчкі ішоў наўпрост да дзвярэй, а нізкарослы Сямён, нешта мармычучы сабе пад нос, ледзьве паспяваў за госцем дробнай блытанай хадою.

— Чё там, Сёма? — з дальняга пакоя выйшла Агаф'я.

— Чё, чё. А черт-те знает чё! Явился какой-то!

Падышоўшы да дзвярэй, невядомы тройчы гучна грукнуў. Ян сцішыў дыханне. Грук напорыста паўтарыўся. Госць нібы ведаў, што Ян за дзвярыма.

— Чё стучите? Нету их! Может, чё пере…, — Сямён на паўслове заціх.

Невядомы загрукаў з новай сілай.

— Вы тут, сударь, не безобразничайте! Чё, не видите? Нету их! — завішчэла Агаф'я, але тут жа і яна раптам замоўкла.

Ян замёр у цішыні, намагаючыся амаль не дыхаць. Унізе нешта зашамацела, са шчыліны пад дзвярыма паказалася капэрта. Зноў пачуліся крокі, пасля бразнулі дзверы. Трохі счакаўшы, Ян асцярожна падняў капэрту, тут жа распячатаў і прачытаў:

«Дарагі Яне, грэшная душа Станіслава, твайго бацькі і майго няшчаснага брата, пакінула нас. Неадкладна вяртайся ў Камаеды. Цяпер адзін ты ўсё вырашыш».

Подпіс: *«Адам Завальня».*

— Вось і адказ, — прашаптаў Ян, кінуўшы ліст на стол. — Лёс сам усё вырашыў.

Адчуўшы палёгку, ён выйшаў з пакоя. З перакошаным тварам ля дзвярэй, бы здранцвеўшы, стаяў Сямён. Трохі воддаль, вылупіўшы вочы ды шырока разявіўшы рот у пустэчу, сядзела Агаф'я. Абодва знерухомелі ў бязмоўі, быццам толькі што пабачылі нейкае дзіва.

## 4

Ілля Засімовіч не любіў апельсінаў. Яшчэ болей недалюбліваў ён людзей. Таму праца ў анатамічным тэатры яго цалкам задавальняла. Людзі тут былі негаваркія, а паразмаўляць ён любіў толькі з сабой. Адно што санітары раздражнялі. Калі яны зрэдку заходзілі ў ягоны змрочны пакой, Ілля нецярпліва пакрыкваў на іх, усім сваім выглядам даючы зразумець, каб рабілі хучэй тое, што трэба, дый правальвалі прэч.

Ягоны век вызначыць было цяжка. У маладосці Ілля падаваўся куды старэйшым за свае гады. Затое потым ягоная знешнасць нібыта муміфікавалася, і ў пяцьдзясят яму можна было даць сорак, а то і ўсе трыццаць пяць. Ён рана аблысеў, таму заўсёды дачыста галіў галаву. Росту быў невялікага і меў з маленства дэфект — адну нагу трохі карацейшую за другую. Пры хадзе ён кульгаў і зазвычай абапіраўся на кій.

У гэты дзень Ілля нікога не чакаў. Ён увогуле ніколі і нікога не чакаў. Схіліўшыся над целам шчуплай дзяўчыны, у прыўзнятым настроі ён ціха сабе пад нос напяваў:

— На заре ты ее не буди… на заре она сладко так спит… утро дышит у ней на груди… ярко пышет на ямках ланит…

Таму, калі на парозе ягонай прапахлай салодкай чалавечаю гніллю залы паявіўся санітар ды паведаміў, да яго, маўляў, госць, Ілля, надта здзівіўшыся, незадаволена прабурчаў:

— Кого там еще черти? Ладно! Пусть зайдет!

Ён кінуў інструменты ў тазік з вадой і, напяваючы: — Все бледней становилась она… — узяўся змываць з рук кроў.

Убачыўшы на парозе Яна, Ілля раптам спахмурнеў, выцер рукі аб фартух, дакульгаў да дзвярэй і ледзь гучна, нібыта мерцвякі маглі іх пачуць, злосна прахрыпеў:

— Ты што? Чэмеру аб'еўся? — Ілля нервова замкнуў дзверы на ключ. — Я ж цябе папярэджваў! Сюды не прыходзь!

— Ілля, размова ёсць, — апусціўшы вочы, шапнуў Ян.

— Што яшчэ за пільнасьць?

— Важная размова!

— Добра. Пачакай. Раз прыйшоў, дай ужо, браце, абдыму цябе, — крыху адпусціўшы з твару гнеў, Ілля наблізіўся і тройчы пацалаваў Яна, злёгку пастукаўшы яго кіем па спіне. — Адзін ты ў мяне застаўся! А строгасць не зашкодзіць! Сам знаеш: вушы паўсюль. За тое мерцвякоў і люблю. Гэтым можна ўсё даверыць.

— Ілля, я…

— Пачакай! Гэх, Янушка, на вялікую справу ідзём! На нябачанае замахнуліся! Хадзі, вып'ем па чарачцы за ўдачу, каб не пакінула яна нас! А ўдача цяпер вох як патрэбна!

Абапіраючыся на кій, Ілля закульгаў да буфета ў далёкім куце. Але, прайшоўшы некалькі метраў, спыніўся ля аднаго са сталоў і рэзка рвануў з яго прасціну.

— Ты глянь, які анёлачак! Ад неразздзеленага кахання рукі на сябе налажыла!

Сарваўшы прасціну з другога стала, дадаў весялей:

— А гэтага на Фантанцы ў карчме нажом паласнулі! Чижик-пыжик, где ты был? На Фонтанке водку пил! Выпил рюмку, выпил две, закружилось в голове! — адной нагой — той, што даўжэйшая, — Ілля пачаў спраўна адбіваць чачотку.

— Старая працэнтшчыца, — спыніўшыся каля наступнага стала, холадна кінуў ён. — Сякераю ў цемечка. А гэта пекная! Дзеўка яшчэ! Там жа знайшлі, разам са старою. Ночь светла, над рекой тихо блещет луна… — напяваючы, Ілля прыўзняў кій і павольна, элегантна прыстаўляючы даўгую нагу да кароткай, пачаў вальсаваць. — И блестит серебром голубая волна… Тёмный лес там в тиши изумрудных ветвей… Звонких песен своих не поёт соловей…

У голасе Іллі пачулася такая журба, такі шчыры смутак, што Яну на момант зрабілася яго шкада. Здавалася, што і кульгавасць знянацку прайшла. Вальсуючы, Ілля быў узнёслы і грацыёзны ў самотным танцы з самім сабою. Наблізіўшыся да буфета, ён заспяваў яшчэ гучней, голасам, што да глыбіні кранаў душу:

— Милый друг, нежный друг, я, как прежде, любя, в эту ночь при луне вспоминаю тебя. В эту ночь при луне, на чужой стороне…

Ён замоўк на паўслове, глянуў Яну ў вочы і змрочна спытаў:

— Што пануры такі? Страшна табе?

Але не дачакаўшыся адказу, ціха дадаў:

— І мне страшна. Жуда бярэ, як страшна, Янку.

Тут у пакоі завісла такая цішыня, што салодкі трупны пах зрабіўся яшчэ больш невыносным. Ілля зноўку скурчыўся, бы тая кульба, закульгаў да буфета, але, не дайшоўшы, раптам павярнуўся і закрычаў, пырскаючы слінай Яну ў твар:

— Але не цяпер! Прэч! Думкі прэч! Сумневы прэч! Не думай! Цяпер на нас лёс народу! Мы — агнцы! Мы на ахвярны алтар сябе прыносім!

Схапіўшы графін, ён напоўніў чарку гарэлкай, узяў другую.

— Ілля, я ад’ядзжаю… — выдыхнуў Ян.

Толькі зараз Ілля згледзеў у руках у Яна вялікі скураны саквояж.

Графін ледзь бачна затросся. Напоўніўшы другую чарку даверху, Ілля ў зняменні ліў гарэлку на падлогу. Нарэшце ён адставіў графін, моўчкі ўхапіў кій і ўсутыч наблізіўся да Яна.

— Даруй, Ілля… Не змагу…

Не адводзячы пагляду, Ілля выпіў, пабарвавеў і, прахрыпеўшы: «Сука! Дрэнь! Заб'ю!» — усім целам наваліўся на Яна. Абодва адскочылі да стала з засечанаю дзеўкай і кульнуліся на яе.

— Як ты смееш! Юда! Заб'ю суку! Заб'ю! — душыў Ілля Яна кіем. — Ты ж крывёю кляўся! Ты ж мне брат! Што твая кроў? Што тваё слова? Сваімі рукамі зараз! Падлюка!

— Ілля… Шакваяж… не ўтрымаю… — прахрыпеў Ян.

Кій троху падаўся. Асцярожна паставіўшы саквояж на дзяўчыну, Ян, цяжка дыхаючы, прашаптаў:

— Бацька памёр… даруй… вярнуцца мне трэба… у Камаеды… заўтра паеду…

— Бацька? Які бацька? — Ілля апусціў кій. — Станіслаў?

— Сёння вестку атрымаў.

Ілля на хвілю завагаўся, потым штомоцы бразнуў кій аб падлогу, схапіў Яна загрудкі ды наноў залямантаваў:

— Дый хоць бы і бацька! А ты?! Ты пра маці падумаў? Адна яна ў нас, сірот, засталася! Зямля нашая! Што з ёю будзе? Цяпер ад цябе ўсё залежыць! Толькі мы можам ратаваць яе! А ты, юда!

— Даруй, браце! Не магу! — здушаным голасам вымавіў Ян. — Не магу чалавека забіць. Думка гэтая ўпоперак сэрца стаіць! Кроіць, катуе мяне! А цяпер, як дазнаўся, што бацька памёр, адразу зразумеў: вышэйшая воля знак дасылае. Кажа: «Не пераступі! Хоць бы і за маці, але не смей!»

— Сумневы мучаць? Ізноў думаеш? Я ж табе сказаў! Ваганні прэч! Не думай! Убач боскае святло! Агонь Ахвярны!

— Гэта ж не ў васковую фігурку іголку ўвагнаць, а ў чалавека жыццё забраць! Не магу гэткі грэх на душу ўзяць! Не па-хрысціянску гэта...

Ілля падняў кій і ціха, ледзь не з пакорай прашыпеў:

— Не па-хрысціянску? А па-хрысціянску — гэта як? З любоўю?

Ён закульгаў у глыбіню залы, потым рэзка павярнуўся і зароў, імгненна змяніўшыся з твару:

— А як няма ўва мне ўжо любові? — падляцеўшы да зарэзанага ў карчме мужыка, Ілля тройчы працяў яго кіем: — Ані не засталося! Адна нянавісць! Нянавісць! Нянавісць!!! — ён кінуўся да цела старой і ўзяўся раз'юшана лупіць яго кіем. — Нянавісць! Нянавісць! Нянавісць!

Гайсаючы ў істэрыцы па пакоі, Ілля падбягаў да мерцвякоў і шалёна іх лупцаваў. Тыя моўчкі адказвалі яму трупным смуродам. Нарэшце, адскочыўшы на сярэдзіну залы, ён упаў на калені з перакошаным ад плачу тварам і, узняўшы рукі да неба, нібыта звяртаючыся да Бога, захрыпеў:

— Гэткая нянавісць, аж душу выварочвае! Гэткая нянавісць, аж спаць не магу! За ўсё! За ўсё, што яны з намі зрабілі! З маім бацькам, братам, з народам! Як мне жыць?! Як жыць з нянавісцю гэтай?

Знямогшыся, ён скурчыўся на падлозе ды затросся ўсім целам.

Ян ціхенька падышоў да Іллі, укленчыў побач ды прашаптаў:

— Даруй, браце! Ведаю, подла. Толькі на такое трэба па сваёй волі ісці. А па сваёй, прабач, не магу.

Падняўшы галаву, Ілля заплаканымі вачыма зірнуў на Яна, прытуліўся да ягоных грудзей ды, як малы, захлюпаў:

— А ведаеш, Янку, у гэтай нянавісці ўвесь мой сэнс. Без яе я ўжо не змагу. Знікне яна — і сэнсу не будзе...

— Але няўжо ж нянавісць выратуе?

— Дурань ты, браце. Які дурань! — прамычаў Ілля, размазваючы рукавом слёзы па твары.

Ён адхінуўся ад Яна і на карачках папоўз да буфета. Прыхапіўшы графін, вярнуўся назад.

— Давай вып'ем за спачын твайго бацькі!

Напоўніўшы чарку, ён кульнуў яе ды зноў паглядзеў Яну ў вочы.

— Ты ж бацьку не любіў. Казаў: карцёжнік, п'яніца, маёнтак да галечы давёў, маці ў магілу загнаў.

— Ды што ўжо цяпер. Шкада мне яго. А пасля смерці шмат чаго можна дараваць.

— А ведаеш, Янку, — неяк ажывіўся Ілля, — мне твой бацька іншага Станіслава нагадвае. Апошняга караля нашага — Станіслава Панятоўскага. Той таксама матухну Рэч Паспалітую праматаў, прафінціў, у карты прагуляў! Усё з імперыямі фліртаваў, спакой сабе вытаргоўваў, а памёр, як сабака пад плотам! А нам цяпер ганьбу бацькоў сваёю крывёю змываць.

Ілля падняўся і пачыкільгаў да буфета. Узяўшы гітару, вярнуўся на падлогу ды зацягнуў:

— Под луной расцвели голубые цветы, этот цвет голубой — это в сердце мечты...

— Даруй. Пайду я, — Ян узяў саквояж, паставіў яго перад Іллёй і накіраваўся да дзвярэй.

— К тебе грезой лечу, твое имя твержу, при луне в тишине я с цветами грущу... Пачакай, браце. Хадзі сюды!

Ян павярнуўся да Іллі.

— Страшна мне, Янку! Не за сябе. Страшна, што ўсё марна будзе. Страшна курок заўчасна спусціць, а другога шанцу лёс не падорыць.

— Спыніся! Не рабі гэтага. Пра душу падумай.

— Няма ў мяне болей душы. Згарэла ўсё. Адно папялішча. Пайду. Усё адно пайду. Адзін пайду.

Ян схіліўся да Іллі, пацалаваў яго ў лоб і рушыў да дзвярэй.

Ілля адставіў гітару, прытуліў да грудзей сакваяж з бомбаю і ціха застагнаў:

— Ночь светла, над рекой тихо светит луна, и блестит серебром голубая волна. Дурань ты, браце. Дурань... Юда... Ю-у-да-а-а...

## 5

Яна з'явілася ў суботу, толькі сцямнела. Стаяў той душны чэрвеньскі вечар, калі паветра набрыняе вільгаццю так, што адчуваеш пах мора, якога, як і галерэй, няма ў нашым горадзе. Я паліў на ганку «Угарні».

— Ці прайду я тут у «Манагу»? — запыталася яна.

Я паказаў ёй дарогу.

У суботу ў «Маназе» зазвычай ладзілі дыскатэку. Запрашалі моднага дыджэя, ставілі на ўваходзе варту і прапускалі толькі па квітках. Але «Шклатара» мела два ўваходы. Таму трапіць у «Манагу» можна было і праз кнігарню, абмінаючы варту. Увогуле, «Манага» вельмі хутка зрабілася ў нашым горадзе месцам дарагім і модным. Хаця канабіёлавы адвар кіслотна-зялёнага колеру тут не падавалі, аднак большасці мастакоў яна была не па кішэні і збірала пераважна моладзь, у якой і без таго з зеленню ўсё ў парадку. Праўда, наведвалі яе і людзі накшталт мяне. Мы служылі, хутчэй, заманухай: вядомыя ў падполлі паэты, мастакі і музыкі. Нам нават выдалі клубныя карткі на зніжку ў дваццаць адсоткаў. Але атаварваў я на картку толькі малако і зялёную гарбату. А пілі мы заўсёды за сцяной — у кнігарні.

У гэту суботу ў кнігарні таксама было свята. Зрэшты, свята здаралася тут ледзь не штодня. Адмысловай нагоды ніхто не шукаў. Проста прыходзіў у «Шклатару», скажам, філёзаф Баброў, ставіў на канвеер пляшку каньяку «Версаль». Такі да? Паўнюткую будзем здаваць? Ясна, што не. Трэба спаражніць. А тут яшчэ Адамовіч, таксама філёзаф і таксама з каньяком, — увогуле, неяк вабіць філёзафаў каньяк. Прысядуць яны сабе ў кабінеце Сцёпіна, гаспадара «Угарні», і на трох спусташаюць. А там, глядзіш, пісьменнікі падцягнуцца, ды таксама не з пустымі рукамі. І ўжо недзе а дзявятай вечара канапцы няма дзе ўпасці, а народ усё прыбывае. Тады перабіраюцца ўсе ў кнігарню. Кніжкі са сталоў — прэч, а замест іх — пляшкі. І спусташаюць да другой гадзіны ночы. Дарэчы, «Угарня» — адзіны ў нашым горадзе кніжны начнік. А каньяк з нядаўніх часоў і я палюбіў. Відаць, узрост. Час і мне філосафам станавіцца.

Калі з’явілася яна, мы са Сцёпіным толькі скончылі першую. У цемры я нават яе толкам не разгледзеў. Але калі яна ўзнялася на ганак, у космасе штосьці з’іначылася. Расклаўшы прысмакі на піяніна, мы адкаркавалі другую, а мне ўжо не сядзелася. Размова неяк адразу разладзілася. Я адчуваў ейную прысутнасць за сценкай. Хацелася ўстаць, пайсці ў бар і зірнуць на яе яшчэ раз.

— Я зараз! — не вытрымаўшы, нарэшце кінуў я Сцёпе і рушыў у «Манагу».

Яна самотна сядзела за куфлем піва ля стойкі. Нешта было ў яе выглядзе ад стылю Како Шанель: чорная вузкая сукенка, чорныя як смоль, доўгія валасы, чорныя вострыя туфлі на высокім абцасе, вугальны макіяж, мабыць, гэткая ж чорная пад сукенкай бялізна і пунсовыя, падмаляваныя контурным алоўкам вусны. Публіка тоўпілася вакол, бар гаманіў, але яна, здавалася, была да ўсяго безуважная. Яна нагадвала маладую ўдаву. Стваралася ўражанне,

што ейны чорны колер — нават не стыль, а штосьці большае, нейкая метафізічная жалоба.

Я нахабна любаваўся ёю з цемры праз доўгі канвеер барнай стойкі. Чым даўжэй я назіраў, тым болей яна мяне інтрыгавала. Яна адрознівалася ад звычайных наведвальнікаў «Манагі» з іхнымі віннымі, піўнымі, гарэлачнымі, фермонавымі вачыма. Хутчэй яна мела падабенства з даўкм чорным бальзамам, настоеным на дзясятках рэдкіх вядзьмарскіх зёлак. Не было ў ёй ні саладжавасці, ні правільнасці, ні чысціні ліній, а хутчэй тая прыгажосць, ад якой адразу хмялееш, а з чаго менавіта, уцяміць не ў сілах. Можа, б'е па мазгах горкі абрыс ейных плячэй? Можа, тонкія размарынавыя пальцы? Альбо дзве мятныя зморшчынкі каля рабінавых вуснаў? Ці экстракт валяр'яну ў прапорцыі сцёгнаў? А можа, вочы? Было ў іх нешта каламутнае, вільготнае і лясное.

Я заварожана глядзеў на яе, пакуль не зазваніў тэлефон.

— Што, каньяк у «Шклатары» жарэш? — бадзёрым голасам рассакрэціў мяне Канаваленка

Я чакаў ягонага званка цэлы вечар. У бары было шумна, я выйшаў у галерэю.

— Я прачытаў, — сказаў Канаваленка.

— Ну і?

— Класная сцэна! Мне спадабалася! Можаш жа, сукін сын, калі захочаш! А то геній, геній! Пхаць вас, геніяў, трэба керзавым ботам! Я нездарма ўчора на цябе наехаў. Калі б не наехаў, ты б яе так не перапісаў.

— Што я — тупы, па-нармальнаму не зразумеў бы? — з паказною крыўдай агрызнуўся я, хоць унутры ўжо ўзлятаў.

— Ні хуя! Па-нармальнаму вы, сцэнарысты, не разумееце! Вунь Качаноўскі мне з Кіева таксама нейкую хрэнь прысылае. Пакуль не наедзеш, нічога як след зрабіць не

можаце. Што гэта была за сцэна? Карчма. Банальна, млява. Мыла нейкае. А Ілля? Што гэта за Ілля? Гэта фраер, а не Ілля. Ён жа бамбіст! Фанатык! Ебануты на ўсю галаву!

— Добра, добра, — прымірэнча прамовіў я. — Я рады, што табе спадабалася. Слухай, як ты мяркуеш, ці няма перабору? Анатамічны тэатр. Ці не занадта пафасна?

— Нармалёва. Тое, што яны там па трупах куляюцца, — выдатна! І Ілля цяпер сапраўдны! Проста паводле твайго ўлюбёнага Фёдара Міхайлавіча! Абсалютны неўрастэнік. Файна! Давай, цісні на эмоцыю!

— А старая працэнтшчыца? Можа, прыбраць? У якім годзе яе Раскольнікаў замачыў? У нас жа 1881-шы.

— Не важна! Гэта ж алегорыя. Якая, на хер, розніца, у якім годзе! Давай, не надта там бухай, працуй далей! Сёння Надзея ўжо званіла! Пыталася, калі скончым. Сказала, да першага верасня кроў з носа! Бабкі гараць, запускацца трэба! Добра, пакуль! — Канаваленка паклаў трубку.

Я злавіў штосьці такое блізкае да пачуцця шчасця і нават на імгненне забыўся на незнаёмку ў бары. Я хоць і сам ведаў, што сцэна ўдалася, але ўсё ж чакаў гэтага званка, каб развеяць апошнія сумневы. Вярнуўшыся ва «Угарню», я заспеў Сцёпіна, які нудзіўся ля піяніна.

— Ну дзе цябе носіць? — з палёгкай кінуў ён. — Я што, адзін мушу піць?

— Пайшлі, нешта табе пакажу!

Мы махнулі па маленькай, і я пацягнуў Сцёпу ў бар.

— Паглядзі вунь на тую дзяўчыну ля стойкі! — намагаючыся перакрычаць шум дыскатэкі, прароў я Сцёпе ў вуха. — Што ты пра яе думаеш?

— Якая? Чорная?

— Ага! Чорная!

— Забірай! Яна твая!

— Не! Я сур'ёзна! Што ты пра яе можаш сказаць?

— Комплексаў замнога! Паглядзі: усе адрываюцца, а яна тут як чужая! На хрэн табе гэткая патрэбна! Хадзем лепей вып'ем! — прароў Сцёпа мне ў адказ.

— Я хачу выпіць яе!

— Табе што, нармалёвых баб мала? Паглядзі, колькі іх тут! А ў гэтай вочы ўнутр сябе зазіраюць! Праблемная дзеўка! Што ты ў ёй знайшоў? А, разумею, — ён пляснуў мяне па плячы. — Худая, грудзей няма, і нос, як у качкі! Ты на такіх западаеш!

— Добра! Ідзі, зараз буду!

Я заўсёды зайздросціў тым, хто ўмее знаёміцца, можа падысці на вуліцы да дзяўчыны і пачаць з якога-небудзь тупога пытання: «Ці не ведаеце вы, як прайсці ў «Шклатару»?» альбо: «Мы тут здымаем кіно. Ці не хацелі б вы?..» Але ж сутнасць не ў пытанні, а ў тым, як задаць. Я правільна запытаць не ўмею. Пэўна, і мае вочы глядзяць унутр.

Таму, калі я падышоў і знарок бадзёра кінуў: «Што сумуем?» — гэта не зрабіла на яе ніякага ўражання.

— Я не сумую! — холадна адказала яна.

— А ці не хочаце каньяку? Мы тут з выдаўцом Сцёпіным за сцяною...

— Не, дзякуй! — абарвала яна.

— А як вас завуць?

Яна трошкі памарудзіла, але ўсё ж адказала:

— Маша!

— А, можа, усё-такі...

— Не! — Яна дэманстратыўна ўстала і пайшла танчыць.

Я ведаю, што выглядаў брыдка ў той момант. Я, увогуле, як вып'ю, выглядаю брыдка. Вочкі робяцца такімі вузкімі, алейнымі, позірк — туманным. А ў тым тумане сядзіць юрлівы кабель. І калі на каго ён і робіць уражанне, то толькі на такіх самых п'яных, юрлівых сучак. Мала таго, і на прыстойную дыкцыю я забываюся чаркі пасля пятай.

Добра яшчэ, што весною паспеў ўставіць страчаныя на франтах зубы, а то яна знікала б пасля трэцяй. Але галоўнае — я не здолеў да канца ачуняць ад акопнай хваробы, якую падхапіў мінулай зімой пад Сталінградам. Так я называю тую глуш, дзе мы з Канаваленкам здымалі фільм пра пярэваратня-мядзведзя.

Я служыў на карціне мастаком-пастаноўшчыкам і камандаваў цэлым палком дэкаратараў. Здымалі мы на натуры ў вялізным занядбаным маёнтку без святла і ацяплення. Пад'ём на світанку, зіма, холад, па калена ў вадзе і лайне. Святло падавалі толькі апоўдні, калі падцягваліся светлякі з астатняй групай. Адным словам, жыццё ў нас было акопнае — без франтавых ста грамаў ніяк. Прыязджаеш на пляцоўку а восьмай — тут жа па шклянках разлілі, крабавымі палачкамі закусілі — і на перадавую. І вось праз некалькі месяцаў такога жыцця твар распух, быццам блін. Гэта я і назваў акопнай хваробай.

Я зразумеў, што знаёмства скончанае, але адышоў не адразу. Крыху пастаяў, нахабна ацэньваючы яе фігуру. Стан ў яе быў тонкі і зграбны, але танчыла яна так сабе. Неяк нервова і рвана, прагіналася, нібы сцябліна, пад рознаскіраванымі парывамі ветру ды не магла выбраць, пад які з іх легчы. Я павярнуўся і, расчараваны, пайшоў ва «Угарню».

Мы са Сцёпіным выпівалі сабе далей у закутку ля піяніна, але думкі пра яе не адпускалі. Ейныя горкія, травяныя вочы заклікалі вярнуцца. Я адчуваў раздражненне ад таго, што яна з парога мяне адшыла.

Калі я зноў паявіўся ў «Маназе», яна ўжо сядзела за столікам. Упаўшы ў фатэль насупраць, я глупстваў больш не казаў. Патлумачыў, што сёння я — п'яны батанік, ведаю, што выглядаю мярзотна, вочкі вузкія і морда-блін праз акопную хваробу. Але насамрэч я не такі. І хачу з ёю зноў сустрэцца. Дадаў, што гэта сур'ёзна, бо яна будзе маёю на-

ступнаю жонкай. Не ведаю, чаму пад канец я гэта ляпнуў. Відаць, надта ўжо яе хацеў.

Яна неяк перамянілася, усміхнулася і адказала, што я настойлівы, і дала свой тэлефон:

— Пазваніце мне! Калі не адкажу, набярыце праз некалькі дзён. Неўзабаве мне трэба ад'ехаць.

Праз дзень я патэлефанаваў. Нумар быў недасяжны. Я набыў пірацкі дыск з базамі тэлефонаў. Пад гэтым нумарам ніякая Маша не значылася, а Афанасьева Ніна Аркадзьеўна.

Падманула.

А ў хуткім часе з'ехаў і я.

## 6

Пейзаж за вокнамі змяніўся. І дагэтуль нячастыя вёсачкі зніклі зусім. Вагон нетаропка плёўся сярод бясконцых глухіх лясоў. Зрэдку іх прарэзвалі пустэльныя бязлюдныя палі. Але хутка зніклі і яны: цягнік уехаў у туман, пакінуўшы за вокнамі толькі шэрую заслону тужлівага асенняга дня.

Ян выйшаў на маленечкай станцыі, якая складалася з будкі наглядчыка, што віднелася троху воддаль, і невялікай зачыненай на свірнавы замок камяніцы. Азірнуўшыся па баках, Ян з напаўзабытай журбою ўдыхнуў вільготнае паветра бацькоўскіх мясцін ды накіраваўся да станцыйнага будынка. Яго мусіў сустракаць экіпаж, але на пероне акрамя вялікага рабога сабакі, што ляжаў ля замкнутых дзвярэй, нікога не было.

— Што глядзіш, дружа? Самотна табе? Так, адны мы тут засталіся.

Прыязна махнуўшы хвастом, дружа прыўзняў галаву і ўтаропіўся на госця сумнымі сабачымі вачыма. Дастаўшы кісет, Ян набіў люльку. Але, зрабіўшы пару зацяжак,

са здзіўленнем заўважыў, што сабака з нічога ніякага ашчацініўся і пагрозліва забурчэў.

— Ты што, дружа? Бог з табою, тытуню не любіш ці што?

Той вышчарыў зубы ды зарыкаў яшчэ зласней. Ян міжволі адхіснуўся, а дружа падскочыў ды шалёна забрахаў. Ян зрабіў яшчэ пару крокаў назад, як знянацку натыкнуўся на некага спінай. Абярнуўшыся, ён убачыў перад сабою дзіўнага рослага чалавека з ненатуральна вялікім тварам, які праве цалкам пакрывалі густыя сіваватыя валасы.

— Вечар добры, вашамосць!

— Цьфу ты, чорт! Напалохаў! Як здань якая з туману выпаўз!

— Хадземце, вашамосць! Экіпаж за станцыяй чакае, — схіліўшыся па валізу, чалавек спадылба зірнуў на сабаку. Той тут жа ж заціх і, падкурчыўшы хвост, пабег прэч па пероне.

— Як цябе зваць? — усеўшыся ў экіпаж, пацікавіўся Ян.

— Марка! Накіньце, вашамосць! — ён працягнуў Яну шыкоўнае лісінае футра. — Зябка тут у нас. А да Камаедаў шлях няблізкі.

— А што, Марка, у бацькі перад смерцю грошы завяліся? — збянтэжана запытаўся Ян, пазіраючы то на лісу, то на прыстойную вараную тройку, што нудзілася перад брычкаю. Ён не быў ў маёнтку ўжо дзесяць гадоў, але ведаў, што справы там ішлі кепска. Сціплага пенсіёну, які ён атрымліваў, ледзь хапала, каб аплочваць невялікую кватэрку на Васільеўскім востраве ды трымаць вечна п'янага служку Сямёна.

— Накіньце, вашамосць! Да Камаедаў шлях няблізкі, — нібы не расчуўшы пытання, панура паўтарыў Марка. — Но! Но! Ліхадзеі! — ён хвастануў вараных.

Шлях да Камаедаў насамрэч быў няблізкім. З паўгадзіны павозка трэслася, грукочучы коламі, па брукаванай да-

розе ўздоўж вялікіх, у тры абхваты, дрэваў, за якімі віднеліся пустыя, без прыкметаў жыцця, палі. Але неўзабаве трасяніна скончылася. Яны звярнулі на прасёлак ды ўехалі ў густы хвойны лес.

— Скажы, Марка, а ці даўно ты ў Камаедах служыш? — перарваў нарэшце маўчанне Ян.

— Нядаўна, вашамосць. Гады з два.

— А раней дзе быў?

— Раней усё болей па лясах бадзяўся.

— Па лясах? — ажывіўся Ян. — Што ж ты там рабіў?

— Цяперашнім часам, вашамосць, шмат народу па лясах бадзяецца. Но! Но! Любыя! — хвастануў Марка коней. — Наддайце! Сцямнее хутка!

Навакольны краявід закалыхваў аднастайнай нудою. Неўзабаве павекі Янавы пацяжэлі і ён задрамаў, а калі ачуняў, ужо шарэла. Глухі лес уздоўж дарогі падаваўся ненатуральна ціхім.

Пакурчыўшыся ці то ад сырасці, ці то ад нягэтульнай цішы наўкола, Ян запытаўся:

— Марка, а што з бацькам здарылася? Ад чаго ён памёр?

— Зараз ужо, вашамосць! Пакуль сцямнее, паспеем.

Ян толькі хацеў пытанне паўтарыць, як аднекуль з глыбіні лесу раптам пачулася воўчае выццё. Ян напружана прыслухаўся. Выццё даляцела ізноў, але гэтым разам вылі бліжэй. Усю дарогу лес падаваўся пустым і маўклівым, нават ніводная птушка не цвыркнула, цяпер жа Яну зрабілася ніякавата ад адчування, што яны тут не адны.

— Марка, ты чуў? Ваўкі!

— Но! Любыя! — нібы не расчуўшы пытання, сцёбнуў той вараных.

Праехалі яшчэ з паўвярсты, як выццё пачулася зноў. Цяпер нібыта на самой дарозе, недзе ззаду. Ян прыўзняўся, азірнуўся і ажно здрыгануўся. Экіпаж наганяла зграя.

— Марка! Гані! Ваўкі!

Але той зноў нібы не пачуў. Такая жуда ахапіла Яна, аж сцяла дыханне. Марка сядзеў нерухома, экіпаж не прыбаўляў, а зграя імкліва набліжалася. У згусцелых прыцемках Ян ужо выразна бачыў, як гараць ваўчыныя вочы. Ян азірнуўся наўкол. Здавалася, не зграя іх акружала, а цэлае полчышча ваўкоў. Вочы свяціліся і з лесу таксама.

— Марка! — Ян пацягнуўся за рэвальверам.

А Марка ўсё сядзеў нібы аглухшы.

Ян узвёў затвор.

— Ты што гэта, халера ясна, аглух? Гані! Каму кажу, гані! — выкрыкнуў Ян і тут жа стрэліў.

— Не страляйце! Дарэмна вы гэта! Не трэба, вашамосць, страляць! — нібы прачнуўшыся ад рэха, вымавіў Марка. — Гэта не ваўкі!

— Як так не ваўкі? Ты з глузду з'ехаў?! Ці я аслеп?

— Не ваўкі гэта, — толькі паспеў панура паўтарыць Марка, як лес раптам скончыўся і экіпаж выскачыў ў поле.

Да маёнтка заставалася зусім няшмат. Наперадзе ўжо мігцелі агні Камаедаў. Тут Ян заўважыў, што зграя падзялілася на дзве. Ваўкі абышлі экіпаж і беглі цяпер паралельна, быццам засцерагаючы ад нейкай небяспекі, што таілася ў лесе. Уражаны Ян сачыў за небывалым эскортам, на ўсялякі выпадак трымаючы рэвальвер напагатове.

Хутка паказалася брама маёнтка. Давёўшы да яе экіпаж, ваўкі збочылі ды зніклі ў цемры.

## 7

Пан Генрых, аканом маёнтка Камаеды, чакаў. Вечарам меўся прыехаць малады гаспадар. Ужо цямнела, а экіпажа з важным госцем усё не было. Тутэйшыя мясціны заўсёды лічыліся глухімі, але з нядаўніх часоў тут пачалі адбывацца

падзеі надта ўжо дзіўныя, невытлумачальныя. Таму пан Генрых не тое каб выказваў асаблівы непакой, але не-не, ды і выйдзе на ганак прыслухацца да навакольнай цішыні.

Аканомам пан Генрых стаў не гэтак даўно. Да таго жыў ён у Рэвелі, але, чым там займаўся, ніхто толкам не ведаў. Адны казалі, што працаваў ён у банку, другія — што ў мясцовай управе. Але гэта былі не болей чым чуткі. Сам жа ён нічога пра сябе не расказваў. Ён увогуле гаварыў мала і заўсёды холадна, фанабэрыста, быццам ставіўся да суразмоўцы з пагардаю.

Як ён тут апынуўся, ніхто таксама дакладна не ведаў. Але ўсе заўважалі, што меў ён дзіўны ўплыў на гаспадара Камаедаў, нябожчыка пана Станіслава. Зрэшты, было таму адно тлумачэнне. Як з'явіўся новы аканом, шмат што ў маёнтку змянілася. Дом, які доўга стаяў пусты і занядбаны, зноў зрабіўся гасцінным. Сюды, як некалі ў былыя часы, пацягнулася навакольная шляхта ды ў шумных гулянках, якія так падабаў стары гаспадар, бавіла тут дні і тыдні. Так што Генрыха хоць і не любілі, але пабойваліся ды паважалі.

Знешнасць пана Генрыха адпавядала ягоным манерам. Ён нечым нагадваў іспанскага гранда з партрэта Эль Грэка. Высокі, худы, з маленькаю вострай бародкай і доўгім кручкаватым носам пад ганарыстымі вачыма, падкрэслена ветлівы і нязменна ў строгім чорным гарнітуры.

Як нарэшце пачулася ўдалечыні воўчае выццё, пан Генрых з палёгкаю ўздыхнуў і паклікаў слугу:

— Хадзем, рыбіна вока! Едзе новы гаспадар!

Толькі падкаціў экіпаж да прыступак сядзібы, ён усклікнуў:

— Дужа ўсцешаны, пан Завальня! Рады вітаць вас у Камаедах! Дазвольце прадставіцца: Генрых Ляховіч, аканом вашага бацькі, нябожчыка пана Станіслава. Спадзяюся, дабраліся без прыгод?

— Без прыгод? Можна, васпане, і так сказаць, калі не лічыць ваўкоў! Раней жа іх столькі тут не было, — ступіў Ян на ганак.

— Вы занадта доўга, вашамосць, адсутнічалі ў нашых мясцінах. Тут шмат што змянілася. Будзеце не мала ўражаны. Але ж запрашаем у дом! Карпа! — кіўнуў Генрых служку. — Аднясі багаж!

Не малое ўражанне не прымусіла на сябе доўга чакаць. У прасторнай вітальнай зале з лесвіцай, што вяла на другі паверх, грувасцілася мэбля. Зрэшты, не толькі. Яшчэ карціны, скульптуры, бронзавыя жырандолі. Усё было пазвальвана ў кучу, нібы непатрэбны хлам. Але ніякі гэта быў не хлам, а рэчы спрэс новыя ды дарагія. Здавалася, іх набывалі, дастаўлялі сюды і забываліся пра іх, з нейкіх прычынаў не паспяваючы данесці да пакояў. Было заўважна, што знаходзіліся яны тут досыць доўга, так што нават ужо пабрасталі павуціннем.

Але яшчэ болей уразілі Яна гукі музыкі, смех і п'яныя галасы, што даляталі з-за дзвярэй вялікай камiннай залы. Быццам у доме не жалоба была, а шумна і весела святкавалі Каляды.

— Гэта госці, вашамосць, блізкія сябры пана Станіслава, — патлумачыў Генрых, злавіўшы ў вачах Яна пытанне. — Сабраліся выказаць скруху з нагоды ягонага заўчаснага скону.

— Дзе ён, пан Генрых?

— Цела вашага бацькі наверсе, у ягоным пакоі.

— Праводзьце мяне да яго!

— Ці не жадаеце спярша распрануцца? — запытаўся пан Генрых і тут жа дадаў: — Карпа, прымі футра ў пана Завальні!

Толькі тут Ян заўважыў, што ў зале прысутнічаў трэці — зусім маленькі чалавечак, амаль карузлік, з пукатымі і ка-

ламутнымі, бы ў рыбы, вачыма. Ён тут жа падбег да маладога гаспадара і ўтаропіўся на яго доўгім вільготным поглядам. Ад нечаканасці Ян крыху разгубіўся, потым скінуў лісу і падаў яе Карпе, незнарок дакрануўшыся да ягонай рукі.

І рука была быццам рыбіна — халодная, гідкая, слізкая, бы луска ў карпа.

## 8

У пакоі Станіслава пахла цінаю і застаялым прагорклым мёдам. Дні стаялі і так кароткія, а яшчэ і вокны былі шчыльна завешаныя. Старыя парцьеры змянілі на чорны аксаміт, люстры захінулі жалобным крэпам, ложак вынеслі, а замест яго ў цэнтры спальні паставілі дамавіну з чырвонага дрэва, аздобленую віньеткамі і па перыметры залатымі махрамі. Убранне пакоя гаварыла пра тое, што жалоба, відаць, будзе доўгай. Па звычаі тутэйшых зямель памерлага хавалі не адразу, а чакалі, пакуль збяруцца ўсе родныя.

Зрэшты, сваякоў у Станіслава засталося не шмат: толькі сын Ян ды брат Адам, з якім ён ужо колькі год варагаваў. Жонка памерла гадоў дзесяць таму. Астатніх дзядзькаў і цётак, пляменнікаў ды кузэнаў забрала паўстанне шэсцьдзясят трэцяга года. Праўда, жыў яшчэ дзядзька Антоній, малодшы брат маці, высланы на вечнае пасяленне ў Сібір. Але калі дапусціць, што чакалі яго, то жалоба сапраўды мусіла доўжыцца вечна.

— Прашу, вашамосць! — пачціва прапусціў Генрых Яна ў спачывальню.

Увайшоўшы ў пакой, той коратка агледзеўся ды накіраваўся да труны. Тое, што Ян там убачыў, ашаламіла яго. Анямеўшы ад жаху, у поўнай збянтэжанасці глядзеў ён на цела Станіслава.

Уласна, цела як цела, але ляжала яно без галавы. У труне яе проста не было. Замест галавы да цела Станіслава была прыстаўлена вялікая казліная маска, за пустымі вачніцамі якой зеўрала бяздонная вусцішная чэрня.

— Кхэ...як...кхэ... а ёб жа ж тваю! разумець... Як разумець гэта? — нарэшце выціснуў з перасохлага горла Ян.

— Разумееце, пан Завальня, цела пана Станіслава знайшлі ў лесе. Але галавы пры ім не было. Яе шукаюць. Пакуль не знойдуць, давядзецца пачакаць з пахаваннем.

— Дык бацьку забілі?

— Я думаў, вы ведаеце. Так, напэўна, недарэчна дапусціць, што яны самі адрэзалі сабе галаву ды паспелі прыхаваць яе да таго, як адышлі ў лепшы свет.

— Але як жа так сталася?

— Прычыны і абставіны гэтага здарэння загадкавыя. Вядома толькі, што цела знайшоў у лесе фурман Марка, непадалёк ад старой капліцы. Каля поўначы ён адвёз да яе пана Станіслава, а сам застаўся чакаць у экіпажы. Неўзабаве Марка пачуў жудасны крык. Ён кінуўся на яго і натрапіў у лесе на абезгалоўленае цела.

Наблізіўшыся да труны ўсутыч, Ян троху памарудзіў і дакрануўся да скрыжаваных на грудзях рук бацькі. Знянацку яму падалося, што ў чорнай вачніцы казлінай масκі штосьці заварушылася, нібы з пустаты паявілася зрэнка. Ян мімаволі адняў руку назад, як тут жа з вачніцы паказалася аса. Няспешна прапоўзшы па казлінай мордзе, яна ўзнялася, крыху пакружылася ды зляцела.

— Так, так. Гэта жахліва! — пачуўся за спінаю голас Генрыха.

— Але чаму казёл?

— Злітуйцеся, вашамосьць! Што ж ім без галавы тут ляжаць! Дый якую ж яшчэ? У нас адны калядныя маскі! Ну, не воўка і не зайчыка ж прыстаўляць, не свіное ж, Божа

правы, рыла. Альбо, даруйце, вашамосьць, не ляжаць жа ім з качаном капусты! Ужо лепш так, чым зусім без галавы!

У гэтую хвілю рыпнулі дзверы, і з бакавога пакойчыка паказалася зусім юная асоба ў жалобным убранні. Пан Генрых кінуў на яе злосны позірк і пачціва прамовіў:

— Дазвольце прадставіць! Пан Завальня, новы гаспадар Камаедаў! Пані Марыся, нявеста пана Станіслава!

Ян кіўнуў юнай асобе. Тая, адказаўшы яму лёгкім паклонам, наблізілася да труны і ў скрусе прысела на зэдлік.

— Хіба вы не ведалі? Ваш бацька быў заручаны. Вянчанне мела адбыцца праз тыдзень. Ах ты, дрэнь! Перапрашаю! — адмахнуўся ад асы, што вылецела з казлінага вока, пан Генрых.

У пакоі павісла мёртвая цішыня. Толькі аднекуль з дальняга кута далятала ледзьве чутнае асінае зыканне. Ян зноў паглядзеў на бацьку. Перавёў позірк на маладую нявесту. З няёмкасцю ад неналежнага моманту ён адзначыў пра сабе, што яна надзвычай прыгожая, але вачэй не адвёў, а працягваў любавацца. Жалобны крэп бездакорна пасаваў да вытанчанага профілю Марысі. Яна была падобная да чорнай архідэі, застылай у крохкім руху. Слізгануўшы позіркам на рукі, ён заўважыў, як тонкія сцяблінкі Марысіных пальцаў ледзь прыметна дрыжэлі на каленях. Ян адчуў, што вельмі хоча да іх дакрануцца, але, засаромеўшыся, тут жа перавёў погляд на рукі бацькі.

— Пан Генрых, а вы пэўныя, што гэта цела Станіслава? — ахінула яго падазрэнне.

— Гэта як? Як, вашамосьць, належыць разумець гэта пытанне? — здзіўлена ўзняў вочы Генрых.

— Зірніце на рукі! Гэта ж не рукі Станіслава! Яны маладзейшыя за ягоныя гадоў на трыццаць.

— Вы выказваеце сумнеў? — з лёгкім раздражненнем у голасе адказаў Генрых.

— А ці рабілі апазнаванне? Калі галавы няма — можа, і цела не ягонае?

— Літасцівы пане, вам жа вядомыя асаблівыя прыкметы бацькі? Напрыклад, вялікі радзімы знак на левым плячы? Жадаеце пераканацца?

Ян трохі павагаўся.

— Не, не трэба, — нарэшце адказаў ён. — Скажыце, хто вядзе следства?

— Пан Твардоўскі і яго памочнік Гугон, — Генрых зноў адмахнуўся ад надакучлівай асы.

— Я хацеў бы з ім перагаварыць.

— Перашкодаў няма ніякіх! Яны зараз у камінным зале з гасцямі. Ці не жадаеце спусціцца? Дый час, вашамосць, падсілкавацца з дарогі!

За спінай Яна пачуўся рэзкі воплеск. Здрыгануўшыся, ён азірнуўся.

— Восы, вашамосць, — спакойна адгукнуўся Генрых, трымаючы за кончык крыльца толькі што прыбітую асу. — Фу! Такая ўжо мярзота! Развялося гэтых чарцей!

## 9

**Я** зноўку сустрэў яе восенню на прэм'еры нашага фільма. Раніцой я прачнуўся з пахмелля — напярэдадні ў «Шклатары» быў шабат. У галаве было каламутна і моташна, і мне зусім не хацелася ісці ў Дом Кіно. Тым больш, мелася адбыцца ўжо другая прэм'ера. Але бліжэй да абеду патэлефанаваў Канаваленка і запытаўся, ці буду я. Я адказаў: «Не!». Ён адсек: «Трэба!».

Да вечара я збольшага прывёў сябе ў парадак, прыкінуў, ці можна сесці за руль, пастанавіў, што ўжо можна, хоць нерасшчэпленых грамаў сто яшчэ боўталася ў кры-

ві, і накіраваўся ў Дом Кіно, які месціўся цяпер у былым кінатэатры «Партызан».

Я выехаў з вялікім запасам і, хоць дабрацца да «Партызана» па нядзельных, без затораў, вуліцах можна хвілін за пятнаццаць, усё адно спазніўся. Па дарозе я завітаў у «Шклатару», перапаліў з яе загадчыцай Любай, выпіў кавы ў «Маназе», паназіраў за новай барменшай, маленькія сцёгны якой у нацягнутых джынсах нязменна выклікалі ў мяне прыліў ферамонаў, а калі з'явіўся ў Доме Кіно, усе ўжо сядзелі ў зале.

Яе я заўважыў не адразу. Мабыць, яна ўбачыла мяне першай. Я раптам адчуў на сабе чыйсьці погляд і азірнуўся. Маша сядзела збоку, метрах у пяці ў мяне за спінаю. Яна зноў была ўся ў чорным, а ейную галаву пакрываў чорны з карункамі шалік. Нашы погляды не сустрэліся. Відаць, заўважыўшы мой рух, яна тут жа адвяла вочы. На сцэне нешта распачалося, але цікаўнасць да сцэны ў мяне тут жа знікла. Я зноўку думаў пра яе. Я зноўку ёрзаў ў фатэлі. Побач з ёю сядзеў нейкі хлопец. І цяпер мяне мучыла адно пытанне, з ім яна ці не.

Я адчуваў, што яна назірае за мною. Акопная хвароба дагэтуль, дзякуй Богу, прайшла, але пазіцыя мая зараз была не найлепшай. Яна бачыла толькі мой профіль. Паліна, мая былая жонка, часта казала: «У цябе жыдоўскі шнобель». Я заўсёды адказваў: «Ён не жыдоўскі. Паглядзі на сармацкія партрэты. У Радзівілаў, Пацаў, Сапегаў, Завальняў гэткі ж». Але яна мне не верыла ды дзяўбла, што ўсё адно я жыд, але ўтойваю гэта, хаця і так усе здагадваюцца, ані кропелькі не сумняваюцца, і ўвогуле, душа ў мяне чорная. Мабыць, чорная душа ў профіль заўважней, таму мне заўседы болей падабалася пазаваць у тры чвэрці або ў фас. Але тут я ўжо нічога не мог змяніць: яна сядзела за мною і збоку назірала за маёю чорнай душой, пакуль мяне не запрасілі на сцэну.

Пасля ўсхваленняў, а на прэм'ерах хваляць заўжды, мікрафон узяў Канаваленка ды пачаў выклікаць удзельнікаў здымачнай групы. Калі чарга дайшла да мяне, ён пракрычаў:

— А гэта — геній! Сапраўдны геній!

Не. Ён не быў п'яны. Каб напіцца, яму трэба нашмат болей. Канаваленка дадаў яшчэ нешта пра Сталінград, і пад авацыі я падняўся на сцэну.

Наша кіно было пра графа-мядзведзя, да якога прыехалі госці, а ён знянацку ўзяў і з'еў іх. Фільм пра мішку, што любіў паласавацца чалавечынкаю, быў маім першынцам. Да гэтага я не працаваў ў кіно. Але напрыканцы 2008-га прыехаў з Масквы Канаваленка і запытаўся, ці не хачу я пайсці на карціну мастаком-пастаноўшчыкам. Яшчэ ён паведаміў, што жадае сабраць сваю хеўру. Што грошай мала, а ўябываць давядзецца многа. Што фільм гістарычны, а натуры прыстойнай і інтэр'ераў у Беларусі амаль не засталося. Што спецэфектаў не будзе, таму што рабіць іх у нас не ўмеюць. Што гэта — дзяржкіно, здымаецца на грошы Мінкульта, таму кожная курва будзе рыла саваць. Што бюджэт невялікі, таму трэба знайсці фішку: узяць не бабкамі, а ідэямі, а з бабкамі і кожны ёлупень зможа.

Не будзь я авантурыстам, наўрад ці пагадзіўся б. Але я авантурыст, і душа ў мяне чорная, асабліва калі сачыць за ёй ў профіль. Так я трапіў на «Партызанфільм». Калі я адкапаў працоўную кніжку, якая з прычыны непатрэбнасці дзесьці пылілася безліч гадоў, і прыйшоў уладкоўвацца на «Партызанфільм», мне стала зразумела, што такое фабрыка мрояў. Не іхняя галівудская з шыкоўнымі кабінетамі ды скуранымі канапамі, са светлымі калідорамі ды цудапавільёнамі, з Мікі й Джоні ў грымёрных ды пальмамі ў дварах, а сапраўдная партызанская фабрыка мрояў. Яна сустрэла мяне бясконцым лабірынтам цёмных калідораў,

кіслым пахам з прыбіральняў, пажаўцелымі ад старасці шпалерамі, наглядна агітацыяй дасягненняў «Партызанфільма», пакінутай з савецкіх часоў, і танкамі замест пальмаў на вялізным студыйным двары.

У гэтых цёмных блытаных калідорах блукалі партызаны і партызанкі. Яны то з'яўляліся, то знікалі за бясконцаю чарадой дзвярэй. Што адбывалася за дзвярыма, пакуль я не ведаў. Але пад вечар партызаны і партызанкі рабіліся больш гаваркімі, павесялеўшымі, падабрэўшымі, палагаднеўшымі. Ад іх павявала паходным кастром, лесам і кашай, махоркаю і франтавымі ста грамамі.

Я адразу пачуўся ўтульна ў гэтых лабірынтах з загадкавымі дзвярыма. Мусіць, чорнай душы даспадобы чорныя калідоры. А што можа быць азартней для авантурыста, чым дзверы, за якімі невядомасць?

Хаця я здагадваўся, што хавалася за дзвярыма. За імі таіліся партызанкі са сваёй шклатарай. І зазвычай свабодныя. Чаму яны незамужнія, я зразумеў пазней, на фронце. Чалавек гадамі ў калектыве, дзе заўсёды адны і тыя ж людзі. Калі і здараецца на працы раман з шэфам ці калегам, то выбар усё адно невялікі, дый у абодвух сем'і пад бокам. У кіно ж атрад набіраецца пад карціну. Партызанка ад'язджае на фронт, і сям'я ўжо недзе далека ў тыле. А тут новыя людзі: аператары, дольнікі, светлякі, дэкаратары, піратэхнікі, грузчыкі, каскадзёры, акцёры, сапраўдныя палкоўнікі ды лейтэнанты. А для палкоўніка некалькі дзён паходу, і ўсе — касцюмеркі, грымёркі, асістэнткі, памрэжы, кухаркі, хлапушкі — ужо як сям'я. А праз некалькі месяцаў вяртаецца партызанка з фронту дахаты, а дому няма. Быў дом, а цяпер папялішча. Немцы спалілі. Спалілі дык спалілі. Згарэў дык згарэў, ну і хрэн на яго, будзе новы прызыў. Так робяцца яны бы тая шклатара, што пераходзіць з адных рук у другія. Новы фільм — новы пал-

коўнік. Напаўняе, выпівае, ліжа, смокча, ябе, маркітуе, кахае, п’янее, а потым цверазее, і пустую шклатару наступнаму перадае.

*Служыў у мяне ў палку адзін дэкаратар* — файны пачатак для зборніка ваенных апавяданняў. Калі раніцай я прыязджаў на фабрыку мрояў, мой полк ужо сядзеў у курылцы і чакаў загадаў. Я звычайна спазняўся — не люблю рана ўставаць, дакладней, люблю, ды неяк не выходзіць. Яны ўзнімаліся, бралі пад казырок, садзіліся, зноўку палілі і чакалі загаду. Але мне не было чаго ім загадаць. Можа, і загадаў бы, калі б ведаў што. Але я не разумеў, навошта ўсе гэтыя людзі за гэткія смяхотныя грошы ўвесь дзень сядзяць ды паляць. І ўвогуле, не люблю загадаў. Я ж заўсёды ўсё раблю сам.

Вядома, усе гэтыя мацёрыя дэкаратары, чырванатварыя рэквізітары, абсівераныя франтамі бутафоры, зраненыя, з падцёкамі і мяшкамі пад вачамі рабочыя глядзелі на мяне як на салагу, не абстралянага яшчэ лейтэнантыка, толькі што выпушчанага з ваеннай кафедры. Для іх я не быў палкоўнікам. Таму яны ўвесь дзень сядзелі і палілі, палілі і пілі. Так працягвалася колькі месяцаў, пакуль мы рыхтаваліся да здымак. А потым падалі эшалон і павезлі нас на фронт. А са Сталінграда я вярнуўся ўжо сапраўдным палкоўнікам, з сапраўднай акопнай хваробай.

Калі я спусціўся са сцэны, стан мой змяніўся. Хоць яна па-ранейшаму сядзела за мною і быццам не заўважала, я ведаў дакладна: калі ўсё скончыцца, я ўстану і падыду. Мне ўжо было пляваць, як выглядае мая чорная душа ў профіль. Я ж сапраўдны палкоўнік.

Толькі згасла святло і па экране пайшлі тытры, я павярнуўся. Чорны шалік, што шчыльна абвіваў яе твар, рабіў яго падобным да вытанчанай парцэлянавай маскі. Было ў ёй штосьці ад гераіні нашага фільма, юнай прыгажуні Ганны, якая пасля смерці графа звар’яцела ад смутку.

Наогул, фільм наш быў пра каханне. Мішка-граф жэр гасцей не са злосці. У душы ён быў мядзведзем добрым. Нават быў раскаяўся і хацеў зусім абярнуцца ў чалавека. Ён і гасцей запрасіў не дзеля таго, каб зжэрці, а каб заручыны свае адсвяткаваць. Госці, праўда, былі так сабе. Адзін рускі генерал — гэтага і з'есці не грэх. Сынок ягоны, гусар, — і гэтага можна. На дэсерт яшчэ нейкі прышлы дурань. Астатнія — мясцовая шляхта, так, п'янь безнадзейная. А мішка наш — зусім не той, што па Маскве з каромыслам бадзяецца, а высакароднай крыві, граф і да таго ж яшчэ патрыёт. Падзеі адбываюцца ў Беларусі адразу пасля паўстання 1863 года. Край у разрусе. Каго не павесілі — у песімізме: хто сам павесіўся, хто п'е, хто вар'яцее, хто новым уладам азадак ліжа, хто ў эміграцыю хоча падацца. Граф наш таксама эміграваць ладзіўся. Хацеў прадаць рускаму генералу фамільны маёнтак, вяселле згуляць — і ў Італію, бліжэй да сонца.

Але неяк з раніцы ўсё не задалося. Не тое, каб мішка ўстаў ды тупнуў не з тае нагі, не тое, каб быў ён з пахмелля (наш граф меру ведаў), проста нявеста ягоная пачала какетнічаць з нейкім заезджым пецярбургскім брандахлыстам. Дый какецтва тое было несур'ёзнае. Так, лёгкі флірт: пацалаваліся пару разоў на цёмнай чорнай лесвіцы. Але, відаць, у мішкі на душы набалела. Пэўна, так ужо яго ўсё заябала: і рускія, і французскія, і партызаны, і немцы, і п'янь шляхетная, і жыццё падпольнае, і падатковая, і пажарнікі, і мянты. Так ужо заябала, што нервы здалі. І пачаў ён жэрці ўсіх. Жэрці з асалодаю. Жэрці з натхненнем. Спярша з'еў таго прышлага дурня, потым шляхту бязладную, пасля генерала з вялікім апетытам праглынуў і сынкомгусарчыкам, як карнішончыкам, закусіў. Адным словам, усіх загубіў і сябе.

Прыгожы фільм выйшаў. Але публіка яго не зразумела. Чаму мішка разбушаваўся, засталося для большасці за-

гадкаю. Канаваленка адчуваў гэтае неўразуменне. І піў ад таго ўжо другі месяц запар. Калі пайшлі фінальныя тытры, ён патэлефанаваў:

— Ну што, геній, віскі жэрці будзеш? — Градус ягонага тэмбру павысіўся. Мне падалося, на сцэне ён быў на паўпраміле ніжэйшы. Мусіць, пакуль ішоў фільм, Канаваленка патроху пацягваў з рыльца віскі. — Мы ўсёю хеўрай у «Фрэгат» рушым. Давай, падцягвайся!

Запалілі святло, людзі пачалі разыходзіцца. Я азірнуўся і атарапеў. Яна ўжо знікла. Упікаючы сябе: «Каб цябе чэрці! Як я мог яе ўпусціць?» — я кінуўся да выйсця. Публіка спускалася павольна, і, як на халеру, мяне ўвесь час то адзін аклікне, то другі. Віншавалі з фільмам, захапляліся працаю мастака-пастаноўшчыка. Але мне было не да гэтага. Я скокаў вокам па тварах, разглядаў людзей на тым канцы залы, але яе не бачыў.

На вуліцы ля ўвахода ў Дом Кіно сабраўся натоўп. Я хутка прабегся па ім позіркам, але і тут Машы не было. «Дурань! Крэцін! — катаваў я сябе. — Трэба было адразу да яе падысці!»

— Вой, маэстра, віншую! Агеньчыка не падкінеце? — пачуўся за спінай голас Люсі, куратаркі са «Шклатары».

Я таксама выцягнуў цыгарэту ды запаліў.

— Ну вы і навярнулі! Хорар! Сапраўдны бульба-хорар! Толькі з фіналам крыху перамудрылі. Нешта мішка ваш таго, о-го-го! — весела шчабятала Люся, сама падобная да сімпатычнага плюшавага медзведзяняткі, пры сустрэчы з якім у мяне нязменна з'яўлялася неадольнае тактыльнае жаданне яго памацаць.

Думкі зараз былі далёка, але ўсё ж у двух словах я патлумачыў ідэйную пазіцыю мішкі. Людзі ля кінатэатра тым часам пачалі разыходзіцца. А на душы скрэбліся кошкі. Мы дапалілі, і Люся, цмокнуўшы мяне ў шчаку, пабегла да

тралейбуснага прыпынка. Ля кінатэатра амаль нікога не засталося. Я выцягнуў наступную цыгарэту. Як раптам.

Гэта падалося неверагодным. Але памыліцца я не мог. Воддаль ля тумбы з афішамі стаяла Маша.

Калі я падышоў, яна азірнулася.

— Маша, вы... — пачаў я.

— Што ж вы не патэлефанавалі?

— Я званіў, але тэлефон быў недасяжны. Я нават спрабаваў знайсці ваш адрас па электроннай базе, але нумар лічыцца за нейкаю... — я запнуўся. — Не памятаю...

— О, бачу, вы сур'ёзна падышлі да справы, — яна неяк загадкава паглядзела на мяне, быццам вымярала ўнутраным вокам. Але прычыну неадпаведнасці тэлефоннага нумара раскрываць не стала.

— Я ад'язджала ў Вільнюс на сесію.

— Вы вучыцеся ў ЕГУ?

— Так. На дызайне.

— О!.. — пачаў я, з намерам сказаць, што мы амаль калегі, але яна апярэдзіла:

— Не. Мне не падабаецца дызайн. Напэўна, гэта не маё.

— Вы некага чакаеце? Мо́жа, давайце на ты. Навошта гэтыя бар'еры? Ты некага чакаеш?

— Сяброўку. Яна збіралася падвезці.

Тут я зразумеў, што яна схітрыла. Каля кінатэатра нікога не засталося, а чакала яна, вядома, мяне.

— У мяне недалёка машына. Можна, я вас, цябе падвязу?

— Не, дзякуй, у мяне адсюль прамы тралейбус да дому.

— А можа... Мы тут усёй кіношнай хеўрай збіраемся ў «Фрэгаце». Хочаш — пойдзем разам! Я цябе з Канаваленкам пазнаёмлю.

Пры слове «Канаваленка» ў ейных вачах штосьці бліснула. Вядома, цяпер я быў для яе сапраўдным палкоўнікам. Але, напэўна, слова «генерал» яе заводзіла больш.

— Давайце не сёння! — адказала яна.

— Цудоўна! Калі?

— У мяне ёсць запрашальны на закрыццё «Зоркападу». Можам сустрэцца там.

— Дамовіліся! У мяне яшчэ няма запрашальніка, але я абавязкова яго здабуду! — трыумфуючы, што працэс пайшоў, пагадзіўся я. — Можа, усё ж такі падвезці?

— Дзякуй! Я дабяруся сама!

## 10

«Зоркапад» быў адзіным у краіне вялікім кінафестывалем. Суперзорак, праўда, ён не збіраў. Зляталіся звычайна мясцовыя, ды часам наязджалі маскоўскія. Але пакрысе ён зрабіўся падзеяй ідэалагічна важнай, за яго ўзяліся людзі з Канцылярыі і пачалі раздзімаць. Вядома, «Зоркапад» саступаў па маштабах галоўнаму культурнаму святу — фестывалю «Славянскі прывоз», але грошай на яго не шкадавалі і аж разы з два-тры сапраўды прывезлі з Еўропы некалькі зорак. Сёлета прыехаў Кустурыца. Канаваленку нават запрасілі з ім адабедаць. Натуральна, не аднаго, а з рэжысёрам Штыркіным.

Канаваленка, праўда, абедам застаўся не задаволены. Не, боршч, катлета і кампот былі смачнымі. Але ён у прынцыпе з рэўнасцю глядзеў на ўсіх рэжысёраў, асабліва на Кустурыцу. Казаў потым, што той спісаўся, нічога новага зняць не можа, а толькі ўвесь час паміж баршчом і гарачым нахвальваў нашую маленькую Імперыю, што ўзнікла на аскепках вялікай ды ўзяла ад яе бунтарскі дух процістаяння буржуазнай пошласці і сацыял-гуманізм у дачыненні да простага чалавека. Запэўніваў, што нават гатовы зноўку прыехаць у Мінск, каб паставіць оперу ў Вялікім тэатры.

Зрэшты, нічога, акрамя сябе і пахвал, гэтым разам Кустурыца не прывёз. Хоць грошы ў фестываль увальвалі не-

малыя, але круцілі тут звычайна фільмы другога, а то і трэцяга эшалона. Затое банкеты ладзілі знатныя, і ў гэтым сэнсе «Зоркапад» цалкам апраўдваў сваё імя. Пад ноч зоркі падалі. Ды так, што некаторыя і да абеду ўзняцца не маглі.

Закрывалі фестываль вялікім шоу ў Палацы Рэспублікі. Каб трапіць туды, неабходны быў запрашальнік. Зранку я патэлефанаваў Надзі, галоўнаму рэдактару «Партызанфільма», і паведаміў, што мне надта трэба прайсці. Надзя адказала, што квіткоў гэтым разам на студыю далі мала, але яна паспрабуе што-небудзь прыдумаць. Потым запыталася пра сцэнар і ці гатовыя мы да экспертнага савета ў Міністэрстве культуры. Я адрапартаваў, што ўсё цудоўна, праца рухаецца, маўляў, не хвалюйцеся, Надзея Пятроўна, не падвядзём родны «Партызанфільм», усё ў тэрмін зробім, мордаю ў гной не ляснемся, а ворагам нашым з міністэрства пашчы парвём. Вядома, я выказаўся іншымі словамі, але нядобразычліўцаў у нас сапраўды хапала. Апошнім часам «Партызанфільм» быў з міністэрствам на нажах. І наш новы праект адкрыта валілі.

Скончыўшы размову, я набраў Канаваленку. Напярэдадні я на банкеце не застаўся. Палічыў, што не кашэрна піць з нядзелі на панядзелак. І ўвогуле, у Мінску я заўсёды за рулём, таму п'ю звычайна на гастролях ці суботамі ў «Шклатары».

— Ну што, Агдамыч? — голас Канаваленкі быў хрыплым і сонным. Відаць, піў ён усю ноч.

— Як учора прайшло? — пацікавіўся я.

— Ай, скончылі ў «Тройцы», — незадаволена, быццам чэрці яго туды сілком зацягнулі, прабухцеў ён. — Потым, пакуль усіх баб развёз, дамоў вярнуўся толькі а шостай.

«Тройкаю» называлася начная карчма на рагу Рэвалюцыйнай і Леніна. Нават не карчма, а *маліна*, пецярбургскі *кабак* з рамана Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага, падоб-

ны інтэр’ер, твары, атмасфера. Дзе б Канаваленка ні пачынаў вечар — прыстойна і высакародна, пад раніцу нязменна заканчваў яго там. Штосьці цягнула яго ў гэты *Эх, гуляй, ленінская слабада!* Мо наша правінцыйна-імперская нуда. Бабы ж — гэта Валя, Віка, Лена, Насця і Коля: памрэжы і асістэнткі, нязменныя спадарожнікі ягоных разгуляяў. Коля, праўда, мужык. Ён таксама служыў у маім палку дэкаратарам, але неяк так сталася, што з намі на перадавую не паехаў, застаўся пры штабе займацца паперкамі, а потым і зусім прыбіўся да генеральскага вагона.

— У цябе ж ёсць запрашальнік на закрыццё «Зоркападу»? — перайшоў я адразу да сутнасці пытання. — Ён жа на двух? Я хачу пайсці з табою!

Я чуў, як Канаваленка, перасільваючы галаўны боль, рагатаў у трубку.

— На хуй ты мне патрэбны! Ты ж не баба! — нарэшце кінуў ён і зноўку зарагатаў. — Вой! Вой, не магу.

— У мяне там спатканне, — прамовіў я, пачакаўшы, пакуль ён супакоіцца.

— Увогуле я з Насцяй збіраўся ісці. Патэлефануй Надзеі. Ты ў яе цяпер у фаварытах. Не адмовіць.

— Ужо тэлефанаваў. Сказала, паспрабуе.

— Калі сказала, значыць, зробіць. Добра, да справы давай. Сустрэцца трэба, перацерці па сцэнару, — голас Канаваленкі стаў сур’ёзны.

Мы дамовіліся сустрэцца ўвечары. У гэты дзень немцы ладзілі прыём у Міжнародным цэнтры з нагоды беларуска-германскага форуму, на які ў мяне было запрашэнне асабіста ад амбасадара. На штогадовы восеньскі форум з’язджаліся вядомыя палітолагі, эксперты па Усходняй Еўропе, дэпутаты бундэстага. Звычайна як адмысловы ласунак прыязджаў хто-небудзь з буйных нямецкіх палітыкаў ці міністраў.

У гэтым годзе форум праходзіў з асаблівым шыкам. Упершыню за шмат гадоў з беларускага боку ў ім удзельнічалі не толькі людзі ад рэвалюцыі, але і прадстаўнікі ўлады. Прыехаў і выступіў нават сам галава імперскай Канцылярыі. Словам, усе былі задаволеныя. Немцы — тым, што ў краіне насталі ліберальныя часы, з турмаў павыпускалі палітычных, збіраюцца зарэгістраваць усіх кандыдатаў на пасаду прэзідэнта, нават даць ім на тэлебачанні эфірны час. Робяць выгляд, што нешта рэфармуюць і ў эканоміцы. Скасавалі забаронныя спісы. *Благім* рок-гуртам кшталту «ДПР» і «Крыся Балконскага» нават далі павыступаць у «Казе». Газеткам для Гета дазволілі прадавацца ў шапіках. Дый «Шклатара» магла з'явіцца толькі ў такі адліжны час.

Рэвалюцыянеры былі задаволеныя тым, што яны рэвалюцыянеры. Зрэшты, толькі гэтым. Рэвалюцыянер жа мусіць быць незадаволеным.

Але болей за ўсіх была задаволеная ўлада. Людзям з Канцылярыі дазволілі ездзіць у Еўропу. Іх прымалі, слухалі, з імі лічыліся. Карпарацыі рыхтаваліся ўкласці ў краіну грошы. Ды не проста грошы, а, казалі, эшалоны бабак, якія ўжо ледзьве не чакалі на польскай мяжы. Але галоўнае — усе былі гатовыя прызнаць статус-кво. Прызнаць Імператара — Імператарам. Ён жа хоць і мішка, але добры. Ён жа нарэшце раскаяўся і хоча стаць чалавекам. Дый манархія — не зло, калі яна з чалавечым абліччам, а не са звярынай пашчай. І ўсім добра. Вось толькі Масква ўсё псавала. Бо там сядзеў свой Мішка.

Мы з Канаваленкам прыехалі ў Міжнародны цэнтр крыху спазніўшыся: у горадзе паўсюль былі заторы. На ўваходзе гасцей сустракаў сам амбасадар са світаю: дарадцы, ваенны аташэ, аташэ па культуры. У вялікай зале, як звычайна, сабраўся рэвалюцыйны бамонд: лідары партый, вядомыя журналісты, людзі ад падпольнай культуры. Ад Кан-

цыляры і людзей было меней: кіраўнік Імперскай тэлекампаніі, дарадцы, замы міністраў і, як належыць, някідкія людзі з дзяржаўнай бяспекі.

Шмат каго з прысутных я ведаў яшчэ па рэвалюцыйнай маладосці, калі быў рэдактарам часопіса пра культуру падполля. Канаваленка тут жа сустрэў знаёмых дзяўчын з тэлебачання і ўзяўся забаўляць іх байкамі з апошняга «Кінашоку». Я ж, запрыкмеціўшы ў глыбіні залы двухметровую фігуру Макарэвіча, накіраваўся да яго.

Макарэвіч пачаў сваю кампанію першым. Яшчэ ўвесну абвясціў, што хоча стаць прэзідэнтам. І галасаваць я збіраўся менавіта за яго. Не тое каб мне болей пасавала ягоная перадвыбарчая праграма. У дэталі я не ўнікаў, хаця часам, праглядаючы газету «Наша Гета», звяртаў увагу на асобныя экзатычныя ідэі. Да прыкладу, забараніць круціць у таксі расейскі блатны шансон альбо, каб народ не співаўся, прыпыніць выпуск пладова-ягадных він. У таксі я не езджу і пладова-ягадных даўно не п'ю, таму мяне гэта мала займала. Але Макарэвіч мне — як брат, а файна мець брата ў прэзідэнтах.

Што шанцаў у яго ніякіх, разумеў не толькі я, але і ён сам. Зрэшты, іх не было ні ў кога. Гэтыя выбары, увогуле, мяне мала цікавілі. Імператараў не перавыбіраюць, а самі яны не сыходзяць. Але і ў рэвалюцыю я ўжо не верыў. Я занадта доўга жыў ёю і ўсё чакаў: вось яшчэ крыху — і *нашы* прыйдуць. Але гады міналі, а *нашы* не прыходзілі. І не маглі прыйсці, таму што *нашых* прыводзіць народ. А народ любіў Імператара. І верыў яму. Бо ён казаў: «Я дам вам хлеба!» І даваў. Ён казаў: «Я дам вам парадак!» І ствараў яго. Калі не хапала сваіх хлябоў, ён ехаў у Маскву, распасціраў абдымкі ды абвяшчаў: «Шалом вашаму дому! Мы такі любім вас! Расіяне!» І яны верылі. І давалі хлябоў, якія ён прывозіў народу.

Потым, праўда, з хлябамі стала цяжэй. Масква ў любоў ужо не верыла. Або верыла, але ёй было гэтага замала, а хацелася любові і чагосьці яшчэ больш канкрэтнага. Любові і зямлі, любові і заводаў, любові і труб, газаправодаў. Тады яны сказалі: «На хуй нам такая любовь!» І абвясцілі вайну. Напачатку — газавую, потым — інфармацыйную.

На гэтых выбарах яны не любілі Імператара яшчэ болей. Чарговая вайна была ў самым разгары. Штодзень па расійскіх тэлеканалах злівалі на яго кампрамат. Выстаўлялі пярэваратнем, душагубам. І ўпершыню за шмат гадоў далі грошай на рэвалюцыю.

Пра тое, што Масква дасць грошай на рэвалюцыю, я даведаўся яшчэ вясной. Сустрэў неяк Лёшку, прыяцеля з Канцылярыі, і за куфлем піва ён мне пад сакрэтам паведаміў, што ўсе ў Канцэлярыі заклапочаныя. Масква збіраецца валіць Імператара. «Можа, не валіць, а проста прыгнуць?» — з'іранізаваў я. «Не важна, — адказаў ён. — Яны выставяць на выбарах сваіх людзей. І дадуць ім бабла!»

Хто гэтыя людзі, неўзабаве стала вядома. Макарэвіч быў не з іх ліку і грошай на перадвыбарчую кампанію не меў. Ён быў праеўрапейскім кандыдатам, але Еўропа на гэтых выбарах грошай на рэвалюцыю не дала. Таму Макарэвічу нічога іншага не заставалася, як каламуціць медыйную прастору арыгінальнымі ідэямі наконт блатнога шансона і забароны на бырла, што яшчэ больш аддаляла яго ад народу. Наш жа народ любіць піць бырла пад блатны шансон.

— Ну што, пасля выбараў злётаем на прэзідэнцкім самалёце ў Варшаву на піва з галёнкаю? — запытаў я ў Макарэвіча, намякаючы на чэшскую рэстарацыю «У Швейка», дзе мы часам любілі пасядзець.

— А як жа? Абавязкова! — Макарэвіч быў у гуморы. — З мяне яшчэ і слівовіца!

— Выдатна, пасуе! А можа, акрамя слівовіцы знойдзеш які прыстойны партфель для мяне?

— Без праблем! Хочаш быць міністрам культуры? — усміхнуўся Макарэвіч.

— Ну не! Навошта ж мне гэты малабюджэтны калгас! Я б аддаў перавагу нацыянальнай бяспецы.

— Добра! Памяркуем!

Я пажадаў Макарэвічу перамагчы і пайшоў шукаць Канаваленку. Той стаяў ля фуршэтных сталоў з талеркаю вестфальскіх далікатэсаў. З апетытам прыкончыўшы іх, ён залпам асушыў келіх віна, выцер вусны і задаволена прамовіў:

— Ну што, паехалі ў «Шклатару»? Нудна мне сярод гэтых... — відаць, ён хацеў уставіць якое-небудзь славечка кшталту «храпаў», а можа, і памацней, але не паспеў.

— А вось і дзеячы культуры!

Перад намі стаяў Лапацін і дзве ягоныя спадарожніцы — вядомыя ў рэвалюцыйных і не толькі колах журналісткі Ірына Бязрукава і Таня Фядорчанка. Лапацін таксама балатаваўся на прэзідэнта. Тое, што ён — *Наш прэзідэнт,* я ведаў штодня з рэкламнага банера, калі зранку заходзіў пачытаць навіны на сайце «Наш покліч!», рэдактарам якога з'яўлялася Фядорчанка.

— Ну што, вядомыя дзеячы кіно скажуць сваё слова? — з лёгкім дакорам пацікавілася Бязрукава і паглядзела на Канаваленку. Што яна мела на ўвазе, было зразумела.

— У нас зараз вялікі праект на грошы мінкульта. Хочаце, каб нас прыкрылі?

— Чаго вам баяцца? Дзевятнаццатага снежня ўсё адно будзе іншы прэзідэнт, — яна перавяла позірк на Лапаціна, падкрэсліваючы, хто гэта, калі да нас яшчэ не дайшло.

Будучы прэзідэнт маўчаў і ўсміхаўся нам, нібы з цудатворнай перадвыбарчай іконы. Калісьці Лапацін займаў важны пост у Імперскай Канцылярыі, але потым у знак

пратэсту, ужо не памятаю супраць чаго, пайшоў у рэвалюцыю. Мне ён быў сімпатычны. З усіх груповак прафесійных рэвалюцыянераў, а іх было нямала: валошынскія, фронтаўскія, западэнскія, грамадзянскія, гарадзенскія, паўночныя, магілёўскія, бакунінскія, прафсаюзныя, — лапацінская была самая бойкая, самая прафесійная.

Іхны сайт «Наш покліч!» быў папулярны не толькі ў незадаволеных. Чыталі яго і канцылярскія. Касцяк групоўкі Лапаціна выйшаў з закрытай ужо гадоў дванаццаць таму газеты «Справа», рэдактарам якой у той час была ягоная цяперашняя жонка Ірына Бязрукава. Каманда ў іх была зубатая, хваткая. Усё, за што браліся яны, хоць да рэвалюцыі і не прыводзіла, але атрымлівалася гучна, эфектна. Аднак не абышлося без стратаў. На пачатку восені аднаго з іх лідараў, Жэньку Мароза, знайшлі павешаным на лецішчы. Лапацінскія абвінавацілі ва ўсім канцылярскіх. Канцылярскія адказалі: «Самагубства!» Але што там здарылася, так і засталося загадкаю.

На гэтых выбарах Лапаціну ўдалося падмяць пад сябе частку фронтаўскіх, магілёўскіх, грамадзянскіх і нават бакунінскіх. І хоць усе яны былі мне сімпатычныя, галасаваць за яго і ўлазіць у лапацінскую кампанію поп-артэскортам я не збіраўся. Не толькі таму, што Макарэвіч мне брат. Казалі, што лапацінскіх таксама падагравае Масква. Вядома, не так, як валошынскіх, але мне і гэтага было досыць, каб аддаць голас другому.

— Іра, ты ж ведаеш, — прыйшоў я на дапамогу Канаваленку, — мы ў душы заўсёды з вамі. Але вы робіце рэвалюцыю, а мы робім рэвалюцыю ў беларускім кіно. У нас зараз наспявае праект для Канаў. Калі мы яго завалім, народ нам гэтага не даруе.

Таня з Ірай паглядзелі на мяне са шкадаваннем. Я адчуў, што мой рэвалюцыйны німб, на стварэнне якога пай-

шлі гады, імгненна згас у іх вачах. Але што я мог адказаць, калі болей не верыў у беларускую рэвалюцыю, не верыў у новага прэзідэнта, у гэтыя выбары і дакладна ведаў, што *нашы* заўтра не прыйдуць.

— На хуй нам іхны покліч! — вылаяўся Канаваленка, калі Лапацін адышоў. — Лузары! Зноў ўсё прасруць! Рэвалюцыянеры хрэнавыя! У нас свая рэвалюцыя! Паехалі ў «Шклатару»!

## 11

**М**аёнтак Камаеды славіўся камiннаю залай. Не столькі нават памерамі і пампезнасцю ейных інтэр'ераў. Слава палягала ў іншым. Род Завальняў быў галіністым і даўнім, сядзібаў ды зямель меў ён нямала. Але адрознівала ўсіх Завальняў асаблівае стаўленне да жыцця: жылі яны шырока, размашыста, з салянымі катаннямі, куражом ды цыганамі. Ні грошай, ні зямель, ні душ сялянскіх на хлебасольства не шкадавалі. Балі ды забавы ладзілі знатныя. Зрэшты, і грошы, і душы, і землі ад гэтага не канчаліся. Фартуна была да Завальняў заўсёды прыхільнай, пакуль раптам не перамянілася пасля падзелаў Рэчы Паспалітай.

Праз рамантызм натуры сваёй сталі яны прымаць бок адчайных: у вайну, бойку, паўстанне кідаліся першыя ды пачалі раз за разам прайграваць. Імператрыца Кацярына іх не лiтавала, Імператар Павел шанаваў, але самога хутка задушылі. Імператар Аляксандр не любіў за тое, што ў дванаццатым змагаліся на баку Банапарта. Мікалай ссылаў, Мураўёў вешаў. Род стаў марнець. Хто ў Еўропу выехаў, каго ў Сібір саслалі, хто павесіўся, хто спіўся, хто перасядзеў, як Станіслаў, але прачнуўся без галавы.

Камаеды былі адным з некалі шматлікіх уладанняў Завальняў. Вялікі дом, хоць домам яго цяжка назваць, хут-

чэй палац, які пастаянна ды нярэдка бязладна дабудоўвалі і перайначвалі. Але ягоная камінная зала заставалася сімвалам тых хлебасольных часоў, калі з лішкам хапала ўсяго: і залатых талераў, і душ, і зямель. У цэнтры залы стаяў даўгі фігурысты стол, ля паўночнай сцяны — вялічэзны камін, настолькі агромністы, што мог ў поўны рост змясціць чалавека. Сем высокіх вокнаў выходзілі ў парк. Са сценаў з пацямнелых парсун пазіралі слаўныя продкі Завальняў нібыта з дакорам і нямым пытаннем у вачах: «Як жа так сталася і чыя ў тым віна?»

Калі Ян увайшоў, скруха гасцей, што сабраліся ў зале з нагоды заўчаснага скону Станіслава, была ў самым разгары. Хтосьці з адсмуткавалых заўчасна нават спаў за сталом. З балкона гралі цыганы, стол поўніўся стравамі, што праўда, ужо даволі пакусанымі. Паміж гасцямі важна разгульвалі харты. У канцы залы гарэў камін. Госці весяліліся, гаманілі, не звяртаючы на Яна ніякай увагі.

Пан Генрых, пабачыўшы не адпаведнае моманту вяселле, спахмурнеў і гучна выкрыкнуў у залу:

— Панове!

Але панове яго не пачулі. Тады, наблізіўшыся, ён скінуў вялізнага сібірскага ката з каленяў пузатага пана, што спаў за сталом, і гаркнуў таму проста ў вуха:

— Шаноўнае панства!!!

З шырока разяўленага рота пузатага госця вылецела аса, а сам ён, злякнуўшыся, утаропіўся на аканома. Усе разам прыціхлі.

Кіўнуўшы музыкам, каб перасталі граць, пан Генрых са значэннем прамовіў:

— Панове! Маю гонар прадставіць вам новага гаспадара Камаедаў — пана Яна Завальню!

Заспетыя знянацку, госці моўчкі скасавурыліся на Яна. Твары іхныя паспрабавалі выявіць смутак. Яны раптам па-

рабіліся наўмысна сур'ёзнымі, і кожны ў меру свайго таленту і выпітага пастараўся насунуць журботную маску. Праўда, некаторыя госці былі настолькі п'яныя, што замест скрухі на іхных тварах з'явілася дураслівая грымаса. Каб прыпыніць *сэт конфюзьён,* пан Генрых махнуў цыганам, і праз імгненне перад Янам стаяў мажны румяны рома ды трымаў у руках паднос з крыштальнаю чаркай, напоўненай зеленаватага колеру наліўкай.

— Частуйцеся, вашамосць!

— Панове, вып'ем, панове! За спачын душы! Вып'ем! Пана Станіслава! Нех бэньдзе похвалёны! Вып'ем! На здрове! — блытаючыся ў словах, спалохана падхапіў пузаты.

Прысутныя тут жа загрукалі крэсламі, паўскоквалі з месцаў і, пахапаўшы чаркі, бы шаблі, паспрабавалі яшчэ раз выявіць смутак на тварах.

Ян узняў чарку, выпіў і, на дзіва, умомант адчуў неверагодную лёгкасць. Усё напружанне апошніх дзён спала, на твары паказалася ўсмешка. Госці, заўважыўшы перамену, тут жа пакідалі жалобныя маскі пад стол і ўсе разам загаманілі. Зала зноўку напоўнілася галасамі і рогатам, шумам, чмяканнем, звонам посуду. З балкона зайгралі музыкі.

— Калі ласка, вашамосць, на пачэснае месца гаспадара, так бы мовіць, да краевугольнага каменя, — з палёгкай выдыхнуў Генрых.

Ён далікатна падхапіў Яна за локцік ды пацягнуў на пачэснае месца. Але, ступіўшы некалькі крокаў, спыніўся:

— Дазвольце адрэкамендаваць! Пан Альберт Радзілоўскі, найбуйнейшы землеўладальнік у нашых мясцінах!

Пан Альберт прыўзняўся, пачціва схіліў галаву і з прыкметным польскім акцэнтам прамовіў:

— Вельмі рад! Бардзо, бардзо пшыемне! Я — сонсяд вашего ойца. І сталы партнэр па ламбэрным століку. А вы часэм не гулец?

Ян толькі сабраўся быў адказаць, як Генрых ужо знаёміў яго з чарговай госцяй:

— Пані Мальвіна! Так бы мовіць, чырвовая дама пана Альберта!

Мальвіна какетліва працягнула Яну руку для пацалунка:

— Які жах, месье, вельмі шкада! Найдабрэйшы быў чалавек! І шчодры! Très généreux, follement généreux! — загадкава падміргваючы, зашчабятала яна па-французску. — Спадзяюся, месье, вы годна заменіце свайго бацьку!

— Пан а... Зрэшты, няважна! — махнуў рукою Генрых ля наступнага госця і, схіліўшыся над вухам, дадаў: — Свіное Рыла!

Пан Свіное Рыла спаў, уткнуўшыся тварам у талерку з вяндлінай. Побач з ім на стале насамрэч ляжала вялікае свіное рыла.

— А гэта — унікум! Кот Варгін! Уявіце, умее распавядаць казкі!

Ян заўважыў, што побач з панам Свіное Рыла сядзеў на крэсле сібірскі кот неверагодных памераў.

— Я яго ў міравога суддзі Дадэмухі за дваццаць рублёў адкупіў! — дадаў Генрых. — Гавораць, ад ягонага бурчання ў галаве ў Дадэмухі завяліся восы! Да чаго ж, васпане, цёмны наш народ! Гэткую лухту вярзе! А гэта пан Скамароха! Старадаўні сябра вашага бацькі.

Гэта быў першы госць, якога Ян пазнаў.

— А я вас памятаю. Пакуль маці не памерла, вы часцяком да нас у Камаеды наведваліся.

— Так, так... Такая прыгажуня была. Эх, шкада, зачахла заўчасна... — спачувальна паляпаў Яна па плячы Скамароха, але тут жа ажывіўся і дадаў: — Дый і тата ваш, я вам скажу, — арол яшчэ той! Колькі паненак праз яго сохлі!

Прадставіўшы яшчэ некалькі чалавек, пан Генрых падвёў Яна да апошняга госця:

— Пан Твардоўскі, следчы ў справе вашага бацькі, і ягоны памочнік Гугон.

Твардоўскі ўстаў, працягнуў Яну руку і гаркнуў:

— Не хвалюйцеся, майн херц! Знойдзем і пакараем нягодніка! Вунь, паглядзіце, які ў мяне памочнік. Гэты і д'ябла з-пад зямлі дастане! Рыхтык, Гугон?

Кінуўшы погляд на Гугона, Ян заўважыў, што той ужо да непрытомнасці набраўся. Пахістваючыся з ідыёцкаю ўсмешкай на твары, ён адным вокам моўчкі ўпіўся ў Яна. Другое вока таксама паглядала, але не на Яна. Яно касавурылася некуды ўбок.

## 12

Ян сядзеў на чале стала ўжо колькі гадзін. Ён хутка захмялеў. Бяссонныя ночы, трывога, Пецярбург, размова з Іллёй, дарога, казліная морда — усё некуды знікла. Слугі прыносілі ўсё новыя стравы, госці славілі маладога гаспадара Камаедаў, спявалі «Сто лят!», потым знячэўку кідаліся ў скокі, зноў хапалі чаркі, бы шаблі, зноў пілі. Здавалася, вярнуліся тыя часы, калі Завальні былі гаспадарамі гэтых зямель, калі ніхто, ні кароль, ні сойм, ні касцёл, ні сам чорт, не смеў указваць ім, як жыць, з кім спаць, з кім сябраваць, а з кім ваяваць.

Адзінае, чаго Ян не разумеў, — прычыны гэтых пераменаў. Калі ён пакідаў Камаеды гадоў дзесяць таму, эканомілі на ўсім. Але цяпер — гэтае баляванне, горы новых рэчаў, бязладна пазвальваных у вітальні, дарагі фаянс на стале.

— Скажыце, пан Генрых, — нарэшце не ўтрымаўся Ян, — скуль уся гэтая раскоша? Станіслаў перад смерцю наноў разбагацеў?

— Гэта, — Генрых паднёс сурвэтку да вуснаў, — літасцівы пане…

— Не слухайце, васпане, нікога! — перабіў аканома пан Скамароха. — На гэты конт людзі чаго толькі не плявузгаюць. Адзін я ведаю, як было папраўдзе! Дык вось, узяў пан Станіслаў яйка ад чорнага пеўня...

Скамароха пацягнуўся да талеркі з перапялінымі яйкамі, узяў адно, ляснуў аб стол і пачаў абіраць.

— Паклаў яго ў пахвіну, — працягнуў ён, дэманструючы ababранае яйка гасцям, нібы таксама збіраючыся пакласці яго ў пахвіну, — і выношваў там цэлы месяц! З таго яйка, уявіце сабе, вылупілася змейка!

Скамароха кінуў яйка ў рот.

— Пачаў пан Станіслаў тую змейку карміць, і вырасла яна ў здаравеннага цмока, — Скамароха схапіў са стала вялікі зялёны штоф і патрос ім над галавою. — А той цмок быў, вох, не просты! Стаў ён вашаму бацюхне служыць і багацце яму здабываць! Ха-ха-ха!

— Так, так! Ён лепей ведае. Яны былі вельмі блізкія са Станіславам у апошнія гады, — дадаў аканом пад рогат Скамарохі.

— Панове! Гэй, панове! Шляхта, курва-мацць! — зароў Скамароха. — Папрашу ўзняць вашыя шляхетныя сракі! Давайце, рамэлы, заграйце нашу!

Тыя з гасцей, хто яшчэ мог трымацца на нагах, пахістваючыся, усталі. Цыгане зноўку зайгралі «Сто лят», пад якія Скамароха загарланіў:

— Панове, прапаную выпіць за новага гаспадара Камедаў, за яснавяльможнага пана Яна Завальню! Le Roi est mort, vive le Roi!

— Vive! Vive le Roi! — запляскала ў ладкі Мальвіна.

— Сто ля-я-ят! Сто-о-о ляяят! — замыкаў наўздагон Гугон.

На нагах ён ужо не стаяў, таму, каб Гугон не паваліўся на стол, пан Твардоўскі моцна трымаў яго за каўнер. Праў-

да, зрэнкі Гугона цяпер касавурылі не ў розныя бакі, а змыкаліся на пераноссі.

Скамароха залпам выпіў і, не гледзячы, шпурнуў чарку за спіну. Краем вока Ян прыкмеціў, што яна трапіла ў партрэт ягонай прабабкі Ядзвігі, старой кабеты ў манаскім уборы. Мяркуючы па мностве шурпатасцяў у палатне, чаркі ў парсуну кідалі не раз.

— А бацька ваш, нех му земя лекка бэндзе, якой душы быў чалавек! — Скамароха хруснуў карнішончыкам. — А павесяліцца як умеў! Памятаю, мы тады яшчэ шкалярамі ў Полацку былі, дык ён такі гаворыць мне: «Час табе, Скамароха, сапраўдным мужчынам станавіцца! Хочаш, я цябе з дамай Інсектай пазнаёмлю? Яна цябе цноты пазбавіць!»

— То кеды она яшчэ кобетой была? Ік... — ікнуў пан Альберт.

— Яка кобета? Ды не, пузней! У ёй ужо нічога бабскага не засталося! Дык вось. Прыводзіць ён мяне ўначы да драўлянай галавы Сакрата, што ў нас у калегіуме ў калідоры стаяла. Бачу, а над ёю жамярыца, падобная на моль, кружыцца. Прыгледзеўся, а гэта ніякая не моль, а кабета, толькі така малютка-малютка і з крыльцамі...

— Дааазвольце, — няўпэўненным языком запытаўся Ян, — ааа як жа яна моллю стала?

— Ад нянавісці, васпане. Так яна ўжо мужыкоў не любіла, што ад нелюбові гэтай чэзнуць пачала. Чэзла, чэзла, пакуль да молі не змарнела. Ха-ха-ха! — заліўся рогатам Скамароха.

— А кажуць, нядаўна ў полі такую таўсценную саранчу знайшлі, — прашчабятала Мальвіна. — Прыгледзеліся, а ў яе на спіне кітайскія іерогліфы, — яна зграбна кінула ў рот вінаградзінку. — Паспрабавалі тыя іерогліфы прачытаць — і выйшла, уявіце сабе: «Кара Божая»!

Недзе праз гадзіну госці прыціхлі. Скамароха спаў за

сталом са свіною галёнкай у руцэ. Цыганы, адчуўшы, што панове стаміліся, зайгралі лірычную.

— Пан Траўдоўскі, трр... і ўсё ж... Твардоўскі, што вы-ы-ы, вы можаце саабшчыць пра акааалічнасці гэ-э-этае спра-авы? — ледзь варочаючы языком, працягнуў Ян.

— Руіх, зэ-эр руіх..., не турбуйцеся... Ва-а-ашамосць... я б нават сказаў, яснавяльможнасць... давайце лепей вып'ем!

— А я яб-а-а бо-олей не-е п'ю-у...

Твардоўскі схапіў графін, напоўніў дзве чаркі, разліўшы палову на абрус, і прамармытаў:

— Ну-у-у! Тады... за ва-ас... Ва-а-аша найсвяцейшасць!

Ян узняў чарку, залпам перакуліў яе і следам за ёю сам перакуліўся ў цемру.

## 13

Яны заявіліся ўвечары, ужо сцямнела. Пачуўся настойлівы доўгі званок, а за ім тры кароткія. Сямён, нешта незадаволена мармычучы ў нос, пайшоў адчыняць. На парозе стаяў высокі спадар у дарагім футры і некалькі чалавек у жандарскіх мундзірах. Спадар быў ўжо не малады, але мажны і важны. Ягоны пешчаны твар аздаблялі раскошныя з сівінкаю вусы. Зачэсаныя назад валасы таксама пераліваліся высакароднаю сівізной. Постаць і выгляд выяўлялі ў ім чалавека не толькі ўплывовага, але і вельмі заможнага.

— Здесь ли проживает господин Завальня, милейший? — голас станістага пана серабрыўся ва ўнісон ягонай высакароднай сівізне.

— Так точно, ваше благородие! — неяк спалохаўшыся, прамармытаў Сямён. — Только сейчас их дома нету. Они уехамши!

— И куда же они уехамши? — перадражніў Сямёна спадар і зрабіў некалькі крокаў у глыбіню кватэры.

— Да почём же нам знать, они ничё не сказывали! — Сямён падаўся крыху назад.

Мажны пан зрабіў яшчэ некалькі крокаў, разгледзеўся і кіўнуў старэйшаму з жандараў:

— Обыскать здесь всё!

— Будет сделано, господин барон! — раўнуў той ў адказ, і па кватэры затупалі жандары.

— Давно он уехал? — запытаўся барон ва ўшчэнт перапалоханага Сямёна.

— Да уже с неделю-с будет! Сразу как письмо получил!

— Что за письмо? — абыякавым голасам пацікавіўся барон.

— Про что в том письме, нам то неведомо, ваше благородие. — замітусіўся Сямён вакол спадара. — А вот принёс-то его, принес! Какой-то черт в пальто! Я-то лица его сперва в темноте не приметил. А он как попрёт на меня, я только под ноги и глядел, чтоб не отдавил, леший. А уж как он до кабинета ихнего дошел и в дверь колотить начал, я на него глядь... и прям остолбенел. А тут Агафья, баба моя, выбегает, и тоже того, без чувствий на лавке прям вся обомлела.

Барон, ступіўшы яшчэ некалькі мерных крокаў, абярнуўся да Сямёна:

— И чего же в нём было такого примечательного, милейший?

— Ну, как же-с это, ваше благородие. Очень в нем было такого примечательного! Лица-то у него не было! Прям антихрист, жуть! А вместо лица-то у него козлиная морда!

— Козлиная морда? — ажывіўся барон.

— Именно! Именно, вот вам крест, морда! Козлиная морда! Мохнатая, черная, вспомнить страшно, и две рожки такие мааааленькие! — Сямён прыставіў два пальцы да ілба, паказваючы, дзе менавіта размяшчаліся рогі.

— Милейший, а ты часом не пьян был? Я вижу, ты и сейчас маленько.

— Ну как же-с, ваше благородие, мы завсегда малость! Но истинно, истинно вам говорю, козлиная, ей-богу, морда!

— И я вам доложу, ваше благородие, — з бакавога пакоя паказалася баба Сямёна, — этот хозяин евоный, к которому козел приходил, тоже, скажу я вам, подозрительный малый, не иначе карбонар какой-то. Бывает, купит ящик апельсин и всё жрет, всё жрет один за другим, пока все не съест!

— Ваше благородие, эта дверь заперта! — данеслася з дальняга канца калідора.

Барон няспешна падышоў да дзвярэй.

— Это что за комната? — барон паглядзеў на Сямёна. Той толькі збіраўся адказаць, як Агаф'я апярэдзіла яго:

— Кабинет ихний. Когда козлиная морда пришла, он там за дверью сидел. Мы-то знали, что он там, но смолчали. А он и виду не подал. Когда козел стал в дверь колотить, не открыл. Видать, боялся чего-то.

— А ключика у вас от этой дверцы не имеется ли?

— Помилуйте, ваше благородие! Хозяин не только прибираться, даже заходить не дозволяет. А уж ключ-то всегда при нем-с. Но для вас, — Сямён хітравата зірнуў на барона, — я ключик найду. Как-то подобрал из любопытствия. Только хорошо бы это, нам с Агафьей, а то сами понимаете, узнает – шкуру спустит!

Барон паблажліва паглядзеў на Сямёна і, дастаўшы з кішэні рубель, працягнуў яму:

— Не узнает. На тебе, мил человек. Отпирай!

Пабрынькаўшы нізкаю ключоў, Сямён знайшоў патрэбны і адамкнуў. З перасцярогаю барон увайшоў у кабінет. За ім следам жандары. Агледзеўшы пакой, барон

зірнуў на пісьмовы стол, на шчыльна завешаныя парцьеры на вокнах, на шафу ля сцяны і кінуў жандарам:

— Обыскать!

— Ну что я вам говорила, ваше благородие! — затрашчала з-за спіны барона Агаф'я, — Так и есть — апельсины! Сразу видно — бунтовщик!

У вялікай бронзавай попельніцы, што стаяла на пісьмовым стале, грувасцілася горка апельсінавай лупіны. Барон павольна падышоў і перакуліў яе на стол. Сярод апельсінавага лупіння ён заўважыў абгарэлы шматок паперы. Ён асцярожна ўзяў яго, паднёс да вачэй і прачытаў:

— «Вяртайся... неадкл... Адам За...».

## 14

Каб высачыць звера, паляўнічы зазвычай мусіць стаць непрыкметным: зліцца з колерам лісця, пахам травы, падкрасціся, незаўважна расставіць пасткі. На гэтым паляванні іначай. Паляўнічы, хутчэй, сам прынада: распускае яркія пёры, прыбіраецца ў кідкае, дарагое. Ён мусіць прывабіць звера. Зрэшты, хто звер, а хто паляўнічы, адразу няясна. Тут у кожным паляўнічым — звер, а ў кожным зверы можа сядзець паляўнічы.

Наступныя некалькі дзён я жыў прадчуваннем сустрэчы. Паяўляўся на студыі, сядзеў над сцэнаром, заязджаў вечарам у «Шклатару», але безупынна думаў пра Машу. Надзея слова стрымала, запрашальнік на закрыццё фэстывалю ў мяне ўжо быў.

Напярэдадні я з'ездзіў да свайго цырульніка ды прыкупіў у «Чэстары» новыя піжонскія чаравікі да маёй варанай тройкі. Звычайна ў Мінску я гэтай тройкі не насіў, але часам апранаў на паляванне. Канаваленка тады кпіў: «У гэтым касцюме, ды яшчэ з чорнай кашуляй, ты падобны на

лютэранскага пастара. Ты ж распалохаеш дзевак!» Але казаў ён так хутчэй ад рэўнасці. Я ж ведаў, што ў гэтым гарнітуры раблю на дзяўчын уражанне.

Раніцою ў дзень сустрэчы я заехаў на мыйку, старанна выдраіў машыну, працёр скуру ў салоне, а пасля абеду адправіўся на Камароўку прыкупіць карцэчы. Калі адразу не ведаеш, які зарад падабраць, лепей узяць шрот буйнейшы — сем даўгіх белых ружаў.

А шостай вечара я выйшаў з дому. Ехаць было недалёка: мы дамовіліся сустрэцца на вуліцы Маркса, побач з Машынай кватэрай, але, як на злосць, паўсюль зноўку перашкаджалі заторы. Я крыху спазняўся, таму нерваваўся. Калі я пад'ехаў, Маша ўжо чакала на рагу.

— Божа, які вы сёння пекны! — усміхнулася яна, як толькі села ў машыну.

Нічога не адказаўшы, я намацаў на заднім сядзенні букет.

— Гэта мне? — усклікнула Маша, відавочна збянтэжыўшыся ад першага залпу. — За што? Якія прыгожыя! — дадала яна з нейкай дзіцячай сарамлівасцю, быццам ніхто раней не дарыў ёй ружаў.

На радасцях я прышпорыў дзвесце коней пад капотам і пагнаў па вячэрнім горадзе. Я ведаў: нельга, каб ачуняла, трэба страляць ізноў, паказаць, які я хвацкі яздок. Гэта было нескладана: аўто я заўсёды вадзіў з азартам. Дарогаю, пераскокваючы з тэмы на тэму, я распавядаў пра кіно, пра свой новы раман, краем вока назіраючы за Машай. Калі яна і была звярком, то вельмі рэдкім. Гарнастаем з карціны Леанарда. Ці самой паннай, якая трымае ў руках таго гарнастая.

Неўзабаве я прыпаркаваў машыну ля гатэля «Еўропа», і праз пару хвілін мы стаялі каля ўвахода. У адрозненне ад Канаў чырвонай дарожкі ў нас не слалі і лімузінаў да ганку не прапускалі. Таму зоркі ды публіка дабіраліся на цы-

рымонію пешкам. Ля масіўных калонаў Палаца Рэспублікі ўжо ціснуўся народ. Толькі мы сабраліся ўвайсці, як мяне аклікнуў Канаваленка. З ім былі Насця, Віка, Коля і рэжысёр Штыркін. Сам жа ён быў заўважна пад чаркаю.

Лёгкай насмешкай ў вачах Канаваленка адказаў на мой бездакорны пастарскі строй, затым кінуў на Машу вывучальны юрлівы погляд, чым крыху збянтэжыў яе, і сказаў:

— Пасля цырымоніі будзе банкет у «Еўропе». Правесці я вас не змагу, у мяне толькі адзін запрашальны. Але вы пагуляйце, я ацаню сітуацыю ды набяру.

Да пачатку цырымоніі яшчэ заставаўся час, і мы накіраваліся ў бар. Я не адразу звярнуў увагу на чалавека, які стаяў у чарзе перад намі, пакуль той не павярнуўся. Мне даўно быў знаёмы гэты профіль. Гадоў пятнаццаць таму я назіраў яго ледзь не штодня па тэлевізары ды ўяўляў сабе яго чорную душу прыкладна гэтаксама, як маю — Паліна.

— Добры вечар, Павел Уладзіміравіч!

— Добры! — адгукнуўся ён стрымана. — Ну што, вы гатовы да экспертнага савета?

— Так, я дапрацаваў сцэнар. Мяркую, цяпер прэтэнзій не будзе.

— Добра! Нам гэты фільм патрэбны.

— Ведаеш, хто гэта быў? — запытаўся я, толькі мы прыселі за столік. — Гэта Батурын, дырэктар «Партызанфільма». Калісьці ён быў усёмагутным. А зараз проста дырэктар. Дзіўная штука. Раней ён душыў такіх, як мы з Канаваленкам, а цяпер мы працуем разам.

Маша з захапленнем паглядзела на мяне. Я заўважыў, як гарнастай у ейных руках заёрзаў. Я адчуваў, зараз ёй усё падабаецца: ружы, заліхвацкая язда, знакамітасці, людзі, якіх раней яна бачыла толькі па тэлевізары. Я ўзяўся распавядаць пра Батурына. Маша наўрад ці магла яго памятаць. Калі яны ўзялі ўладу, яна толькі пайшла ў шко-

лу. На тых выбарах Батурын быў правай рукою тагачаснага фаварыта — прэм'ера, які нечакана для ўсіх прайграў. А Батурын раптам апынуўся ў лагеры пераможцаў. Ён быў адным з тых, хто па кубіках, цаглінка да цаглінкі, збіраў гэтую маленькую Імперыю. Усё непатрэбнае яны ўтылізавалі без шкадавання. Так, першымі паляцелі за борт былыя сімвалы: герб, гімн ды сцяг. Потым — беларуская мова, далей сталі зачыняць непатрэбныя радыёстанцыі ды газеты, ўзяліся за няправільныя школы і ўніверсітэты. ЕГУ, дзе зараз Маша вучылася, таксама быў з тых крывых кубікаў які, вылецеўшы за борт, усплыў у Вільні. Паступова пасчэсвалі непатрэбныя думкі паспалітых людзей, і аднойчы ўсе зразумелі, што мы жывём у правільнай кубічнай прасторы, дзе няма крывых ды зігзагаў, а толькі роўныя прамыя вуглы.

Маша ўважліва слухала мяне. Я заўважаў, як мяняецца яе погляд. Ён то адкрываўся, то зноўку сыходзіў ў сябе. Здавалася, было ў гэтым штосьці вельмі фізіялагічнае. Штосьці ад драпежнай кветкі, якая распускаецца на сонцы ды замыкаецца, калі да яе дакрануцца іглою.

— А потым Батурын, які зрабіўся правай рукою Імператара, сам стаў крывым кубікам у пірамідзе, і яго здалі як пустую тару, адправілі загадваць «Партызанфільмам». Ну, добра! Час ісці ў залу!

Месцы ў нас былі не побач, таму я прапанаваў, калі ўсё скончыцца, сустрэцца каля гардэроба. Толькі згасла святло, як пачулася музыка і на сцэну выйшлі вядоўцы. Нічога асаблівага далей не адбывалася: прамаўлялі госці, з'явіліся Гасцюхін, Багдан Ступка, старэйшы Янкоўскі. Цырымонія набліжалася ўжо да паловы, калі нечакана зазваніў тэлефон. Я не гледзячы націснуў адбой. Але званок паўтарыўся. Я зірнуў на нумар. Гэта была Паліна. «Каб цябе чэрці! — кальнула нядобрае. — Толькі не сёння!»

Тым часам на сцэне перайшлі да ўручэння ўзнагарод. Віншаваў лаўрэатаў асабіста Дуніловіч, якога прызначылі міністрам культуры недзе год таму. Раней гэты малаважны ў Імперыі пост часцяком даставаўся людзям выпадковым. Але потым, калі дайшло, што кубікі трэба не проста складаць, а адзін з адным цэментаваць — інакш піраміда разваліцца, калі зразумелі, што патрэбна ідэя, альбо, на мове Канцылярыі, ідэалогія, а культура — найважнейшая частка яе, тады і вырашылі, што нельга аддаваць гэты пост простым прарабам. Тут неабходны чалавек разумны, інтэлігентны, але жорсткі, а галоўнае, свой. Пажадана, каб патрыёт, але не бела-чырвона-белы, такі, які б карыстаўся павагаю за мяжой і меў сувязі ў падполлі.

Дуніловіч пасаваў як найлепей. Ён доўга працаваў дыпламатам у Еўропе, быў малады, валодаў мовамі, але сам размаўляў толькі па-беларуску. Ён прыйшоў з тых новых людзей, якія, як і беларуская мова, раптам спатрэбіліся пірамідзе. Старыя, накшталт Батурына, ужо не падыходзілі. Яны былі патрэбныя, калі квітнела любоў, калі хлябы даравалі за пацалункі. Але падчас вайны, калі ўсвядомілі, што непрыяцель з усходу больш небяспечны, ды зразумелі, што спадзявацца няма на каго, вораг паўсюль і хлябы давядзецца ўзрасціць самім, тады і спатрэбіліся такія людзі, як Дуніловіч. У дасведчаных колах іх называлі маладымі ваўкамі. Яны прыйшлі ў Канцылярыю і пачалі метадычна выкідаць старых. Ціхая варожасць паміж Міністэрствам культуры і «Партызанфільмам» таксама была часткаю гэтага працэсу. Дуніловіч не любіў Батурына ды гэтага не хаваў.

Тэлефон зазваніў зноўку. Я выйшаў у фае.

— Чаму ты не адказваеш? Я табе цэлы вечар тэлефаную! Дзе ты? — раздражнёна запыталася Паліна. — Нам трэба неадкладна сустрэцца! Зараз я вазьму таксі і прыеду! Скажы толькі, куды?

І тут я зрабіў памылку. Калі б я сказаў: «Ок! Прыязджай!» — хутчэй за ўсё, яна б праз пару хвілінператэлефанавала і сказала, што ёй ужо лянотна выбірацца, маўляў, давай перанясем сустрэчу на заўтра. Але я адказаў: «Не!»

— Дзе ты зараз? — пачуўшы слова «не», тут жа прыняла ваяўнічую паставу Паліна.

— Я ва Уруччы, — назваў я максімальна аддалены ад яе пункт горада.

— Ва Уруччы? Што ты там робіш?

— Якая розніца! Мы не будзем сёння сустракацца! Я заняты дапазна! Убачымся заўтра! Пакуль! — я кінуў трубку.

Да заканчэння цырымоніі заставалася хвілін пятнаццаць. Я вырашыў не вяртацца, пачакаць Машу ў фае.

— Мне так сорамна! Прабачце мяне! — разгублена прамовіла яна, выйшаўшы з залы.

— Сорамна за што? — здзіўлена перапытаў я, накінуўшы на яе кажушок.

— Што завабіла вас на гэтае найнуднейшае закрыццё. Лепей бы мы пайшлі ў кавярню.

— Ды нічога! У кавярню і зараз не позна пайсці!

Мы выйшлі з Палаца Рэспублікі і пакіравалі праз плошчу ў рэстарацыю з французскай назвай «Boulevard». Толькі мы ўзяліся вывучаць карту він, як патэлефанаваў Канаваленка.

— Ну што, дуйце сюды! Гарэлкі, жрачкі нямерана! Аховы на дзвярах няма! Але ўваход не праз гатэль, а з вуліцы! Так што давайце ў «Еўропу»!

## 15

«Еўропа» была сімвалам новых павеваў. Колькі гадоў таму яе адбудавалі з нуля на асабісты загад самога Імператара. Раней на гэтым месцы стаяў шкляны павільён кавярні

«Пінгвін» — простай забягалаўкі, дзе збіраліся хіпі, рокеры, панкі ды іншы нефармальны народ. Яны атаварваліся ў гастраноме за сценкай, прыходзілі са сваім ды пад сталом разлівалі. Буфетчыцы ведалі гэта, але глядзелі скрозь пальцы. За дзень яны выцягвалі з-пад сталоў пару мяхоў шклатары ды мелі з гэтага някепскі прыбытак. Але ў самым пачатку адлігі Імператар сказаў: «Мы — цэнтр Еўропы!» У пацвярджэнне яго слоў «Пінгвін» тут жа знеслі і вельмі хутка, за год, адбудавалі гэты гатэль, які сапраўды стаяў тут гадоў сто таму, але метраў на трыццаць правей.

«Еўропа» лічылася самым дарагім гатэлем у горадзе, таму, як правіла, пуставала. Сяліліся тут пераважна арабскія шэйхі ды расейскія алігархі. Падарожным з Еўропы яна была не па кішэні. Рэстарацыя на першым паверсе таксама славілася як дарагая ды занадта ампірная. Калі мы з Машай да яе падышлі, ля ўвахода нас сустрэў швейцар у бардовай ліўрэі. Ацаніўшы нашыя бездакорна ампірныя строі, ён пачціва запрасіў увайсці.

Публіка ўнутры цалкам пасавала да інтэр’еру: кабеты ў вячэрніх сукенках, мужчыны — у смокінгах ды строгіх гарнітурах. Прысутнічаў тэатральны і кіношны бамонд: акцёры, прадзюсары, рэжысёры. Былі Дуніловіч, пара ягоных намеснікаў, амбасадары і некалькі кіназорак з Масквы. Батурына сярод гасцей я не заўважыў. Людзей з «Партызанфільма» ўвогуле было няшмат.

— Што будзеш піць? Можа, шампанскае? — спытаў я і пацягнуўся за келіхам.

— Шампанскае? Не! Лепей каньяк.

— Каньяк? Я таксама люблю каньяк! — узрадаваўся я супадзенню густаў.

Прабегшыся вокам па стале, я раптам заўважыў, што акурат каньяку сярод пляшак і не было. Паўсюль красаваліся адны толькі гарэлкі.

— Нічога страшнага! — заўважыла Маша маё засмучэнне, — Можа быць і гарэлка!

Афіцыянт тут жа напоўніў дзве чаркі. Паднёсшы іх да вуснаў, мы па-змоўніцку зірнулі адно аднаму ў вочы.

— За знаёмства! — прапанаваў я першы немудрагелісты тост.

Яна ўсміхнулася ў адказ і, раптам выдыхнуўшы неверагоднае бязважкае: «Ох!», выпіла залпам, быццам кінула чарку за плечы. Гэтае «Ох!» ашаламіла мяне. У ім чулася Канаваленскае: «Эх! Гуляй, слабада!» — толькі ў мяккім, анёльскім рэгістры. Гэтым «Ох!» крычала душа, з выклікам, але адначасова мальбою. Так магла б усклікнуць у момант аддання граху манашка, якая спакутавалася ад патаемных жаданняў. Яна нібы заклікала нябёсы: «Навошта, Пане, ты зняволіў мяне ў гэтым целе, якое жадае, якое таксама хоча любіць!» Але заклікала яна з гэткай бязвіннасцю, што, калі была б пачутая, напэўна б атрымала дараванне.

— Можа, чаго закусіць? — злёгку сумеўся я.

— Я першыя тры не закусваю!

— Дык яшчэ па адной? — падхапіў я, яшчэ болей здзівіўшыся, але ўпотай радуючыся яе адказу. Мне раптам здалося, што мая п’яная душа нарэшце знайшла суразмоўцу.

— Яшчэ па адной! — з выклікам адазвалася яна.

— За нас! — кінуў я чарговы просценькі тост, і наступная чарка паляцела за плечы.

Гарэлку піць без закускі я не прывык. Але як я мог есці пры ёй? Мы напоўнілі яшчэ па адной ды адышлі ад стала. Я адчуваў, што пачынаю хмялець. Не ад гарэлкі, вядома. Я тануў ў лясной каламуці і адчуваў: яшчэ чарка — і звароту не будзе.

— За каханне! — паднёс я трэці тост, не жадаючы думаць пра вяртанне.

Яна адказала неясным зіхаценнем у вачах і выпіла трэцюю, заключыўшы мяне ў сваё бязважкае «Ох!».

Адчуўшы, што ўзлятаю, я запаліў і толькі пачаў распавядаць, хто ёсць хто ў гэтай зале, як з суседняй выскачыў мой студыйны ардынарац Коля і скорагаворкаю затарахцеў:

— Піздзец, Маэстра! Хавайцеся! Тут Паліна! Мне здаецца, яна — поўнае ебанько! Толькі што ўляцела! Вас шукае!

Коля з дзіцячым захапленнем утаропіўся на ўваход у вялікую залу, нібыта адтуль вось-вось пакажацца Мінатаўр.

— Яна – там! Здаецца, кагосьці сустрэла! Вы можаце збегчы праз кухню! Гэта туды! А я паспрабую яе адцягнуць! — дабіў мяне Коля.

Гэта была катастрофа. Аслупянеўшы перад яе непазбежнасцю, я не разумеў аднаго: чаму яна прыйшла не ўчора і не заўтра. Як мне зараз патлумачыць Машы, што гэта за баба такая, ад якой нам трэба ўцякаць праз кухню? Усё, што так прыгожа ды высакародна складвалася цэлы вечар, у адно імгненне ператваралася ў трэш. Я ведаў, што зараз Паліна падляціць, закоціць істэрыку. Я зраблюся падонкам, а Маша — шлюхай. Я пачну няскладна Паліну супакойваць. У адказ яна закрычыць галасней, наўмысна, каб пачулі ўсе. Маша пойдзе да выхаду. Я кінуся яе даганяць, паспрабую штосьці нязвязна патлумачыць. Усё будзе бязглузда і недарэчна. І Маша знікне назаўжды.

— Маша! — нарэшце выдыхнуў я, злавіўшы неўразуменне ў яе вачах. — Маленькая няўвязачка! Пабудзь тут, я зараз усё ўладжу! А ты, — звярнуўся я да Колі, імкнучыся выглядаць як мага спакайнейшым, — пазабаўляй Машу! Накармі, напаі, не дай ёй сумаваць!

Я пабег шукаць Канаваленку, разумеючы, што цяпер адзін ён можа дапамагчы. Залліваючыся рогатам, той нешта вяшчаў актрысам з Рускага тэатра.

— Канаваленка! — бесцырымонна адцягнуў я яго ад кампаніі. — Ратуй! Гэта вельмі сур'ёзна!

Тое, што ўсё вельмі сур'ёзна, мяркую, ён і так зразумеў па выразу майго твару.

— Тут Паліна! Адцягні! Загавары яе! Я зараз падыду ды паспрабую яе супакоіць, а потым мы з Машай незаўважна знікнем!

— Добра! — буркнуў у адказ Канаваленка. І я зразумеў, што пра сябе ён зноўку ціха рагоча. — Ідзі да яе. Зараз буду!

У вялікай зале я застаў Паліну за размовай з Жаннай, яе даўняй прыяцелькай, якая апошнім часам працавала на серыялах у Маскве. Да мяне тут жа дайшло, хто зліў інфармацыю. Хаця тое, што яна адразу натыкнулася на Жанну, было няблага. Цяпер тая выконвала ролю перамоўніцы, якая загаворвае чалавека ў афекце. А што Паліна ў афекце, было відавочна. Калі б на ўваходзе стаяла ахова, яе проста не пусцілі б. Яна выскачыла з дому ў першым, што трапіла пад руку, у нейкім старым швэдарку і доўгай квяцістай спадніцы, нават не паспеўшы навесці макіяж.

— Падлюка! — убачыўшы мяне, закрычала Паліна. — Нашто ты мне маніш? Якое Уручча? Ён мне сказаў, што ў яго дапазна справы ва Уруччы, — яна зноў пераключылася на Жанну. — А сам тут! Я ж ведала! Жанначка, ён хлусіў мне ўсё жыццё! Ён — паталагічны лгун! Уручча! Якое Уручча! Прабач, дарагая, мы адыдзем!

— Паліна! Паслухай і супакойся! — пачаў я як мага мякчэй.

— Што мне слухаць? Дзе грошы!? Дзе грошы, якія ты абяцаў? Ужо канец восені! Я зараз закрычу, што ты вінаваты мне вялікую суму! Я абганю цябе перад усімі! Я зараз закрычу, што ты мяне збіваў! Хай усе ведаюць, які ты гад! Ваш сцэнар прыкрыюць!

Я азірнуўся на залу. Дзесьці ўдалечыні маячыла высокая постаць Дуніловіча, хадзілі людзі з міністэрства, акцё-

ры, Багдан Ступка, Янкоўскі. Усе шляхетна вялі размовы за келіхам шампанскага. Чатыры музыкі ў фраках выконвалі Гайдна. Вечар толькі пачынаўся. Заявіся Паліна гадзіны праз тры, на ейныя крыкі, які я падлюка, ніхто не звярнуў бы ўвагі. Іх проста прынялі б за няўдалую мізасцэну, маўляў, акторка крыху перабрала. Але зараз мог здарыцца скандал. Драматург, які падае вялікія надзеі, новая зорка фабрыкі мрояў, прыстойны з выгляду чалавек у чорным пастарскім касцюме ды — о, ганьба — злыдзень! Катаваў жонку, вінаваты ёй вялікія сумы. Але галоўнае, усё гэта здарыцца пры Машы. А ў тым, што Паліна закрычыць, я ані кроплі не сумняваўся.

— Паслухай, Паліна, мы ж два тыдні таму дамовіліся! Ты ж ведаеш, зараз я ў пазыках. Дай здаць сцэнар! Як толькі заплацяць, ты тут жа атрымаеш свае пяць тысяч!

— Ты ж казаў, што заплацяць у кастрычніку! Ты ж мне бажыўся. Ужо сярэдзіна лістапада! Што значыць твае слова! Не жадаю знаць! Мне патрэбны грошы зараз!

— Я што, вінаваты, што міністэрскія нас завалілі! — я таксама пачынаў зрывацца.

— Дзе гарантыі, што яны не заваляць вас зноўку?

— Не хвалюйся, гэтым разам не заваляць! Дачакайся экспертнага савета! Хутка ўжо, засталося ўсяго дзесяць дзён! Пасля дваццаць трэцяга ўсё атрымаеш!

І тут чорт падаткнуў мяне гэта сказаць. Трэба было працягнуць размову пра грошы, супакоіць яе абяцаннямі. Але замест гэтага я раптам заклікаў да чалавечага ў Паліне. Мы ж столькі гадоў пражылі разам, няўжо яна цяпер не жадае мне шчасця! Не хоча, каб маё жыццё наладзілася? Я ж шчыра жадаў гэтага Паліне. Я ведаў усе ейныя любоўныя авантуры. Нават раіў, з кім лепей застацца. Няўжо зараз яна мяне не зразумее? І тады я сказаў, што тут не адзін. Што гэта сур'ёзна. Але я нават не прашу яе пайсці. Яна можа застацца, але, калі ласка, не псаваць нам вечар.

— Пляваць я хацела на тваіх шлюх! — паляцела ў адказ. — А калі яна не шлюха, то ідыётка! Тады я мушу яе папярэдзіць, распавесці, з якой пачварай яна звязалася!

Тут я зразумеў, што ідыёт — гэта я.

— Ну што, ебанутая сямейка? — вельмі дарэчы падаспеў Канаваленка. Ён абхапіў Паліну за талію, затым бесцырымонна апусціў руку ніжэй.

— Вой, прывітаннейка! — імгненна перамянілася Паліна.

Канаваленка меў на яе нейкі гіпнатычны ўплыў. Яна заўсёды расквітала перад ім, так што часам нават здавалася, каб не мая прысутнасць, была б гатовая і аддацца. Пры ім яна ніколі не рабіла істэрык, зноўку станавілася любаю, добрай Палінай. Тут жа пераключыўшыся на Канаваленку, яна ўзялася скорагаворкаю штосьці яму распавядаць, дзякуй богу, не пра мяне. Наспеў час знікнуць.

У малой зале я знайшоў Машу пад апекай Колі ды Вікі. Хмель прыметна ўдарыў ёй у галаву. Яна павесялела, і, здавалася, нядаўняя няёмкасць ужо прайшла.

— Маша, прабач, давай паедзем! Мы проста працягнем вечар у іншым месцы, — я намагаўся выглядаць абсалютна спакойным.

— Добра! Як скажаце!

Мы ўдала праскочылі вялікую залу і прайшлі ў гардэроб. Накінуўшы на Машу кажушок, я зірнуў ёй у вочы. У іх не было ні збянтэжанасці, ні пытанняў. Але яны ўжо не мігацелі, як раней. А былі падобныя да замкнёнай кветкі. Мабыць, яна не хацела бачыць майго фіяска.

## 16

Чортава баба! Ідыётка! Вар'ятка! На якую халеру яна звалілася сёння! Выйшаўшы з гатэля «Еўропа», я са злосці, хоць і быў падвыпіўшы, сеў за руль, і мы паехалі ў «Шклатару». Мацюгаючыся пра сябе, я разумеў, што па вушы ў дзярме,

што выглядаю поўным крэцінам. Справа была, вядома, не ў бабках, якія я абяцаў Паліне. Мы развяліся два гады таму, але яна ніяк не хацела мяне адпусціць.

Паліна чакала майго падзення. Уяўляла, як я ў абсіканых штоніках п'яны загнуся пад плотам. Але я, наадварот, пачаў за сабою сачыць, сеў на дыету, купіў дарагую машыну ды за чатыры тысячы даляраў уставіў страчаныя на франтах зубы. Паліну гэта ўсе раздражняла. Мы сустракаліся, сварыліся, мірыліся, яна знікала на які месяц, але нязменна, калі хацела мяне дастаць, зачэпкаю рабілася пытанне кватэры.

Пасля разводу яна засталася з нашай дачкой Верай у аднапакаёўцы. Я ж жыў адзін у трохпакаёвай. Я прапаноўваў забраць дачку да сябе, але Паліна гэтага не хацела і патрабавала купіць ёй кватэру. У прынцыпе, я быў не супраць. Але ў падполлі вялікіх грошай не вадзілася. Гэткай сумы на раз ў мяне не было. Пасля разводу я пакінуў ёй дзесяць тысяч даляраў з умоваю, што яна іх траціць не будзе. Каб зрабіць з аднапакаёвай двушку, не хапала яшчэ тысяч пятнаццаць. Я быў гатовы грошы знайсці, але гэтай восенню сам сядзеў ў даўгах. Сцэнар, над якім я працаваў ужо паўгода, пакуль толькі цягнуў, усё болей і болей зацягваючы мяне ў пазыкі. За яго павінны былі заплаціць някепскі ганарар, але, нават атрымаўшы яго, палову я мусіў адразу аддаць крэдыторам. З таго, што заставалася, я абяцаў Паліне выдаткаваць яшчэ пяць тысяч на пакупку кватэры.

Хоць штомесяц я даваў на Веру прыстойныя грошы, але па настойлівасці, з якой апошнім часам Паліна патрабавала абяцаныя пяць тысяч, я здагадваўся, што ад першай дзясяткі нічога не засталося. Кватэрнае пытанне пагражала ператварыцца ў бясконцы даўгабуд.

Дабраўшыся да «Шклатары», мы заспелі Сцёпіна ў атачэнні сціплай кампаніі. Пацягваючы каньяк, ён гуляў з Ма-

каравым у шахматы. Спустошаны ад налёту Паліны, я разумеў, што хаця б рэшткі вечара трэба выратаваць ў кампаніі Сцёпы. Але для пачатку трэба было чаркай супакоіць нервы. Толькі мы прыселі за стол, пачуўся званок.

— Ты дзе? — істэрычна крычала Паліна. — Неадкладна вяртайся!

Нічога не адказаўшы, я раздражнёна адключыўся. Але не паспеў Сцёпін разліць, як званок паўтарыўся.

— Не смей вешаць трубку! Калі ты зараз яе павесіш, ты сабе гэтага ніколі не даруеш! Мне няма чаго губляць! Я зараз стаю на вуліцы Леніна, калі ты праз дзесяць хвілін не прыедзеш, я кінуся пад машыну!

Я выйшаў на ганак:

— Хопіць, Паліна! Я больш не жадаю…

— Мне пляваць! Пад машыну! Дзесяць хвілін! Чуеш, дзесяць хвілін! Мая смерць будзе на тваім сумленні! — цяпер яна павесіла трубку.

Паліна заўсёды была эксцэнтрычнай. Але пагроза кінуцца пад машыну была новай.

На ганку з’явілася Маша.

— Нешта здарылася? — запытала яна, заўважыўшы маю азадачанасць.

— Ды не. Усё ў парадку, — адказаў я, але, крыху памарудзіўшы, дадаў: — Яна заявіла, што кінецца пад машыну.

Усё, што так прыгожа пачыналася, ператваралася ў бязглузды фарс. Я зноўку мацюгаў пра сябе Паліну. Яшчэ болей сябе — за мяккацеласць. Я разумеў: ні пад якую машыну кідацца яна не збіраецца. Аднак штосьці паколвала. Я адчуваў, што на ўсялякі выпадак лепей вярнуцца. Усё адно наспеў час расказаць Машы, хто такая Паліна.

— Здаецца, мне лепей дахаты, — прамовіла яна, выслухаўшы мае блытаныя тлумачэнні.

— Маша, але як жа…

— Не, не, я ўсё разумею! — перапыніла яна. — Мы сустрэнемся іншым разам! Магчыма, у панядзелак. Едзьце, вам трэба зараз быць там!

## 17

Калі я вярнуўся ў «Еўропу», банкет знаходзіўся ўжо на той стадыі, што, калі б Паліне ўздумалася закрычаць, што яе забіваюць, ніхто б і не пачуў. Гасцей паменела, а тыя, што заставаліся, былі ўжо добра паддатыя. Дуніловіча ды іншых афіцыйных асоб ужо не было. Затое прысутнічала багата маладых актарак, сярод якіх Канаваленка пачуваў сябе як кот на рыбным прывозе. Я застаў яго за размоваю з Сянькоўскай. Яна заўсёды падабалася Канаваленку, і цяпер, распушыўшы грыву і хвост, ён распавядаў ёй пра ролю пані Мальвіны, якую тая мусіла сыграць у нашым фільме.

Як я і чакаў, Паліна цалюткая кружыла сярод гасцей. Яна так захапілася размовамі, што маё паяўленне не выклікала ў яе асаблівых эмоцый. Паліна выглядала абсалютна спакойнай і нават павесялелай. Напэўна, спакой адразу вярнуўся, як толькі яна зразумела, што свайго дамаглася. Нарэшце, звярнуўшы ўвагу на мяне, яна падышла і пачала добразычліва распытваць пра Машу. А потым ўзялася даваць парады, як нам лепей будаваць адносіны, каб не паўтарыць старых памылак. Здавалася, чалавечае зноў вярнулася да Паліны. І мы нават выпілі міравую.

Потым мы выпілі ўтраіх з Канаваленкам, затым з Сянькоўскай. Потым я выпіў на брудэршафт з будучаю пані Мальвінай. Шчыра кажучы, мне яна таксама заўсёды падабалася. Я быў бы нават не супраць закруціць з ёю раман. Але Сянькоўская была замужам за лідарам «Крыся Балконскага», вядомым у нашым горадзе музыкам, задзірам ды ў дадатак баксёрам. Гэта мяне неяк стрымлівала. Усё-ткі

новыя зубы за чатыры тысячы даляраў былі мне пакуль яшчэ дарагія.

Пасля я выпіў з дзецьмі палка са штабнога вагона: Колем, Вікай і Насцяй. Потым — з вядомым прадзюсарам з Рыгі, распавёўшы яму пра наш новы праект. Затым я перакуліў чарку са Штыркіным, потым — з будучым панам Альбертам, тады — са Скамарохам. Потым хацеў быў выпіць з Хвастовым, начальнікам дэпартамента кінематаграфіі ў міністэрстве, але той і так быў парадкам п'яны ды збіраўся ўжо ісці. Я не настойваў, але пайшоў правесці яго да таксоўкі.

— Чаму вы топіце наш фільм? — запытаўся я наўпрост, калі мы выйшлі на вуліцу.

Я заўважыў, як вочы ў Хвастова забегалі. Ён тут жа прыкінуўся, што лыка не вяжа.

— Вы ж ведаеце, гэта моцны сцэнар! Ён на «ўра» прайшоў мастацкую раду! Гэта ж прарыў! Дык чаму?

Хвастоў узяўся штосьці блытана ды нязвязна тлумачыць. Бачна было, што ён дакладна ведае прычыну, але не можа раскрыць яе нават па п'яні. Я, вядома, здагадваўся пра ягоную асабістую нелюбоў да Канаваленкі, які неяк прызнаўся, што намуляў Хвастову бакі, калі яны ехалі разам у Анапу на фестываль «Кінашок». Яны са Штыркіным пілі ў купэ, калі з'явіўся Хвастоў ды папрасіў вызваліць ягонае месца. Ён ехаў на ніжняй паліцы, а ў Канаваленкі была верхняя. Але Канаваленка ўстаў і, колькі разоў даўшы начальніку дэпартамента па баках, нечакана адправіў яго на падвышэнне.

Цяпер Хвастоў хацеў пакласці на паліцу наш фільм. Я разумеў, што прыняць такое рашэнне ён асабіста не можа. Дзеля гэтага трэба ехаць на шмат паліц вышэй. Ды ўвогуле, усе на «Партызанфільме» ведалі, што яго хутка знімуць. Прычына хавалася ў іншым.

— Мы ж перапрацавалі сцэнар, улічылі ўсе заўвагі ідэалагічнага аддзела, там цяпер няма да чаго прычапіцца! — настойваў я, ухапіўшыся за дзверцы таксоўкі, якія Хвастоў марна спрабаваў зачыніць.

Нарэшце, не вытрымаўшы, ён у момант працверазеў ды злосна кінуў мне ў твар:

— Мы ніколі яго не прапусцім! Чуеце, ніколі! — і раздражнёна бразнуў дзвярыма.

## 18

**Я** — Імператар! Я сяджу на цяжкім парткамаўскім крэсле ў Доме Кіно ў былым Чырвоным касцёле. Нада мною — скляпенні. Перада мною — публіка і шклянкі з віном. На мне фрэнч, галіфэ і афіцэрскія боты. Я ўзнімаюся, бяру кружэлку з хуткасцю семдзесят восем абаротаў у хвіліну і пускаю яе на хуткасці трыццаць тры. Публіка з залы назірае за мною. Вясновая песня цягнецца нетаропка, куды марудней, чым хвіліны вясны.

Я няспешна бяру першую шклянку. Выпіваю. Павольна апускаю яе на паднос. Яшчэ больш запаволена я ўзнімаю другую. Смакуючы кожны глыток, выпіваю. Людзі ў зале. Моўчкі назіраюць за мной. Я назіраю. За імі. Маіх вачэй яны не бачаць. Паміж мной і людзьмі чорныя лінзы. Нетаропка. Я бяру. Трэцюю шклянку. І выпіваю няспехам.

Я п’яны. Але. Узнімаю. Чацвёртую шклянку. І п’ю ў маруднай жалобе. Мелодыя ўсё болей цягучая. А зала. Маўчыць. Людзі. Чагосці. Чакаюць. Я. Узнімаю. Пятую. Шклянку. Моўчкі. П’ю. Я. Ведаю. Ім. Таксама. Хочацца. Піць. Але. Я. Бяру. Шостую. Шкля. нку. І. Вы. пі. ва. ю. Я. е.

Яна ўстае з бліжэйшага шэрага. Падыходзіць. Бярэ шклянку з падноса. Я ўзнімаюся. Мы п’ём разам. Я цалую яе і кідаю шклянку ў сцяну. Яна таксама б’е шклянку. Мы

павольна кружымся ўдваіх. Марудна, як мелодыя семдзесят восем на хуткасці трыццаць тры.

З залы нясмела падымаецца чалавек. Падыходзіць, выпівае шклянку з віном і таксама б’е яе аб сцены касцёла. Людзі спешна зрываюцца з месцаў, ляцяць да стала, хапаюць шклянкі з віном, выпіваюць і б’юць іх аб сцены. Калі шклянак болей няма, яны хапаюць пустыя бутэлькі і б’юць іх аб сцены. Мы танчым. Мы танчым удваіх. Мы танчым удваіх пад Вясновую песню. Марудную. Больш запаволеную за вясну. Мы танчым. Удваіх. На. Аскепках. Шкла. та. ры.

## 19

Прыадплюшчыўшы вочы, Ян цьмяна ўгледзеў нечы твар.

— Прачнуліся. Вось і цудоўна! Вашамосць учора задужа выпілі. Былі ў непрытомнасці. Я загадаў, каб лёкаі перанеслі вас у спачывальню.

Ян паспрабаваў прыўстаць, але рэзкі боль ў галаве адкінуў яго на падушку.

— Разумею! — твар Генрыха расплыўся ў спагадлівай ўсмешцы. Ён пацягнуўся да званочка, што вісеў каля ўзгалоўя, і тузануў яго тройчы.

Дзверы тут жа адчыніліся, і на парозе паказаўся Карпа. Трымаючы ў руках срэбны паднос, на якім стаяў запацелы графінчык, вазачка з чорнаю ікрой, ляжалі хлеб, агуркі і вяндліна, ён наблізіўся да ложка ды ўтаропіўся на Яна немігатлівым рыбіным позіркам.

— Па старадаўнім, так бы мовіць, літоўскім звычаі зрабіце ласку пакаштаваць, — мядовым голасам прапанаваў Генрых.

— Дзякую, пан Генрых. З раніцы да Бахуса не прызвычаены, — Ян паспрабаваў яшчэ раз прыўзняцца, але ягоны твар зноўку скрывіла грымаса.

— Дарэмна ўпарціцеся, Бахус ад галаўнога болю вызваляе. Карпа, падай яшчэ падушку, каб пану Завальні было лацвей.

Карпа паставіў паднос, ухапіў вялікую, памерам з самога, падушку ды ўзяўся падкладваць Яну пад спіну. Зноў адчуўшы ненатуральны холад, што ішоў ад рук карузліка, Ян здрыгануўся і запытаў:

— Што гэта, братку, ад цябе так холадам павявае?

Нічога не адказаўшы, Карпа напоўніў крыштальную чарку ды мутна глянуў на Яна.

— Што ты ўсё маўчыш? Глухі, ці што?

— Карпа не можа гаварыць, — заступіўся за карузліка Генрых. — Ён, вашамосць, нямы. Да таго ж ён — не чалавек.

— Што значыць — не чалавек? — здзіўлена ўзняў вочы Ян. — А хто ж?

— Рыба!

— Рыба?

— Так, рыба. Праўда, што цікава, — абыякава дадаў Генрых, — калісьці ён мог размаўляць. Уявіце, як толькі Карпа нарадзіўся, ён тут жа ўсеўся на стале ды запатрабаваў хлеба, чым бязмерна збянтэжыў усіх.

Злавіўшы здзіўлены позірк Яна, аканом узяў з падноса акрайчык і спакойна працягнуў:

— Вось менавіта! Усе здзівіліся! Але кавалак хлеба ўсё ж падалі. А нованароджаны, уявіце сабе, тут жа яго праглынуў, ускочыў ды як сігане ў бочку з вадою, што ля стала стаяла. Vous comprenez, які гарэза! Кінуліся былі яго даставаць, але выцягнулі не дзіцянё, а рыбу. Вялі-і-ікую рыбу! — нараспеў прамовіў Генрых.

Паставіўшы на маленькі элеганцкі паднос крыштальную чарку, ён наблізіў яе да самога твару Яна:

— Паслалі тады па ксяндза. Той прыйшоў ды ўзяўся чытаць: «Exorcizamus te, omnis immundus spiritus, omnis

satanica potestas». І ўявіце, рыба зноўку ператварылася ў дзіцёнка. Але з таго дня ён нямы і халодны, як рыба. Яму і імя адпаведнае далі — Карпа.

Генрых зірнуў на карузліка.

— Праўда ж, абжорства — грэх? — кінуў ён Карпе акраец. Той тут жа засунуў цалкам хлеб у рот ды пачаў прагна жаваць.

— Прабачце, але ж гэта глупства! — Ян перавёў неўразумелы погляд з Карпы на чарку ля носа. Секунду ён змагаўся з агідай, але ўсё ж падняў і залпам асушыў. — Дазвольце, але як жа… — Ян паморшчыўся і паспрабаваў штосьці яшчэ запярэчыць, але Генрых яго перапыніў.

— Закусіце, вашамосць! — паднёс ён лыжку чорнай ікры.

— Зараз жа не сярэднявечча, а асвечанае дзевятнаццатае стагоддзе! Як вы можаце верыць у гэткую лухту!

— Гэта, літасцівы пане, у вас у пецярбургах дзевятнаццатае стагоддзе! У нас жа час прыпыніўся!

Паслухмяна праглынуўшы ікру, Ян раптам узгадаў пра пана Твардоўскага. Учора вечарам ён некалькі разоў спрабаваў загаварыць з ім пра следства. Але яму ўвесь час затыкалі рот то курынай нагой, то ікрой, то гарэлкай, то слінявымі братэрскімі пацалункамі.

— Скажыце, пан Генрых, а што, Твардоўскі яшчэ тут?

— Паехалі яшчэ раніцою. Сёння ў нас ужо не з’явяцца, — аканом наліў наступную чарку.

— Ужо паехаў. Шкада! — Ян адчуў, як прыемная хваля ад выпітай наліўкі прабегла па целе. — Вы ўчора казалі, што бацьку адвёз да старой капліцы фурман Марка. Я хачу з ім паразмаўляць! Запрасіце яго!

— Немагчыма, вашамосць, — раўнадушна адказаў Генрых. — Я адправіў Марку да старога Ёселя па правіянт. Самі разумееце, у маёнтку госці.

— Тады загадайце запрагаць экіпаж, — Ян спусціў ногі з ложка. — Я хачу паехаць да Адама.

— Немагчыма, вашамосць, — яшчэ апатычней вымавіў Генрых.

— Як? Ізноў немагчыма?!

— Выпіце, вашамосць! Адна чарка не лечыць, — аканом зноў працягнуў маленькі элеганцкі паднос.

— Як так, да д'ябла, немагчыма? — пачаў злавацца Ян.

— Ніхто з тутэйшых людзей пад страхам смерці не паедзе да Адама. Калі вашамосць збіраецца яго наведаць, мусіце выпраўляцца самі.

У гэты момант рыпнулі дзверы, і на парозе паказаўся кот Варгін. Павольна, ледзь дакранаючыся да падлогі шыкоўным сібірскім футрам, ён прайшоўся па пакоі, сеў каля ложка ды ўпіўся зялёнымі вачыма ў Карпу.

— Разумееце, вашамосць, — працягнуў Генрых, — Ваш бацюхна і ягоны брат Адам, мякка кажучы, не сябравалі апошнімі гадамі. Таму людзі Станіслава не смеюць пераступаць межы Адамавых уладанняў. Калі вы ўсё ж маеце намер паехаць, я загадаю сядлаць каня. Але мая вам парада — не варта ехаць да Адама.

Штосьці абдумваючы, Ян крыху памарудзіў, потым падняў чарку і выпіў. Закусіўшы, ён кінуў кавалачак вяндліны Варгіну. Той абнюхаў яе, але не дакрануўся, аблізнуўся ды зноўку ўтаропіўся на Карпу.

— Пан Генрых, загадайце сядлаць! Паеду. Зараз жа выпраўляюся!

— Як пажадаеце, вашамосць. Я распарадзіўся прынесці вам іншы касцюм. Не па чыне нашчадку славутага роду хадзіць у гэткіх лахманах.

Узняўшыся з ложка, Ян агледзеў прыгатаванае для яго ўбранне. Строй быў дарагі, элеганцкі, дыхтоўны, але выглядаў занадта старамодным.

— Ды такія касцюмы гадоў сто таму насілі. Мяркуючы па ўсім, час у вас сапраўды спыніўся, — пасміхнуўся Ян.

— Гэты камзол апранаў ваш бацюхна, калі быў малады. Карпа, падай вады! — клікнуў слугу аканом.

Неўзабаве, скончыўшы з умываннем, Ян апрануў бацькоўскі камзол і з цікаўнасцю агледзеў сябе ў люстэрку.

— Вашамосць, усё ж не варта вам ехаць да Адама, — працадзіў за спінаю Генрых. — Але, калі гэткая ваша воля, не смею пярэчыць. Хацеў бы толькі перасцерагчы аб адным. Вы мусіце вярнуцца да надыходу цемры.

Ян здрыгануўся.

— Што ж будзе, калі я не паспею?

— Вы доўга адсутнічалі ў нашых краях. Тут шмат што змянілася. З надыходам цемры з'яўляцца аднаму ў нашых мясцінах небяспечна.

## 20

Дарогу да Чуйвідаў Ян добра памятаў з дзяцінства. Ён не раз выбіраўся да Адама разам з маці. Бацька ніколі з імі не ездзіў. Яны ўжо ў былыя часы адзін аднаго не цярпелі. Але тое, што нелюбоў Адама распаўсюдзілася і на камаедаўскую чэлядзь, так што тыя не маглі перакрочыць межы яго ўладанняў, было для Яна навіною.

Ян з лёгкім смуткам пазнаваў знаёмыя з маленства пейзажы. За апошнія гады яны зусім не змяніліся. Месцы тут заўсёды былі бязлюдныя. Вёскі амаль не сустракаліся. У асноўным трапляліся хутары, дый тыя стаялі пустыя.

Надвор'е тым часам пачало псавацца. З раніцы неба хмурылася, а цяпер напоўніцу набрыняла свінцом і пагражала разрадзіцца дажджом. Прамінуўшы руіны касцёла Святой Дзевы Марыі, спаленага яшчэ ў трыццаць першым, Ян уехаў у лес. Неўзабаве паказаўся прасёлак з развілкам.

Нечакана ўдалечыні, ля дарогі, што вяла да Адамавага маёнтка, ён заўважыў жанчыну. У зрэбнай сукні да пят, яна стаяла на ўскрайку і гучна галасіла. Але як толькі Ян наблізіўся, кабета замоўкла і з нейкай вар'яцкай усмешкай паглядзела на яго.

— Ты чаго плачаш? — спытаў Ян, прытрымаўшы каня.

— Не чаго! А па кім! — танюткім галаском пралепятала плачка. — Я пла-а-а-чу па та-а-бе! Па та-а-бе! — нібы механічная лялька, выразна прагаворваючы склады, праскуголіла яна.

Тут твар плачкі спахмурнеў, усмешка знікла, і, па-ранейшаму падзяляючы склады, яна зацягнула:

— Я-ця-бе-ведаю! Як-жа-не-ведаць! Я-ня-вес-та! Твая-ня-вес-та! Я-шы-бе-ні-ца! Шы-бе-ні-ца!

Знянацку ейныя вочы наліліся шаленствам, ды з крыкам: «Я — шыбеніца! Шыбеніца!!! Шыбеніца!!!» — бажавольная кінулася на яго з кулакамі.

Адмахнуўшыся бізуном, Ян прышпорыў каня ды паскакаў.

— Уцякай адсюль! Уцякай! Уцяка-а-а-й! — неслася яму наўздагон.

Неўзабаве рэха ад крыкаў заціхла. Гэтая сустрэча непрыемна ўзрушыла Яна. Розумам ён усведамляў: не варта прымаць крыкі блазнаватай усур'ёз, але ўсё ж нейкі непакой застаўся. Праз паўгадзіны ён наблізіўся да земляў Адама. Праскакаўшы з паўвярсты па вялікім пустэльным полі, Ян раптоўна спыніўся: далёка наперадзе цягнулася чарада чорных крыжоў. Адзін за адным стаялі яны ўздоўж усёй мяжы ўладанняў Адама.

Ян пад'ехаў бліжэй, дзівячыся, агледзеў велізарныя — у тры чалавечыя росты — крыжы-абярогі і рушыў далей. Заімжэла, але да Чуйвідаў было ўжо недалёка. На подступах да маёнтка Ян заўважыў другі ланцуг крыжоў, якія

з усіх бакоў абступалі сядзібу. Сама ж яна нагадвала крэпасць. Дом атачала высокая драўляная сцяна, якой раней не было, з невялікімі байніцамі.

Наблізіўшыся да масіўнай, наглуха зачыненай брамы, Ян спешыўся ды пагрукаў. З таго боку пачуўся брэх. Ян пастукаў яшчэ раз. Неўзабаве маленькае акенца ў браме адчынілася, і нейкі чалавек з вароніным носам на сухаватым жылістым твары панура працадзіў:

— Мы нікога не чакаем! Ідзіце адсюль!

Акенца тут жа зачынілася. Крыху разгубіўшыся ад такога прыёму, Ян на імгненне замёр у роздуме і пастукаў яшчэ, цяпер мацней. Акенца зноўку адкрылася, і той жа чалавек груба гаркнуў:

— Я ж вам сказаў, выбірайцеся адсюль! Гаспадар нікога не прымае!

Вастраносы зноўку хацеў быў знікнуць, але Ян паспеў пракрычаць:

— Пачакай! Я — пляменнік Адама! Ян Завальня!

— Пляменнік пана Адама ў Пецярбургу! — данеслася з акенца. — А што вы за гусак, нам невядома! Так што ішлі б вы, паніч, сваёй дарогай, пакуль сабак не спусцілі.

— Паслухай, ты, чорт вастраносы! — зазлаваўся Ян. — Ідзі ды скажы пану Адаму, што прыехаў Ян Завальня!

Востры нос у акенцы знік. Замест яго паказаліся два карыя пад густымі чорнымі бровамі вокі, якія сувора зыркнулі на Яна, і акенца зачынілася зноў.

Праз колькі хвілін рыпнула брамка.

— Хадземце! — строга прамовіў сухарлявы. — Пан Адам хоча зірнуць, што за родзіч да нас наведаўся. Але папярэджваю, калі вы з Нешчардскага лесу, сабакі ў нас лютыя. Любога ваўчару парвуць!

Не паспеў Ян ступіць і некалькіх крокаў, як з ганка данеслася:

— О Езу! Вачам не веру! Янку! Божухна! Вось жа неспадзяванка! Цяпер разумею, чаму мне сёння ў сне чорная кабыла прыходзіла! Усё гадаў, да чаго б гэта!

Праз імгненне Адам, чалавек вялікі ва ўсіх сэнсах, з гэткімі ж вялікімі вусамі і чупрынаю, апрануты ў старасвецкі сармацкі касцюм, радасна абдымаў Яна.

— А памужнеў жа як, памужнеў! — прыгаворваў Адам, паляпваючы пляменніка па спіне. — А ў гэтым камзоле ну проста выліты бацька, заспакой, Пане, — ён асяніў сябе крыжам, — яго шалапутную душу!

— А я, дзядзьку, ужо было вырашыў, — прызнаўся Ян, — што ўсе тут у вас з глузду паз'язджалі. Спачатку нейкая баба па дарозе з кулакамі на мяне кінулася, потым чалавек ваш сабакамі пагражаў.

— Баба? А-а-а... — Адам махнуў рукою. — То боская душа. У нас яе Плачкаю завуць. Бажавольная! Прароцтвы прамаўляе ды на магілах па мерцвяках вые! А па ўсіх войнах, любенькі мой, тут столькі магіл засталося, што, куды ні сунься, паўсюль яна! Ха-ха-ха!

— Добрыя прароцтвы! Шыбенікам мяне абазвала.

— Во балаболка! Не бяры, Янку, да галавы! У нас тут усе — шыбенікі! — зноўку зарагатаў Адам. — Ах, Янку, вось радасць! Пані Мальгрэта! Пані Мальгрэта!

На ганку з'явілася высокая, хударлявая, са строгім пурытанскім поглядам пані Мальгрэта — пляменніца жонкі Адама - нябожчыцы.

— Мальгрэтушка, ты толькі глянь, які госць да нас наведаўся! А?.. Не пазнаць! А ты, пане дабрадзею, абдымі сваю кузіну! Бачыш, якая красуня вырасла! Шкада толькі, у дзеўках засядзелася. Усіх прыстойных жаніхоў шыбеніцы паразбіралі!

Мальгрэта злёгку пачырванела і, тройчы пацалаваўшы Яна, паказала жэстам на дом, запрашаючы ўвайсці.

— Праходзь, любенькі, у дом! Вып’ем па чарачцы! Мальгрэтушка, вазьмі добрай гарэлкі, журавін і мёду ды прыгатуй нам палёнкі, як толькі ты ўмееш, — Адам падміргнуў пляменніку. — Усе тут ужо на той рэцэпт забыліся! Толькі Мальгрэтушка памятае!

Усё ў доме засталося без змен — такім самым, памятаў Ян, як і гадоў дзесяць таму. Пан Адам новых часоў не прызнаваў і мяняцца пад іх не хацеў. Таму і адзенне заўсёды насіў старое, сармацкае, традыцыйнае. Ён увогуле быў падобны на ажылую парсуну часоў росквіту Рэчы Паспалітай. Гаспадарства, побыт, лад жыцця — усё вялося ў яго па-даўнейшаму. Нават людзі, якіх Ян запрымеціў у двары, выглядалі як шляхецкая харугва з часоў Патопу. Адзінае, чаго тут раней не было, — гэта крыжоў ды сцяны вакол дома.

Калі яны селі ля каміна, Ян не вытрымаў і спытаў:

— Вы што, дзядзьку, з нячыстаю сілай ваяваць сабраліся? Дом у крэпасць ператварылі, крыжамі-абярэгамі абгарадзіліся.

— Эх, Янку! Даўно ты ў нашых краях не бываў, — распальваючы люльку, сумна прамовіў Адам. — Цяпер толькі вера нас і ратуе. А крыжы… гэта так, ад дробнага чорта, — ён устаў, павольна падышоў да акна, у задуменнасці крыху пастаяў і працягнуў: — Дурныя галовы! Разадралі зямельку нашу разнёю брата з братам! Кожны толькі пра сваю шкуру пёкся! А маскаль з прусаком тут як тут, за нашыя ж грахі голымі рукамі забралі.

Адам памаўчаў, а затым са злосцю ў голасе прагаварыў:

— Толькі мяне ім не ўзяць! Хадзі сюды, Янку! Бачыш? Ці бачыш крыжы? А за імі яшчэ крыжы! Тут, за крыжамі, мая зямля! Няма тут Імперыі! Тут мая Рэч Паспалітая яшчэ жывая! І будзе жыць, пакуль я жывы!

— А далей што?

— А далей, — Адам паглядзеў Яну ў вочы, — далей усё ад цябе, Янку, залежыць, Цяпер адзін ты ўсё вырашыш!

Ян успомніў пра ліст. Апошнія словы Адама былі фразай з таго ліста.

— Дзядзьку, што значаць гэтыя словы ў лісце? Што я мушу тут вырашыць? І чаму вы не напісалі, што бацьку забілі?

— Што за ліст? — здзівіўся Адам.

— Ну як жа! Той, які вы адправілі мне ў Пецярбург!

— Ліст у Пецярбург? О Езу! Ніякага ліста я табе ў Пецярбург не адпраўляў!

Ян з неўразуменнем паглядзеў на Адама.

— Дык хто ж мне тады яго адправіў?

— Вох, не на дабро гэта, Янку! — занепакоіўся Адам. — Чуе маё сэрца, уцягваюць яны цябе ў нейкую смуту!

— Хто — яны?

— Уся гэтая хеўра паганская, што ў Камаедах засела! Шляхта бязбожная! Гэткія, як яны, сваім шалапуцтвам краіну і згубілі! — усё болей распальваўся Адам. — Калі трэба было, нічога пастанавіць не маглі. Дурныя галовы! У п'янстве ды бязглуздай фанабэрыі суцяшэння шукалі!

— Дык бацька і сам гэткі быў...

— Вось Госпад ягоную шалапутную галаву і забраў!

Крыху супакоіўшыся, Адам паклаў руку Яну на плячо:

— Не крыўдуй! Я не таму так кажу, што варагавалі мы са Станіславам. Сам ведаеш, як твой бацька з нячыстай звязаўся, даруй, Пане, яго грэшнай душы, — Адам перажагнаўся, — дык на мяне як чорт на пасвяцоную ваду глядзеў! Толькі нявbooarta было табе зараз прыязджаць! Станіслава і без цябе пахавалі б! Усё адно яму месца — за агароджаю касцёла!

У пакой увайшла Мальгрэта з пачастункамі на падносе. Адам змоўк і, вярнуўшыся да каміна, разліў па чарках наліўку.

— Што ж тут такое сталася? Каму спатрэбілася ягоная галава? — Ян прыняў палёнку.

— Не ведаю, каму спатрэбілася Станіслава галава. Толькі здаецца мне, прычына смерці ягонай неяк з золатам Казіміра звязаная. За паўгода да смерці Станіслаў раптам разбагацеў. Неверагодна разбагацеў. Гэтак разбагацеў, быццам золата продка твайго, разбойніка Казіміра Завальні, знайшоў.

— Гэта той, што з Ілжэдзмітрыем на Маскву хадзіў?

— Ён, даруй, Пане, яго бязбожнай душы! Ён тады ў мінскага ваяводы Паца палкоўнікам служыў. Малады, але зацяты быў, літасці ні да кога не меў. А харугва ягоная ліхая — усё разбойнікі, кляйма ставіць няма дзе. Ён тады з маскоўскае смуты вярнуўся — куфры золата прывёз. А потым, калі закалоты ў нас пачаліся, перад смерцю золата тое закапаў, каб ворагу не дасталося.

Адам падкінуў паленняў у агонь.

— Шмат хто тое золата шукаў, але так і не знайшлі. Толькі я гэта ўсё вось да чаго. Падобнаю жахлівай смерцю памёр твой прадзед — Геранім Завальня. Ён улез у вялікія даўгі ды вырашыў раскапаць адно з тых месцаў, дзе з'яўляецца Плачка.

— Гэтая бажавольная? — перапытаў Ян.

— Не тая! Іншая! Апошнія трыста гадоў плачкі тут ніколі не пераводзіліся. А паданне гаворыць: выюць яны звычайна на тым месцы, дзе ваяр забіты ляжыць. Але не заўсёды. Кажуць, могуць яны з'яўляцца і там, дзе золата схаванае, калі крыві на тым золаце многа! Але ніхто тых месцаў не капае, бо невядома, што там: золата альбо прах. А паводле павер'я, хто патурбуе прах ваяра — сам памрэ. Аднак жа Геранім вырашыў рызыкнуць. Адчайны ён быў, азартны і да грошаў сквапны. А яшчэ пыха мучыла яго, вох, якая пыха!

Адам зноўку напоўніў абедзве чаркі:

— Неяк пазбіраў ён сваіх людзей ды загадаў ісці на Пачаноўскую гару на тое месца, дзе часцяком бачылі Плачку, і там капаць.

— Але як жа ён даведаўся, што акурат там золата? — перабіў яго Ян.

— Казалі, нешта ў паперах знайшоў, быццам якраз там Казімір свой скарб закапаў. А ўсе ведаюць — месца там гіблае. Яго нават птушкі аблятаюць. Дык вось. Людзі Гераніма капалі ўвесь дзень ды ўсю ноч. А на золку натыкнуліся на склеп. Спачатку ніхто заходзіць у яго не рашаўся — баяліся, што прах там ляжыць. Але чорт у Геранімe настаяў. Ён загадаў сваім людзям склеп адчыніць.

Адам зрабіў яшчэ глыток.

— А далей што? — нецярпліва запытаў Ян.

— А далей... Назаўтра іх усіх знайшлі мёртвымі. А склеп быў пусты. Надмагілле ссунута, а пад ім — нікога. Толькі надпіс на каменнай пліце: «QUOD ES, ANTE FUI» — «Я быў тым, кім ты ёсць».

Адам кінуў у агонь яшчэ пару паленаў.

— Цела ж Гераніма знайшлі ў лесе за паўвярсты ад склепа. Адзежа падраная, рукі пабітыя, відаць, уцячы спрабаваў. Але галоўнае — галавы пры ім не было. Колькі яе ні шукалі, так і не знайшлі. Без галавы пахавалі.

Скончыўшы свой расповед, Адам падышоў да камоды, дастаў драўляны куфэрак і пільна паглядзеў на Яна:

— Магчыма, паміж золатам Казіміра, галавою Гераніма ды смерцю Станіслава сувязі і няма. Але вось што дзіўна! Ану зірні на гэта!

Адчыніўшы куфэрак, Адам перакуліў яго на стол. Адтуль выскачыла манета і, пракаціўшыся па стале, лягла перад Янам.

— Вось ён, талер Казіміра! — прамовіў Адам. — Бачыш гэтую змейку ў кароне? Не было ў гэтых мясцінах роўных

Казіміру сілай, багаццем ды ўладай. Адчуваў ён сябе тут маленькім Імператарам, так што нават пачаў свой талер адліваць з царкоўнага золата, што ў Масковіі нарабаваў. А праз пыху ды каб з караля насмяяцца ён на гэтую манету змейку паставіў.

Адам узяў манету ў руку:

— Гэткія талеры нядаўна ў нас зноўку з'явіліся. І, што цікава, адразу пасля таго, як на Станіслава багацце звалілася. Ёсць два чалавекі, — сказаў Адам пасля невялікага роздуму, — якія дапамогуць табе да прычыны смерці Станіслава дакапацца. Адзін з іх — Марка. Апошнімі гадамі ён знаходзіўся пры тваім бацьку неадлучна: і за фурмана, і за ахоўніка. Марка пра Станіслава шмат чаго распавесці можа.

— Распавесці? Ды з яго слова абцугамі не выцягнуць! А хто другі?

— Марыся, нявеста Станіслава, дачка сляпога Францішка.

— Я сустрэў яе ўчора ў Камаедах.

— Яны з Францішкам пераехалі ў Скірмонты нядаўна. А да таго жылі недзе ў Інфлянтах, пад Рыгаю. Год таму Станіслаў спаткаў Марысю і бязбожна закахаўся. За гэта каханне гатовы быў тройчы душу д'яблу прадаць. Не ведаю, Янку, як і чым ён яе ўгаварыў, толькі тры месяцы таму яны з Марысяю заручыліся.

— Марыся ў Скірмонтах? Дык ад Чуйвідаў гэта ж рукой падаць. Я сёння ж да яе паеду! — узняўся Ян з крэсла.

— Ты што? Ты што, любенькі! Ноч набліжаецца! З надыходам цемры ў нас толькі дурань нос з хаты пакажа! Мальгрэта табе ўжо паслала. Пераначуеш, а ўранку паедзеш!

— Завідна паспею дабрацца! А пераначаваць можна і ў Скірмонтах! — настойваў Ян.

Як ні стараўся Адам яго пераканаць, Ян быў непахісны. Была, праўда, яшчэ адна прычына выправіцца ў Скірмонты неадкладна, у якой ён баяўся сабе прызнацца.

Яму вельмі хацелася зноўку ўбачыць Марысю. Учора ён спачатку не надаў значэння іх кароткай сустрэчы, але потым узгадваў Марысю ўвесь вечар. Нарэшце Адам саступіў. Растлумачыўшы, як лепей праехаць у Скірмонты, ён вышаў правесць пляменніка на ганак.

— Будзь асцярожны! Да мяжы крыжоў ты ў бяспецы, а далей пільнуйся! О Езу! Дзева Марыя! Не пакінь яго, грэшнага, у дарозе! — Адам асяніў яго крыжам.

— Бывайце, дзядзьку! — Ян прышпорыў каня і вылецеў са двара.

## 21

— *Злая пуля, дай мне волю! Чтобы в сердце и чтоб без боли!* — хрыпеў з дынамікаў Шнур.

— Злая пууля!!! Дай мне вооолю!!! Прямо в сердце и чтоб без бооли! — размахваючы ў такт рукамі, падвываў я.

Мы пілі з Канаваленкам ужо трэці дзень. Пілі ў мяне дома. Бязвылазна. Не выходзячы ў горад. Толькі зрэдку хтосьці з гасцей выпраўляўся па правіянт да старога Ёселя, у гастраном праз дарогу. Шнур хрыпеў усе альбомы па коле адзін за адным, раніцай, днём, вечарам, ноччу. Хоць парадак часу значэння не меў. Раніца блыталася з вечарам, вечар з ноччу. Цямнела рана, таму па шэрай імгле за вакном распазнаваўся толькі кароткі лістападаўскі дзень.

Госці змяняліся. Нехта прыязджаў з каньяком, выпіваў пад «*Нас, наркоманов, никто не любит!*» ды знікаў. Хтосьці затрымліваўся на суткі і засынаў за круглым сталом альбо на вялікай канапе ў гасцёўні. Сталымі ўдзельнікамі круглnetwork сутачнага кругластолля заставаліся толькі я, Канаваленка, Люба — загадчыца «Шклатары» ды Сцёпін — выдавец кніжак для гета. Праўда, пад канец другіх сутак Сцёпін не вытрымаў, сказаў, што яго замучылі званкамі графаманы,

выклікаў таксоўку ды ўкаціў. Але яго тут жа замяніла Іра, былая нявеста Канаваленкі, якая па-ранейшаму кахала яго і прыязджала па першым жа закліку, наіўна спадзеючыся: а што, калі раптам усё наладзіцца.

— *Бабы — это как конфеты, разверните-ка вот эту! Бабы есть везде, повсюду, я вот эту бабу буду!* — гучна бабубыбубніў Шнур.

Чаканне сустрэчы з Машай узрушвала і хмяліла. Я адчуваў, што яна згодная на большае, раз дала пацалаваць сябе ля пад'езда ў той вечар, калі я адвёз яе са «Шклатары» дамоў. Я не шкадаваў гэтых запойных дзён. Хацелася, каб яны хутчэй праляцелі, хацелася заснуць, а прачнуцца ў панядзелак. П'яны чад скарачаў чаканне, рабіўся адным доўгім днём, які павольна хіліўся да заходу.

Канаваленка ўжо ўсё ведаў пра Машу з маіх натхнёных распаведаў і, пасмейваючыся, скептычна заяўляў, што калі захоча, то можа спакусіць яе на другім жа спатканні. Я згадваў, як Маша дзіўна рэагавала на яго, злаваўся і казаў, што яна не такая.

— Не такая? Якая не такая? Ха-ха-ха! — кпіў Канаваленка з майго раздражнення. — Навошта ёй стары і бедны? — здзекаваўся ён. — Ёй патрэбны малады і багаты!

Маладым і багатым, вядома, быў ён.

— Хочаш, я зараз патэлефаную, і яна прыедзе? — выпрабоўваў ён маё цярпенне.

— Сюды? Ты што, ашалеў? — я з жахам уяўляў, як ператваруся ў нішто, як толькі яна ўбачыць трохдзённае маё падзенне.

— Навошта сюды? Я магу прызначыць спатканне ў «Шклатары».

— Яна не прыездзе! — з поўнай упэўненасцю адказваў я.

— Калі патэлефаную я, то прыедзе! — фанабэрыўся Канаваленка.

Мяне заўсёды захапляла яго самаўпэўненасць, якая вырастала да абсалютнай, калі ён напіваўся. Але дзяўчынам Канаваленка ў такім стане падабаўся. Як тлумачыла мне адна партызанская сястра, было тады ў яго ў вачах нешта такое жывёльнае, кабялінае, што знаходзіла водгук у жанчын. Праўда, тое самае яна бачыла і ў маіх вачах, ды дадавала, што кабяліныя вочы — рэдкі ў нашым горадзе від. Кожная жанчына, маўляў, беспамылкова яго пазнае. Можа, не кожная адкажа, але нешта прыроднае ўсярэдзіне ўсё адно ёкне.

— Звані! — нарэшце не вытрымаў я.

Я быў упэўнены, што Маша адмовіць, але лёгкі сумнеў ўсё ж заставаўся. Яна падняла трубку адразу. Ялейным галаском Канаваленка пачаў уціраць, што Маша вельмі яму падабаецца, што яму сёння самотна і ён хоча яе ўбачыць. Я зразумеў, што Маша стараецца далікатна адмовіць.

— Ну, што я табе казаў! — пераможна выдыхнуў я, не паспеў Канаваленка пакласці трубку. — Цяпер бачыш? Яна — анёл!

— Анёл? Анёлкі тры чаркі запар без закусі не п’юць! — агрызнуўся Канаваленка. — Мне больш часу трэба. Паспрачаемся, праз тыдзень яна будзе маёю? Ты ўвогуле не ўмееш баб раскручваць! Колькі ты ўжо з Веранікай валэндаешся? Паўгода?

Тут ён меў рацыю. З Веранікай у мяне быў тупік. Яна працавала на «Партызанфільме», за адною з незлічоных дзвярэй. Кволая, тонкая, бязгрудая, самотная — усё, як я любіў. Але неяк ў нас з Веранікай не клеілася. Раз на тыдзень мы сустракаліся, гулялі па парку, часам пілі каньяк, але далей не ішло. Пэўна, я быў занадта сур’ёзным і ў ейных вачах на *плахова парня* не цягнуў. А дзеўкі ж любяць *плахіх парней*.

— Я такі прамоўшэн табе зрабіў! — надрываўся Канаваленка пад «*А я с баяном, а это шо?*». — Калі вы пазнаёмі-

лісся, цэлы вечар пра цябе распавядаў. Расхвальваў! Казаў: геній! *В натуре* геній! Німб табе на галаву начапіў. І што? Вынік дзе?

Выніку сапраўды не было. Мабыць, німб якраз усё і псаваў. Дзяўчат у мяне хапала — старыя баявыя сяброўкі, новыя партызанскія сёстры. Але гэта быў толькі секс, а хацелася большага. З Веранікаю большага не складвалася, можа таму, што яна адчувала мой сумнеў. А калі хочаш, каб склалася, нельга сумнявацца, трэба, каб засталося адно захапленне, як зараз з Машай. Захапленне сцірае ўсе хібы: ты калі і заўважаеш тры чаркі, то гэта выклікае яшчэ большае захапленне.

— У цябе ж нават эратычныя сцэны не атрымоўваюцца! Іх увогуле ў сцэнары няма! — працягваў знішчаць мяне Канаваленка. — Ну і што, што трылер? Якая, на хуй, розніца, што адводзяць ад асноўнай лініі! Ну і хрэн з німі, што ўстаўныя! Гледачу гэта падабаецца! Ён любіць секс, еблю, драйв на экране! Мне Лунгін заўсёды казаў, у кіно толькі дзве эмоцыі, чуеш, дзве: каханне ды нянавісць! Нянавісць ды каханне! А гэтаму старому жыдоўскаму перцу, Абрамыч, — падколваў мяне Канаваленка, — можна верыць! Астатняе ўсё — хрэнь, паўцені! Дай мне ў сцэнары дзве эмоцыі гэтыя! Нянавісць каб і любоў!

Кіно паўтонаў Канаваленка не любіў. Рэжысёры кшталту Таркоўскага яго не цікавілі. Фільмы з тонкай прапрацоўкай дэталяў, з доўгімі планамі, калі ў іх не было сюжэтнага драйву, ён выключаў на пятнаццатай хвіліне прагляду. Часам такое кіно настолькі раздражняла яго, што ён мог падхапіцца і шпурнуць дыск у акно, кінуўшы наўздагон усім вядомую фразу. Хоць нашыя густы часта не супадалі, што да эмоцыі, я яго разумеў. Ягонае кіно было не такім.

Канаваленка стаў знакамітым, зняўшы фільм пра партызан. Раней хто толькі не здымаў пра партызан, вядома,

гэта ж была асноўная тэма на «Партызанфільме». А кіно Канаваленкі нечакана атрымалася іншым: яно было і не бравае, і не прасцяцкае, і не грубае, і не вытанчанае. Яно ўхапіла эмоцыю: не было ў гэтым фільме ні благіх, ні добрых, ні партызанаў, ні немцаў, ні паліцаяў. Дакладней, усе яны былі, але толькі як людзі, што выпадкова патрапілі ў лабірынты вайны. Аднак выпадковасць — заўсёды наканаванне, тым больш на вайне. Героі фільма кружылі па гэтым страшным лабірынце, і глядач раптам разумеў, што ўсе яны — і добрыя, і благія, і немцы, і партызаны, і паліцаі — няшчасныя. Усе заблукалі ў трагедыі, якая сама прызначыла іх сваімі героямі.

У канцы трагедыі герой непазбежна мусіць загінуць. У гэтым фільме героя не было. Дакладней, усе яны былі героямі, таму смерць напаткала ўсіх. У фінале выжыў толькі хлопчык, перад якім лабірынт нечакана адкрыўся. Але не дзеля таго, каб ўратаваць, выпусціць яго на волю. Проста гэта была не ягоная гісторыя. Ён павінен быў выйсці, каб патрапіць у свой лабірынт.

Канаваленку ўдалося. У канцы фільма ў гледача здарыўся катарсіс. Катарсіс здарыўся і з ветэранамі, якія абвінавацілі рэжысёра ў скажэнні гісторыі. У фільме ж пра партызан нашы мусяць быць героямі, а немцы — благімі. А каб героямі — усе і ўсе — няшчасныя... Гэта быў выклік. Таму ідэалагічны аддзел Канцылярыі фільм забараніў. Праўда, вялікага скандалу не выйшла. Калі б Канаваленка здымаў на грошы Мінкульта, то не адна галава паляцела б. А ён здымаў за свае. Штосьці сабралі сябры, нейкі гранцік даслала Еўропа. Многія працавалі задарма ці за сціплыя ганарары.

Затое фільм заўважылі фестывалі. Канаваленку пачалі вазіць па Еўропе. Злётаў ён на Тайвань. І ўпершыню за апошнія дваццаць гадоў здарылася неверагоднае — беларускі фільм запрасілі на Маскоўскі кінафестываль у асноўную

праграму. І нават далі зразумець, што ёсць шанец узяць адзін з галоўных прызоў. Праўда, была адна ўмова. Фестываль патрабаваў стужку. А каб перавесці фільм з лічбы на стужку, трэба было недзе раздабыць дзесяць тысяч зялёных.

Разлічваць на Мінкульт апальны Канаваленка, вядома, не мог. Узяць грошы ў алігархаў таксама было нерэальна. Усе яны ўжо даўно сядзелі пад канцылярскімі. І страсаць даніну на культуру мелі права толькі тыя. Таму Канаваленка звярнуўся да падполля.

Там фільм ужо ведалі. Ды не проста ведалі, а назвалі яго рэвалюцыяй у беларускім кіно і ўзнялі бы той сцяг. У падполлі фільм любілі, распаўсюджвалі пірацкія копіі, вазілі на падарункі ў Еўропу ды падавалі гісторыю з забаронай як чарговае зверства канцылярскіх.

Але ў падполлі грошы вяліся толькі ў прафесійных рэвалюцыянераў, дый тое не заўсёды. Канаваленка звярнуўся да франтаўскіх, потым — да лапацінскіх, перагаварыў з гарадзенскімі. Усім ім кіно падабалася, Канаваленку хвалілі, але грошай ніхто не даў. Тады Канаваленка плюнуў на ўсё, паехаў у Маскву і знайшоў бабкі там. На фестывалі фільм, праўда, прызоў не ўзяў. Але яго заўважылі, і Павал Лунгін запрасіў Канаваленку з ім папрацаваць. У Беларусі яму ўжо няма чаго было рабіць. Зняць штосьці новае ўсё адно не далі б, а Масква адкрывала мажлівасці, пра якія ён тут нават і не марыў.

На студыі Лунгіна Канаваленка зрабіў рэмэйк на фільм «Пройгрыш», потым пайшоў на мыльныя оперы, зняў некалькі частак папулярнага серыяла «Кранты», быў рэжысёрам на бандыцкіх серыялах «Шалман на Астожанцы», «Мусары не плачуць», «Маньяк з Крывога Рога».

Хоць здымаць серыялы Канаваленку не надта падабалася, але бабкі ён заграбаў салідныя. У Мінск прыязджаў *барынам*, Сяргей Сяргеічам Паратавым у белым паліто і бе-

лым капелюшы. Што хочаш мог сабе дазволіць: і ікру, і каньяк, і катанне з цыганамі на баржы па Свіслачы. І ўсё ішло *прыўкрасна*, як тут у Беларусі пачалося нейкае незразумелае браджэнне. Пэўна, у бочцы, што занадта доўга стаяла закаркаванай, завялася дзіўная цвіль. Канаваленка спачатку паставіўся да гэтага браджэння скептычна, увогуле ў яго не паверыў. А як заклікі вярнуцца на «Партызанфільм» зрабіліся больш настойлівымі, прызадумаўся.

Выявілася, што пасля ягонага фільма пра партызан нічога ўсе гэтыя гады ў беларускім кіно не адбывалася. Грошы выдаткоўваліся немалыя, але тое, што на іх здымалі, было нікому не патрэбнае. А так, каб патрэбна і цікава, не было каму зняць. Усе разбегліся: хто ў Кіеў, хто ў Маскву, а хто проста спіўся. Батурына ж адправілі ў пачэсную ссылку на «Партызанфільм» не проста так, а з місіяй. У нас у ссылку, хоць і ў пачэсную, нікога проста так — толькі б да пенсіі дасядзеў — не адпраўляюць. Перад Батурыным паставілі задачу — узняць «Партызанфільм» на новыя вышыні. З калгаса слабога, нерэнтабельнага зрабіць перадавую гаспадарку. Ды не проста перадавую. А каб такіх парсюкоў гадаваў, што не толькі б нашыя людзі елі, пальчыкі аблізвалі, але і на экспарт размяталі. Каб і Масква, і Каны, і Берлін трушчылі ды пакрыквалі: «Давай-давай! Яшчэ кныра давай!»

Батурын разумеў, што з дэбіламі калгас не ўзнімеш. Патрэбныя прафесіяналы: дасведчаныя заатэхнікі, аграномы, брыгадзіры, сцэнарысты, рэжысёры, аператары машыннага ўдою. Хоць раней ён Канаваленку недалюбліваў, але як чалавек разумны ўсведамляў: без яго ў гаспадарцы не абысціся. Канаваленка быў, праўда, у апале, але часы якраз змяніліся. Пачалася адліга, і ў ідэалагічным аддзеле Канцылярыі сядзелі ўжо іншыя людзі, якія таксама разумелі, што з дэбіламі хлябоў не вырасціш, наспеў час вяртаць выгнаных ды апальных.

Канаваленка думаў доўга, спачатку не пагаджаўся. Потым паставіў умову, што здымаць будзе не па разнарадцы, а што захоча. Ён спадзяваўся, што Батурын адмовіць, але той нечакана пагадзіўся. Тады Канаваленка сказаў, што хоча паставіць хорар пра мядзведзя-пярэваратня, зноўку са спадзевам на адмову. Але Батурын і на гэта даў дабро. Канаваленка заявіў, што на фільм яму патрэбныя тры мільёны даляраў, што каманду набярэ сваю і запросіць, сярод іншых, людзей з падполля кшталту мяне. Але Батурын і тут даў згоду.

Болей падставаў адмовіцца ў Канаваленкі не засталося. І пайшоў наш *барын* Сяргей Сяргеіч Паратаў у белым паліто і капелюшы брыгадзірам у адсталы калгас — чысціць партызанскія стайні, родную зямельку араць-акультурваць ды кныроў для Канскага фестывалю гадаваць.

— *Когда нет денег, нет любви! Какая сука эта се ля ви!*

— Дык вось, Агдамыч, давай, — разліваў Канаваленка па чарках, — захуяч мне ў сцэнары некалькі эратычных сцэн. Гледачу гэта спадабаецца!

— Дык яго ж ужо раздрукавалі і адправілі міністэрскім чытаць! А як жа экспертны?

— Не важна! Ім якраз гэтых сцэн лепей не чытаць! Ты пішы, уключым іх у рэжысёрскі сцэнар!

Канаваленка ведаў пра нашую размову з Хвастовым. Я расказаў яму адразу, як толькі, паслаўшы пару моцных слоўцаў наўздагон таксоўцы, што ад'ехала з начальнікам дэпартамента, вярнуўся ў «Еўропу». Настрой у Канаваленкі тут жа змяніўся. Была ўжо другая гадзіна ночы, афіцыянты пачыналі прыбіраць са сталоў посуд. Ён прапанаваў выпіць яшчэ па пяцьдзясят у «Тройцы», якая праз дарогу сваімі чырвонымі неонамі заклікала апусціцца на дно. Я адмовіўся. Сказаў, што на дно не пайду, а калі хочацца яму працягу, можам паехаць да мяне.

Прычыну пераживанняў Канаваленкі я разумеў. Ён чакаў, хваляваўся, асцерагаўся гэтага экспертнага савета. Што нас адкрыта валяць, было відавочна. Але яму надта быў патрэбны гэты новы праект як рэванш за папярэдні. Фільм пра мішку правалам не стаўся. Многія нават казалі, што гэта найлепшае кіно «Партызанфільма» за апошнія гады. Але фільм не апраўдаў усіх спадзеваў. Зашмат на яго паставілі, планку чаканняў узнялі высока, а як паглядзелі, засталося расчараванне.

А болей за ўсіх ад несправджаных спадзеваў пакутаваў сам Канаваленка. Для яго асабіста гэта быў правал. Ён хоць і фанабэрыўся, выгляду не паказваў, нават забраў з хімчысткі ладна ўжо падрапанае белае паліто ды капялюш і зноўку выдаваў сябе за Сяргей Сяргеіча Паратава, што вярнуўся са Сталінграда з катанняў на баржы з цыганамі па Волзе пад крупнакаліберны — *Этить его мать!* — мінамётны агонь. Але ж я ведаў дакладна, што п'е ён другі месяц запар не з радасці, а з тугі.

Канаваленка ж быў не толькі Паратавым, але і маленькім Імператарам, Напалеонам — эх! — Банапартам. Як не любіў ён паўтонаў, так не задавальнялі яго і паўперамогі. Ён хацеў атрымаць усё. Яму быў патрэбны поўны ды безумоўны трыумф! І я ж добра ведаў, што ён можа. Імператарскі трон пуставаў. Каму, як не яму, на яго ўзысці? Хто яшчэ ў беларускім кіно мог стаць лепшым прэтэндэнтам? Для гэтага Канаваленка меў усё: і талент, і пачуццё, і волю, і хватку, і незвычайны азарт да працы. А калі атачыць сябе вернымі Мюратамі, Нэямі, Панятоўскімі ды Лефеўрамі, то можна было б і маленькую Імперыю стварыць. Хай сабе не такую вялізную, як у Мікіты Сяргеевіча ў Маскве, але затое сваю.

Але зараз Канаваленка з азартам піў, а я ведаў, наколькі неабходны яму гэты фільм. Гэта будуць ягоныя Каны ды ягоны Аўстэрліц.

— *Злая пуля, дай мне волю! Прямо в сердце, чтоб без боли!*

Зазваніў мабільны.

— Мне сёння трэба ў «Карону» — пачуўся голас Паліны.

Раз на тыдзень я адвозіў яе туды на закупы. Асаблівага сэнсу ў гэтым не было. Кошты там такія самыя, як паўсюль. Але «Карона» лічылася месцам пантовым, куды на дарагіх машынах прыязджаў затаварвацца новы багаты клас. Каб я ездзіў на больш сціплай машыне, магчыма, Паліна аддавала б перавагу супермаркету, што бліжэй да дому. Але пасля таго, як я набыў «Вольва ХС», яна ўпадабала менавіта «Карону».

— Сёння ніяк не атрымаецца. Я не магу сесці за руль! — адказаў я як мага больш цвярозым голасам.

— Як? Вы яшчэ там не скончылі? — яе голас зрабіўся патрабавальным. — Ты ведаеш, што співаешся? Запоі — гэта першая прыкмета алкагалізму. Ты ніколі столькі не піў. Ведаеш, са сваім кіно ты апускаешся на дно! Хутка ты ператворышся ў поўную нікчэмнасць.

Паліна ведала, што мы з Канаваленкам п’ём. Яна прыязджала да мяне на другі дзень. Пасядзела пару гадзін, парагатала з Канаваленкам, абмеркавала з ім Машу, весела заявіўшы, што ў той відавочная анарэксія, выпіла тры келішкі каньяку ды пакаціла.

— Давай заўтра ў «Карону», — прыпыніў я ейную тыраду, якая пагражала перарасці ў паўнавартасную лекцыю пра шкоду запояў.

— Як заўтра? Ты што? Ты ж ведаеш, што ў нас пусты халадзільнік! Тваёй дачцэ няма чаго есці! Вось які ты бацька! Божа, якая я шчаслівая, што мы развяліся! Ты заўсёды думаў толькі пра сябе!

— Паліна! Калі ласка, схадзі ў гастраном праз дарогу! Купі там хоць чаго, каб да раніцы дацягнуць. А заўтра, я абяцаю, мы з’ездзім у «Карону»! — я паклаў трубку.

Тэлефон тут жа зазваніў яшчэ раз. Я з раздражненнем адказаў, мяркуючы, што гэта зноўку Паліна.

— Маэстрачка! Што ж вы робіце! — пачуўся голас Люсі, куратаркі са «Шклатары». — Мы цалюткі дзень шукаем Канаваленку, а ён, аказваецца, у вас. Вы ж ведаеце, прыехаў Сафар з Масквы. Усяго на адзін дзень. Яны ж дамаўляліся на здымкі. Канаваленка застаўся апошні.

Сафар быў знаным фатографам, які працаваў на «Esquire» ды іншыя модныя маскоўскія часопісы. Ужо некалькі месяцаў ён рыхтаваў спецыяльны праект — дошку пашаны перадавікоў беларускага падполля. Рабіў партрэты салістаў забароненых гуртоў: Мірона з «ДПР», Платона з «Плутонія», лідара «Крыся Балконскага». Здымаў гуру сучаснай беларускай філасофіі Адамовіча, крытыка падполля Дурава і ягоную музу, спявачак партызанскага кабарэ Басю ды Пяркусю, прадзюсара «Крыся Балконскага» Салтыкова, маму Бо — прадзюсара Басі, кіраўнікоў цэнтральнага падпольнага тэатра Вярэніна і Сераду. Былі там, вядома, і выдавец найноўшай літаратуры для гета Сцёпін, загадчыцы «Шклатары» Люба і Люся, мастакі Машкевіч, Гарохін і Цымер. Прысутнічалі ў галерэі перадавікоў людзі не толькі з падполля, але і проста тыя, хто спачуваў. Люба нават прапанавала запрасіць у праект Дуніловіча як міністра прагрэсіўнага, які ставіўся да падполля з разуменнем. Але я адгаварыў. Не таму, што ён мне не падабаўся, хутчэй наадварот. Проста хто яго ведае, як потым усё павернецца. Не трэба было даваць дыназаўрам з Канцылярыі нагоду яго зжэрці.

Мяне Сафар зняў яшчэ летам на даху адной з прывакзальных вежаў. Апошнім не адлюстраваным у калекцыі перадавікоў заставаўся Канаваленка.

— Так, ён тут, — прызнаў я відавочнае.

— Ага, Маэстрачка, хай жа хутчэй бярэ таксовачку ды едзе ў «Шклатару». Мы з Сафарам яго чакаем!

Я заўважыў, як Канаваленка замахаў рукамі, маўляў, нікуды ён не паедзе.

— У мяне больш цікавая прапазіцыя! За пляшку добрага каньяку магу арэндаваць вам самую фактурную ў гэтым горадзе студыю. Так што давайце сюды! — і я назваў Люсі свой адрас.

— *Step by step, пока от монитора не ослеп. Главное в жизни — определиться, где твое место и что ты за птица. Тебе повезло, ты не такой, как все...*

Праз паўгадзіны Сафар з Люсяй і пляшкаю дарагога выёбістага каньяку былі ў мяне. Зрэшты, студыя была таго вартая. Пасля трох дзён банкету лепшай аўтэнтыкі не знайсці. Люся з жахам пазірала на параскіданыя паўсюль бутэлькі, на абгрызены нацюрморт на стале, на канапы пасля лежбішча зграі марскіх коцікаў, на велізарнага сібірскага ката Васіля, які хадзіў між гасцямі з выглядам: «Як жа гэта ўсё мяне заябала!»

Потым Сафар здымаў мяне на фоне аўтэнтыкі, потым Канаваленку з Ірай, потым мы ўсе разам пілі, потым я заснуў.

Потым пачуўся званок.

За вокнамі ўжо сцямнела, госці раз’ехаліся, адзін Васіль глядзеў на мяне вачыма, якія прасілі: «Гаспадар, накармі!»

Я выйшаў на кухню і падняў трубку.

— Вы не патэлефанавалі! А ў панядзелак мы збіраліся сустракацца! — ад нечаканасці я тут жа працверазеў.

Гэта была Маша.

— Як? Сёння ўжо нядзеля?!

## 22

Мы сядзелі візаві на тэрасе рэстарацыі «Віцязь» побач з каланадай увахода ў парк Горкага. Нарэшце мы былі ўдваіх — без гасцей, без шуму і мітусні, без непатрэбных ва-

чэй, без асцярогі, што нехта можа сапсаваць нам вечар. У панядзелак мы не ўбачыліся. Я прапанаваў перанесці сустрэчу на аўторак. Мне патрэбны быў дзень, каб збольшага прывесці сябе ў парадак.

Маша заставалася для мяне загадкай. Я нават не ведаў, колькі ёй гадоў. На выгляд ёй можна было даць і дваццаць, але вочы, якія быццам шмат чаго бачылі, казалі, што насамрэч болей. Мне ж хацелася, каб ёй было каля трыццаці. Усё ж немалая розніца ва ўзросце мяне крыху непакоіла.

Я задаваў Машы пытанні, але яна нейк умела пазбягала адказаў. Тое ж нямногае, пра што я даведваўся, часам цешыла, часам выклікала яшчэ болей пытанняў.

— Маша, ці ёсць ты на фэйсбуку? — у такіх выпадках ён часта мне дапамагаў.

— Не шукайце. Там мяне няма!

— А дзе ж? — пацікавіўся я.

— Нідзе! Я гэтага ўсяго не люблю! Мяне няма ў сацыяльных сетках, — Маша загадкава ўсміхнулася і дадала: — Апошнім часам я ўсё болей раблюся чалавекам асацыяльным. Я ўвогуле хачу з'ехаць з Мінска.

— Як з'ехаць? Куды?

— За горад. Бацька дабудоўвае дом. Я хутка туды перабяруся.

Тое, што мяне пацешыла, — яна была Дзеваю. Да астралогіі я ставіўся сур'ёзна і нават калісьці спрабаваў яе вывучаць. Праўда, калі я сустрэў Паліну, гараскопы раілі нам як найхутчэй расстацца. Пятнаццаць гадоў я спрабаваў давесці зоркам адваротнае, але ўсё ж яны перамаглі. А вось Дзева пасавала Казярогу ідэальна. Дзева Марыя — лепшай пары мне не знайсці. Праўда, крыху насцярожвала, што на мяжы з Ільвом. З ільвамі ў мяне вечна не клеілася.

Яшчэ Машы не падабаліся рэстараны. Калі мы прыехалі ў «Віцязь», не танны, але вельмі спакойны шынок з вялікімі канапамі на тэрасе, я запытаўся:

— Што будзеш піць?

Яна адказала: «Каньяк», — але ад закускі зноўку адмовілася. Я быў не супраць чаго-небудзь з'есці, але ж устрымаўся. Як я мог есці адзін? Таму замовіў пляшку «Версалю», лімон і дзве кавы.

— Я не люблю рэстаранаў, — нечакана сказала Маша.

— Чаму? — здзівіўся я. Мне падавалася, што яна створана для дарагіх рэстарацый. — А што ж ты любіш?

— Мне падабаецца выпіваць на лавачках у дварах. Гэта ў мяне з юнацтва. Мы любілі нашай дваровай кампаніяй душэўна пасядзець на лавачцы.

Я зразумеў, што яшчэ болей трапляю ў палон. Я ж таксама не выносіў рэстарацый. Я любіў выпіваць душэўна, у двары на лавачцы.

— Што ж ты адразу мне не сказала? Я ж ведаю ўсе найлепшыя двары ў гэтым горадзе!

— Нічога, — усміхнулася яна. — Гэта ж не апошняя сустрэча, мяркую.

Ад некалькіх чарак нашча я хутка захмялеў. Маша выпівала ўпоравень са мною, не так, як звычайна п'юць дзяўчыны, у палову альбо ў чвэрць. Пасля другога тоста яна прыкметна павесялела, на трэцім выдыхнула сваё непаўторнае «ох!». На чацвёртым прагучаў званок ад Паліны.

— Я зараз заняты! Ператэлефаную! — адказаў я як мага спакайней і паклаў трубку.

— Гэта Паліна? — здагадалася Маша. — А яна мне спадабалася тады на банкеце — прыгожая і маладая. Чаму вы разышліся?

Тут Маша мела рацыю. Паліна сапраўды выглядала маладзейшаю за свой век гадоў на пятнаццаць. Калі б я сказаў, што мы з Палінаю — равеснікі, Маша вельмі здзівілася б.

— Чаму разышліся? Зоркі не спрыялі, — аджартаваўся я.

— Зоркі? А чаму тады сустрэліся, калі зоркам гэта было не патрэбна? — азадачыла яна мяне.

— Разумееш, — пачаў я, — гэта дзіўная гісторыя. У нашай сяброўкі Юлі быў дзень нараджэння. Недзе а восьмай вечара ў нас скончылася гарэлка. Не, пачакай, што я кажу! Дзень нараджэння быў у Эдзіка, мы збіраліся да яго паехаць, а ў Юлі проста разміналіся. Але, як бы там ні было, гарэлка скончылася, і мы адправіліся на Камароўку.

— На Камароўку?

Тут я зразумеў, што ёй усё ж няма трыццаці. Інакш яна мусіла б ведаць гэты самы вялікі ў горадзе бутлегерскі рынак часоў сухога закону. Натуральна, у дзевяностыя гарэлка ў крамах ужо з'явілася, але чорны рынак на Камароўцы ўсё адно заставаўся папулярным. На плошчы перад уваходам стаялі бабулькі з авоськамі ды кругласутачна гандлявалі з-пад крыса. Калі б Машы было трыццаць, наўрад ці яна са сваёй кампаніяй абмінула б Камароўку.

— Ведаеш, проста гэрэлка там каштавала крыху танней, а галоўнае — яе прадавалі, калі крамы ўжо былі зачыненыя. Дык вось, — працягваў я. — Тады на Камароўцы я сустрэў свайго прыяцеля Віцю Набокава. З ім была маладзенькая дзяўчына ў жоўтай куртачцы з каптуром. Што яны там рабілі, не ведаю. Можа, таксама прыходзілі за гарэлкай. Але мы пазнаёміліся, і я прапанаваў паехаць да Эдзіка разам. У цемры я толкам яе не разгледзеў. Ведаў толькі, што завецца Палінай. Мы ўзялі таксоўку і выправіліся да дзеда, да Чарнагорава.

— То бок да Эдзіка?

— Ды не, які Эдзік! Да Чарнагорава.

— А хто такі Чарнагораў?

— Ооо! Чарнагораў — гэта гуру! Ведаеш, у васьмідзясятыя ў падполля было два бясспрэчныя аўтарытэты. Аднаго звалі Кім Хадзееў, другога — Чарнагораў. Ну, пра Кіма я яшчэ распавяду. Казані ж Чарнагорава карысталіся папулярнасцю сярод маладых авангардыстаў, калі авангард

быў яшчэ пад забаронай. У дзевяностыя ўсё ўжо дазволілі, але мы па-ранейшаму любілі наведацца да старога. Ён ахвотна прымаў ў любы час сутак, саджаў у сваім цесным пакоі, даверху застаўленым кнігамі, даставаў кільку ў тамаце і медычныя банькі. Ведаеш, тыя, што ставяць на спіну. Дно ў іх круглае, дык пакуль не вып'еш, на стол не апусціш. Не памятаю, чаму ў той вечар мы да яго заехалі. Можа, проста было па дарозе.

Я не стаў рассказываць Машы, что проста хацеў пантануцца. Калі б у мяне быў знаёмы злодзей ў законе, я б да яго павёз Паліну. Але мы былі не з той кадкі, таму мелі іншых аўтарытэтаў у законе: Чарнагорава і Кіма. Заўсёды, калі я хацеў зрабіць ўражанне на чарговую дзяўчыну, я вёз яе да аднаго з гэтых аўтарытэтаў. Але тым разам да Кіма было не па дарозе, а Чарнагораў жыў недалёка ад Эдзіка.

— Калі мы прыехалі, — я наліў яшчэ па адной. — Чарнагораў узрадаваўся, паставіў рамансы Льва Лешчанкі. Мы выпівалі, ён па-даўнейшаму нам звеставаў, а я ўсё болей і болей захапляўся Палінай. У нейкі момант я запрасіў яе на кухню, дзе сярод вялікіх трохлітровых слоікаў з разнасоламі зрабіў ёй прапанову.

— І што ж яна адказала?

— Пагадзілася. Але не адразу. Праз некалькі дзён.

— І што ж, вы ўсім робіце прапанову пры першай сустрэчы? — неяк дзіўна паглядзела на мяне Маша.

— Не, не ўсім.

Гэта была праўда. Насамрэч гэта здарылася толькі двойчы. Тады з Палінаю і гэтым летам у «Шклатары», калі я сустрэў Машу. Чаму, я не мог патлумачыць. Я не ведаў, што прымусіла мяне зрабіць прапанову на Чарнагораўскай кухні сярод слоікаў з разнасоламі. Але дакладна, што справа была не ў гарэлцы, не ў мімалётным жаданні, што

ўзнікла пад сентыментальныя рамансы. Гэта было штосьці іншае. І яно паўтаралася.

— А што ж Эдзік? — прыпыніла няёмкую паўзу Маша.

— А, Эдзік? Мы прыехалі да яго а палове на другую ночы. Торт ужо з'елі, і, па-мойму, імянінік застаўся незадаволены.

Зноўку зазваніў мабільны.

— Дзе ты? Нам трэба сустрэцца! — ледзьве не зрываўся ў трубцы Палінін голас.

Перапрасіўшы, я выйшаў.

— У цябе спатканне з гэтай анарэксічкай? Ты ведаеш прычыну яе анарэксіі? Я ўжо ўсё высветліла! У яе булімія! Вядома, ты ж уяўлення не маеш, што такое булімія! Пачытай у інтэрнэце! — залівалася Паліна.

— Што за хрэнь? Якая яшчэ булімія?

— Булімія — страшная хвароба! Чалавек не можа есці! Не таму, што не хоча! Калі ён што-небудзь з'есць, яго пачынае ванітаваць. Цяпер мне ўсё зразумела! Яна не закусвала на банкеце, бо не хацела псаваць ураджанне пры першай сустрэчы! Ты бачыў калі-небудзь, каб яна што ела? Яна зараз нешта есць ці вы зноў толькі п'яце? Ты ведаеш, калі яна не можа есці, алкаголь замяняе ёй ежу? Яна атрымлівае калорыі з яго! — не сунімалася Паліна.

Я не разумеў, як яна даведалася пра тры чаркі. Можа, Канаваленка прагаварыўся, калі яна заязджала? Але пры чым тут булімія?

— Я не жадаю гэтага абмяркоўваць!

— Зрэшты, гэта ўжо не мая справа! Я нават рада за цябе! Нарэшце ты знайшоў свой ідэал! Анарэксічка-алкагалічка ды алкаголік! Прыўкрасная пара! Вы сапраўды падыходзіце адзін аднаму! Будзеце співацца разам! Выдатна!

Я кінуў у раздражненні трубку. Але званок тут жа пачуўся зноў. Адключыўшы тэлефон, я вярнуўся за столік. Заўважыўшы маю заклапочанасць, Маша спытала:

— У вас штосьці здарылася?

— Маша, чаму ты не можаш сказаць мне «ты»?

— Не звяртайце ўвагі, мне гэтак пакуль прасцей, — усміхнулася яна. — Цяпер мая чарга выйсці.

Маша ўстала і, злёгку хіснуўшыся, накіравалася ў прыбіральню. Я кінуў позірк на талерку з лімонам. За вечар яна ні разу да яго не дакранулася. Затое каньяку ў бутэльцы заставалася зусім трошкі. Папраўдзе, размова з Палінаю мяне азадачыла. Я насамрэч яшчэ ніколі не бачыў, каб Маша штонебудзь з'ела. Загадкавая булімія, пра якую я раней нават не чуў, круцілася цяпер ў галаве. Уяўленне тут жа намалявала страшную сцэну, якая выклікала пачуццё спачування да Машы. Няўжо гэта праўда? Няўжо таму яна, небарака, нават не можа закусіць? Натуральна, тады зразумелыя ейныя чорныя сукенкі і жаданне пакінуць горад.

— Паліна даслала мне эсэмэс! — сказала Маша, вярнуўшыся.

— Як эсэмэс? Адкуль у яе твой нумар?

— Вам лепей ведаць адкуль! — паглядзела яна з лёгкім дакорам.

Ну вядома! Трасца табе! Я ўжо здагадаўся — адкуль. Паліна ўлезла ў мой тэлефон. Пакуль мы з Канаваленкам пілі, тэлефон увесь час ляжаў на стале. У Паліны было сто мажлівасцяў у яго зазірнуць. Яна рабіла так заўсёды — капалася ў маіх эсэмэсах. Праз гэта мы развяліся: яна знайшла эсэмэс ад Сашы, маёй былой каханкі. Хаця ўсё было па правілах. Паліна ведала, што ў мяне ёсць каханкі. Я ведаў, што і ў яе бывалі палюбоўнікі. Але існаваў негалосны пакт ненападзення. Але той эсэмэс чамусьці вывеў Паліну з сябе. Калі б яна не мела дурной звычкі залазіць у чужыя лісты, то, магчыма, мы і зараз заставаліся б разам.

— Што яна напісала?

— Няможна чытаць чужыя лісты! Што б яна ні напісала, гэта даслана мне!

Я ацаніў яе высакароднасць. Маша здавалася поўнай супрацьлегласцю Паліне. Яна дакладна не стала б капацца ў маіх эсэмэсах.

Дапіўшы каньяк, мы выйшлі з рэстарана. Развітвацца не хацелася. У машыне, на ўсялякі выпадак, ляжала яшчэ пляшка «Версалю». Я прапанаваў працягнуць.

Канаваленка мае рацыю — мне кепска ўдаюцца любоўныя сцэны. Таму скажу проста: мы пілі каньяк і цалаваліся на заднім сядзенні.

— Навошта я вам? — знянацку адхіліўшыся, запыталася Маша.

— Маша, а цябе не бянтэжыць, што я гадоў на дваццаць старэйшы за цябе?

— У мяне ў Вільні ёсць блізкі сябра. Ён старэйшы на трыццаць.

## 23

Вайна пачалася а чацвёртай ночы. Пачуўся званок. Я прачнуўся, па нумары вызначыў, што гэта Паліна, але не адказаў. Праз пару хвілін прыйшоў эсэмэс з ультыматумам, нервовым і доўгім. Даходзіў ёнársткамі, на кожным новым фрагменце тэлефон паказваў брэйк.

Яна пісала, што я скаціна, якая ёй сапсавала жыццё. Што ад пятнаццаці гадоў пекла не адкупішся грашыма. Што ёй ад мяне нічога не трэба і зараз яна абвяшчае вайну да поўнага майго знішчэння.

А шостай раніцы званок прагучаў ізноў. Я трубку не зняў і выключыў гук. Аб адзінаццатай я заглянуў у тэлефон. Паліна тэлефанавала мне кожныя 15 хвілін роўна да дзясятай. Потым званкі прыпыніліся. Відаць, яна стамілася ад першай ночы вайны ды пайшла спаць.

Зазірнуўшы ў інтэрнэт, я знайшоў у паштовай скрыні доўгі, шматслоўны ліст. Пачынаўся ён патэтычна:

*«Ах ты, ілгун і падлюга! Каб ты ўдавіўся сваёю хлуснёй! Сволач!»*

Далей ішоў поўны пералік маіх грахоў ды злачынстваў. Скончалася патэтычная ўверцюра словамі:

*«...Якое шчасце, што я развялася, — хоць адмылася ад бруду».*

Потым Паліна пераходзіла да развіцця тэмы. Калі ў першай частцы саліравалі трамбоны, трубы, басэлі ды барабаны, то тут ужо ўступалі скрыпкі, віяланчэлі, фаготы і часам нават флейты. Гэта частка была спакайнейшая. У яе мінорах часам з'яўляліся матывы псіхалагізму, якія зрэдку пераходзілі ў лірыку:

*«Самае галоўнае ў гісторыі апошніх месяцаў — тое, што ты зрабіў немагчымымі хоць якія чалавечыя стасункі дый увогуле любыя кантакты паміж намі ў будучыні. Ты кінуў гранату ў сваё і наша мінулае. Ты ўсё разбурыў і не зрабіў ніякіх высноў, ніякай працы над памылкамі. А гэта ж цалкам відавочна, не прайшоўшы ўсе стадыі ўсведамлення таго, што было ў мінулым, наперадзе ты рыхтуеш сабе новы выбух.*

*Ты абышоўся са мною цынічна, жорстка, і нішто цябе не спыніла. Якія б ні былі прычыны тваіх агідных паводзін (галоўным чынам, гэта прыродная тупасць, якая мяне ўражвала ўсе 17 гадоў, душэўная чэрствасць, поўная адсутнасць эмпатыі, г. зн. псіхапатычныя рысы характару, дакладней, параноя). Справа не ў тым, што ў цябе няма грошай. Справа ў банальнай зайздрасці, рэўнасці і пачуцці ўласнасці. Ты не хочаш страчваць тое, што, як ты меркаваў, столькі гадоў табе належала. Г. зн. мяне.*

*Ты здагадваешся ў глыбіні душы, што тваё будучае жыццё не складзецца, і табе б вельмі хацелася захаваць мяне як запасны варыянт і трымаць у залежнасці і далей. Ты занадта прызвычаіўся да думкі, што я ёсць заўсёды».*

Заканчвалася сімфонія, як і належыць, ізноў патэтычна:

*«І таму гэты раз ніякага даравання не будзе! Так што болей не жадаю ні ведаць, ні бачыць цябе і ніколі не сустракацца. Выкрасліць назаўсёды!!! Вайна! Цяпер толькі вайна!!!»*

Да ліста прыкладаўся план ваеннай кампаніі на бліжэйшыя два дні. На сераду баявых дзеянняў значылася няшмат:

1) наведаць адваката Міхаіла,

2) сустрэцца з адвакатам Ірынай,

3) дамовіцца аб сустрэчы з наменнікам дырэктара «Партызанфільма»,

4) пазваніць Машы.

У чацвер планаваўся маштабны наступ:

1) наведаць бухгалтэрыю «Партызанфільма», зрабіць выпіскі па дамовах,

2) паразмаўляць з галоўным бухгалтарам,

3) сустрэцца з намеснікам дырэктара «Партызанфільма»,

4) аплаціць судовыя дзяржпошліны, наведаць суд і падаць заяву,

5) зайсці да судовых выканаўцаў,

6) наведаць падатковую інспекцыю,

7) паразмаўляць з Машай.

Апошні пункт быў самы жорсткі. Яна збіралася сустрэцца з Машай і асабіста выканаць ёй патэтычную араторыю пра маё грэхападзенне «Шэсце чорнае душы ў Пекла». Калі б мы былі знаёмыя з Машай даўжэй, магчыма, яна б не паставілася да арый Паліны сур'ёзна. Але цяпер гэта сустрэча магла стацца катастрофаю.

Я разумеў, што Паліну трэба спыніць, але не ведаў як. У такім стане на яе ніхто не меў ўплыву, нават Канаваленка. Як на злосць, назаўтра я мусіў на некалькі дзён паехаць у Вільню. Калі дойдзе да сустрэчы, мяне нават не будзе ў Мінску. Я хацеў быў патэлефанаваць Машы ды папярэдзіць. Але як мне ўсё патлумачыць? Гэта будзе выгля-

даць бязглузда. Адно я ведаў дакладна: вайна толькі пачалася, а я ўжо трапіў у аблогу.

Заставаўся, праўда, яшчэ варыянт — папрасіць замірэння. Але я адчуваў, што Паліне яно без патрэбы. Яна хацела поўнай і безумоўнай капітуляцыі. І справа не ў кватэрным пытанні, не ў грошах, якія я абяцаў. Яе раз'юшыла паяўленне Машы. І капітуляцыяй у разуменні Паліны была б поўная адмова ад адносінаў з ёй.

Бліжэй да вечара я набраў Машу і ўздыхнуў з палёгкаю. Паліна ёй яшчэ не званіла. Нічога Машы не распавёўшы, я толькі сказаў, што, пакуль буду ў Вільні, буду чакаць нашай сустрэчы.

Вайна не ведае сну. Паліна любіла начныя баталіі. Чарговы прыступ пачаўся апоўначы. Спачатку грымнула артылерыя. Яна патэлефанавала паведаміць, якая я сволач. Я пагадзіўся, але папрасіў гэтай ноччу болей не турбаваць. Мы выязджалі на Вільню рана, так што ўставаць трэба было а шостай. Але Паліну гэта ні кропелькі не расчуліла. Наступны раз яна патэлефанавала а першай, потым у пятнаццаць хвілін на другую. Выключыць тэлефон я не мог. Гэта быў мой адзіны будзільнік. А другой гадзіне прыйшоў эсэмэс: калі я зараз жа не адкажу, яна прыедзе.

А трэцяй ночы пачуўся званок у дамафон. Паліна сноўдалася каля пад'езда. Яна падоўгу ціснула кнопку кватэры, затым адыходзіла, нервова паліла. Хвілін праз трыццаць пачаўся штурм. Падышоўшы да машыны, што стаяла проста пад акном, Паліна ўзялася нешта круціць на лабавым шкле. Спачатку я нават падумаў, што яна збіраецца яго разбіць.

Я спешна апрануўся і выскачыў на вуліцу. Дворнікі на лабавым шкле былі завязаны ў банцік. Паліна мочкі стаяла побач. Не сказаўшы ні слова, я завёў рухавік і адагнаў машыну за два кварталы. Калі я вярнуўся, яе ўжо не было.

А шостай я ўзняўся і перагнаў машыну да «Шклатары». Пакінуць яе там пад камерай назірання было спакайней. А восьмай мы выехалі з горада. Ужо ля самай мяжы, а дзясятай раніцы, Паліна патэлефанавала, відаць, перад тым як адправіцца ў ложак:

— Калі ты думаеш, што гэта пустыя пагрозы, дарма! Я пазваню Машы сёння. Проста хацела дачакацца, пакуль ты паедзеш! — яна кінула трубку.

Увесь дзень я не знаходзіў сабе месца. Блукаў па Вільні, з кімсьці сустракаўся і мучыўся невядомасцю. Увечары невядомасць зрабілася невыноснай. Я адправіў Машы эсэмэс, але прайшла гадзіна, а адказу ўсё не было. Вярнуўшыся ў гатэль, я не вытрымаў і патэлефанаваў. Голас Машы мяне крыху супакоіў. Відаць, Паліна яшчэ не званіла.

— Маша, — сказаў я як мага спакайней, каб не выдаць трывогі, — калі патэлефануе Паліна, што б яна ні нагаварыла, не вер! Дачакайся майго вяртання!

## 24

Скамароха адчуваў, што Гугон хітруе. Вось ён п'яны, лыка не вяжа, гугнявіць пад нос нейкі бздур, аднак, падлюка, усё бачыць і заўтра каму трэба даложыць.

— Давай! — ляпнуў яго Скамароха штомоцы па плячы.— Налівай, чорт касавокі! Толькі міма чаркі не прамахніся! Дый не махлюй — упоравень налівай!

— Кайн праблем! Ік... — ухапіўшы графін, Гугон напоўніў кілішак, а са сваім прамахнуўся ды праліў гарэлку на абрус. — Руіх, зер руіх, пан Скамароха! Не турбуйцеся. Падзелім па-брацку. Ік...

Гучна выдыхнуўшы, Скамароха выпіў. Гугон падняў следам пусты кілішак, перакуліў яго ў глотку і, скрывіўшыся, занюхаў галёнкаю. Тут дзверы ў камінную залу ад-

чыніліся, і на парозе паявіўся пан Генрых. Акінуўшы кумпанства незадаволеным позіркам, аканом спыніў яго на Гугоне і суха спытаў:

— Дзе пан Твардоўскі?

— Ясна дзе! Ік! Як і належыць у гэты час, пратаколы майструе. Так бы мовіць, ік... абставіны... аўфмахен унд матывен, ік...

Пан Твардоўскі любіў пасля абеду майстраваць пратаколы. Асабліва падабалася яму ствараць іх у гэтым кабінеце, на вялізнай двухспальнай пярыне. Гэты дзень выключэннем не стаў. Грозна навісшы тварам над сведкаю, Твардоўскі насупіў бровы і, зрабіўшы акцэнт на слове «дзе», строга запытаў:

— А дзе?.. Былі гэтыя ручкі трэцяга дня апоўначы? — ён гулліва прайшоўся кончыкам языка па ручках Мальвіны.

— Гэтыя ручкі, мон амур, спалі ў сваёй спачывальні! — тая какетліва схавала рукі.

— Ілжэце! Не веру! Арыштаваць гэтыя ручкі! — схапіўшы шырокую чорную стужку, пан Твардоўскі пачаў прывязваць іх да металічных прутоў ложка. У адказ Мальвіна юрліва завохкала, намаляваўшы на твары пакуты.

— А дзе?.. Дзе былі гэтыя ножкі трэцяга дня апоўначы? — Твардоўскі нетаропка правёў язычком па ножцы Мальвіны, дайшоў да калена і ў чаканні ўзняў вочы.

— Ясна дзе, мансеньёр, спалі ў сваёй спачывальні!

— Хлусня!!! Не веру! Арыштаваць! У Сібір! На катарзе згнаю! — шалёна выкрыкнуў ён і, схапіўшы другую стужку, моцна сцягнуў ногі.

— Вох! Вох! Злітуйцеся, вашамосць! Не хачу ў Сібір! — застагнала Мальвіна.

Але Твардоўскі ўжо падбіраўся да ейных грудзей.

— А дзе?.. Былі гэтыя салодкія, — працягнуў ён з млосцю ў вачах, — самыя салодкія цыцачкі? Што? А? Маўчы-

це? Не веру!!! Расстраляць гэтыя цыцкі! — ён накінуўся на Мальвіну і пад яе вясёлыя стогны пачаў рваць начную кашулю. У гэты момант рыпнулі дзверы, і ў кабінет увайшоў Генрых. Следам паказаўся кот Варгін.

— Не ўставайце! Працягвайце допыт, пан Твардоўскі, — абыякава кінуў Генрых, падышоўшы да ложка. — Хачу вам толькі паведаміць: Ян едзе да сляпога Францішка!

— Ат! Д'ябал! Стары пень ужо нашаптаў! — Твардоўскі нехаця адарваўся ад грудзей Мальвіны. — Аднак няма чаго турбавацца, пан аканом. Шлях да Францішка няблізкі, заблукаць можна!

— Ды ўжо будзьце ласкавы, паклапаціцеся, пан Твардоўскі! — Генрых накіраваўся да дзвярэй.

— А дзе?.. Дзе?.. Былі гэтыя сакавітыя, смачныя, салодкія, — праваркатаў пан Твардоўскі пад пільны позірк Варгіна, які ўжо паспеў ускараскацца на ложак, — сунічныя вусенкі? Гэць адсюль! — ён спіхнуў ката на падлогу і тут жа ўпіўся ў сунічныя вусенкі юрлівым пацалункам.

Тым часам пан Генрых доўгім цёмным калідорам кіраваў да спальні Станіслава. Адчыніўшы дзверы ў яе, ён тут жа пачуў гудзенне незлічонага полчышча вос. Цяпер яны кружылі ўсюды. Наблізіўшыся да труны, Генрых заўважыў, што казліная маска троху павернута. Паправіўшы яе, агледзеўся па баках з жаданнем знайсці першапрычыну непрыемнага гуку. Неўзабаве ён заўважыў у дальнім куце пад столлю вялізнае асінае гняздо. Пан Генрых узяў доўгі кій і з размаху ўдарыў. Грымнуўшы нечым цяжкім, гняздо абвалілася на падлогу. З яго тут жа вылецеў устрывожанны рой ды выкацілася некалькі залатых манет. Генрых наблізіўся, падняў адну. На манеце красавалася змейка ў кароне.

У гэты момант дзверы ў пакой адчыніліся, і на парозе паказаўся Марка.

— Выклікалі, вашамосць?

— Марка, паедзеш у карчму старога Ёселя, — не азірнуўшыся, адказаў Генрых. — Забярэш там маладога гаспадара і прывязеш яго ў Камаеды.

— Слухаю, вашамосць! Вось толькі… Каб… — у нерашучасці прамырмытаў Марка.

— Што яшчэ?

— Позна ўжо, змяркаецца! Страшна, пан аканом! Можа, далі б у дарогу каго?

— Не бойся, на паўдарозе цябе сустрэнуць! Атрымаеш за гэта два залатыя, — ён працягнуў Марку толькі што паднятую з падлогі манету. — Другі атрымаеш, як вернешся!

## 25

Ян быццам добра ведаў гэту мясцовасць, але мінула ўжо больш за гадзіну, а Скірмонтаў усё не было. Праехаўшы яшчэ некалькі вёрстаў, ён зразумеў, што заблукаў. Пачынала змяркацца, але папярэджанні Адама Ян ўсур'ёз не ўспрыняў. Мясціны гэтыя былі знаёмыя з дзяцінства. Праўда, троху насцярожвала нядаўняя сустрэча з ваўкамі, але толькі таму, што раней іх столькі тут не вадзілася.

Неўзабаве паказаўся развілак. Памеркаваўшы хвілю, Ян прыняў правей, як раптам за паваротам убачыў старога, які сядзеў на камені ля дарогі.

— Стары, скажы, як праехаць у Скірмонты? — запытаўся Ян, пад'ехаўшы бліжэй.

Але той нічога не адказаў. Дзед глядзеў скрозь Яна і нібыта не заўважаў яго. Збянтэжыўшыся, Ян рушыў далей. Ноч патроху апускалася на палі, і яму здалося, што пустэльны днём краявід пачаў ажываць. Завідна нават птушак было не чуваць, але з надыходам цемры наваколле напоўнілася мноствам гукаў. Неўзабаве ён заўважыў у да-

лечыні дзяўчын, якія танчылі пры вогнішчы каля возера. Ян накіраваўся да іх, але тут жа сустрэў на дарозе чалавека ў дзіўным старасвецкім касцюме. Ян зрабіў спробу яго распытаць, але той таксама нібы нікога не бачыў. Калі Ян наблізіўся да вогнішча, дзяўчыны ўжо зніклі. Там сядзела толькі некалькі котак. Ян пачуў за спінаю галасы і павярнуўся. Берагам ішла чарада карузлікаў, якія, нешта горача абмяркоўваючы, неслі на плячах вялізарную рыбу.

Чым болей згушчалася цемра, тым больш ажывала мясцовасць. На даляглядзе заззялі агні. Яна атачалі ўсё новыя і новыя людзі, апранутыя ў старадаўнія строі. Але як ні спрабаваў Ян загаварыць з імі, усе быццам яго не заўважалі.

Міма праплыў шацёр. За яго напаўпразрыстай заслонай на пярынах ляжала аголеная дзева. Некалькі чалавек ля дарогі гулялі ў карты за круглым сталом. Насустрач верхам на віннай бочцы скакаў таўстун. Чатыры манахі цягнулі даўгую лесвіцу. Два аднаногія, счапіўшыся мыліцамі, танчылі ля агня. Напоўніўшы абшар гукамі труб, пранеслася конная кавалькада. Гралі музыкі, хадзілі людзі з галовамі птушак. Пажыральнік агню на даўжэзных хадулях вывяргаў полымя з рота. Некалькі ваяроў у старадаўніх даспехах прыбівалі да дрэва распусніцу. Гарэлі паходні, уздымаліся феерверкі. Удалечыні займаўся пажар.

Ян глядзеў на ўсё гэта ды толькі дзіву даваўся.

Неўзабаве ён убачыў карчму ля дарогі. Пад’ехаўшы, Ян спешыўся і ўвайшоў. Унутры было шумна. За даўгімі дубовымі сталамі сядзелі людзі ў шляхецкіх строях. І тут ніхто не заўважыў яго. Ян прайшоў углыб і прысеў.

— Ёсель! Яшчэ піва! — выкрыкнуў шляхціц, што разваліўся побач на лаве.

— А я яго і пытаю, — рагатаў хлопец з даўгім чубам на макушцы, — Астап, а чаго гэта ў цябе парсюк на драўлянай назе па двары кульгае? А ён мне ў адказ: «Ды што мне, з-за міскі халадца цэлага кныра забіваць?!»

— Ха-ха-ха! — зарагатала кампанія побач.

З іншага боку стала гаворка ішла больш сур’ёзная.

— А я вам кажу, панове, — крычаў даўгавусы стары, — прамашка была са шведам ваяваць! Швед нам — не вораг! Са шведам унія патрэбна! Што нам Карона? Дзе тая Карона? А наш вораг тут, пад бокам!

— Дык што ж, пан Сівоха, — спрачаўся з ім сусед па лаве, — трэба было з Казімірам Завальняй пад штандары здрадніка Радзівіла пайсці?

Пачуўшы слова «Завальня», Ян насцярожана прыслухаўся да размовы.

— Ды хоць бы і так, пан Любіч. Будзь ён жывы, зараз жа ў харугві Завальні пайшоў бы!

— Ціпун табе на язык! Пабойся Бога, Сівоха! Думай, што кажаш! Казімір хоць і ўдалы быў палкоўнік, ды толькі дні свае ў пакутах, як адступнік, закончыў! На ўсіх Завальнях цяпер праклён ляжыць! Няўжо пан сынам сваім гэткай долі хоча?

— Чаго гжэчны пан пажадае?

Ян здрыгануўся, зразумеўшы, што звярталіся да яго. Азірнуўшыся, ён убачыў перад сабой старога Ёселя. Чамусьці з усіх прысутных адзін карчмар заўважыў Яна.

— Прынясі куфаль піва ды да піва чаго-кольвек! — трохі памарудзіўшы, вымавіў ён.

— Ёсель! Што вухам да стала прыліп, быццам шпег? Падай нам, старая шэльма, яшчэ мёду! — прыкрыкнуў на карчмара пан Сівоха.

— Што за карысць ад ягонай адвагі, — працягваў Любіч, — калі душу яго д’ябал забраў? І сын Казіміра кепска кончыў, і, кажуць, унук з глузду з’ехаў!

У гэты момант дзверы адчыніліся, і ў карчму ўляцеў устрывожаны немалады чадавек з доўгімі ўскудлачанымі валасамі. Пабачыўшы Ёселя, ён крыкнуў з парога:

— Гэй, служка Апіўня, налі рому! Ды хутчэй!

— Як вашамосць загадае! Зараз жа зробім, найсвятлейшы пане! — паслужліва кінуў у адказ стары Ёсель.

Чалавек прашмыгнуў да стала, усеўся насупраць Яна і тут жа ўхапіўся рукамі за галаву.

— Бачу, пану няможацца! — весела данеслася з кампаніі маладых шляхцюкоў. — Дык дам пану параду. Ром — найлепшае зелле ад усіх хворасцяў. Ха-ха-ха!

— Калі б мне была патрэбна парада, я б пайшоў у касцёл, а не ў карчму! — агрызнуўся ўскудлачаны чалавек пад рогат маладых шляхцічаў і, схапіўшы пастаўлены перад ім кубак рому, тут жа прагна палову адпіў. — Во! Цяпер не варушацца! — выдыхнуў ён з палёгкаю. — Хоць ненадоўга заціхлі! Гэтыя чортавы валасы! Сваім крыкам атруцілі мне жыццё!

— Ды, можа, пану прасцей іх абрэзаць? — пад агульны рогат у карчме зноўку кінуў чубасты.

— Вярзеш немаведама што, а пра маю бяду ўяўлення не маеш! А я, можа, смерці шукаю, каб гэтага крыку не чуць!

— Дык распавядзі нам пра сваю бяду! — уступіўся пан Любіч. — Можа, парадаю дапаможам!

— Во! Адзін ужо заспяваў, дый іншыя заварушыліся! Зараз зноўку ўсе закрычаць! Карчмар, яшчэ рому! Ды хутчэй! — ускудлачаны дапіў рэшту ў кубку.

Шляхта ў зале прыціхла, з цікавасцю пазіраючы на дзіўнага госця. Падаспелы карчмар паставіў перад ім новы кубак і куфаль піва для Яна.

— Некалькі гадоў таму, — пачаў дзіўны госць, — я вярнуўся з Вільні, дзе вывучаў карысныя чалавеку навукі, і ажаніўся з маладою шляхцянкай Амеліяй. Тры гады жылі мы душа ў душу. А потым маркота найшла на мяне. Штодзень адно і тое ж: паляванне, гаспадарка, дом — адным словам, нуда. А аднойчы ехалі мы з Амеліяй па лясной дарозе ды сустрэлі старога з вялікім чорным кашом. «Хто ты, стары, і куды ідзеш?» — запытаў я яго. «Я, яснавяль-

можны пане, бадзяюся па свеце, шукаю дабрадзея, які дасць прытулак беднаму старому», — адказаў ён. «А што гэта ў цябе ў кашы?» — «Чорныя трусы, вашамосць». Тут стары прыадчыніў кош, і я ўбачыў там мноства маленькіх чорных трусоў. «Божа, якія жахлівыя кажаны! Схавай іх хутчэй!» — закрычала раптам Амелія. Я са здзіўленнем паглядзеў на яе. «Зірніце, пані, лепей. Гэта чорныя трусы, адно што яшчэ маладыя», — адгукнуўся стары.

Шляхта ў карчме прыціхла. Ускудлачаны зрабіў яшчэ глыток і працягнуў:

— Пасяліў я старога побач з домам у флігелі. Спадабаўся ён мне: мудры чалавек, шмат чаго бачыў, багата цікавага мог распавесці, нуду маю развеяць. Адно што Амелія дужа яго неўзлюбіла. Ды ўсё прасіла прагнаць старога прэч. А праз нейкі час заўважыў я за Амеліяй дзіўныя змены. Зрабілася яна неспакойнай. Казала, мрояцца ёй галасы, а апоўначы чуюцца нечыя стогны. Пайшоў я да старога спытаць парады, чым магу ёй дапамагчы.

***

Марка гнаў экіпаж да старога Ёселя. Ужо сцямнела, але да месца, дзе мусілі яго сустрэць і суправадзіць да карчмы, заставалася нядоўга. Марка спяшаўся, шалёна хвастаў каней, узіраючыся ў непралазную цемру. Нядобрае прадчувалася яму. Ён ведаў: галоўнае — паспець да сярэдзіны шляху. Там будзе ён у бяспецы. Заставалася яшчэ вярсты са дзве па змрочным лесе, а за ім ужо поле, і будзе палова дарогі.

***

Дзіўны госць адпіў яшчэ рому і ўздыхнуў:

— Зайшоў я ў флігель і бачу: мноства чорных трусоў, на падлозе, у кутах, на печы. Здзівіўся я, але выгляду не падаў. Распавеў я ўсё старому і папрасіў парады. А ён у адказ: «Адкрыю, вашамосць, адзін сакрэт, які даўно ведаю.

У вашай жонкі на галаве жывыя валасы. Але гэта яшчэ не ўсё. Ёсць у яе адзін валасок, які, калі сонца заходзіць, крычыць усю ноч, аж да світанку. Вось яна заснуць і не можа. Пракрадзіцеся, вашамосць, сёння ўначы ціхенька да яе ў спальню. Усё самі пачуеце». Так я і зрабіў. Пракраўся тае начы ў спальню Амеліі і бачу ў месячным святле: сама яна быццам бы спіць, валасы па падушцы растрапаныя, але сон яе неспакойны. Падышоў я бліжэй, а яна ўздрыгвае і ціха стогне. А калі нахіліўся да яе валасоў, то пачуў сярод стогнаў ледзь прыкметны піск.

Я зноўку адправіўся да старога. Каб Амелію вылечыць, той загадаў мне апоўначы адрэзаць ёй касу і да раніцы, пакуль певень не праспяваў, прынесці яму. Амелія так плакала, маліла гэтага не рабіць, але не адважылася пайсці супраць маёй волі.

Бядак замоўк, адпіў яшчэ рому і акінуў поглядам усіх прысутных. Яну раптам здалося, што вочы затрымаліся на ім, хоць дзіўны госць не павінен жа быў яго бачыць.

— Калі я ізноў прыйшоў уначы да старога з касою Амеліі ў руках, то заўважыў, што чорных трусоў паболела. Цяпер яны варушыліся паўсюль: на падлозе, на ложку, на стале, на печы. Стары ж узяў касу і прамовіў: «Зараз, вашамосць, вы ўбачыце цуд». Напоўніў ён вадой вялікія драўляныя ночвы і кінуў туды касу. Я падышоў бліжэй і гляджу: пачала каса сама расплятацца. А распусціўшыся, валасы заварушыліся ў вадзе, быццам клубок змей.



Неўзабаве Марка выскачыў з лесу, і экіпаж ужо імчаўся па полі. Тут мусілі яго сустрэць. Раптам далёка наперадзе ён заўважыў два аганькі, што свяціліся ў цемры. Марка ўсім целам падаўся назад і, нацягнуўшы павады што ёсць моцы, спыніўся. Наперадзе было акурат тое самае месца —

палова дарогі. Але аганькі мігацелі не тыя. Гэта свяціліся вочы. Не тыя вочы, якія чакаў ён убачыць. Не воўчыя.

Коні пад Маркам захрыпелі, захваляваліся, а ён, здранцвеўшы, з жахам углядаўся ў цемру. Тут Марка заўважыў, што вочы наперадзе крануліся з месца. Яны пачалі набліжацца. Не разважаючы ні секунды, ён шалёна сцебануў коней, накіраваў іх у поле, развярнуў экіпаж, выскачыў ізноў на дарогу ды панёсся назад. Баючыся азірнуцца, Марка правіў коней да лесу. Праз холад, што скаваў ягоны хрыбет, ён адчуваў: яны гоняцца следам.

Не даехаўшы трохі да лесу, Марка знянацку яшчэ раз пацягнуў павады і ледзь не самлеў. Наперадзе з цемры свяціліся гэткія ж вочы. Ён азірнуўся. Пагоня за ім таксама спынілася. Але цяпер вачэй стала болей.

З крыкамі, з мальбою пра паратунак Марка павярнуў экіпаж і памчаўся па полі.

***

У карчме ўсе, затаіўшыся, слухалі.

— Пасля той ночы на заходзе сонца Амелія ўвайшла ў дом і ўпала як мёртвая. Яна чахла ў ложку два дні. Потым прыехала ейная маці і забрала з сабою, сказаўшы: «Можа, бацькоўскі дом ёй дапаможа». А праз тры дні атрымаў я ліст: «Бедная наша Амелія сіратлівае жыццё сваё на палове скончыла. Учора па заходзе сонца».

Ускудлачаны замоўк. Ян адчуў у насталай цішыні штосьці няладнае. Ён узняў вочы і знянацку ўбачыў, што ўсе людзі наўкол застылі ў дзіўных паставах. Чубасты шляхціц нерухома трымаў паднесены да рота куфаль. Пан Сіваха скамянеў, учапіўшыся ў свіную галёнку. За спіной, нібы мармуровы, стаяў Ёсель. Нават віно, што са жбанка наліваў ён у келіх, ашклянела.

Яна ахапіла жуда. А ў галаве ўжо чуўся нейкі незразумелы — усё галасней і галасней — гоман, конскі храп, нечыя страшныя крыкі. Ян павярнуўся да дзіўнага госця. Ён заставаўся адзіным у карчме, хто не замёр, а працягваў, ва ўпор гледзячы Яну ў вочы:

— Як прачытаў я ліст, валасы на маёй галаве заварушыліся і пачалі страшна крычаць. Ашалеўшы, схапіў я меч і паляцеў да старога. Забягаю ў флігель, а замест старца — ведзьма Праксэда. Смяецца мне ў твар зялёнымі вачыма і скуголіць: «Буду прыходзіць да вас па сёмае калена, аж пакуль ваш род не згасне!» Узмахнуў я мячом, а ведзьма знікла. Толькі полчышча чорных кажаноў кружыць у пустым пакоі.

Тут Ян адчуў, як у яго самога валасы заварушыліся. Варушыліся і, быццам зграя сабак, заліваліся брэхам. Ян ачмурэла зірнуў на госця.

— Хто ты?

—Завальня. Барталамей. Будзьма!

***

Марка ўжо не разбіраў дарогі, гнаў коней ў поле. Экіпаж падскокваў на купінах, а ён, звар'яцеўшы ад жаху, правіў яго ў непралазную цемру. Зрэдку кідаючы позірк за спіну, ён бачыў зграю вялізных чорных догаў, якія са злосным брэхам яго наганялі. Раптам экіпаж наляцеў на камень. Пачуўся трэск, адскочыла кола і пакацілася ў поле. Павозку моцна штурханула, яна крыху прапаўзла на бруху і перакулілася на бок. Тут жа лопнула папруга, і коні панесліся наперад.

Марка выскачыў з павозкі і з жудасным крыкам пабег па полі. Зграя была ўжо блізка. Марка ляцеў, спатыкаўся, падаў, ускокваў на ногі, зноў спатыкаўся, а чорныя догі яго наганялі.

Неўзабаве зграя дагнала. Марка ашалела загаласіў ды праз хвілю заціх. Сабакі раз'юшана рвалі цела на часткі.

***

Ян пачуў нечалавечы крык і скурчыўся ад невыноснага болю. Хвілю гэты крык проста раздзіраў галаву на часткі, як знянацку заціх. Ян зноў падняў вочы і раптам убачыў, што ўсе людзі зніклі. Толькі полчышча кажаноў кружыла па апусцелай карчме. Валасы на яго галаве зноўку заварушыліся і зайшліся страшным крыкам. Заўважыўшы на месцы, дзе толькі што сядзеў Барталамей, кубак з ромам, Ян схапіў яго, выпіў і тут жа абрынуўся ў цемру.

## 26

Маша чакала мяне а дзявятай вечара на лавачцы каля Музея І з'езда РСДРП. Я не выпадкова абраў менавіта гэтае месца. Побач знаходзіліся двары, у якія я хацеў яе павесці.

— Я ведаю шмат добрых месцаў у гэтым горадзе. Але зараз мы адправімся шукаць наш дворык. Можа, на пошукі спатрэбіцца не адна ноч, але мы будзем блукаць па горадзе, пакуль не знойдзем яго.

Усміхнуўшыся ў адказ, Маша дастала з торбачкі пляшку каньяку:

— Мяркую, гэта нам дапаможа.

Толькі мы прыселі на лавачку каля Свіслачы, яна запыталася:

— Што вы рабілі ў Вільні?

— Ай, ездзіў па справах рэвалюцыі, — з напускною важнасцю, але не без іроніі адказаў я.

— О! Вы сябра нейкай партыі?

— Цяпер не. А раней я доўга належаў да фронтаўскіх.

— І што ж рэвалюцыя? Ці хутка будзе?

— Няхутка.

— Чаму ж?

— Думаю, справа ў народзе. Ён за стагоддзі так прызвычаіўся жыць пад акупацыяй, што кожная ўлада яму чужая, — распачаў я шматслоўнае тлумачэнне з намерам зрабіць ураджанне, — Ён не верыць у саму ідэю сваёй улады, таму не хоча яе ўзяць. Наш народ ведае, што ніякая ўлада яму не дапаможа. Гэта вельмі дзіўная форма індывідуалізму. Разумееш, ў Еўропе індывідуалізм ішоў ад рымскага права, то бок, я — грамадзянін Рыма, таму маю права на тое і на гэтае, на хлеб ды на відовішчы, і ўлада абавязаная мне гэтыя правы забяспечыць. У нас жа чалавек хоча аднаго: каб яго пакінулі ў спакоі, не перашкаджалі яму асабіста ладзіць сваё жыццё. Усялякая ўлада для яго — непазбежнае зло, з якім ён мусіць проста змірыцца. Такі чалавек кажа сабе: «Мая хата з краю, нічога я не ведаю і ведаць не хачу!» Псіхалогія падпольнага чалавека. Перад ім стаіць адна задача — выжыць на акупаванай тэрыторыі. Калі б у яго была задача перамагчы акупантаў, ён мусіў бы аб'яднацца з іншым, зрабіць пэўнае калектыўнае дзеянне. Але падпольнаму чалавеку цяжка з кімсьці аб'яднацца.

Зрабіўшы з пляшкі глыток, я кінуў погляд на зграбныя, у чорных калготах, ножкі Машы і злавіў сябе на думцы, што аб'яднацца з ёю мне зараз вельмі хацелася б.

— Падпольны чалавек сыходзіць у сябе, — працягваў я, — стварае сваю маленькую Імперыю, у якой ён пачуваецца маленькім Імператарам. Ягоная задача — абараніць толькі гэтую прастору. Выдаліць ген падпольнага чалавека складана, бо ён ствараўся тут стагоддзямі. Калі прыходзіла вайна, тыя, хто аб'ядноўваўся ў барацьбе, гінулі. Заставаліся тыя, хто хацеў проста выжыць. Хаця, — махнуў я рукою, — нават тады аб'яднацца не надта атрымлівалася. Узгадай гісторыю Рэчы Паспалітай: кожны быў на сва-

ёй зямлі Імператарам, а ўлада і тады была прыкраю перашкодай, з якой проста...

— А я памятаю апошнюю рэвалюцыю, — раптам перапыніла маю лекцыю Маша. — Прабыла тады на Кастрычніцкай плошчы ўсю ноч. Як цуцык змерзла, а сысці было страшна. Навокал аблажылі ўсё, а тых, хто за ачапленне выходзіў, хапалі.

— Ах ты, мая рэвалюцыянерачка! — сарваўся я, але схамянуўся і сур'ёзна дадаў: — Як жа ты сышла?

— Дачакалася раніцы. Пайшлі аўтобусы, потым паявіліся мінакі, і я непрыметна шмыгнула ў натоўп. Але рукі зусім адубелі. Дагэтуль, калі вялікі мароз, страшэнна баляць.

— А зараз не баляць? — узяўся я расціраць Машыны рукі. — А я тады на плошчы не застаўся. Пайшоў дзесьці а першай ночы. Мне трэба было назаўтра ехаць у Берлін на канферэнцыю, — нібы ў апраўданне, прашаптаў я.

— А ці памятаеце, які снег тады паваліў шалёны? Вялізныя камякі, і густы, што сцяна! Усе падумалі, яго наўмысна з адмысловых гармат выстрэльвалі.

— А снайпераў на дахах ці памятаеш?

— А гэта былі снайперы?

— Можа быць! Ну што, хадзем далей?

Мы выйшлі на Чырвоную і неўзабаве збочылі ў вялікі цёмны двор дома пад шпілем.

— У гэтым двары жылі два геніі! — я асцярожна абняў Машу за талію. — Паэт Аляксей Жданаў і Кім Хадзееў! Пра Кіма я табе ўжо ўзгадваў. Бачыш гэты пантовы дом для новых рускіх? Яго ўжо шмат гадоў дабудаваць не могуць. А ведаеш чаму? Месца тут гіблае. Я мяркую, гэта Кім адтуль, — я тыкнуў пальцам у неба, — прывітанне ім даслаў за тое, што ягоную халупу знеслі. А раней тут стаяў двухпавярховы барак, у якім ён жыў. Праз гэты барак прайш-

ла палова падполля. А Кім быў нават не гуру, а сапраўдны шаман. Ты толькі ўяві сабе, у пачатку пяцідзясятых, ён заклікаў зрынуць Сталіна, калі той яшчэ быў жывы. Не так заклікаў, як любіць інтэлігенцыя, паўшэптам на кухні. А па-сапраўднаму, у голас, з універсітэцкай трыбуны. Уяві, які з усімі здарыўся шок. Гэбуха так разгубілася, што Кіма з перапуду нават не расстралялі. Сказалі, што ён шызануўся, і адправілі ў вар'ятню. І ведаеш, што там зрабіў наш шаман? Ён напісаў сваю першую дысертацыю, па псіхіятрыі, для свайго ж псіхіятра.

— Першую? — здзіўлена спытала Маша.

— Ён напісаў іх болей за трыццаць!

— І што, усе па псіхіятрыі?

— Не, розныя. Яшчэ па літаратуры, па матэматыцы, эканоміцы, сацыялогіі. Ён пісаў на ўсе магчымыя тэмы ды з гэтага жыў. Ну то бок пісаў не для сябе, а на замову за бабкі. Прыкінь, які быў розум! Цэлую падпольную акадэмію стварыў. Колькі людзей праз яго прайшло, ты сабе ўявіць не можаш!

Тут я падумаў: будзь Кім жывы, я абавязкова павёў бы да яго Машу.

Нешта ўнутры зашчаміла ад успаміну пра апошні дзень нараджэння Кіма. Святкавалі заўсёды іх весела, шумна, шматлюдна, некалькі сутак запар. Кватэрка была маленькая: адзін пакой і кухня. Народу набівалася шмат, стаялі, як у перапоўненым аўтобусе, плячо ў плячо, з пластыкавымі кубачкамі ў руках. А гэты, апошні дзень яго нараджэння быў іншым. Быццам бы і весела, але ўсе разумелі, што Кім Іваныч сыходзіць. Падымалі тосты, спявалі здравіцы, але ведалі, што развітваюцца з ім. А ён вачамі развітваўся з намі. Сыходзіў і поглядам нібы даваў наказ словамі са сваёй казкі, якую так і не дапісаў: «Давайце, рабяткі-салдатушкі, я за свае семдзесят два шмат чаго зрабіў,

а цяпер ваша чарга гэтую казку без мяне дапісваць. А будзе ў гэтай казцы мараль альбо шчаслівы канец — зараз ад вас залежыць». Толькі вочы яго былі сумныя-сумныя, быццам прадбачылі, што шчаслівага канца, як часцяком у беларускіх казках, не будзе.

— Што ж вы маўчыце? Вып’ем?

— Ведаеш, а ў дзевяностыя Кім зарабляў ужо не дысертацыямі, а кансультаваў бізнес. Будаваў мадэлі, стратэгіі развіцця. А потым людзей, якім ён дапамагаў, пачалі саджаць аднаго за адным. Памятаеш справу былога міністра сельскай гаспадаркі? Тады ў Канцылярыі была свая стратэгія развіцця — кантраляваць усё. Ведаеш, а народу Кім не любіў. Казаў, што кіраваць ім могуць два эсэсаўцы і тры сабакі. Прычым другі эсэсавец патрэбны толькі, каб сабак карміць. Гучала гэта жорстка, але ў чымсьці Кім меў рацыю: калі любая ўлада народу варожая, а сам народ браць уладу не хоча, рана ці позна знойдзецца хтосьці, хто возьме яе сабе. Што ж ёй безгаспадарнай валяцца пад нагамі.

У двары вялікага сталінскага дома было цёмна, бязлюдна ды сыра. З пустога чорнага неба на нас пазірала са шпіля вялікая гіпсавая зорка, асветленная фіялетавым неонам. Каньяк адганяў холад, грэў, весяліў. Дастаўшы з кішэні маленькі зборнік вершаў, прызапашаны адмыслова для гэтага дворыка, я запытаўся:

— Хочаш, пачытаю? — і не чакаючы адказу, разгарнуў наўздагад:

………
Голова моя безлица,
Безволоса, беспардонна,
в долгом ящике пылится,
черном, желтом и бездонном.

Что-то с нами происходит...
Скрестки мнений, судеб, линий...
Три прикрыв, четвертым водит,
Тем, который синий-синий...

— Божа! Якая прыгажосць! Хто гэта? — усклікнула Маша.

— Аляксей Жданаў. Другі геній, які жыў у гэтым двары. Вось ягоныя вокны на другім паверсе. Ён — адзін з найлепшых нашых паэтаў, толькі на яго ўсе забыліся.

І тут я чамусьці зноў узгадаў развітанне, цяпер ужо са Ждανавым. Народу тады ў ягонай кватэры сабралася шмат: сябры, сяброўкі, прыхільнікі. Усе былі шакаваныя нават не самой яго смерцю, а яе недарэчнасцю. Аляксей пахмяляўся з раніцы ў нейкім шалмане ў тым жа бараку, дзе жыў Кім. Потым заснуў за сталом. Побач стаяла выварка з кіслай капустай. Ён прыхінуўся, краем вываркі яму прыціснула шыю, і ён задыхнуўся ў сне.

Я памятаю, як паяўляліся ўсё новыя людзі. Падыходзілі да труны, ля якой сядзела ў чорным расціснутая горам маці, потым адпраўляліся на кухню, выпівалі чарку гарэлкі і моўчкі ішлі ў пад'езд паліць. На наступны дзень пасля пахавання ўсе зноўку сабраліся на памінкі. Спачатку ціха сядзелі і пілі. Але пасля чарговай чаркі раптам накаціла нягэтульная весялосць: усе загаманілі, пачуўся смех. Праз гадзіну-дзве ўсе параз'язджаліся працягваць у іншых месцах, быццам нічога не было, а калі і было, то лепей як найхутчэй на гэта забыцца.

## 27

Мы ехалі па апусцелым начным горадзе на кватэру да Сцёпіна. Калі каньяк скончыўся, Маша сказала:

— Ужо позна, мне пара.

Але ў ейным голасе не было жадання вяртацца дахаты. Тады я прапанаваў заехаць у начнік, купіць яшчэ пляшку і ненадоўга завітаць да Сцёпы. Я, зразумела, хацеў запрасіць Машу да сябе. Але там маглі чакаць.

Напярэдадні сустрэчы патэлефанавала Паліна і паведаміла, што ёй тэрмінова патрэбныя ключы ад машыны. Пасля разводу па суду ёй засталося другое «Вольва», таксама ўніверсал, але старэйшы. Ужо паўгода ён стаяў на прыколе каля «Шклатары», але сёння з нічога ніякага ёй пільна спатрэбілася машына. Я разумеў прычыну такой пільнасці. Пакуль мяне не было, Паліна ўсё ж патэлефанавала Машы, хацела сустрэцца, але тая адмовіла. Цяпер Паліна шукала любую нагоду, абы мяне дастаць.

— У цябе спатканне з ёю! — здагадалася яна, калі я прапанаваў аддаць ключы заўтра. — У колькі ты будзеш дома?

— Позна! Вельмі позна!

— Цудоўна! Тады я еду да цябе і буду чакаць ля пад’езда!

У тым, што яна менавіта так і зробіць, я амаль не сумняваўся. Гэта было ў стылі Паліны — на злосць мерзнуць на дварэ, каб чарговы раз даказаць, які я падонак. І чым пазней я вярнуся, тым болей зларадласці будзе ў ейных вачах. Але вяртацца я не спяшаўся.

Гэту двухпакаёвую сталінку на Ульянаўскай, куды мы накіроўваліся, Сцёпін здымаў. У яго ўласнай кватэры на Камсамольскай ішоў нейкі бясконцы рамонт. Хоць часова пражываў ён тут ужо даволі даўно, але стан качэўя адчуваўся ва ўсім. Пакоі былі спрэс пазастаўляныя скрынкамі і нераспакаванымі пачкамі кніг. Толькі прасторная кухня з вялікім круглым сталом здавалася месцам абжытым і ўтульным. Ледзь не штовечар Сцёпін прымаў тут гасцей. Заседжваліся дапазна, таму неабжытасць пакояў значэння не мела. Паваліцца ў цемры на ложак можна і сярод скрынак.

Сцёпа трапіў у падполле праз шчаслівы збег акалічнасцяў. Да гэтага ён працаваў у выдавецтве ЕГУ і, у прынцыпе, са сваёй філасофскай адукацыяй мог бы ўладкавацца ў бізнесе больш камфортна. Але выдаваць кулінарныя рэцэпты ці былых класікаў, што сядзелі ў вялікіх сталінскіх кватэрах і пісалі тоўстыя раманы пра вясковае жыццё, яму было не цікава. У літпадполлі ж брадзіла свежая кроў, настоеная, праўда, на ўжо досыць акамянелых дражджах сімвалізму ды футурызму. Тут паэты па-ранейшаму адпраўляліся *разбурыць Парыж* ды бадаліся між сабою *рогамі гор*. Неяк сышоўшыся з паэтам Слівовіцай, Сцёпін зразумеў, што ніша выдаўца літаратуры для гета вакантная. Вялікіх грошай на ёй, праўда, не заробіш, але сам працэс абяцаў не быць нудным. А Сцёпа, які ў душы нязменна заставаўся сапраўдным авантурыстам, люта ненавідзеў нуду. Таму хутчэй стаў бы бадацца рагамі з паэтамі, чым прадаваць горы макулатуры. Пачаў ён з малога, з выдання кніжак таго ж Слівовіцы, але паступова яго бізнес разросся. Ён нават адкрыў у «Шклатары» ўласную кнігарню, якая пакуль, праўда, прыбытку не прыносіла, а наадварот, усё болей грошай цягнула.

Калі мы паявіліся на парозе сцёпінскай кватэры, ён, узрадаваўшыся каньяку, дастаў са старамоднага буфета разнабойныя чаркі і ўзяўся распытваць пра паездку ў Вільню. Сцёпа, натуральна, ведаў, навошта я туды ездзіў. Праз месяц меліся прайсці выбары, таму ў старых цэнтрах беларускай рэвалюцыі: Варшаве, Кіеве, Празе і Вільні — увесь час штосьці адбывалася. Я хоць да класа прафесійных рэвалюцыянераў не належаў, аднак, калі наспявала чарговая кампанія, успаміналі і пра культуру.

— Ну і як? Што там кажуць? — пацікавіўся Сцёпін, разліўшы па першай.

— Нічога не кажуць. І так усё ясна. Будуць каранаваць! — аджартаваўся я.

— Карону ўжо адлілі?

— Ага, ганцы ад Папы чакаюць на польскай мяжы! Так што хутка будзе наш Імператар у законе. Праўда, на золаце зэканомілі — выразалі з кардону.

У перакладзе на звыклую мову гэта азначала: усе гатовыя прызнаць гэтыя выбары, самаабвешчанага Імператара ўзаконіць. Праўда, каранаваць каронай з кардону, каб сваё месца ведаў. Заставалася няшмат — утрымацца ў межах прыстойнасці, стварыць хоць які выгляд выбараў. Па сутнасці, гэта быў грандыёзны аванс, з надзеяй, што ў будучыні яго адпрацуюць. Еўропа давала Імператару шанец. Але і выбару не было. Пакінуць яго аднаго ў вайне з Масквою было рызыкоўна. Усе разумелі: параза — гэта здача краіны, для якой вырвацца з рук крамлёўскай братвы магчымасці ўжо не будзе.

— А што кіно? Калі экспертны? — змяніў тэму Сцёпін.

— Заўтра а трэцяй у Міністэрстве культуры!

— Канаваленка сёння заходзіў. Хвалюецца. Кажа, галоўнае, каб ты зноўку, як мінулым разам, чаго-небудзь не ляпнуў!

Выпраўляючыся на спатканне з Машай, я ведаў, што вярнуцца трэба не позна. Заўтра вырашаўся лёс нашага фільма. Таму раніцай я мусіў быць у поўнай гатоўнасці: бадзёры, паголены, свежы і прыстойна апрануты.

Выпіўшы з намі некалькі чарак, Сцёпін адправіўся спаць. Мы засталіся на кухні ўдваіх. Гадзіннік паказваў ужо палову на трэцюю ночы. Маша паднялася з-за стала і, крыху хіснуўшыся, накіравалася ў лазенку. Калі яна выйшла, спадніцы на ёй не было. Адны чорныя калготы і мігаценне ў вачах. Мы павольна апусціліся на падлогу. Здавалася, яна гатовая аддацца тут і зараз — пад круглым сталом сцёпінскай кухні. Я падняў яе на рукі і панёс у спальню. Мінуўшы канапу, на якой ціхамірна спаў Сцёпін, мы шмыгнулі

ў наступны пакой і ўпалі на ложак побач з вялізнай кардоннай скрынкай. У цемры я асцярожна паставіў скрыню на падлогу і прычыніў за намі дзверы.

## 28

— Тааак! Усё прааавільна! — сарвала коўдру Паліна.

Мы голыя ляжалі ў сцёпінскай спальні. Спрасонку я не адразу паверыў, што гэта можа быць праўдай. Маша, нічога не разумеючы, глядзела на мяне вялікімі здзіўленымі вачамі, а па пакоі кружыла Паліна і істэрычна выяргала праклёны:

— Падонак! Скаціна! Ілгун! Навошта ты ўвесь час хлусіш? Ты ж сказаў, што будзеш дома начаваць! Выдатна! Цудоўненька я вас застукала! Своечасова зайшла! Спяць у абдымку! Божа, якая ідылія! Душагуб! Якое ты маеш права гэтак здзекавацца з мяне! Ты — маральная пачвара! Я замерзла! Я чакала цябе каля пад’езда ўсю ноч! Прыўкрааасна! Замічааацельна! Я так і знала! Я адчувала!

Не, гэта была не галюцынацыя. Не белыя коні. Не сон, але і не ява. Каб быць рэальным, гэта падавалася занадта неверагодным. Гэта было нешта такое паміж сапраўдным і ўяўным — насланнё. Я не разумеў, як яна тут апынулася, як даведалася, што мы на кватэры ў Сцёпіна. У рэшце рэшт, хто адчыніў ёй дзверы? Але да мяне напэўна дайшло: увесь учарашні рамантычны вечар, паэзія, лірыка, прагулкі па горадзе пад вялікай фіялетавай зоркай, наша першая з Машай ноч — усё ў імгненне ператваралася ў дурное пахмелле!

Падняўшы з падлогі коўдру, я скрозь зубы працадзіў:

— Выйдзі адсюль!

— Я выйдзі? Нікуды я не пайду! — Паліна скінула з крэсла кучу сцёпінскага рыззя і з выклікам уселася насупраць.

Божа! Які я ідыёт! Навошта? Навошта я гэта зрабіў? Навошта я пераспаў з ёй тры тыдні таму! Навошта здарыўся гэты дурны рэцыдыў, калі ўвечары я прывёз Паліну з «Кароны» і дапамог данесці торбы да кватэры. У калідоры яна павярнулася да мяне сваёй сексуальнай задніцай, абцягнутай джынсамі, і я не стрымаўся. Рэцыдывы здараліся ў нас і раней. Але гэты быў адназначна памылкай.

— Паліна! Выйдзі з пакоя! — я паспрабаваў хоць бы з выгляду захаваць спакой. — Якое права ты маеш лезці ў маё асабістае жыццё?

— Якое права ты маеш на асабістае жыццё?

Я з жахам паглядзеў на Машу. Яна ляжала, прыкрыўшы вочы, быццам нічога не здарылася. Але па дрыжанні павек я разумеў: унутры ў яе ўсё калоціцца. Яна зараз вагаецца паміж жаданнем застацца або паслаць мяне на хуй і сысці назаўжды.

— Я нават рада, што яна тут! — заўважыўшы мой погляд, заявіла Паліна. — Я ўвогуле рада за вас! Двое алкаголікаў — цудоўная пара! Але я мушу Машы сёе-тое распавесці, каб яна ведала, што яе чакае.

З усмешачкай закінуўшы нагу на нагу, Паліна пачала выкладаць гісторыю маіх грахоў за ўсе гады, што мы правялі разам. Гэта была менавіта тая самая патэтычная араторыя, якую яна збіралася выканаць Машы, калі я ад'язджаў у Вільню. Болей прыдатнага моманту для гэтага цяжка было падабраць. Мы моўчкі ляжалі і слухалі. Спрачацца падавалася бессэнсоўным. Пачні я нервавацца, апраўдвацца, абвяргаць, то ўсё, пра што яна казала, выглядала б праўдай. Я адчуваў: зараз толькі мой поўны спакой дапаможа ўтрымаць Машу. Варта мне ўпасці ў істэрыку, сарвацца, закрычаць — яна ўстане і назаўсёды знікне.

Натуральна, спіс грахоў быў даўжэзным. Адзін пералік без рэмарак і спрэчак пагражаў зацягнуцца. Я зазірнуў у тэ-

лефон — быў пачатак дзявятай. Да экспертнага савета заставалася яшчэ болей за шэсць гадзін. Галава ныла з пахмелля. Усё ж такі выпілі мы напярэдадні нямала. Але галоўнае — бяссонная ноч. Заснулі мы толькі пад раніцу.

— Не ўнікай ў гэты ідыятызм! Давай яшчэ троху паспім! — я павярнуўся да Машы. Мне падалося, мой знешні спакой крыху перадаўся і ёй.

Неўзабаве першы шок мінуў, і я адчуў, як страшэнна хочацца спаць. Пад манатонны голас Паліны свядомасць патанала ў лёгкай дрымоце. Але адключыцца зусім не ўдавалася. Пару разоў, не вытрымаўшы, я нават млява паправіў Паліну. У раздзеле «Асоба гвалтаўніка» з абыякавасцю заявіў, што жанчын даўно не б'ю. Магу толькі рвануць ім кашулю на грудзях. Паліна тут жа прыкрылася паказаннямі маёй былой палюбоўніцы Вольгі, якую я, маўляў, спрабаваў душыць. На што давялося запярэчыць: «Я яе не душыў, а толькі тужэй зацягнуў шалік на шыі».

У раздзеле «П'янства і алкагалізм» я, пазяхнуўшы, выставіў сустрэчны пазоў: «А хто раструшчыў на маёй галаве пустую бутэльку з-пад віна ў бары гатэля «Беларусь»?» На што Паліна нявінна заявіла, што толькі хацела мяне абудзіць.

Як і варта было чакаць, найбольшая колькасць прэтэнзій знаходзілася ў раздзеле «Маёмасць ды каштоўныя паперы». Тут Паліна мела найдаўжэйшы спіс крыўдаў, на якія мне не было чаго запярэчыць. Я толькі спытаў: «А што ж ты ў той вечар на кухні ў Чарнагорава адразу не зразумела ўсё?»

Калі яна перайшла да раздзелу «Спорт і здароўе» ды ўзялася абмяркоўваць мой нядаўні намер зрабіць пластычную аперацыю, каб памаладзець гадоў на дзесяць, у пакой увайшоў Сцёпін.

— Паліна, ну чаго ты тут расселася? Дай людзям апрануцца! — твар Сцёпіна выглядаў памятым. Відаць, ён толькі прачнуўся.

— Навошта ты яе ўпусціў? — холадна запытаў я.

— Я ўпусціў? Нікога я не ўпускаў! — пачаў быў апраўдвацца Сцёпа. — У дзверы пазванілі, я адчыніў! А яна, як кошка, — шмыг паміж ног!

Я зразумеў, што ён не хлусіць. Калі Паліна куды прэцца, яе цяжка спыніць.

— Дай нам апрануцца! — спакойна папрасіў я яе яшчэ раз.

— Добра! — яна ўстала. — Працягнем на кухні!

Калі мы выйшлі, Паліна сядзела за сталом. Побач стаяла недапітая напярэдадні пляшка, а ля пліты мітусіўся з чайнікам Сцёпін. Я паглядзеў на гадзіннік — палова на дзясятую. Прысеўшы, я напоўніў дзве чаркі. Дзень з раніцы не задаўся, таму можна было выпіць, не чакаючы заходу сонца.

— Будзеш? — паглядзеў я на Машу.

— Не!

— Трэба! — сцвердзіў я, разумеючы, што ёй, як і мне, зараз неабходна зняць стрэс. — Вып'еш? — перавёў я позірк на Паліну.

— Так. Налівай!

Сцёпін, спаслаўшыся на справы, ад каньяку адмовіўся, а мы ўтраіх выпілі і моўчкі запалілі.

— Паліна, што трэба зрабіць, каб ты знікла назаўжды? — прыпыніў я доўгае маўчанне.

— Дзевяць тысяч даляраў, — тут жа адгукнулася яна.

— Чаму дзевяць? Яшчэ нядаўна было пяць.

— Пяці мне не хопіць! Я ўжо ўсё разлічыла!

— Добра! Ты атрымаеш іх, як толькі я здам сцэнар! — амаль з абыякавасцю пагадзіўся я. Зараз я быў гатовы аддаць усё, абы яна пакінула нас з Машай у спакоі.

Паліна, добра гэта ўсведамляючы, трымала цяпер мяне на кручку. Яе апетыты раслі. У яе паявіўся козыр — Маша.

Паліна адчувала, як я баюся страціць яе. А яшчэ адна такая сцэна — і Маша знікне.

— Добра, яшчэ па адной, выклікаем таксоўку і за працу! У нас сёння вырашальны дзень! — сказаў я, разліваючы па чарках.

— Што я, дурная, проста так з'ехаць? — раптам сказала Паліна. — Пішы распіску, што ты вінен мне дзевяць з паловай тысяч даляраў!

— Ты што, за ідыёта мяне трымаеш? А калі сцэнар заваляць? Я і так у пазыках. А буду яшчэ вінен табе дзевяць з пало... Чаму ўжо з паловаю? Пяць хвілін таму было дзевяць. Адкуль яшчэ пяцьсот нарысавалася?

— Я недакладна падлічыла! А даўгі твае мяне не хвалююць! У рэшце рэшт, у цябе ёсць што прадаць: кватэра, машына! — холадна адгукнулася Паліна.

— Так! Усё. Хопіць! Выклікаем таксоўку! Час збірацца на экспертны! — я схапіў пачак «Кэмела» і ўбачыў, што цыгарэты скончыліся. — Чорт, яшчэ і паліць няма чаго!

— Выдатна! Калі зараз жа не напішаш распіску, я паеду ў Міністэрства культуры і ўчыню там скандал! — заявіла Паліна.

Я сцяў зубы, але нічога не адказаў. Маё цярпенне зноў вагалася на мяжы. Я ўзяў тэлефон і выклікаў да Сцёпіна дзве машыны. Адну — для нас, другую — для Паліны. Праз пяць хвілін таксоўкі пад'ехалі, і мы ўтраіх спусціліся ў двор. Мы з Машай селі ў першую, Паліне я прапанаваў паехаць на другой машыне. Але яна моўчкі адчыніла дзверы і заскочыла ў нашу таксоўку.

— Паліна! Ты паедзеш дадому на іншай машыне! — раздражнёна ўсклікнуў я.

— Я паеду з табою на экспертны!

Мы з Машай выйшлі і накіраваліся да другой таксоўкі. Паліна — следам за намі. Мы вярнуліся да першай машы-

ны. Хуценька заскочыўшы ў заднія дзверы, я націснуў на кнопку пярэдніх, каб Паліна не змагла іх адчыніць.

— Паехалі хутчэй, — кінуў я тут жа таксісту.

Але Паліна ўжо ўчапілася ў дзвярную ручку і нервова тузала яе на сябе.

— Можа, вы спачатку разберацеся паміж сабой, а не будзеце мне тут ручкі ламаць! — незадаволена прабурчаў таксіст.

Я выйшаў. Разборкі з угаворваннямі па-добраму, мацюкамі і торганнем ручак доўжыліся яшчэ хвілін дзесяць. Потым не вытрымаў кіроўца другога таксі — развярнуўся і паехаў. Наш таксама ўжо даўно хацеў уцячы, але Паліна абедзвюма рукамі моцна трымала дзверцы ягонай машыны. Нарэшце, злавіўшы момант, калі мы адышлі, ён рэзка даў па газах і таксама знік.

Я паглядзеў на гадзіннік. Была палова на адзінаццатую. Страшэнна хацелася паліць.

— Ну што ж, — стомлена вымавіў я, — раз'едземся па хатах на трамваі.

Мы выйшлі ўтраіх на Чырвонаармейскую, і я зайшоў у гастраном на рагу купіць цыгарэт. Крыху падумаўшы, я ўзяў у вінным аддзеле яшчэ пляшку «Версалю» і накіраваўся да касы. Калі падышла чарга, я пацягнуўся ў кішэню па грошы і аслупянеў. Кішэня была пустая. Усё, што ляжала ў ёй: грошы, пашпарт з шэнгенам, страхоўкі, правы, тэхпашпарты на абедзве машыны, ключы — усё, усё прапала. Выпасці нічога не магло, кішэня была на замку. Прычына заставалася адна — Паліна.

— Вы будзеце плаціць? — пакасілася на мяне касірка.

Пакорпаўшыся у кішэнях, я знайшоў троху грошай, расплаціўся і ў шаленстве выбег на вуліцу.

— Усё! Усё зараз жа вярні! Чуеш, ты, дрэнь!

Мінакі ля гастранома здзіўлена на нас абярнуліся.

— Давай! Давай! Закаці мне сцэну! Няхай Маша ўбачыць твой сапраўдны твар! А яшчэ лепей — стукні! — здзекліва агрызнулася Паліна і рушыла да трамвайнага прыпынку.

Я тут жа падскочыў і ўчапіўся ў торбу, што вісела ў яе на плячы. Паліна істэрычна завішчала і пацягнула торбачку на сябе. Я разумеў: усё, што адбываецца зараз, выглядае з боку жахліва. Нейкі мужык ля гастранома, з гучнымі мацюкамі і крыкам: «Аддай!» — спрабуе вырваць з рук бабы, што вішчыць на ўсю вуліцу, торбу з грашыма. Калі б побач апынуліся мянты, яны б прынялі мяне за рабаўніка. Але ў гэтым шаленстве я ўжо нічога не мог з сабою зрабіць.

— Дайце торбачку мне! — знянацку ўмяшалася Маша. — У мяне ён не будзе вырываць!

Паліна тут жа зняла торбачку з пляча і падала. Дакументы напэўна знаходзіліся ў торбе, але вырываць яе з Машыных рук я, вядома, не стаў.

— Што ж, добра! — працадзіў я. — Цыгарэты і каньяк у нас ужо ёсць. Вяртаемся да Сцёпіна!

## 29

— **А**, зноўку вы? Усё ніяк расстацца не можаце? — весела ўсклікнуў Сцёпін, калі мы ўтраіх з'явіліся на парозе ягонай кватэры. — Ну праходзьце, праходзьце, госцікі дарагія!

Я выставіў пляшку на стол, і мы ўселіся зноў.

— Будзеш? — запытаўся я ў Сцёпы, які па-ранейшаму завіхаўся ля пліты.

— Ай! Давай! — махнуў ён рукою. — Налівай! Справы пачакаюць!

— Паліна! Вярні дакументы! — ужо спакойна паўтарыў я, калі мы выпілі па першай.

— Я што, ідыётка? Пішы распіску! Дарэчы, дарма ты на торбу накінуўся, толькі ручку парваў! Я іх у іншым мес-

цы схавала! А парваную торбу я таксама ўключу ў рахунак! Так што давай! Ты мне — распіску, я табе — дакументы і ключы. Іначай я еду з вамі ў Міністэрства культуры і ўчыняю там скандал!

Гадзіннік ужо паказваў палову на дванаццатую. Я моўчкі ўстаў, выйшаў у суседні пакой і набраў Канаваленку:

— Усё кідай, бяры таксоўку і тэрмінова дуй да Сцёпіна! Потым усё растлумачу. Тут поўны трындзец! Паліна збіраецца ехаць на экспертны і ўчыніць скандал. Ты мусіш на яе паўплываць!

У адказ Канаваленка абазваў нас прыдуркамі, сказаў, што толькі ўстаў, але зараз збярэцца, прыме душ і прыедзе. Я ж ні пагаліцца, ні надзець чорны пастарскі гарнітур да экспертнага ўжо відавочна не паспяваў. Выйшаўшы з пакоя, я нечакана заспеў Машу каля дзвярэй.

— Я знікаю! — кінула яна. — Не магу болей гэтага трываць!

— Маша! Прашу цябе, не сыходзь! Даруй, што так атрымалася! Пачакай! Я зараз усё ўладжу! — я схапіў яе за руку і пацягнуў назад на кухню.

Уладкаваўшы Машу ў крэсле, я суха сказаў:

— Добра! Хрэн з табою! Сцёпа, нясі чысты аркуш!

— Два! — дадала раптам Паліна.

— Навошта два?

— Мне патрэбна другая распіска на чатыры тысячы даляраў.

— Гэта за торбу?

— Гэта на ўтрыманне дачкі да паўналецця.

— І тады ты знікнеш назаўсёды? І ніколі болей не будзеш трахаць нам мазгі? — я ўважліва паглядзеў на Паліну.

— Мне болей аб цябе нічога не трэба. Трынаццаць з паловаю тысяч мне хопіць. Калі хочаш, я пры сведках дам слова! — нявінным галаскам пралепятала яна.

— Добра, нясі дакументы!

Сцёпін паклаў на стол два аркушы, і я склаў дзве распіскі. Мне было ўжо ўсё адно. Калі б яна запатрабавала вэксаль на мільён, я б і яго падмахнуў, толькі дзеля таго, каб Маша засталася. Схаваўшы паперы ў кішэню, Паліна тут жа павесялела. Мне падалося, што ўсе адчулі палёгку. Напружанне, што вісела на кухні ўсю раніцу, сышло. Мы выпілі за сканчэнне вайны, за кабальную для мяне рыжскую мірную дамову, і Паліна ўзялася даставаць з тайнікоў дакументы.

Высветлілася, што яна пахавала іх па ўсёй кватэры. Пашпарт выцягнула з-пад дыванка, правы — з буфета, штосьці дастала са сцёпінскіх скрынак. Калі працэдура перадачы скончылася, я раптам выявіў, што не хапае бірулькі сігналізацыі ад новай машыны.

— Болей нічога не было! Я аддала ўсё! — заявіла на гэта Паліна.

Учатырох мы пачалі корпацца ў пошуках бірулькі па розных кутах, але так нічога і не знайшлі. Я паглядзеў на гадзіннік. Была ўжо палова на другую, і я набраў Канаваленку.

— Ужо ў двары! — буркнуў ён у адказ.

Праз хвіліну пачуўся званок.

— Ну што, сямейка Джонсанаў, разабраліся? — Канаваленка быў свежы, бадзёры, вясёлы і нават адмовіўся ад каньяку.

Да экспертнага заставалася троху больш за гадзіну. Заехаць дадому я ўжо не паспяваў, таму мы выпілі яшчэ. Паліна парадкам захмялела і ўзялася нахвальваць мяне перад Машай, маўляў, не такая я ўжо і скаціна, ёсць і добрыя бакі. Спыніўшыся на сексе, яна прызнала гэта адзіным, што нас так доўга трымала разам. Потым яна дала Машы пару каштоўных інструкцый, як са мной абыходзіцца, каб заўчасна

не зламаць. Дадала, што тавар звароту не падлягае, пакінула адрас гарантыйнай майстэрні, выпіла яшчэ каньяку і ўкаціла. А мы адправіліся ў Міністэрства культуры.

## 30

Яны сядзелі тварам у твар — Батурын і дама з ідэалагічнага аддзела Канцылярыі. У былыя часы ён бы яе зжэр, нават не папярхнуўшыся. А цяпер яны ўсміхаліся і глядзелі адно на аднога вачамі двух бультэр'ераў, што застылі перад боем. Зараз ён быў простым дырэктарам «Партызанфільма», а за ёю стаяла ўся Канцылярыя.

Батурыну як паветра патрэбны быў гэты фільм. Не за мастацкія яго вартасці і нават не дзеля таго, каб загрузіць працай «Партызанфільм». Усё выглядала прасцей. Ён ведаў, што ў яго засталося ўсяго два гады. Пра тое, што Батурына здымуць, хадзілі чуткі з вясны. А летам Імператар нечакана склікаў нараду па пытаннях развіцця кінамастацтва. Набліжаліся выбары, таму ледзь не штотыдзень ладзілі вялікае публічнае тэлешоу па кожнай галіне вялізарнай Імперскай гаспадаркі.

Калі з кінастудыі запрасілі ўсяго некалькі чалавек — дырэктара, галоўнага рэдактара Надзею Пятроўну, Канаваленку ды яшчэ пару намеснікаў— усе сказалі: «Справа — дрэнь: Батурына будуць здымаць. Публічна выхвашчуць дзеля пастраху, а потым адправяць у адстаўку». Лупцоўка была, але, на здзіўленне ўсіх, яго не знялі. Імператар даў яму апошні шанец — два гады, каб вырасціць канскага кныра: зрабіць кіно, якое будзе і прыбытковым, і фестывальным. Батурын зрабіў стаўку на Канаваленку. Ён верыў, што той зможа. Таму зараз ён мусіў прапхнуць гэты фільм.

Даму, што сядзела насупраць, праблемы Батурына мала хвалявалі. Яе цікавіла іншае. Не дапусціць прамашкі

ў ідэалогіі, каб з ганьбаю не знялі яе. З усіх, хто засядаў у савеце, толькі яна была джокерам, мела права на вета, таму заўсёды выступала апошняй. Калі б сябры савета загадзя ведалі ейны настрой, многія выказваліся б іначай. Але яна з непарушным спакоем на твары выслухвала рашэнні дам і вальтоў, а ў канцы клала на стол сваю карту. Як бы ні раскладаўся пасьянс, якія б тузы ў гульні ні круціліся, усе ведалі: джокер ўсё адно ў яе.

На першым пасяджэнні менавіта так і адбылося. Як бы Канаваленка ні запэўніваў, што гэта я ўсё сапсаваў сваёю прамовай у абарону тэрору, мой выступ не меў ніякага значэння. Ён толькі схіліў тых, хто не ведаў, што трэба сказаць, а выслухаўшы, раптам даспеў. Вядома, мая прамова была памылкай. Яна расставіла акцэнты, якія лепей было б прыхаваць. Але я паспрабаваў апраўдаць героя.

Сутнасць зводзілася да пытання, ці маральна забіць за народ. Мінулым разам, ледзь пачаўшы, я заўважыў, як Батурын апусціў вочы і прыкрыў твар рукамі. Як гулец дасведчаны ён зразумеў: гэта правал. Але я ўжо не мог спыніцца, адчуўшы сябе адвакатам на працэсе нарадавольцаў. Чым далей я прамаўляў, тым меней у нас заставалася шанцаў, тым мацнейшым рабілася маё жаданне пераканаць прысяжных у адваротным. Але тут да іх дайшло, пра што кіно. І нават тыя, хто раней на мастацкай радзе сцэнар нахвальваў, пачалі яго далікатна таптаць. Тым не менш галасоў «за» ўсё адно набіралася болей. Фільм быццам праходзіў. Але пад канец пасяджэння дама з Канцылярыі нечакана выцягнула джокер з калоды і заявіла: «Я — супраць!»

Правал быў, праўда, не канчатковы. Сцэнар адправілі на дапрацоўку і прызначылі паўторны савет. Ён вырашаў усё. Калі фільм адхілялі, то цяпер назаўжды. Але гэтым разам я не хацеў выступаць адвакатам тэрору. Мне да зарэзу патрэбныя былі грошы.

Калі мы прыехалі, пасяджэнне ўжо пачалося. Як на зло, у горадзе зноў былі заторы, таму мы хвілін на пятнаццаць спазніліся. У таксоўцы мы яшчэ выпілі, потым выскачылі каля міністэрства, а таксіст павёз Машу дахаты. Я быў п'яны, памяты, няголены, а з кішэні тырчала недапітая пляшка «Версалю». Калі мы з Канаваленкам увайшлі ў залю, Надзея Пятроўна, адразу заўважыўшы ўсё, усадзіла мяне далей ад стала галоўных гульцоў і з трывогай прамовіла:

— Галоўнае — маўчыце! Усё, што трэба, мы скажам самі!

Але я нічога і не збіраўся казаць. Зараз гэты фільм быў патрэбны мне больш, чым паветра Батурыну і Аўстэрліц Канаваленку. Ад яго залежала ўсё.

Старшыняваў за сталом, як звычайна, дырэктар дэпартамента кінематаграфіі Хвастоў. Казалі, праўда, што будзе сам Дуніловіч, але міністр чамусьці не прыйшоў. Па інтанацыі выступоўцаў я адразу адчуў, што карты кладуцца за нас. Тыя, хто мінулым разам сцэнар інтэлігентна прытоптваў, зараз хвалілі. Казалі, што ён істотна перапрацаваны з улікам заўваг савета. Я сапраўды гэтак змяніў фінал, што з пункту гледжання права герою не было чаго прад'явіць. Фармальна праблема быццам бы знікла, але гэта быў толькі адвакацкі трук, які сутнасці не змяняў. Дама з Канцылярыі, вядома, разумела гэта. Выслухоўваючы выступоўцаў, я з нецярпеннем чакаў, што скажа яна.

Калі нарэшце да яе дайшла чарга, яна адхілілася ад усіх доўгаю паўзай і суха заявіла:

— Я не буду галасаваць за! Але не буду і супраць! Я ўстрымаюся!

Мне страшна захацелася паліць. Я выйшаў на лесвіцу, дастаў цыгарэту і глытнуў каньяку.

— Віншую! Віншую! Мы перамаглі! — падляцела да мяне Надзея Пятроўна, не паспеў я вярнуцца ў залу. — Усё. Заўтра Батурын падпіша загад, і мы ў запуску!

— Ну бачыш? Геній! — падаспеў Канаваленка. — Вось як мусіць прыходзіць мастак на пасяджэнне экспертнага савета. У дупу п'яны, не паголены, у куртачцы і з пляшкаю ў кішэні! А то мінулым разам прыйшоў у чорным гарнітуры! Макіявелі хрэнаў! Адвакат тэрору! Сатанізм, тваю мацы! Вось і завалілі!

Усе пачалі разыходзіцца, а мы з Канаваленкам узялі таксі і адправіліся ў «Шклатару». Па дарозе заехаўшы ў краму, купілі яшчэ каньяку, віскі, шампанскага, нейкай закускі. Хоць мяне ўжо ладна хістала, мы мусілі адсвяткаваць гэты дзень. Тым болей, у «Шклатары» чакаў наш кіношны актыў.

Што было далей, я прыгадваю кепска. Застаўся ў памяці адно букет руж, які я адправіў Машы. Я ведаў дакладна пад'езд, у якім яна жыве, але не ведаў нумару кватэры. Набраўшы прыяцеля, я папрасіў прабіць яе адрас па базе. Потым сказаў Колю, майму палкавому ад'ютанту, што трэба зрабіць дастаўку. На студыйным аўтобусе мы заскочылі ў кветкавую краму, дзе я купіў сем вялікіх белых руж. Калі мы пад'ехалі да дома, я застаўся ў машыне, а Коля падняўся наверх. Адчыніў дзверы, напэўна, бацька. Чамусьці незадаволена сказаў, што кветкі не возьме. На што Коля адказаў, што яго не ябе, ён — усяго толькі дастаўка. Уручыў букет і пайшоў.

Потым я прымаў віншаванні. Мы пілі, будавалі планы, вырашалі, каго з зорак запрасіць на галоўныя ролі. Я быў у эйфарыі. Тлусты канскі кныр ужо ўзбіраўся ўгару па чырвонай фестывальнай дарожцы. Далей я перакуліў яшчэ адну чарку ды следам сам перакуліўся ў цемру.

## 31

— Прачнуліся! Вось і цудоўна!

Прыадплюшчыўшы вочы, Ян няясна разглядзеў перад

сабою ўсё тую ж элеганцкую чарку, што ледзь прыкметна падрыгвала крыштальна чыстай наліўкай.

— Вашамосць учора зноў ладна выпілі! Дваровыя знайшлі вас у карчме старога Ёселя, — з насмешкай ў голасе вымавіў Генрых, паднёсшы чарку бліжэй. — Пачастуйцеся, ваша міласць, дзеля аднаўлення ранішняй бадзёрасці духу.

Злёгку прыўзняўшыся, Ян абмацаў свае валасы на галаве, потым неўразумела зірнуў на Генрыха, перавёў погляд на Карпу.

— Чортаў ром! — не дакрануўшыся да чаркі, Ян пацягнуўся да куфля з квасам на століку. Прагна яго спустошыўшы, ён зноўку ўзняў вочы на Генрыха. — Чаму вы не распавялі мне пра золата Казіміра?

— Разумееце, вашамосць, — закінуўшы рукі за спіну, аканом няспешна прайшоўся па пакоі, — існуюць рэальнасць уяўная і рэальнасць, дадзеная нам у адчуваннях. Паколькі ніхто золата Казіміра не бачыў, я лічу гэта плёнам фантазій.

— Я бачыў учора залаты Казіміра на ўласныя вочы!

— Злітуйцеся, вашамосць! Ці мала якому жартаўніку прыйдзе ў галаву адліць колькі манет, каб пасеяць у людзёх цьмяныя домыслы. Маскоўскае золата Казіміра — усяго толькі легенда, так бы мовіць, паданне. Праўду вам кажу, не верце! Няма яго!

— Падайце халат! — Ян узняўся з ложка. — І загадайце запрагаць экіпаж! Я еду да Марысі.

— Вашамосць, мая вам парада, не варта гэтага рабіць! — Генрых працягнуў Яну халат. — Гэта сапраўдная ведзьма! Яна загубіла Станіслава. Таму ніхто ў Камаедах нават не смее ўслых прамаўляць яе імя.

— Што ж, яна — Юдыф, што адсекла галаву Алаферну?! Карпа, палі мне! — з насмешкаю запытаўся Ян, схіліўшыся над умывальнікам.

— Горш! Саламея, якая зачаравала Ірада!

— Саламея? Што ж, тым болей хачу на яе зірнуць!

— Мяркую, яна вас не прыме. Марыся надта пабожная, а Камаеды для яе — увасабленне Садома з Гамораю. Таму наўрад ці яна стане з вамі размаўляць!

— Набожная вядзьмарка! Вы мяне заінтрыгавалі, пан Генрых! — Ян пацягнуўся за ручнікам. — Аднак яшчэ заўчора яна была тут.

— Яна прыязджала развітацца з вашым бацькам. Ці бачылі вы яе твар? Тут усё і ўсе ёй ненавісныя!

— Досыць, пан Генрых! — холадна абсек Ян. — Я сам вырашу, куды мне ехаць і з кім размаўляць! Загадайце, каб Марка запрагаў!

— На жаль, гэта немагчыма.

— Чаму немагчыма? — нецярпліва запытаўся Ян, пазіраючы на свае валасы ў люстры.

— Як жа можа запрэгчы той, каго няма?

— Маркі няма? Дзе ж ён? Хіба яшчэ не вярнуўся ад Ёселя?

— Забілі Марку. Сёння ноччу.

Ян акамянеў каля люстра з грабеньчыкам у руцэ.

— Як забілі? Марку забілі?

— Сёння ноччу. Сабакі загрызлі.

Генрых падышоў бліжэй.

— Бачыце, вашамосць, — спакойна вымавіў ён, — Не чалавекам Марка быў, а ваўком. Вось сабакі яго і загрызлі!

— Як так ваўком? Што вы вярзеце? А як жа рэальнасць, дадзеная нам у адчуваннях?

— Нянавісць, васпане! Ад нянавісці хто заўгодна зробіцца ваўком. Хоць гісторыя гэта даволі дзіўная. Ведаеце, калі Марка быў яшчэ маладым, ён горача закахаўся ў дачку багатага млынара. Але Марка быў бедны, дык млынар аддаў дачку за яго найлепшага сябра, чалавека больш за-

можнага. Як прыйшоў дзень вяселля, усе радаваліся, а Марка панура сядзеў за сталом ды адно глядзеў на ўсіх воўчым позіркам. Малады гэта заўважыў і прапанаваў падняць чарку за іх даўняе сяброўства. І ўявіце, выцягвае Марка руку з-пад стала, а яна ўся густой поўсцю парослая. Тут, вашамосць, нехта з гасцей як закрычыць: «Воўк! Людцы, воўк за сталом!» Узняўся страшэнны пярэпалах: хто кінуўся ўцякаць, хто за кол схапіўся. А Марка выскачыў ды пабег у лес.

Генрых падаў Яну камзол.

— Доўга Марка ваўком па лясах бадзяўся, але да зграі так і не прыбіўся. Не прыняла яго зграя. Думкі ж і пачуцці ў яго засталіся чалавечыя. А адным вечарам прабраўся ён з роспачы ў касцёл, дзе акурат пачалася літургія. Выйшаў ксёндз на амбон і стаў распавядаць пра сем смяротных грахоў. Як, васпане, дайшоў ён да Іга — гневу, пачулася тужлівае выццё. Усе азірнуліся, а з цемры два вокі гараць. З крыкамі: «Ату яго! Воўк у касцёле!» — кінуліся яго гнаць. Толькі ксёндз раптоўна спыніў парафіян, паглядзеў Марку ў вочы і сказаў: «Нават пярэварацень можа ізноў зрабіцца чалавекам, калі добрымі будуць справы яго!»

— І што ж, ён ізноў зрабіўся чалавекам? — павярнуўся да Генрыха Ян.

— Менавіта так, вашамосць! Менавіта так. Аднаго дня сустрэў ён на лясной дарозе Плачку. «Ведаю, — кажа яна, — ты хочаш вярнуць сабе чалавечае аблічча. Пойдзеш ноччу на цэментар за Лісінай гарой. Там за агароджаю ёсць адзінокая магіла без крыжа. У ёй знойдзеш сваё новае цела. Раскапаеш, ляжаш у труну і будзеш галасіць, пакуль ізноў не абернешся ў чалавека». Капаў Марка ўсю ноч. А на золку, як пачалася залева ды ўдарыла маланка, раскрыў ён труну, упаў у магільную жыжку ды вусцішна завыў.

Генрых задуменна замоўк, потым зірнуў Яну ў вочы і завяршыў:

— Раніцою ён вярнуўся ў вёску ўжо чалавекам.

## 32

Праліўны дождж ішоў за акном ужо другую гадзіну. Ехаць верхам у Скірмонты зараз сэнсу не мела. Ян сядзеў ў бібліятэцы і з цікавасцю разглядаў старажытную гравюру ў тоўстым пацёртым фаліянце. На ёй была выява чорнавалосай дзяўчыны з блюдам ў руках, на якім ляжала адсечаная галава старога.

— «Саламея. Юдэйская прынцэса, — прачытаў Ян подпіс да гравюры. — Дачка Ірада Баэта, у далейшым царыца Халкіды. Танец юнай Саламеі так зачараваў Ірада Антыпу, што ён пагадзіўся выканаць любое яе жаданне. Саламея запатрабавала забіць Яна Хрысціцеля. Ёй была паднесена ў дар яго галава».

Знянацку рыпнулі дзверы, і Яну падалося, што ў пакой хтосьці ўвайшоў. Ён азірнуўся, але, нікога не ўбачыўшы, павярнуўся назад і здрыгануўся. Перад ім стаяў Карпа.

— Карпа? Што ты тут?

— Ваша міласць! Не трэба ехаць да сляпога Францішка! — тонкім дзіцячым галаском нечакана прагаварыў карузлік. — Вы ўсё адно туды не патрапіце! Па дарозе вас чакаюць! Калі вы хочаце ўбачыць Марысю, едзьце лепей да службы ў Бялынічы.

— Карпа, ты ж нямы! — здзівіўся Ян.

— Мне загадалі з вамі маўчаць!

— Маўчаць? Чаму?

— Можа, таму, што я шмат чаго ведаю!

— Шмат чаго ведаеш? Ты ведаеш, хто забіў бацьку?

У гэты момант за вакном грымнуў гром.

— Не! Не! — Карпа прысеў са спалоху. — Гэтага я не ведаю! Толькі смерць яго напэўна звязана з закляццем Праксэды.

Ян прыгадаў учарашняе насланнё. Гэтае імя прагучала з вуснаў Барталамея.

— Праксэда? Хто яна?

— Малочная ведзьма! О! Ваша міласць, гэта старая гісторыя. Праксэда трымала карчму за ракою. Аднойчы завітаў да яе са сваёю хеўрай ваш продак Казімір Завальня. Пад чаркаю спадабалася яму дачка Праксэды Варка. Шалёны ён быў ды не ведаў, з кім справу мае. Звез Казімір Варку з сабою, нацешыўся з ёю, а потым аддаў сваім афіцэрам.

За акном грымнула зноў. Карпа здрыгануўся ды ўчапіўся за Яна вільготнай халоднай рукой.

— Ну! Далей, далей што? — нецярпліва выкрыкнуў Ян.

— Далей? Варка павесілася на другі дзень! — спалохана працягваў Карпа. — А Праксэда пракляла Казіміра і ўвесь яго род да сёмага калена, на якім ён мусіць згаснуць. Кожнаму яна прызначыла адмысловую смерць у пакаранне за адзін з сямі смяротных грахоў.

— Пакаранне за сем смяротных грахоў?

— Сёмы будзе абраным і апошнім! Яму наканаваная асаблівая роля.

— Карпа! Чаму ты са мною раптам загаварыў?

— Ваша міласць! Мне страшна! — залепятаў дзіцячым галаском карузлік. — Я баюся! Вельмі баюся! Дапамажыце! Ратуйце мяне! Я ведаю, за што забілі Марку! Ён шмат чаго ведаў! Цяпер яны могуць забіць і мяне!

— Гавары! — Ян схапіў Карпу за каўнер. — Гавары! За што яны забілі бацьку?

— Божа! Нашто я пачаў! — Карпа збялеў. — У нашых краях ёсць павер'е: хто завінаваціўся д'яблу і не хоча вярнуць доўг, у таго нячысты забярэ галаву!

Зноў пракаціўся гром. Ян адпусціў каўнер. Карузлік тут жа ўскочыў і з крыкам: «Божа! Навошта я гэта сказаў!» — выбег з пакоя.

## 33

— Проходите! Проходите, голубчик! Без церемоний! Слышал недавно, в бесовских кругах окрестили вас Инквизитором!

— Помилуйте, ваше сиятельство! Какой из меня инквизитор? Я всего лишь слуга Его Императорского Величества!

— Да, да! Верно, господин барон! Однако к сути! Что у нас нового по делу о покушении на Государя Императора?

— Уже со всей очевидностью следует утверждать, что заговор готовила группа. Нам удалось напасть на след еще двух сообщников. Илья Зосимович поначалу все отрицал, пытался представить сие делом рук одиночки. Но впоследствии под пытками признался, что у него был сообщник, некто Ян Завальня, двадцати семи лет, дворянского сословия, студент Санкт-Петербургского университета. Впрочем, студент никчемный. Несколько раз восстанавливался в университете. Хотя фамилия родовитая, известная в Северо-Западном крае. У его отца приличное поместье в Витебской губернии.

— Опять полячишки? Да, не довел дело до конца Михаил Николаевич, царствие ему небесное.

— Сие верно подмечено, ваше сиятельство! Однако в таком случае, что касается Зосимовича, господину Муравьеву пришлось бы повесить ребенка. Как выяснилось, старший брат и отец государственного преступника Ильи Зосимовича тоже были преступниками. Оба участвовали в польском восстании шестьдесят третьего года, в котором погибли. Мать же с горя тронулась рассудком, а имение же их было конфисковано.

— Хорошо, с этим все очевидно. Вы сказали, барон, что был некто третий?

— С третьим не ясно. Личность его пока не установлена. Он, ваше сиятельство, вообще большая загадка. Пока он проходит по нашему делу, pardon, под кличкой «Козел».

— Vraiment? Неужели?

— Oh, c'est une histoire bien bête! Это довольно нелепая история. Прислуга Яна Завальни утверждает, что третий приходил на квартиру накануне покушения, после чего их хозяин бесследно исчез.

— И что же в этом нелепого?

— Семен, прислуга Завальни, уверяет, что у приходившего вместо лица была козлиная морда. То есть даже не маска, а именно морда!

— Quelle idée rouge! Что за странная выдумка? Может, ему спьяну померещилось?

— Совершенно точно, Семен был пьян. Можно было б списать все на воздействие Бахуса, но баба Семена, Агафья, в свою очередь подтверждает, что видела козлиную морду.

— Oui, cette Russie, que j'aimais toujours! Да, Россия, которую я любил всегда, до чего дремуч твой народ. В каждом немце ему мерещится черт, а в поляке — козел. Не сердитесь, голубчик, я не вас имел в виду. Однако, на самом деле, какая нелепость! Впрочем, как посмотреть! Какой козлиной мордой надобно быть, чтобы такое даже помыслить? Убить Императора! Тут, голубчик, ничего человеческого уже не осталось. Одно лишь бесовство! И где же сейчас эти бесы?

— Судя по остаткам обгоревшей записки, найденной на квартире Яна Завальни, он отправился в Северо-Западный край к своему дядьке — Адаму Завальне. Я навел справки — человек крайне неблагонадежный. Подозревался в связи с инсургентами. Правда, ничего не удалось доказать.

— Вот что, барон, я вижу, тут серьезный заговор. Поезжайте-ка в Северо-Западный край и сыщите мне эти козлиные рожи! Живыми или мертвыми доставьте их в Петербург! Лучше в клетке и живыми!

## 34

У Магілёў мы адправіліся, ледзь развіднела. Канаваленка сустрэў на вакзале Волю, сваю маскоўскую нявесту, якая прыехала ранішнім цягнікам, я ж чакаў іх каля Палаца Рэспублікі. Потым мы заскочылі на Маркса за Машай і рушылі на трасу.

— Дзякуй за кветкі! Вельмі прыгожыя! — сеўшы ў машыну, сказала Маша.

— Дробязі. Я рады, што табе іх усё-такі перадалі!

— Не крыўдуйце. Мой бацька зблытаў вас з іншым чалавекам.

— Былы ўхажор?

— Не! Адзін ненармальны! — холадна кінула Маша. — Таксама ружы мне дасылаў.

— Я яго разумею! Што ж у гэтым ненармальнага?

— Ён заўсёды дасылаў цотную колькасць руж.

Я слізгануў позіркам па распушчаных цыганскіх локанах Машы, але нічога не змог адказаць. Да Магілёва было гадзіны дзве з паловай шляху. Уладкаваўшыся з Вольгай на заднім сядзенні, Канаваленка адкаркаваў пляшку «Версалю», і яны зрабілі па глытку. Неўзабаве пад манатоннае буркатанне рухавіка ўсе пазасыналі. Суботні дзень быў марозны і сонечны, траса — пустая, печка — гарачая, музыка па радыё гучала вясёлая, але з раніцы мяне даймала трывога.

Нашае замірэнне цягнулася нядоўга. Мы з Машай планавалі сустрэцца ў чацвер, але напярэдадні я атрымаў ад Паліны ліст. Яго пачатак нічога добрага не абяцаў:

*«Я буду трымаць пальцы, маліцца, абыду ўсіх варажбітак і магаў толькі з адною мэтай і адным запытам: каб тваё асабістае жыццё нізашто не наладзілася, пакуль ты не вырашыш нашы пытанні! Іначай свет абсалютна несправядлівы!..»*

Завяршалася пасланне незвычайна:

*«...І, як і абяцала, нават на пахаванне да цябе не прыйду! Так што, дарэчы, паклапаціся пра гэта загадзя, каб мне нават ніхто не званіў. На гэтай аптымістычнай ноце і скончу».*

Я раптам зразумеў, што мне няма куды Машу запрасіць. Дамоў рызыкоўна — Паліна нібы адчувала нашы сустрэчы. Бадзяцца па сябрах — недарэчна. Зняць кватэру на суткі — пошла. Заставалася выехаць з горада. Памеркаваўшы, я вырашыў выбрацца ў Магілёў да свайго старога франтавога сябра — Кастуся Зязюлі.

Я быў гатовы ехаць зараз жа, але тут высветлілася, што Маша працуе, хаця ніколі раней пра гэта не казала. Таму паездку мы перанеслі на суботу. Канаваленка, даведаўшыся пра нашы намеры, таксама выказаў жаданне адправіцца з намі. Напярэдадні я абзваніў некалькі больш-менш прыстойных гатэляў ды зарэзерваваў два нумары.

Пустая траса цягнулася на ўсход. Маша спала на суседнім сядзенні, закалыханая дарогай, ціхай музыкай, цёплай печкай. Трывога заставалася дзесьці за намі, а мяне ўсё болей займала іншае — гатэльны нумар з вялікім двухспальным ложкам. Горад мяне мала цікавіў. Ён быў толькі прыемным дадаткам да трыяды: секс, віно і кіно. Я быў гатовы бязвылазна правесці з Машай суткі ў пасцелі. Але сумняваўся, ці захоча гэтага Маша. Можа, мінулым разам усё здарылася выпадкова.

— Ну што, — прачнуўшыся, пацягнуўся Канаваленка, — пастаў што-небудзь магілёўскае!

Падумаўшы, што б такое магілёўскае паставіць, я выцягнуў дыск папулярных габрэйскіх песень.

— *Шалом алейхем! Шалом алейхем!*

Мы пад'язджалі.

Засяліўшыся ў гатэль на цэнтральнай вуліцы горада, я адправіў Канаваленку з Вольгай перакусіць, пры гэтым папрасіўшы яго адшукаць для сняданку месца папрыстойней, есці без спешкі, а потым, пажадана, у гатэлі адпачыць, карацей, даў зразумець, што ніякіх экскурсій па горадзе пакуль не будзе. Што ім лепей увогуле забыцца на нас з Машай хаця б гадзіны на тры.

— Як тут файна! — упаўшы на ложак, усклікнула Маша, як толькі я зачыніў за Канаваленкам дзверы.

Мы засталіся адны, наспеў час здзейсніць трыяду — адправіцца ў секс-марафон, які здаўна быў маім улюбёным заняткам на ўікенды.

Я першым выйшаў на старт — наліў сабе каньяку і залпам выпіў. А Маша накіравалася ў лазенку. Калі яна выйшла, на ёй быў толькі халат. Да шырокага двухспальнага ложка мы не дабеглі. Упалі на пол проста каля барнага століка. Марафон пачаўся.

## 35

Канаваленка паявіўся праз чатыры гадзіны. Заўважна было, як ён стаміўся ад чакання. Некалькі разоў ён спрабаваў мяне набіраць, але тэлефон быў адключаны. Нарэшце, не вытрымаўшы, ён спусціўся да нас.

— Колькі можна трахацца? Я ў горад хачу! Так што давайце, шалом алейхем, вашу маць, апранайцеся! — ён з ухмылачкай зірнуў на Машу.

— Ці званіў Зязюля? — з прыкрасцю запытаўся я, разумеючы, што трымаць Канаваленку на прывязі болей не выйдзе.

— Званіў, званіў, ужо некалькі разоў званіў. Едзе. Будзе тут праз пятнаццаць хвілін.

— Зязюля — гэта той самы чалавек-душа, пра якога вы распавядалі? — паглядзела на мяне Маша.

— Ха-ха! А чаго гэта вы ўсё яшчэ на «вы»? — павесялеў Канаваленка.

— Гэта ў нас такая гульня. Не звяртай увагі, — я кінуў погляд на Машу. Расчырванеўшыся ад доўгага бегу, яна нібыта свяцілася. Мне хацелася выправадзіць Канаваленку і зноўку застацца ўдваіх, але трэба было выбірацца ў горад.

— Зязюля — будучая ідэальная жонка для нашага маэстры! — яшчэ болей развесяліўся Канаваленка. — Ха-ха! Сям’я новага тыпу!

— У якім сэнсе жонка?

— Гэта наша з Зязюлем ноу-хау. Як ён прыйдзе, патлумачу, — адказаў я Машы і пачаў з неахвотай нацягваць джынсы.

Хутка з’явіўся душа-чалавек і ў пакоі адразу стала шумна і цесна. Па звычаі сваёй душы ён палез да ўсіх абдымацца. З задавальненнем тры разы пацалаваў Вольгу, якая прыйшла неўзабаве за Канаваленкам. Потым, кінуўшы доўгі душэўны позірк, з асаблівым задавальненнем паўтарыў тое самае з Машай.

Зязюля быў маім старым франтавым сябрам і сапраўды будучай ідэальнай жонкай. Мы шмат гадоў працавалі разам, здаралася, тыднямі спалі пад адным шынялькам дзе-небудзь у акопах пад Сталінградам ці на праекце ў Еўропе і разумелі адзін аднаго з паўнамёка. Мы ніколі з ім не сварыліся. У галоўным — секс, віно і кіно — нашыя памкненні супадалі. А там, дзе адрозненні меліся, мы адзін з аднаго нязлосна кпілі.

Душа-чалавек любіў гарэлку з пельменямі, ніколі не снедаў і нашча паліў нейкую дрэнь. Я ж аддаваў перавагу

каньяку і, па яго словах, на гастролях зранку з'ядаў дзвесце трыццаць канапак. Я пасмейваўся з яго вечна даверху забітай недапалкамі попельніцы ў машыне. Казаў, што хаця б раз на год яе трэба вытрасаць або мяняць машыну. Ён — з маёй заклапочанасці фігурай, вагой і дыетай. Я весяліўся з яго непераборлівасці ў адзенні і называў гэты стыль «магілёўскі лох». Ён жа пасмейваўся з нашых адносін з Палінай і жартам браўся прышыць беспрытульны гузік на маім дарагім пінжаку.

Яшчэ ў нашых адрозненнях мы заўсёды знаходзілі залатое сячэнне. У Берліне пачыналі піць віскі. Пад Сталінградам я таксама жлукціў гарэлку і нават, здаралася, на вячэру з'ядаў талерку пельменяў. У Парыжы ён замест дрэні паліў «Жэтан». У Клермон-Феране я падбіраў да яго лахаўскога касцюма самыя модныя акуляры. У Варшаве і Гданьску мы пілі крупнік, слівовіцу — у Празе, у Гановеры — егермайстар і піва, у Вене зноў аддавалі перавагу віскі, а ў Страсбурзе ён аплятаў замест пельменяў амараў.

Неяк раз, калі мы папыхвалі сігарай пад віскі на тэрасе нашых апартаментаў у Боне, да нас раптам дайшло: вось жа яна — ідэальная сям'я! Навошта людзі столькі гадоў мучаюцца разам? Вакол жа столькі ідэальных пар! Узяць хаця б любы гастраном зранку ў нашым раёне. Колькі чырвонаносых мужыкоў з азызлымі тварамі маглі б скласці шчаслівую сям'ю! Навошта ім сварлівыя жонкі, якія не могуць ацаніць іх тонкай душы? Навошта ім скандалы, істэрыкі, сцэны? А тут і Коля, і Вася, і кожны зразумее цябе з паўслова. Яны ж маглі б разабрацца па парах, жыць душа ў душу і лавіць жаданні адзін аднаго з паўнамёку. Сядзелі б сабе на гаўбцы хрушчоўкі на бульвары Шаўчэнкі, палілі «Карону» альбо іншую дрэнь. «Коля?» — ціха спытаў бы Вася. «Канешна, да!» — адказаў бы Коля.

Секс, праўда, разбураў нашу ідылію. Трахацца з Зязюлем мне не хацелася. Я аддаваў перавагу жанчынам, ён —

таксама. Думаю, і Вася з Колем не на жарт пакрыўдзіліся б на прапанову заняцца сексам. Але, выпіўшы віскі яшчэ, мы ўсё ж вынайшлі рашэнне. Бо не для сексу ж ствараецца сям'я. Яго ў сям'і, за рэдкімі выключэннямі, наогул амаль няма. Сям'я — інстытут сацыяльны. Чаму ж два мужыкі не могуць стварыць яе па інтарэсах, а для сексу адмыслова запрашаць нявест, прычым штораз новых? Заставалася, праўда, пытанне, як працягваць род. Але і тут усё проста вырашалася. Сям'я новага тыпу — інстытут сталых мужчын. Тых, хто ўжо дзяцей выхаваў, удосталь з жонкамі накуляўся, а цяпер нарэшце можа пажыць для сябе.

Маша, пасмейваючыся, з цікаўнасцю слухала пра наша з Зязюлем адкрыццё. Але болей за ўсіх з чаркай каньяку ў руцэ ржаў Канаваленка. Я ўжо не раз распавядаў яму, але ён заўсёды з задавальненнем слухаў ізноў. Ідэя — кіно, віно і кожны раз новая баба — яму пасавала. Сям'я новага тыпу была быццам створана для яго. Але, праўда, ён сам не вельмі для яе падыходзіў. Ён так бы затрахаў мазгі і Васю, і Колю, што ўжо праз тыдзень, нервова дапаліўшы сваю дрэнь, тыя б з гаўбца сіганулі.

— Ну добра! Вы што, прыехалі ў Магілёў у нумары сядзець? Хадзем, пакажу вам горад! — не вытрымаў нарэшце Зязюля.

Назіраць, як мы п'ём з Канаваленкам і здзекуемся з Колі і Васі, яму, відаць, абрыдла, хацелася хутчэй паставіць машыну і выпіць з намі.

— Ну, з чаго пачнем? — пацікавіўся Зязюля.

— Адвязі нас пад мост! Ёсць тут адно культавае месца, дзе жыў герой майго рамана, — звярнуўся я да Машы. — Дарэчы, Зязюля — яго прататып.

— Вой, перастаньце, перастаньце! — замахаў той рукамі. — Вы такога панапісвалі, што жонка хоча на развод падаваць. Кажа: «Я ведаю цяпер, чым вы там ў сваіх Германіях займаецеся».

Калі мы выйшлі з нумара, ужо сцямнела. Зязюля ўсадзіў нас у свой джып, поўны недапалкаў, што, як звычайна, вывальваліся з попельніц, і павёз да Дняпра.

Калі бываюць дні шчасця, то гэта быў менавіта такі дзень. Адасобіўшыся ад усіх, мы стаялі пад мостам на адхоне, пілі каньяк і цалаваліся. Вакол было цёмна, холадна, сыра і зябка. Пад намі мігацеў Днепр. Недзе воддаль іржаў Канаваленка, працягваючы з Зязюлем тэму Колі і Васі. Але нам удваіх было добра, цёпла і ціха.

— Ты хочаш дзяцей?

— Так, — крыху памарудзіўшы, адказала Маша. — Дваіх.

— Дык што ж нам перашкаджае? — быццам адчуўшы ў горле вялікую гарошыну, запытаў я.

— Вы мяне зусім не ведаеце! — Маша крыху адхілілася і пільна ўгледзелася ў мяне. — Я хуёвая!

— Ну і што? Я таксама! — паспрабаваў я аджартавацца.

— Гэй! Шалом! Харэ там цалавацца! — данёсся знізу голас Канаваленкі. — Паехалі! Я жраць хачу!

Мы спусціліся з адхону, заскочылі ў джып і паехалі далей. Зязюля кружыў нас па горадзе, нешта распавядаў, а мы на заднім сядзенні лялталі. Пілі, цалаваліся, часам пазіраючы ў акно, рабілі выгляд, што нам цікава. Каб не пакрыўдзіць нашага чычэроне, прасілі нешта яшчэ паказаць, але тут жа забываліся на тое і зноў цалаваліся.

— Я хачу есці! — нарэшце гучна абвясціла Маша.

— Правільна! Хопіць на сёння экскурсій! — адгукнуўся спераду Канаваленка. — Зязюля, вязі нас у найлепшы рэстаран!

— Тут сёй-той думае, што ў мяне булімія, — прашаптала Маша. — Але вы яшчэ пашкадуеце, што са мною звязаліся! Я вельмі пражэрлівая!

Я лятаў, быў п’яны і шчаслівы, таму прапусціў гэтыя

словы міма вушэй. Але дзесьці цвярозым кутком падсвядомасці зразумеў: даведацца пра булімію Маша магла толькі ад Паліны.

Усё, што здарылася потым, я памятаю ўрыўкамі. Была гаманлівая кнайпа, салянка і дранікі, нейкі нясмачны, страшна сівушны каньяк. Зязюля даганяў нас гарэлкай і півам. Канаваленка ўвесь час вёў сольную партыю і гучна смяяўся са сваіх жа расповедаў. А я ўсё больш раздражняўся ад шуму, нясмачнай ежы, людзей. Мне хацелася, каб мы з Машай засталіся ўдваіх. У рэшце рэшт, прыхапіўшы са стала недапітую пляшку, мы адправіліся ў нумар.

Потым ізноў быў сівушны каньяк. Доўгі, у паўсне, начны марафон. Потым я прачнуўся пад раніцу. Балела галава, і страшэнна хацелася піць. Купіць вады мы, вядома, забыліся. Я пайшоў у лазенку і пачаў прагна піць ваду з крана.

Спаць ужо не хацелася. Я вярнуўся і паглядзеў на Машу. Для мяне яна заставалася загадкаю. Я па-ранейшаму нічога толкам не ведаў пра яе. Зазвычай гаварыў я, а яна болей маўчала. Тое, што ў яе няма буліміі, я ўжо зразумеў. Але чаму ўчора яна раптам назвала сябе хуёвай? Не сказала: я дрэнная, сцерва альбо распіздзяйка. Гэта прагучала так, нібыта яна прызналася: «Я пракажоная». Ізноў я мучыўся ў дагадках, але не знаходзіў адказаў. Насцярожвала толькі адно. Можа, яна німфанка і таму не ў стане нікому адмовіць? Тое, з якою ахвотай яна аддавалася, як доўга не сыходзіла з дыстанцыі і ўвесь час хацела яшчэ, наводзіла на сумневы. Калісьці я быў знаёмы з адной німфаманкай і ведаў, што нічога добрага ад гэтай хваробы чакаць не даводзіцца. Але нават калі і так, я ўжо нічога не мог з сабою зрабіць. Я быў гатовы прыняць яе любой, якой бы хуёваю яна ні была.

Я асцярожна пацягнуў коўдру і лёгенька правёў рукою па горкіх Машыных плячах. Яна расплюшчыла вочы, і мы зноўку пабеглі.

## 36

Прачнуліся мы позна. Пакаёўка падала нам сняданак, з разуменнем у вачах ацаніла нашу розніцу ва ўзросце і запрасіла прыехаць яшчэ. Неўзабаве прыйшоў Зязюля, і мы пешкі пайшлі ў горад. Мне трэба было да вечара выгуляць сваё пахмелле, каб сесці за руль. Заадно хацелася паказаць Машы горад.

У адрозненне ад іншых беларускіх месцаў, гэта было нейкае дзіўнае. Магілёў увесь час вагаўся, ніяк не мог вызначыцца. У сямнаццатым стагоддзі падчас вайны з Расіяй жыхары здалі горад ворагу без бою. А праз некалькі гадоў самі ж выразалі ўвесь расейскі гарнізон. З-пад Магілёва паходзіў Ілжэдзмітрый II. Маскву ён узяць не паспеў, але аблажыў і сваю сталіцу ў Тушыне паставіў. І, хто ведае, як бы ўсё павярнулася, не будзь ён забіты сваім жа ахоўнікам. У Магілёве скончыў цараванне апошні рускі Імператар. Дакладней, адрокся Мікалай II па дарозе, але выехаў ён з Магілёва яшчэ Імператарам, а вярнуўся ў Царскае Сяло ўжо без кароны.

З тых жа месцаў, што і Ілджэдзмітрый II, паходзіў і цяперашні наш Імператар. Дзіўнае закляцце магілёўскіх зямель — жаданне ўзяць Крэмль — перайшло і да яго. У першыя гады нават здавалася, што гэта мажліва. Самі зоркі дапамагалі яму. *Цар Барыс* ужо быў слабы і вечна п'яны. А ён малады, дзёрзкі, упэўнены ў сабе і нават знешне нагадваў палкоўніка ўдалога шляхецкага войска, што хадзіла з Ілжэдзмітрыем на Маскву. Здавалася, разбі ён лагер пад Смаленскам ды кінь кліч, з усяе Расіі пацякуць пад ягоныя штандары незадаволеныя ўладай Барыскі. Пойдуць усе: і сяляне, і працоўны люд з ускраін, і камуністы, і нацыянал-патрыёты, і мяцежныя баяры з Думы.

Але нешта зоркі не дагаварылі. Можа, спалохаліся паўтарэння Смуты ды паставілі на месца Барыскі яшчэ больш

дзёрзкага і маладога палкоўніка з Тайнага прыказа Крамля. І загадалі смуту выкараніць, прыструніць і сялян, і незадаволеных з рабочых ускраін, і камуністаў, і мяцежных баяр. З зоркамі спрачацца складана, асабліва калі яны самі з Тайнага прыказа Крамля. Таму, не дайшоўшы да Масквы, наш палкоўнік вярнуўся назад і абвясціў сябе Імператарам тут.

Гадзіны праз дзве, стаміўшыся ад прагулкі, мы зайшлі ў карчму. Канаваленка тут жа замовіў літр гарэлкі ды боршч. Зязюля ўзяў яшчэ піва. Ён любіў запіваць півам гарэлку. Я ж папрасіў мне прынесці гарбаты. Маша спачатку ад выпіўкі адмовілася, але потым паддалася на ўгаворы. Праз гадзіну Канаваленка быў на ўзлёце. Па новым коле распавядаў неаднойчы чутыя мною гісторыі са здымак, смяяўся з іх гучней за ўсіх, лаяў палітыкаў, успамінаў Сталінград, нашы з Зязюлем п'янкі ў яго на кухні. Я ж піў ужо трэці кубак гарбаты і любаваўся тым, як Маша хмялее.

— Кахаеш? — нечакана паглядзеў на мяне Канаваленка.

— Кахаю.

— А ты яго? — перавёў ён позірк на Машу.

Тая крыху памарудзіла і ціха, быццам няўпэўнена, адказала:

— Так.

— Не зразумеў!

— Так, кахаю, — паўтарыла Маша гучней.

— Вось. Іншая справа! Зараз чую! А цяпер можаце пацалавацца, жаніх і нявеста! — весела дадаў Канаваленка.

Я не стаў пярэчыць.

— Вось і добра! — ухваліў нас Канаваленка пад каламутныя погляды сведкаў. — Наогул, ён хоць і распіздзяй, але добры. Галоўнае — надзейны! Ты за ім будзеш як за мурам. Адзінае што — баб ён любіць.

— Не будзе больш ніякіх баб! — цвёрда прамовіў я. — Я даў сабе слова! Усё, цяпер цэлібат!

— Ха-ха! Цэлібат? — заржаў Канаваленка. — Ну цяпер ты — дакладна каталіцкі пастар! Калі ж ты паспеў яго прыняць?

— Сёння ноччу!

Гэта не было сцёбам. Ноччу я прыняў пастанову. Я не хацеў паўтараць памылак, якія зрабіў з Палінай. Я здрадзіў ёй у першы ж год шлюбу. Не ведаю, чаму людзі накшталт мяне не могуць спыніцца. Але зараз я адчуваў, што павінен наступіць на горла інстынктам. З Машай усё мусіць быць сур'ёзна.

Пачынала змяркацца, настаў час выбірацца на трасу. На развітанне Зязюля, як звычайна, усіх душэўна абняў. Зноў з задавальненнем тры разы пацалаваў Вольгу. Абдымаючы Машу, ён паклаў ёй рукі на талію і пад мой няўхвальны погляд душэўна апусціў далоні ніжэй.

Калі мы выехалі з горада, ужо сцямнела. Да вячэрняга цягніка на Маскву заставалася яшчэ чатыры гадзіны, але мы спяшаліся. Аказалася, што ў Машы квіток на «Лебядзінае возера», таму яна хацела вярнуцца да сёмай. Я ўціснуў педаль на сто дваццаць, але болей не стаў. Дарога была пустая, але па свежым снезе і на ста дваццаці было рызыкоўна.

— Ці ёсць у вас французская музыка? — запыталася Маша.

— Ты любіш французаў? — я пацягнуўся за дыскамі.

— Шалёна!

— Ёсць у мяне адна някепская падборка, — з асцярогаю пазіраючы на дарогу, я ўзяўся адною рукой перабіраць дыскі.

Калі заспявала Піяф, Маша раптам уся расквітнела, моцна ўхапілася за маю руку і не адпускала да самага Мінска. Не зводзячы вачэй са слізкай дарогі, я нёсся быццам па лязе нажа. Я адчуваў, варта зараз спатыкнуцца, зрабіць адзін нязграбны рух, вільнуць у бок, стаць упопе-

рак, і гэтае лязо нас разрэжа. Я страшэнна кахаў яе на гэтай пустэльнай заснежанай трасе пад песні Піяф і Азнавура. Мне здавалася, яна таксама кахала. Днём я чуў ейны сумнеў, але цяпер быў пэўны.

— Маша, а ці была ты ў Парыжы? — я сціснуў яе руку мацней.

— Я нідзе не была, акрамя Вільні.

— Дык што? Едзем?

— На Новы год?

— На Новы год.

— Едзем!

— Віза ёсць?

— Пакуль няма.

— Не праблема! Зробім!

Мы пад'ехалі да Опернага, амаль не спазніўшыся. Маша пачала корпацца ў торбачцы, але квітка там чамусьці не было. Крыху засмуціўшыся, яна паехала са мною адвезці Канаваленку.

— Дамоў? — запытаўся я, калі мы засталіся ў машыне ўдваіх.

— Потым! А зараз я хачу, каб вы трахнулі мяне ў машыне!

— Можа, паехалі да Сцёпіна? — я неяк сумеўся.

— Не! Я хачу ў машыне!

## 37

Раніца новага дня таксама выдалася сонечнай і марознай. Прачнуўся я ў цудоўным настроі. Я лётаў па кватэры і ў думках ужо быў у Парыжы. Зрабіўшы сабе кавы, я ўключыў інтэрнэт — пашукаць навагоднія туры, але для пачатку па звычцы зазірнуў на «Наш Покліч». З рэкламнага банера сайта мяне тут жа радасна павітаў шырокай ўсмеш-

кай *Наш прэзідэнт* Лапацін. Прагарнуўшы навіны за апошнія некалькі дзён, нічога цікавага я не знайшоў.

Гэтыя выбары былі самымі нуднымі. Ніякіх сюрпрызаў не чакалася. Каго абяруць, і так было зразумела. Не бачачы пагрозы, Канцылярыя нават зарэгістравала ўсіх кандыдатаў. Зрэшты, цяпер гэта было ёй выгадна. Адзінага лідара ў незадаволеных не было, а чым болей зарэгістраваць прэтэндэнтаў, тым меней галасоў атрымае кожны.

Пакінуўшы «Покліч», я набраў у Гугле «туры ў Парыж» і перайшоў да прыемнага. Варыянтаў, праўда, аказалася не многа. Да Новага года заставаўся месяц, таму самае цікавае ўжо разабралі. Тое, што яшчэ прапаноўвалі, каштавала дорага. Але гэта ўжо не мела значэння. Я хацеў сустрэць Новы год з Машай ў Парыжы, чаго б гэта ні каштавала. Тым болей сцэнар прыняты, а з крэдыторамі можна разабрацца і пазней.

Пазначыўшы некалькі варыянтаў, я паехаў на студыю.

— Чаго такі шчаслівы? З’еш лімон! — буркнуў мне Канаваленка, толькі я зайшоў у кабінет.

— Нешта здарылася?

— Пакуль ні хуя добрага! З міністэрства яшчэ няма пацвярджэння на запуск!

Я ведаў, што Батурын падпісаў загад запусціць фільм на наступны дзень пасля экспертнага савета. Але патрабавалася яшчэ папера з міністэрства. Звычайна яе дасылалі адразу ж. Аднак мінуў ужо амаль тыдзень, мы пачалі набіраць групу, планаваць выбар натуры, а пацвярджэнне ўсё не прыходзіла. Гэта быў дрэнны знак. Пакуль фільм афіцыйна не запусцяць, мне не маглі заплаціць за сцэнар. Перспектыва Парыжа рабілася прывіднай.

— Супакойся, дашлюць. Куды яны дзенуцца? Ім усё адно акрамя нас няма чаго запускаць, — сказаў я, крыху спахмурнеўшы. Хай не цэлы лімон, але дольку я ўсё ж праглынуў.

Я выйшаў ў калідор і набраў варшаўскі нумар прыяцеля. Патлумачыўшы, што мне да зарэзу патрэбны гадавы шэнген, я папрасіў яго дапамагчы і дадаў, што гэта для маёй нявесты.

— Як хутка гэта трэба?

— Да Новага года.

— Добра! — пасля невялікай паўзы пачулася ў трубцы. — Высылай яе дадзеныя!

На радасцях я тут жа набраў Машу.

— Прадыктуй мне пашпартныя звесткі. Гэта для гадавой візы.

— Дзякуй, не трэба! — раптам холадна адказала Маша. — Вясною мне дадуць візу ад універсітэта.

— Пачакай, а як жа Парыж? — разгубіўся я.

— Мяркую, гэта пакуль зарана, — па-ранейшаму холадна адгукнулася Маша.

Я штосьці невыразна прамармытаў, сказаў, што перазваню, і паклаў трубку. Толькі што я лётаў, а вось ужо ляжаў расціснуты на халоднай бруднай падлозе студыйнага калідора. Нервова запаліўшы, я набраў нумар Паліны. Прычына магла быць толькі ў ёй.

— Чуеш, ты! Не смей больш ёй тэлефанаваць! Забудзь ейны нумар! Калі ты яшчэ хоць раз ёй патэлефануеш, можаш не разлічваць на грошы! Я не ведаю, што з табою зраблю!

Мяне несла. Я крычаў, мацюгаўся, быў гатовы разнесці тэлефон аб сцяну.

— Вой, вой, напалохаў! — з’едліва агрызнулася Паліна, — У мяне твае распіскі, так што грошы я ў любым выпадку выб’ю праз суд. А кватэра патрэбная не мне, а тваёй дачцэ. Так што пакуль я ўсё не атрымаю, буду званіць ёй, калі захачу! — яна кінула трубку.

Мяне трэсла. Выпаліўшы адну за адной яшчэ дзве цыгарэты, я зноў патэлефанаваў Машы.

— Маша! Чаго яна табе нагаварыла?

— Я не збіраюся гэта абмяркоўваць!

— Давай я куплю табе тэлефон з чорным спісам! Ты проста заблакуеш яе нумар!

— Мне падабаецца мой тэлефон. Ён хоць і старэнькі, але мне дарагі, — крыху памякчэўшы, сказала Маша. — Але нам трэба сустрэцца і сур'ёзна пагутарыць! — па тым, як яна прамовіла слова «сур'ёзна», я зразумеў, што размова нічога добрага не прадвяшчае.

— Калі?

— Можам у сераду.

— Добра! Давай!

## 38

**У** сераду мы не ўбачыліся. Прыехала з Германіі даўняя Машына сяброўка, і яны сустракаліся. У чацвер яна зноў не змагла. Я ўжо пачынаў нервавацца. У пятніцу ў Машы паднялася тэмпература. Я зразумеў, што і гэтым разам мы не пабачымся. Але Маша нечакана заявіла, што адцягваць размову далей не хоча, таму мы абавязкова сустрэнемся, але коратка і піць яна болей не будзе. Коратка і не піць — было благім прадвесцем.

А дзявятай вечара я забраў яе ля пад'езда і павёз да сябе. Гэта падавалася рызыкоўным, але выйсця не было. Я адчуваў, размова будзе цяжкая. Калі я выберу недушэўнае месца, Маша напружыцца, а я пачну нервавацца, і ўсё пойдзе па кепскім сцэнары. Але галоўнае — мне патрэбны быў секс. Ён не раз ратаваў мяне ў крытычных абставінах. Калі Маша адкажа, усё зноўку будзе па-ранейшаму. Трэба толькі падчапіць яе на кручок, расслабіць, знайсці патрэбную ноту. Усадзіўшы на канапу, паставіць яе ўлюбёную музыку, самому прылегчы побач, правесці рукою па самым тонкім у яе абароне месцы і, пачуўшы ледзь прымет-

ны ўздых яе жадання, злавіць яго і рушыць далей. Зрабіць гэта можна было толькі ў мяне дома.

Днём я забег у краму, купіў свечак, эратычныя пахі, на ўсялякі выпадак пляшку каньяку, падабраў патрэбныя дыскі, а вечарам перад выхадам паставіў Гарыка Сукачова і паехаў на Маркса.

Усадзіўшы Машу ў машыну, я тут жа з палёгкай адчуў невялікую перамену ў ейным настроі. Яна папрасіла прабачэння, што не змагла сустрэцца раней, і пачала распавядаць пра Зойку, сваю найлепшую сяброўку, з якою яны разам раслі. Сказала, што дзвюм старым распіздзяйкам трэба было зладзіць дзявочнік. Пачатак цешыў мяне.

Прыехаўшы дамоў, я ўзрадаваўся яшчэ больш. Я адчыніў дзверы менавіта на той песні, на якой хацеў. Пачуўшы Гарыка, Маша яшчэ болей ажывілася. Аказалася, я патрапіў. Сукачоў вельмі падабаўся Машы. Яна тут жа папрасіла паставіць «Мою бабушку» і пачала з цікаўнасцю аглядаць кватэру. У ёй не было асаблівага перламутру, але прысутнічала нешта, што можна назваць атмасфераю. Яе настрой ніколі не падабаўся Паліне. Яна казала: «Я не аддам дачку ў гэтую чарнушную кватэру!» Але Паліна любіла гламур, а гэта было, хутчэй, атэлье з вялізнай, амаль з дзясятак тысяч тамоў, бібліятэкай.

Кнігі знаходзіліся паўсюль: у вітальні, у вялікім пакоі, у спальні, на кухні. Акрамя іх было шмат карцін, пераважна не маіх, а з калекцыі, якую я калісьці збіраў. Некаторыя з палотнаў сапраўды падаваліся чарнухай. Але на сценах віселі толькі самыя бяскрыўдныя, астатнія месціліся на сцелажах. Цэнтральную сцяну вялікага пакоя пакрывалі буйныя чорна-белыя шашкі, якія плаўна пераходзілі на падлогу, ствараючы ілюзію зламанай прасторы.

У спальні акрамя кніг і шырокай тахты стаяў працоўны стол з маніторамі і высокі, да столі, чорны аб'ект з над-

пісам «Буфет». Трэці пакой пуставаў. Раней яго запаўняў усялякі хлам, але акурат надоечы я яго вынес і пачаў рамонт.

— Файна! А мне тут падабаецца! — шчыра захапілася Маша, агледзеўшы кватэру.

— Прабач, тут занадта шмат рэчаў. Але гэта, хутчэй, не кватэра, а атэлье, — дадаў я, з радасцю разумеючы, што карты пакуль кладуцца на маю карысць. Здавалася, нават усе гэтыя дзіўныя рэчы, што таямніча зіхацелі ў святле дзясяткаў агеньчыкаў, імкнуліся зараз мне дапамагчы. Але наперадзе яшчэ чакала размова.

Усадзіўшы Машу за круглы стол ў вялікім пакоі, я выставіў на яго пляшку каньяку і прапанаваў крыху выпіць. Маша катэгарычна адмовілася, я ж сабе наліў.

— Нам трэба расстацца, — пачала яна не вельмі ўпэўнена, але адразу дадала, нібыта апраўдваючыся: — Хаця б на два тыдні. Але так, каб ніякіх званкоў і эсэмэсаў. Поўны тайм-аўт.

— Гэта з-за Паліны?

— Не толькі. Гэта асабістае. Мне трэба разабрацца ў сабе. Я хачу з'ехаць з горада, каб нікога не бачыць. З панядзелка я адмыслова ўзяла адпачынак на два тыдні.

— Куды ты паедзеш?

— Да нас на катэдж. Дом, праўда, яшчэ не дабудаваны, але жыць ужо можна. Як-небудзь я вас запрашу.

— Можа, цябе адвезці?

— Не, не, дзякуй! Бацька мяне завязе.

На радасцях, што горшага не здарылася, што яна не сказала: «Расстанемся назаўжды!» — я выпіў і пачаў распытваць Машу пра сям'ю. Высветлілася, што ейная маці паходзіла з карэнных мінчан. А бацька вёў нейкі прыстойны бізнес. Хаця тое, што яна не з беднай сям'і, было ясна і раней па кватэры на Маркса.

Затым я наліў яшчэ каньяку і ўзяўся распавядаць пра сябе:

— А мой бацька быў у горадзе чалавекам вядомым. Вялікі сібарыт, шалапут, аматар жанчын і нязменна пры вялікіх грашах. Жыццё марнатравіў ён эфектна, вечна ў атачэнні паклонніц, сабутэльнікаў і дармаедаў. Ведаеш, яго апошняя жонка была вельмі прыгожай і нашмат маладзейшай. Ледзь не мая равесніца. Я заўсёды гэтага саромеўся, але кожны раз з жаданнем глядзеў на яе. Мне здаецца, яна адчувала гэта і крыху засмучалася. Мая ж маці была першай бацькавай жонкай. Ён пакінуў яе, калі мне было ўсяго два гады. А памерлі яны адной вясной некалькі гадоў таму. Можа падацца дзіўным, але калі я стаяў ля бацькавай труны, то амаль нічога не адчуваў. Толькі нейкае здранцвенне і пустэчу. Не таму, што я яго не любіў. Нават не ведаю, як растлумачыць. Быў яшчэ малодшы брат па бацьку, але ён яшчэ раней загінуў за мяжою.

— Загінуў? — перапытала Маша. — А як ён загінуў?

— Разбіўся на машыне ў Германіі. Наляцелі на дрэва. Брат быў спартоўцам. Напрыканцы васьмідзясятых ён пайшоў у рэкет, а потым увогуле зрабіўся крымінальным аўтарытэтам. Я быў на ягоным пахаванні ў Гановеры. Сабраўся ўвесь мафіёзны свет. Памятаеш сцэны пахаванняў у фільмах пра мафію? Вельмі падобна. Прыгожае было пахаванне, мноства людзей у чорных...

— А ў мяне першы хлопец загінуў у аўтакатастрофе, — нечакана перапыніла мяне Маша. — Мне тады было пятнаццаць.

Маша, сціснуўшы вусны, неяк змянілася ў твары, нібы вось-вось гатовая заплакаць.

У насталай цішыні я ледзь чутна тромкнуў бутэлькай аб краёчак Машынай чаркі і паглядзеў на ейную чорную сукенку. У галаве з’явілася цьмяная здагадка. На ўсе суст-

рэчы яна прыходзіла ў чорным. Строі мяняліся, але ніколі не мяняўся іх колер. Аднак запытацца наўпрост я не адважыўся.

— Зойка-распіздзяйка не ў час прыехала! — падняўшы чарку, рэзка змяніла тэму Маша. — Але ж яна — мая адзіная сяброўка! Як я магу ёй адмовіць? Ёсць, праўда, яшчэ адзін блізкі сябар. Памятайце, я тады на суткі знікла? Дык я дадому не паехала, сорамна было паказацца п'яненькай з раніцы. Я сядзела ў яго і піла віскі. А ўвечары ён вярнуўся з працы, аблаяў мяне, што я такая кепская, і паклаў спаць.

— Сябар? — перапытаў я, прыгадваючы, што сапраўды амаль суткі пасля экспертнага савета Машын тэлефон быў недаступны.

— Сябра, найлепшы сябра, — паўтарыла Маша з выглядам, што не жадае распавядаць болей.

— Маша, а чаму тады пад мостам ты назвала сябе хуёвай?

— Бо я хуёвая! — усміхнулася яна.

— Перастань! Што ты такое кажаш! Хуёвая можа значыць адно. Але ж ты не такая! — усклікнуў я, не да канца ўпэўнены ў гэтым. — У мяне была адна сяброўка. Чымсьці знешне да цябе падобная, гэткая ж тонкая і зграбная. Цудоўная паненка. Інтэлігентная, прыгажуня, разумніца. Але варта было ёй выпіць, і яе несла. Яна аддавалася кожнаму, хто яе жадаў. Але галоўнае — сама ўсіх хацела. Я мяркую, яна была німфаманка. Па цвярозаму яна сябе стрымлівала, але, выпіўшы, зрывалася. Магла ўпасці ў незнаёмай кватэры і трахацца з усімі некалькі дзён запар. Але ж ты не такая!

— Не, вы падазраеце, што я такая? — весела адгукнулася Маша.

— Што ты! Ні ў якім разе!

— Супакойцеся, гэта гісторыя не пра мяне! — Маша ўзнялася. — Пастаўце яшчэ раз «Бабушку». Я яе дужа люблю!

Я адчуў: настаў момант перамясціцца ў спальню. Унутры мяне ўсё трыумфавала. Усё складвалася менавіта так, як хацелася. Заставалася толькі раскруціць Машу на секс. Я зноўку паставіў «Бабушку», і тут Маша заспявала. Потым пад «Ночной народец» я моцна схапіў яе за талію, і мы закружыліся. Мы кружыліся пад «Дролю», пад «Милого», пад «Месяц май». Пад «Колечки» і «Ангела» я так моцна прыціскаў Машу да сябе, што мог адчуць маленькае кольца пірсінгу на яе жываце. Я праводзіў далонню па самых уразлівых месцах яе абароны. Яна не пярэчыла, а толькі зрэдку выдыхала сваё бязважкае «ох!». Я хапаў на ляту гэтае «ох!» вуснамі і быў гатовы пайсці далей, але яна давала зразумець, што не варта. Я не ўпарціўся, бо ўсведамляў: зараз настойлівасць усё толькі разладзіць.

Сукачоў раздзіраў душу *Дорожной, Перезвонами, Невезением, горел огнем окна на окраине, светился майской ночью, плакал плачем коней привередливых, поил нас водой белых дорог*, а мы былі ў *аду, том аду, который зовем сладким раем.*

Але пекла ўжо насамрэч чакала за дзвярыма. Аб адзінаццатай пачуўся званок. У тым, што гэта Паліна, я ані кроплі не сумняваўся. Ніхто іншы не мог прыйсці ў гэты час. Яна не паяўлялася ўжо некалькі дзён пасля той тэлефоннай размовы на студыі. Але не знікла, а толькі затаілася, каб заявіцца менавіта сёння.

— Гэта Паліна, — я асуджана зірнуў на Машу.

— Нічога! Яна нам не замінае!

Узрадаваўшыся Машынаму спакою, я тут жа прычыніў дзверы ў калідор і ўключыў музыку гучней, між справаю зазірнуўшы ў тэлефон. Там сапраўды аказаліся непрынятыя выклікі ад Паліны. Яна працягвала ламіцца, але за ўсімі дзвярамі яе званкоў было амаль не чуваць. Крыху перавёўшы дух, я прапанаваў што-небудзь паглядзець. Ведаю-

чы, што Паліна хутка не здасца, трэба было знайсці занятак хаця б гадзіны на дзве. Лепей за ўсё для гэтага падыходзіў секс. А кіно было добрай нагодай укласці Машу ў пасцель: вялікі манітор стаяў якраз пры канапе. У галаве чамусьці круцілася фраза Жана Както: «Жалобны крэп юных удоў — сапраўднае свята сонца!» — і я паставіў ягонага «Арфея».

На пятай хвіліне фільма я асцярожна правёў рукою па Машынай спіне, апусціў руку ніжэй, дабраўшыся да самага тонкага месца. Яна салодка ўздыхнула, але не паддалася. Другая спроба зноўку аказалася безвыніковай. Я бачыў яе знямогу, лавіў трапяткія ўздыхі, кожны рух выдаваў — яна хоча таго ж. Маша раставала, сыходзіла жаданнем, але далей доўгіх пацалункаў мяне не пускала і з дзіўнай ўпартасцю стаяла на сваім.

— Ужо позна, мне пара! — спыніла яна нарэшце мой націск, калі скончыўся фільм.

— Давай адсвяткуем тваё вяртанне! Куды-небудзь з’ездзім. Якраз будзе субота.

— Не ведаю, паглядзім!

— Ці была ты ў Гародні? — я ўмольна паглядзеў на Машу. — Давай хаця б у Гародню!

— Можа быць! А цяпер мне трэба выклікаць таксоўку.

Я зірнуў на гадзіннік — было каля першай ночы. Званкі ў дзверы ўжо сціхлі. З надзеяю, што Паліна пайшла, я паглядзеў у акно. У двары нікога не аказалася. Я выклікаў таксоўку і на ўсялякі выпадак зазірнуў у пад’езд. Паліна стаяла на лесвічнай клетцы пралётам вышэй.

— Дарэмна думаеш, што я сышла! Я не пайду, пакуль не перагавару з табою! — пабачыўшы мяне ў дзвярным праёме, суха кінула яна.

І тут я зрабіў памылку. Мне трэба было проста правесці Машу да таксоўкі, не зважаючы на Паліну. Але я не хацеў,

каб яны перасекліся, і пачаў выправаджваць Паліну з пад'езда. На што яна, ушчаперыўшыся ў парэнчы, істэрычна закрычала, што нікуды не пойдзе. Абсалютна збянтэжаны, я вярнуўся ў кватэру і выглянуў у акно на кухні. Таксоўка ўжо чакала ўнізе. Зноўку выйшаўшы ў пад'езд, я паспрабаваў угаварыць Паліну па-добраму. Папрасіў падняцца наверх, пачакаць, пакуль Маша пойдзе, а потым мы ўсё спакойна абмяркуем.

— Ах, ну так, правільна, яна тут! Я так і думала! Што ж, тым лепш. Не збіраюся хавацца ад тваіх шлюшак! — скорагаворкаю затарахцела Паліна.

Не варта мне было зрывацца, але я не ўтрымаўся. У шаленстве схапіў тэлефон і пачаў набіраць нумар міліцыі. Насамрэч выклікаць мянтоў я зусім не збіраўся, а толькі хацеў прыстрашыць Паліну. Але слова «МІЛІЦЫЯ» вылецела, нягегла кульнулася ў пустой прасторы пад'езда, рэхам ababілася аб сцены і гучна грымнулася аб бетонную падлогу. Пачуўшы яго, Маша тут жа выскачыла з кватэры і, спатыкаючыся, цокаючы па прыступках высокімі абцасамі, пабегла ўніз. Я кінуўся следам, на хаду спрабаваў штосьці ёй патлумачыць, але яна ўжо нічога не жадала слухаць.

Вылецеўшы з пад'езда, яна заскочыла ў таксоўку. Я тузануў дзверцы і ўсеўся побач. Але Маша тут жа выскачыла з машыны і пабегла ў цемру. Я дагнаў і, штосьці невыразна ляпечучы, схапіў яе за плечы. Яна вырвалася і кінулася зноў да таксоўкі. Сцяміўшы, што цяпер лепей пакінуць яе ў спакоі, я крыкнуў наўздагон:

— Раніцай я пазваню і ўсё патлумачу!

— Не трэба! Болей ніколі мне не звaніце! — яна бразнула дзверцамі.

Я ўзляцеў на чацвёрты паверх. Паліна двухаршынным кажаном кружыла па маёй кватэры. Яна толькі разявіла рот, каб яшчэ нешта вякнуць, як я злавіў кажана ў ахапак

і, чапляючыся за кнігі, збіваючы карціны, павалок з кватэры. Выкінуўшы яе, я грукнуў дзвярыма і, цяжка дыхаючы, апусціўся на падлогу.

## 39

Раніцай я некалькі разоў спрабаваў набіраць Машу, але яна не адказвала. Затое Паліна ўсю ноч пасыпала маю бяссонную галаву гнеўнымі эсэмэсамі. Сэнс іх зводзіўся да таго, што яна прыцягне мяне за збіццё. Яшчэ яна нешта пісала пра зламаны пальчык, пра лужынку крыві, што засталася ў пад'ездзе. Паведамляла, што здыме пабоі і ўжо заўтра папера будзе ляжаць у райаддзеле міліцыі. Заяўляла, што я ёй брыдкі, што кляне дзень, калі мы сустрэліся. Я ж пасыпаў сваю галаву попелам злосных згрызотаў, з-за таго што сам усё сапсаваў.

Бліжэй да абеду я яшчэ раз беспаспяхова набраў Машу, але неўзабаве прыйшоў эсэмэс:

*«Мне вельмі шкада, што так атрымалася. Адчуваю пакутлівае пачуццё сораму і віны, з-за таго, што пралічылася. Усё занадта далёка зайшло. Трэба было раней «звальваць», каб без наступстваў, і не лезці ў чужую вайну. Хаця актыўнай пазіцыі, зрэшты, я не займала. Зараз адчуваю сябе ў разы ідыятычней ад Паліны. Але хрэн са мною. З вамі што будзе?»*

Я зразумеў, што Паліна ўжо ўсё расказала, намаляваўшы мне як мінімум пятнаццаць год катаргі. Але Сібір была цяпер маім шанцам. Ухапіўшыся за танюткую нітачку Машыных згрызот, я тут жа адправіў ёй эсэмэс з маленнем падняць трубку.

— Маша, прашу цябе, дай мне яшчэ адзін шанец! Праз два тыдні ніякай Паліны не будзе! — я ўгаворваў, кляўся, бажыўся, што ніхто Паліну не біў. Я толькі яе, як сварлівую базарную дыню, вынес з кватэры. Я казаў, што выра-

шу ўсе пытанні, маліў Машу застацца, даць слова, што праз два тыдні мы ўбачымся зноў.

Яна адказала:

— Не ведаю! Не буду нічога абяцаць, — але ўсё ж у ейным «не ведаю» цеплілася надзея. Ухапіўшыся за яе краёчак, я зноў асцярожна пацягнуў нітачку на сябе і тут жа набраў нумар майго палкавога ардынарца Колі.

— Давай, кідай усё, жыва дуй ў «Шклатару»! Патрэбна тэрміновая дастаўка кветак! — крычаў я, ужо выскачыўшы з кватэры.

Праз пятнаццаць хвілін я выбіраў на Камароўцы дзевяць самых белых, самых прыгожых руж. Яшчэ праз дваццаць сядзеў у «Шклатары» і нецярпліва чакаў Колю. Калі мы пад'ехалі да Машынага дома, я застаўся ў машыне, а ён падняўся наверх. Адчыніў зноўку бацька. Гэтым разам ён пярэчыць не стаў, спакойна прыняў букет, сказаў: «Перадам». Да кветак я прыклаў дзве свае кнігі, каб даказаць Машы, што ўсё ж такі я не поўны афэлак.

Пасля гэтага мне ненадоўга палягчэла. Але ўвечары трывога зноўку згусцілася. Наперадзе ляжалі два тыдні чакання і цяжкой невядомасці. Я панура піў каву ў «Маназе», калі а дзясятай пачуўся званок. Я глянуў на нумар і аслупянеў. Гэта была Маша.

— Дзякуй за кветкі! Толькі што патэлефанаваў бацька, сказаў, што вы перадалі. Я проста зараз не дома. Прыехалі з Вільні сябры, а як на бяду тэмпература зусім разгулялася. Трыццаць восем і пяць. Так што яны тут мяне гарбатай адпойваюць.

— Маша, я буду па табе сумаваць усе гэтыя тыдні.

Я чуў, як у трубцы загусла маўчанне. Мабыць, Маша перасільвала сябе, не рашалася штосьці сказаць. Нарэшце, яна пабарола цішыню і прамовіла:

— Я таксама.

# 40

Да літургіі заставалася крыху больш за гадзіну. Ян абышоў касцёл, з цікавасцю агледзеў растрэснутыя ад часу і журбы драўляныя скульптуры на алтары і прысеў на заслон ў дальнім куце, каб лепей бачыць, хто ўваходзіць. Людзей было няшмат. Некалькі старых у чорных сукенках маліліся на бліжэйшых да алтара лавах.

Карпа меў рацыю. Неўзабаве ў касцёле паявілася Марыся. Наблізіўшыся да алтара, яна прысела на лаву ў другім шэрагу і таксама пачала ціха маліцца. Ян узняўся і падышоў бліжэй. Схаваўшыся за калонаю, ён некаторы час любаваўся яе вытанчаным профілем у абрамленні жалобнай карункавай хусткі, потым выйшаў з ценю і ўстаў на калені побач.

— Не пытайцеся ні пра што! — не паварочваючы галавы, прашаптала Марыся. — Вы ў вялікай небяспецы! Неадкладна з'язджайце! Не шукайце яго!

— Але чаму? — Ян кінуў асцярожны позірк.

— Калі вы яго знойдзеце, ён вас заб'е!

— Заб'е? Хто? Хто ён?

Нічога не адказаўшы, Марыся ўстала і накіравалася да канфесіянала. Ян рушыў следам, але яна ўжо паспела зайсці ў правы прытвор і прычыніць за сабой дзверцы. Ян з прыкрасцю прысеў на лаву побач. Мінула пяць хвілін. Чаканне рабілася нясцерпным. Ян нерваваўся, але Марыся ўсё не выходзіла. Нарэшце, не вытрымаўшы, ён адчыніў дзверцы левага прытвору і прысеў. Унутры было ціха, толькі ледзь чутны шэпт даносіўся з таго боку канфесіянала, дзе знаходзілася Марыся. Спачатку ён прыняў гэты шэпт за споведзь, як раптам выразна пачуў:

— Не шукайце яго! Хутка ён сам вас знойдзе!

Збянтэжыўшыся ад нечаканасці, Ян прыгнуўся і зазірнуў за краткі акенца. Там, дзе мусіў сядзець ксёндз, не

было нікога. Ян тут жа выскачыў вонкі, рвануў дзверцы правага прытвору, але і там было пуста. Ён азірнуўся па баках, прабегся вачамі па лавах, але Марыся знікла. Ян выскачыў з касцёла на двор, кінуў погляд на дарогу, зноўку забег усярэдзіну, але ўсё марна. Яна нібыта растала ў паветры.

## 41

Калі Ян вярнуўся ў Камаеды, амаль сцямнела. Увайшоўшы ў дом праз парадныя дзверы, ён тут жа пачуў музыку, смех і п'яныя галасы, што даносіліся з вялікай камiннай залы. Госці гулялі ўжо які дзень запар і, здавалася, нават не думалі раз'язджацца. На хвілю падняўшыся да сябе, Ян выглянуў у цёмны калідор і накіраваўся да спальні Станіслава. Сумневы, што ў труне не бацькава цела, усё ж яго не пакінулі. Каб іх развеяць, заставалася адно: зірнуць на радзімы знак на левым плячы.

Адчыніўшы дзверы ў пакоі Станіслава, ён убачыў ля труны Варгіна. Заўважыўшы Яна, кот тут жа саскочыў і шмыгнуў за парцьеру. Ян наблізіўся да цела і яшчэ раз уважліва паглядзеў на бацькавы рукі. Нечакана ён запрыкмеціў у правай краёчак залатой манеты. Схіліўшыся, ён ухапіў яе і асцярожна пацягнуў. Манета павольна паддалася, і неўзабаве з акамянелай рукі паказалася змейка ў кароне. Ян на секунду сумеўся, але тут жа сабраўся і вырваў яе са здранцвелых пальцаў.

Утаропіўшыся на манету, Ян ашаломлены пастаяў з хвіліну, апусціў залаты ў кішэню, затым наблізіўся да ўзгалоўя і пачаў расшпільваць каўнер бацькавай кашулі. Вызваліўшы першы гузік, ён ужо ўзяўся за другі, як незнарок зачапіў казліную маску. З пустых чорных вачніц тут жа вылецеў з тузін восаў. Ян адмахнуўся ад іх, ды нязграбна зачапіў рукой падсвечнік. Той упаў на падлогу, і адра-

зу ж маленькія агеньчыкі пабеглі па чорнай тканіне. Ян пачаў таптаць драпіроўку нагамі. Неўзабаве агонь патух, але тканіна працягвала дыміцца.

Ян толькі крыху перавёў дух, як моцны парыў ветру расчыніў акно — па пакоі паляцелі паперы. Ян кінуўся яго зачыняць, як тут ў акно ўляцела белая сарока. Толькі дзіўная госця села ля труны, вецер тут жа заціх. Няспешна зрабіўшы некалькі крокаў каля ўзгалоўя, сарока павярнулася і чорным вокам зірнула на Яна.

У гэты момант рыпнулі дзверы. Ян кінуў погляд за спіну і нікога там не ўбачыў. Ён ізноў павярнуўся да нечаканай госці, але сарока ўжо знікла. Зачыніўшы акно, Ян падышоў да труны, як раптам заўважыў Карпу. Прысеўшы на кукішкі, той схаваўся за крэслам.

— Панна Марыся прасіла перадаць, — узняўшы галаву, спалохана прашаптаў карузлік, — што будзе чакаць вашу міласць заўтра апоўдні ў старой капліцы! Але аб гэтай сустрэчы ніхто не павінен ведаць!

Карпа адразу пусціўся на ўцёкі, але Ян паспеў перахапіць яго ля дзвярэй.

— Пастой! Чаму Марыся сёння не стала са мной гаварыць? — ён тузануў карузліка за каўнер.

— Не ведаю, ваша міласць! — заміргаў Карпа.

— Ты, шэльма, ведаеш больш, чым кажаш! Што яны ўсе ад мяне ўтойваюць? Адкуль тут гэта манета? — Ян дастаў з кішэні залаты.

— Ваша міласць! Пусціце, пусціце мяне! — залепятаў карузлік. — Гэткіх манет поўна ў доме!

— Станіслаў знайшоў скарб Казіміра?

— Скарб тут ні пры чым! Восы, вашамосць, восы! У доме восы паўсюль! Усюды іхныя гнёзды! Адкуль зараз вылецеў рой?

— З казлінае морды! — Ян кіўнуў на маску.

— Падыміце яе, вашамосць! Вы самі ўсё зразумееце!

Адпусціўшы каўнер, Ян наблізіўся да труны і асцярожна прыўзняў казліную морду. Пад ёю ляжаў вялікі звіты восамі кокан. Ян пхнуў кокан падсвечнікам і тут жа ад нечаканасці адхінуўся назад. З гнязда высыпалася жменя залатых манет. На кожнай красавалася змейка ў кароне. Не знаходзячы, што сказаць, Ян збянтэжана глядзеў на талеры Казіміра.

— Карпа, — нарэшце выдыхнуў ён, — што бацька яму вінаваты? За што ён забраў яго галаву?

— Не ведаю, ваша міласць, не ведаю! Каму вінаваты?

— Ты ведаеш, каму! Сам казаў мне надоечы!

— Запытайце пана Твардоўскага! Ён расследуе справу!

— Твардоўскі паехаў!

— Твардоўскі тут! Ён дома не пакідаў! — незнарок кінуў Карпа і тут жа збялеў. — Божа! Навошта я гэта сказаў! — ухапіўшы Яна за руку, ён спалохана зірнуў яму ў вочы. — Малю, не кажыце нікому! Не кажыце, што гэта я! Яны заб'юць мяне! Заб'юць! — Карпа ўскочыў і, тупаючы кароткімі ножкамі, пабег да дзвярэй. Ян запрыкмеціў, як следам з пакоя выскачыў кот Варгін.

Ян пастаяў яшчэ троху і накіраваўся на пошукі пана Твардоўскага. Увайшоўшы ў ягоны пакой, ён са здзіўленнем убачыў, што следчы стаіць ля сцяны на галаве. Праз імгненне Твардоўскі апусціў ногі, усеўся ў паставе лотаса на падлозе і спакойна прамовіў:

— Індыйская ёга,васпане. Вельмі карысны для здароўя занятак!

Зрабіўшы глыбокі ўздых, ён працягнуў:

— Руіх, зер руі-і-іх. Сімхасана.

— Пан Твардоўскі, як працякае ваша дазнанне? — суха спытаў Ян.

— Шукаем, васпане! Шукаем!

— Што вы ведаеце пра даўжок Станіслава д’яблу? — без залішніх прэлюдый перайшоў Ян да сутнасці пытання.

Ані каліва не збянтэжыўшыся, Твардоўскі змяніў паставу і спакойна адказаў:

— Эка Пада Шыршасана! Злітуйцеся, васпане, як вы можаце верыць у гэткую лухту! Зараз жа не сярэднявечча! Давайце глядзець на рэчы цвяроза. Тут важна знайсці матыў, тады мы адшукаем забойцу.

— Вы каго-небудзь падазраяце?

— Ёсць два чалавекі, якія маглі быць зацікаўленыя ў смерці Станіслава. Першы — Марыся, яго нявеста. Другі — брат Адам Завальня, з якім Станіслаў, як усім вядома, шмат гадоў варагаваў.

— Ды ці ў сваім вы розуме? Пабожная дзяўчына і стары?

— Ну і што, васпане, з таго, што стары? Гісторыя вучыць, што часта брату лягчэй забіць брата, чым ворага. А тут яшчэ шматгадовая непрыязнасць! Дас іст айн моців!

Змяніўшы паставу, Твардоўскі зрабіў глыбокі ўздых:

— А Марыся? Ёй дваццаць пяць, яму амаль шэсцьдзясят. Не кожная, нават самая набожная, дзяўчына пакорліва пагодзіцца на такі шлюб! Анулома Вілома!

— Ды як вы можаце ўсур’ёз пра гэта разважаць! — абурыўся Ян.

— Аднак доказы! У пацверджанне гэтай версіі ў мяне ёсць ліст, атрыманы Станіславам напярэдадні забойства.

— Што за ліст? Спадзяюся, гэта не таямніца следства? Ці магу я на яго зірнуць?

— Вядома, ваша міласць, таямніца! Але дзеля вас!.. Першая шуфляда стала, — паблажліва прамовіў Твардоўскі.

Ян дастаў ліст і ўголас прачытаў:

— *«Вашую просьбу магчыма выканаць у абмен на тое, пра што даведаецеся пры сустрэчы. Будзьце заўтра апоўначы ў старой капліцы».*

Подпісу пад лістом не было, але напісаны ён быў той жа рукой, што і ліст, які Ян атрымаў у Пецярбургу.

— Тут няма подпісу! Ад каго гэты ліст? — Ян усхваляваўся.

— Руіх, зер руі-і-іх. Гэта, васпане, рука Марысі!

## 42

Гэтыя могілкі заўсёды нагадвалі яму старажытны, з праломамі ў даху, замшэлы касцёл. Хавалі тут рэдка, мясціны наўкол ляжалі бязлюдныя. А тыя магілы, што засталіся з мінулых часоў, здавалася, пасівелі ад старасці ды чакалі тут часу, калі іх саміх ціхая жалобная працэсія суправодзіць на цвінтар. Не надта ўпарадкаванымі шэрагамі яны, нібыта касцельныя лавы да алтара, сыходзіліся да старажытнай капліцы роду Завальняў, якая застыла ў глыбіні ў стрыманым танцы скупога паўночнага барока.

Паўсюль узнімаліся ў неба высокія разлапістыя дубы, кроны якіх нібыта ўтваралі скляпенні касцёла з мноствам чорных вароніных гнёздаў. Галіны спляталіся нагэтулькі шчыльна, што ў летні сонечны дзень унізе заўсёды было халаднавата і цёмна. Толькі месцамі праз правалы ў страсе цягучы і мутны прамень даходзіў да зямлі. У дзяцінстве Ян любіў назіраць, як армады камароў віхурацца ў промні, бестурботна марнуючы свой адзіны ў жыцці дзень.

Прыбыўшы задоўга да сустрэчы, Ян з лёгкім сумам прайшоўся па могілках, чым растрывожыў навакольных варон, і накіраваўся да капліцы. Ён уважліва агледзеў падыходы да яе, але нічога незвычайнага не выявіў і ўвайшоў. Акінуўшы позіркам надмагіллі Завальняў, ён зацікавіўся адным з іх. Сама магіла была пустая, пліта над ёй крыху павернута, але імя на пліце адсутнічала. Толькі каля ўзгалоўя быў выбіты профіль жанчыны ў слязах, якая

чымсьці нагадала Плачку, якую Ян раз быў сустрэўшы на дарозе. Ён толькі нахіліўся, каб зазірнуць унутр, як здрыгануўся ад нечаканасці — хтосьці лёгка дакрануўся да яго пляча. Абярнуўшыся, ён убачыў перад сабою Марысю.

— Вы? Вы так ціха ўвайшлі!

— Даруйце, што ўчора я так раптоўна знікла! Так трэба было. За намі сачылі.

— Хто за намі сачыў?

Марыся нічога не адказала, а толькі адвяла вочы.

— Едзьце адсюль! — крыху памаўчаўшы, нарэшце вымавіла яна. — Не пытайцеся! Едзьце. Ён заваблівае вас у пастку, у якую ўжо патрапіў ваш бацька.

— Але хто ён?

— Вы самі ведаеце яго імя!

Ян заўважыў, як плечы Марысі задрыжэлі, а ў куточках вачэй паказалася сляза.

— Даруйце, даруйце мне! Гэта я загубіла Станіслава! Грэх на маёй душы, вялікі грэх! Я не ведаю, як яго выкупіць. Можа, вы — маё збавенне? Калі я зберагу вас, мне палягчэе!

Прыпаўшы да пляча Яна, Марыся расплакалася, як дзіця.

— Усё пачалося мінулай вясной, — праз слёзы прагаварыла яна, — Станіслаў сустрэў мяне і закахаўся. Апошнімі гадамі ён быў самотным і няшчасным. Але праз гэтае каханне ён зрабіўся яшчэ болей няшчасным. Я доўга была да яго безуважнай, але аднойчы да яго прыйшоў гэты чарнакніжнік Генрых і сказаў, што ёсць спосаб заваяваць маё сэрца. Што, калі ён гатовы на ўсё, апоўначы да яго прыляціць адна знатная дама.

Дастаўшы карункавую хустачку, Марыся пачала выціраць слёзы.

— Дзеля мяне Станіслаў быў гатовы на ўсё, — працягвала яна. — Роўна апоўначы акно ў яго пакоі расчыніў моц-

ны вецер і ўляцела дзіўнага колеру сарока. Белая сарока. Станіслаў кінуўся быў яе праганяць, але тая раптам знікла. Нечакана ён пачуў за спінаю голас, абярнуўся і ўбачыў маладую прыгожую панну ў чорнай сукенцы.

— Як вы можаце гэта ведаць? А тым болей у гэта паверыць? — не вытрымаў Ян. Але тут жа адчуў недарэчнасць свайго пытання. Ён бачыў белую госцю не далей як учора на ўласныя вочы.

— Станіслаў сам мне ўсё распавёў! — адазвалася Марыся. — Ён быў са мной шчырым. Ды вы ж ведаеце свайго бацьку. Ён не быў скрытным чалавекам. Любіў кураж і пустую пахвальбу. Фанабэрыўся тым, што грошай будзе мець столькі, колькі захоча. Хаця, думаю, прычына была ў іншым. Ён хацеў майго жалю і пачуцця віны. Бо дзеля мяне ён пайшоў на гэтую страшную ахвяру. Ён хацеў, каб я гэта ведала і адказала ўзаемнасцю. Ён імкнуўся мяне прывязаць, жадаў, каб мы былі разам навечна.

— Ахвяру?

— Так, ахвяру. Начная госця прапанавала яму дамову. Вы самі разумееце з кім. Узамен яна абяцала вярнуць маладосць і багацце.

— Маладосць? — Ян успомніў пра рукі.

— Маладосць, але не страчаны час! Яна сказала, што ён застанецца ў сваім часе, і дала зразумець, што яго ў Станіслава засталося нямнога. Але выглядаць ён будзе не па гадах маладым. Золата ж атрымае столькі, колькі захоча. Яго знясуць восы. Вы бачылі гэтых вос! У Камаедах іх аж кішыць!

Розумам Яну складана было ў гэта паверыць, але ўсё пачынала складацца ў цэльную карціну: восы, памаладзелыя бацькавы рукі, залатыя талеры са змейкаю ў кароне. Гэта была і не рэальнасць, але і не сон. Хутчэй, нешта сярэдняе — насланнё.

— А потым што?

— Яны заключылі дамову тут, — Марыся паказала на пустую магілу. — Госця загадала Станіславу раніцой адправіць людзей у старую капліцу, каб тыя пачалі высякаць яго будучую магілу. Але на надмагіллі нічога не пісаць, толькі выбіць сілуэт Плачкі. А калі ўсё будзе гатова, апоўначы прыйсці ў капліцу. На надмагільнай пліце ён убачыць гадзюку, якая страціла яд. Змяя будзе з жоўтым хвастом. Гэта прыкмета бяссілля. Ён павінен зрабіць надрэз на руцэ і даць змяі лізнуць кроплю крыві. Гэта зноў напоўніць гадзюку ядам і сілай. Потым змяя знікне, а вярнуўшыся, прынясе доказ таго, што дамова прынятая.

Толькі Марыся змоўкла, Ян яшчэ раз зірнуў на пустую магілу. Яму падалося, што слабы пах гніення, які ўвесь гэты час разносіўся па капліцы, раптам узмацніўся. Заставацца тут надалей рабілася невыносна.

— Хадземце! — Ян накіраваўся да выхаду.

Пакінуўшы склеп, Ян на поўныя грудзі ўдыхнуў вільготнае, з водарам драўнянай гнілі і моху, паветра, і пад гоман патрывожаных птушак яны павольна рушылі ўздоўж алеі.

— Станіслаў усё так і зрабіў. Прыйшоўшы апоўначы ў капліцу, ён надрэзаў руку і даў змяі лізнуць кроплю крыві. Хвост у той адразу ж пачарнеў. Яна запаўзла ў яго будучую магілу і вярнулася адтуль з залатым талерам у зубах. На манеце была выбіта змейка ў кароне.

— Вось гэта! — Ян дастаў з кішэні манету.

Марыся нічога не адказала, толькі схілілася і сарвала некалькі позніх восеньскіх кветак.

— З той ночы Станіслаў перамяніўся. Ён нібы памаладзеў гадоў на трыццаць. Маршчыны паразгладжваліся, сышла сівізна. Ён пачаў засыпаць мяне дарагімі падарункамі. Апроч таго, ён вельмі стараўся спадабацца майму бацьку, сляпому Францішку, з разлікам на ягоную прыхільнасць. Зрэшты, ува мне таксама нешта змянілася. За-

мест беднага старога я бачыла перад сабою мужчыну, які ўсім сэрдцам мяне кахаў.

Марыся абярнулася і пільна паглядзела на Яна.

— Божа, якія вы падобныя! Я нібыта зараз з ім гавару! — яна зніякавела і сарамліва адвяла вочы.

Паклаўшы маленечкі букет ля ўзгалоўя нейкай безыменнай магілы, яна з сумам прамовіла:

— Тры месяца таму мы абвясцілі пра нашы заручыны. Так я стала нявестай Станіслава. А потым здарылася жахлівае. Ён мне ўсё распавёў. Станіслаў думаў мяне прывязаць, але пралічыўся. Я заявіла яму, што хутчэй выйду замуж за нямоглага старога, чым за чалавека, які прадаў сваю душу. Але ў адным ён меў рацыю. Я адчувала ўва ўсім, што здарылася, сваю віну. Тады я сказала, што выйду за яго, але з адным непахісным патрабаваннем. Ён мусіў скасаваць дамову.

Марыся заціхла. Моўчкі яны выйшлі за агароджу. Карціна таго, што адбылося з бацькам, склалася. Для паўнаты не хапала толькі некалькіх дэталяў. Ян не наважваўся спытаць пра ліст. Яму падавалася, што само пытанне абразіць Марысю.

— Калі Станіслаў даведаўся пра маё рашэнне, яго ахапіў адчай, — перапыніла маўчанне Марыся. — Ён заявіў, што вызваліцца ад дамовы немажліва. Але я была непахісная. Ён яшчэ больш упаў у роспач і пачаў намагацца скасаваць дамову. Але ўсё было марна. Аднак аднойчы да яго прыйшоў Генрых і паведаміў, што вызваліцца магчыма, але толькі пры адной умове, і перадаў Станіславу ліст.

— Які напісаны вашай рукой! — скарыстаўшыся момантам, усклікнуў Ян.

Вочы Марысі ад абурэння ўспыхнулі:

— Вы думаеце, я яго напісала?!

— Прабачце, не хацеў вас пакрыўдзіць! Але ўчора мне яго паказаў пан Твардоўскі. Ён сцвярджае, што гэта ваш почырк!

— Як вы можаце верыць Твардоўскаму? — пракрычала Марыся. — Я гэтага ліста не пісала, а Твардоўскі — вядомы ўсім чарнакніжнік! Вы думаеце, ён шукае забойцу? Ён не шукае забойцу, а толькі яшчэ больш заблытвае справу! Вы ведаеце, што яго памагаты Гугон — зусім не Гугон?

— А хто ж ён?

— Гэта толькі цела Гугона. Калісьці Гугон хадзіў у Твардоўскага ў вучнях, калі той яшчэ быў прыват-дацэнтам у Вільні. Аднойчы Гугон зайшоў у ягоны пакой ва ўніверсітэце і ўбачыў на стале вялізную чорную кнігу. Гугона разабрала цікаўнасць. Ён зазірнуў у кнігу, але тут жа ўпаў мёртвы ад жаху. Калі Твардоўскі вярнуўся, ён спалохаўся, што яго абвінавацяць у смерці Гугона і заклікаў чорта ўсяліцца ў ягонае цела. З тых часоў ён пры Твардоўскім неадлучна! Я не пісала гэтага ліста!

— Яшчэ раз даруйце! Не трымайце крыўды! Відаць, нехта хоча вас зняславіць!

— Але вы не ведаеце яшчэ самага галоўнага! — Марыся пільна паглядзела на Яна. — Я здагадваюся, што прапанавалі Станіславу ў абмен на свабоду. Думаю, гэта было настолькі жахліва, што нават у абмен на душу ён не мог гэтага прыняць!

— Што ж ім патрэбна?

— Мілы Ян, — Марыся дакранулася далонню да ягонай шчакі. — Едзьце! Уцякайце адсюль! — умольна прагаварыла яна. — Няўжо вы не зразумелі яшчэ? Вы! Ім патрэбны вы!

## 43

На трэці дзень сумневы вярнуліся. Пасля званка Машы я быў амаль упэўнены, што яна не сыдзе, і нават правёў нядзелю ў тым лёгкім настроі, які здараецца, калі немач, што доўга мучыла цябе, раптам адступае. Але ў панядзе-

лак хвароба зноўку пра сябе нагадала. Не сумняваўся я толькі ў адным: трэба штосьці рабіць з Палінай. Два тыдні тайм-аўту былі зараз выпрабаваннем, чымсьці кшталту праверкі на вашывасць.

Блукаючы па лабірынце сумневаў, я разумеў, што выхад там жа, дзе ўваход: у адказе на пытанне «Чаму?» Я ніколі раней не бачыў Паліну такой раз'юшанай. Яна заўсёды была эксцэнтрычнай, але сапраўдная апантанасць прыйшла менавіта са з'яўленнем Машы. У мяне і да таго здараліся раманы, але яна заставалася спакойнай. Цяпер жа яе нібы ахапіла шаленства. Злосць яшчэ болей надавала ёй моцы. Яна на вачах ператваралася ў пачвару. Зараз мы ўдваіх знаходзіліся ў адным лабірынце, але я не быў Тэсеем. Я адчуваў, мне не стане сілы забіць у ёй Мінатаўра. Наадварот, я бачыў, як растае мая сіла ад марных блуканняў па цёмных блытаных калідорах, як ад безнадзейных бадзянняў пачынаюцца зрывы. І я разумеў нежаданне Машы рушыць у лабірынт услед за кволым Тэсеем.

Але, калі прычына палягала менавіта ў Машы, я ведаў, Паліна не супакоіцца. Тады ўсё залежыць ад Машынай цярплівасці, ад яе рашучасці застацца са мной. Праўда, тлела яшчэ надзея ўхапіцца за нітачку былых прэтэнзій Паліны і пайсці ўслед за ёй да выхаду, паспрабаваць дамовіцца.

Паліна аб'явілася ўжо праз дзень — без папярэджання пазваніла ў дзверы і запатрабавала ключы ад машыны. У кватэру я яе не ўпусціў, пакінуў чакаць у пад'ездзе. Потым мы паехалі ў «Шклатару». Мне трэба было ўсё паказаць і ўзяць з Паліны распіску.

— Я мяркую, у яе крымінальнае мінулае, — абыякава прамовіла Паліна, як толькі мы ад'ехалі ад майго дома.

— Што яшчэ за глупства? З чаго ты ўзяла? — я страшэнна на яе злаваўся, але намагаўся не нервавацца, бо інакш шанцаў дамовіцца не будзе.

— Яна бы гэтак на мянтоў не рэагавала. Адразу відаць, гэта балючая для яе тэма. Да таго ж я навяла сякія-такія даведкі, пагаварыла з суседзямі...

— Ты размаўляла з суседзямі? Ты была ў яе дома? — перабіў я Паліну, адразу зразумеўшы, чаму пасля Магілёва Машын настрой перамяніўся.

— Так! А што тут такога? — нявінным галаском адгукнулася Паліна. — Яе сусед заявіў, што два гады яна там не жыла і толькі нядаўна зноў аб'явілася. Я падазраю, што яна гэтыя два гады сядзела. Думаю, за наркотыкі. Магчыма, яе ўзялі з таварам, але бацька адкупіў, дык няшмат далі. Я пацікавілася, за гэта больш даюць. Адсюль уся яе таямнічасць. Проста баіцца прызнацца. Эх, падфарціла ж табе закахацца ў былую наркаманку! — праве са спачуваннем дадала Паліна.

Я маўчаў, бо не ведаў, што адказаць. Абвергнуць, сказаць, што гэта не так, з поўнай упэўненасцю я не мог. Маша ад мяне штосьці ўтойвала, пра сябе амаль не распавядала. Я нават не ведаў, кім яна працуе. А калі сапраўды яна дзесьці два гады прападала, магчыма, у гэтым і хавалася прычына ейнай хуёвасці.

— Мы рассталіся! — нарэшце холадна адрэзаў я.

— Сам, мілы, вінаваты. Калі б ты адразу адчыніў... Я ўсяго-та хацела ключы і дакументы на машыну ўзяць, — Паліна неяк падабрэла і нават пачала даваць мне парады, як Машу вярнуць.

— Ну хочаш, патэлефаную ёй, паспрабую паразмаўляць?

— Не!!! — я затармазіў на пустой дарозе. — Толькі не ўздумай ёй званіць!

— Як пажадаеш! Я проста дапамагчы хацела!

Прыехаўшы ў «Шклатару», мы заселі ў «Маназе». Паліна дала мне яшчэ з тузін парадаў, як Машу вярнуць і што я павінен змяніць у сабе, калі мы хочам жыць доўга і шчасліва. Увесь гэты час яна знарок выстаўляла свой забінтава-

ны пальчык. Гіпсу на ім не было, але і пра мянтоў, катаргу і Калыму яна больш не ўзгадвала. Дапіўшы каву, я паклаў на стол ключы і чысты аркуш.

— Пішы распіску.

— Ой! — Паліна зірнула на гадзіннік. — Мне пара! Спазняюся на сустрэчу!

— Ты што, не будзеш сёння забіраць машыну?

— Ай, распіскі яшчэ гэтыя пішы! Няма часу! Потым, іншым разам. Пакуль! Заплаці за маю каву! — Яна падхапілася і выпырхнула з «Манагі».

Застаўшыся ў адзіноце, я набраў тэлефон Джэфа. Наперадзе чакалі два цяжкія тыдні. Каб яны хутчэй праляцелі, трэба было нечым сябе заняць. Зрэшты, пытанне «чым?» не стаяла. Паглыбіўшыся на паўгады ў сцэнар, я абсалютна ўсё запусціў. Незлічоныя хвасты незавершаных справаў, стосы недасланых лістоў з дакорам маячылі перада мною з канца лета. Нават новы раман ужо два месяцы я не мог адправіць у друк, бракавала некалькіх дзён, каб праглядзець рэдактуры. Наспеў час брацца за працу.

Джэф вёў у мяне дызайн аднаго бясконцага праекта. Раз на два тыдні мы бачыліся, штосьці без асаблівага з майго боку энтузіязму абмяркоўвалі, я неахвотна выдаваў яму чарговы аванс і новыя матэрыялы. На сустрэчы ён нязменна прыходзіў са сваёй прыгажуняй-жонкай Грышай. Уключаў радыёкропку ды вяшчаў, вяшчаў, вяшчаў, пакуль я не націскаў кнопку: «Бывай! Будзем на сувязі!» Радыё замаўкала, але ненадоўга. Развітваючыся, ён паспяваў выдаць столькі падрабязнасцей свайго жыцця, што часта я шкадаваў, што не нашу пры сабе дыктафона. Кожная з іх магла стаць сюжэтам для невялікага апавядання.

Джэф некалькі гадоў пражыў у Амерыцы, потым — у Пітеры. Ведаў, паводле яго словаў, ледзьве не ўсіх знакамітасцяў. Пару разоў, але нядоўга, пасядзеў у турме. Быў трой-

чы жанаты. Меў процьму прыхільніц, пры гэтым заўсёды абіраў самых прыгожых, акурат такіх, што падабаюцца мне. Быў высокі, хударлявы, абаяльны, выглядаў заўжды франтам. Адным словам, уяўляў сабой тыповага авантурыста.

Ягоная прыгажуня-жонка Грыша таксама мне падабалася. Калісьці я нават зайздросціў Джэфу і лічыў іх ідэальнай парай. Грыша не менш любіла паразмаўляць, але пераплюнуць Джэфа ў гэтым майстэрстве было складана. Але калі мы заставаліся ўдваіх, з функцыяй радыёкропкі яна спраўлялася няблага. Праўда, слухаць яе і не чуць было прыемна. У Джэфа голас быў востры і мітуслівы, так што жаданне выключыць яго ўзнікала ўжо на трэцяй хвіліне. У Грышы ж — ліўся і аксаміціўся, так што, калі не паглыбляцца ў сэнс, слухаць яе можна было бясконца.

Сустрэўшыся вечарам ў кавярні на Кастрычніцкай, мы хуценька абмеркавалі справы. Невялічкімі авансамі Джэф умудрыўся выбраць увесь ганарар, таму наспеў час гэты праект прыкончыць. Але мяне болей цікавіла іншае — Джэф ведаў пра наркотыкі ўсё.

— О, бацечка, вы што, сабраліся ўцюхаць кілаграм гераіну? — павесялеў ён пасля майго асцярожнага пытання.

— Ну, перастаньце, перастаньце! — аджартаваўся я. — Я так, чыста тэарэтычна.

Джэф тут жа пусціўся ў шматслоўны энцыклапедычны экскурс. Хуценька азнаёміўшы мяне з крымінальным кодэксам, ён узяўся за новыя трэнды і брэнды ў гэтай сферы. Потым перайшоў на знаёмага, якому нешта там падкінулі, і пачаў распавядаць, як той уцякаў ад мянтоў. Спыніў я яго ўжо падчас пагоні на даху і як мага далікатней пацікавіўся, ці не знаёмая яму дзяўчына, падобная да Машы. Джэф ведаў не толькі ўсё, але і ўсіх з гэтага кола, але па маіх апісаннях нікога падобнага не прыгадаў.

— Ты што, закахаўся? — аксамітным галаскам запыталася раптам Грыша.

— Так, закахаўся! Толькі мы ўжо рассталіся! — суха адрэзаў я, зазірнуўшы ў вялізныя, гэткія ж аксамітныя, як і голас, вочы Грышы. Я нечакана злавіў сябе на думцы, што мне хочацца ёй усё распавесці, менавіта ёй, хоць мы ледзь знаёмыя. Мне трэба было выгаварыцца, раскрыць душу, пачуць штосьці суцяшальнае. Калі я і меў зараз патрэбу ў суцяшэнні, то прагучаць яно мусіла менавіта такім, як у Грышы, мяккім, велюравым голасам, які б ліўся, нібы матчына калыханка, які б супакойваў, адганяў трывогу. Голасам, пад які хацелася б заснуць і прачнуцца ўжо праз два тыдні.

— Джэф, будзь сябрам, можаш дзе-небудзь трохі пагуляць? Папіць піўка ці чаго мацнейшага? — я паклаў на стол купюру. — Мне трэба з Грышай пагаварыць. Нешта накшталт псіхатэрапеўтычнага сеанса.

— Добра! Няма пытанняў! — здзіўлена ўтаропіўся на мяне Джэф. — А, разумею, разумею! Ох ужо гэтыя бабы!

Ён тут жа зарадзіў даўжэзны выкрывальніцкі маналог пра баб, але на трэцяй хвіліне я яго прыпыніў і, усё ж адправіўшы пагуляць, распавёў Грышы ў падрабязнасцях усё, што здарылася за апошнія тыдні.

— Ну трындос! Так, чувак, ты папаў! — залілася аксамітам Грыша, як толькі я скончыў. — Толькі я табе кажу, вернецца твая прынцэса! Як піць даць вернецца! Я табе як баба кажу! Калі б хацела, адразу б сышла. А калі яна табе пасля ўсяго яшчэ і патэлефанавала, то дакладна вернецца. Але ты напэўна мусіш нешта прыдумаць з Палінай. Калі Маша вернецца, а вас па-ранейшаму будзе трое, тады трындос — яна сыдзе! Гэтым разам назаўжды!

## 44

**З** Палінай мы дамовіліся ў аўторак, сустрэўшыся ў піцэрыі каля Дома Кіно. Выйсця ў мяне не было, я пагадзіўся на ўсё, наўзамен атрымаўшы абяцанне не лезці ў нашы з Машай

справы. Паліна нават напісала на гэты конт распіску. Галоўным жа патрабаваннем з ейнага боку было купіць кватэру.

Праз гадзіну, абклаўшыся ў «Маназе» газетамі, я ўзяўся вывучаць кватэрнае пытанне. Зрабіць з аднапакаёвай двушку можна было і тысяч за дзесяць. Але пераязджаць у хрушчоўку, няхай нават і ў цэнтры, Паліна не хацела. Ёй падабаліся ампірныя сталінкі, але я заклікаў да рэалізму. На сталінку мне ніяк не сабраць. Заставаўся варыянт у адносна новых дамах, але абавязкова з вялікай кухняй. А гэта значыла — трэба дастаць яшчэ дваццаць пяць тысяч. Дзе іх узяць, я пакуль не ведаў. Вельмі дапамагла б дзясятка, дадзеная ёй два гады таму, але Паліна прызналася, што тая ўжо рассмакталася. Я пракручваў у галаве ўсе мажлівыя варыянты, але адзіным рэальным заставаўся крэдыт.

Знясілеўшы ад пытання, я адправіўся на Кастрычніцкую прагуляцца. Толькі я выйшаў з аркі ля ГУМа, дзе ў двары прыпаркаваў машыну, як адразу напаткаў Пашу, майго старога партыйнага сябра. Ён стаяў ля франтаўскага намёта і агітаваў за цяперашняга лідара Міхасёва. Побач месціліся палаткі валошынскіх, гарадзенскіх, крыху наводдаль лапацінскія ды нечыя яшчэ.

— Уцюхваеш электарату заляжалы тавар? — пажартаваў я, павітаўшыся. — А што, месца нічога так далі! Ля ГУМа. Так бы мовіць, ля муроў электаральнай святыні. Проста разгул дэмакратыі! Калі б вы папрасілі, думаю, вам і ў ГУМе дазволілі б палатку паставіць. На гэтых выбарах усё можна!

— Ды не, я ў метро ішоў. Тут так, каля сваіх тармазнуў.

— А я думаў, ты за Міхасёва агітуеш, — троху здзівіўся я, бо ведаў Пашу як хвацкага, ідэйнага хлопца, які на ўсіх кампаніях адпрацоўваў за франтаўскіх па поўнай.

— Я на гэтых выбарах не працую. Часу няма! — халаднавата адрэзаў Паша. Але па яго інтанацыі мне падалося, што

справа была не ў адсутнасці часу. — Дый няма за каго ўпрагацца! — тут жа пацвердзіў ён маю здагадку і раздражнёна, часам з рэмаркамі з моцных славечак прайшоўся па кандыдатах.

Асабліва дасталося Валошыну за яго неразборлівасць.

— Ды ён толькі разменная фішка ў гульні! Ніколі Масква сур'ёзна на яго не паставіць! Скажы, навошта ім паэт, тым больш беларускамоўны? — кіпяціўся Паша. — Паэт ва ўладзе? Ха-ха! Ні хуя! Не веру! Зараз ім патрэбны Гапон! На гэтых выбарах яны ні на кога сур'ёзна не ставяць! Бо ведаюць: зараз шанцаў няма! А вось на наступных ужо будуць гуляць па-сур'ёзнаму! Толькі дзеля наступных ім трэба плацдарм тут адбіць, агентуру крамлёўскую завесці, пасткі расставіць. Вось таму зараз Гапоны і патрэбныя. Выведка боем! Траянскія, курва, коні ў паліто! А нашы — дурні, не разумеюць, ува што ўвязваюцца! Пакарыстаюць і як шклатару здадуць!

Калі Паша дайшоў да Лапаціна, яго голас яшчэ больш наліўся злосцю. Назваўшы таго гнідай ды пятай калонай Крамля, ён раздражнёна махнуў рукою, маўляў, тут увогуле няма пра што размаўляць.

— За Міхасёва буду галасаваць, дый тое толькі з партыйнай салідарнасці. Не лідар ён, але хоць просты і сумленны мужык. І гэтым не прадаўся! Хаця і Фронт ужо не той! Развалілі, блядзь, казлы! Уяўляеш, настрой такі, што ў першы раз на Плошчу ісці не хочацца! Няма за каго стаяць! За гэтых хітра выебаных казламордаў? Але ўсё адно пайду! З прынцыпу пайду! А гэта шоу паглядзі! Моцна ўстаўляе! — дадаў Паша пра суботні прамы эфір кандыдатаў. Я за ўсёй паранояй апошніх дзён, вядома, яго прапусціў, але збіраўся паглядзець у запісе на сайце «Наш Покліч».

Мы развіталіся, і я прайшоўся па партыйным агітпрывозе. Усе гэтыя палаткі ля сценаў ГУМа чымсьці нагадвалі

нелегальны стыхійны кірмашык першых гадоў перабудовы, калі даведзены да галечы народ выходзіў у людное месца са сваім немудрагелістым таварам. Хто стаяў з «Беламорам», запалкамі, прасам, колькаю ў тамаце. Нехта з левай гарэлкай, іншы з майткамі, шкарпэткамі, рукавіцамі. А самыя багатыя — з кітайскімі пухавікамі.

З пухавікамі стаялі, вядома, валошынскія, бабкі на кампанію ў якіх вадзіліся. Каля палаткі сустракаў асабіста Валошын, праўда, плоскі — ягоная фатаграфія ў поўны рост, наклееная на фанерны профіль. Час ад часу, калі налятаў парыў ветру, Валошын плазам ляцеў на асфальт. Але тут жа з намёта выбягаў хтосьці ў кітайскім пухавіку і падпіраў яго кіем. У астатніх тавар выглядаў прасцейшым. Ля латкоў тоўпіліся мінакі. Не думаю, што ім надта хацелася нешта купіць, але тавар быў цікавы. Такога не прапаноўвалі ў ГУМе.

Праўда, на тым перабудовачным кірмашу адчуваўся кураж, чаканне перамен, прадвесце свабоды. Тут такога адчування не было. Хутчэй, наадварот, у паветры вісела няясная трывога. Нібы і дамовіліся з мянтамі, каму трэба на лапу кінулі. Вунь ён ходзіць удалечыні — морда-блін, быццам не заўважае. Але на паласатых кітайскіх торбах усё адно як на іголках сядзім. Зараз хто-небудзь свісне: «Шухер! Аблава!» — дык мы-та імгненна падскочым, Валошына пад паху, праз арку налева і ў цёмных дварах-та і знікнем.

## 45

Назаўтра я паехаў на студыю. Паперы з Міністэрства паранейшаму не было, але мы працавалі ў спадзеве, што гэты недарэчны канфуз усё ж вырашыцца. Я заспеў Канаваленку ў кабінеце. Побач сядзелі Валя, Віка і Коля. На стале

маячыла пачатая бутэлька віскі. Па панурым выглядзе ўсіх было зразумела: нешта здарылася.

— Усё, гамон! Нас замарозілі! — убачыўшы мяне, хмурна прамовіў Канаваленка.

— Як замарозілі? Што значыць замарозілі?

— Як, як! Хуяк! Паставілі на кансервацыю! Усё, кіна не будзе! Закрылі!

— Як закрылі? — запытаўся я, не жадаючы паверыць, што гэта праўда. Хацелася ўбачыць, як Канаваленка зараз заржэ ды скажа: «Пажартаваў!»

Але ён наліў, моўчкі выпіў і скрозь зубы працадзіў:

— Усё, на хуй, звальваю ў Маскву!

— Пачакай, пачакай! Гэта што, міністэрскія? Яны ж не маюць права! Фільм жа прыняты!

— Гэта не міністэрскія. Калі б міністэрскія, хрэн з імі. З Канцылярыі папера прыйшла. У Батурына ляжыць пад грыфам «Сакрэтна». Мне Надзея сказала, ён нават ёй не паказаў. Толькі на словах пераказаў.

— Што ж цяпер рабіць? — няўпэўнена запытаўся я, ужо зразумеўшы, што катастрофа ўсё ж адбылася.

— А халера яго ведае, што зараз рабіць! Заўтра да Батурына пойдзем.

— А сёння нельга?

— Позна сёння. З'ехаў ужо! Уставаць раней трэба! Багема, курва маць, бульбахорар!

Я паехаў са студыі, разумеючы, што ўсе планы, дамовы, крэдыты паляцелі к д'яблу. Я зноўку быў беспрацоўным, сядзеў у буйных і дробных пазыках, вэксалях, распісках Паліне. За сцэнар цяпер ужо не заплацяць. Але галоўнае, што рабіць зараз з Палінай, бо, вядома, яна не супакоіцца.

Ноччу мне не спалося. У галаве, адна бязлітасней за іншую, круціліся думкі. Я выйшаў на кухню, наліў канья-

ку, паглядзеў ў пустое чорнае неба і пачаў нервова абіраць мандарынкі. А трэцяй ночы, выпіўшы амаль пляшку, я ненадоўга заснуў.

Раніцай у прыёмнай нас ужо чакала Надзея Пятроўна.

— Гэта жахліва, проста кашмар! Але вы не хвалюйцеся, — нечакана падбадзёрыла яна, — Я буду настойваць, каб вам за сцэнар заплацілі. Зараз гэта залежыць ад рашэння Батурына.

Батурын сядзеў у кабінеце, змрочна ўтыркнуўшыся ў газету. Тое, што адбылося, можа, і не было для яго катастрофаю, але балючым ударам па перспектывах дакладна. Вытрымаўшы паўзу, ён пачаў мудрагеліста і, як зазвычай, здалёк. Напэўна, раней ён умеў выказвацца і прасцей. Але гэты час мінуў, як толькі ён перастаў быць проста палкоўнікам. Кабінеты, у якіх даводзілася яму засядаць, хутчэй за ўсё, праслухоўваліся. Як, верагодна, праслухоўваўся і гэты. Таму тут больш падыходзіла мова складаная, з мноствам алюзій, паўнамёкаў, метафар. Каб выказаць усё, але нібы нічога канкрэтнага, за што можна было б учапіцца. Большасць былых палкоўнікаў так не ўмелі. А калі б паспрабавалі, нічога, акрамя «нахуй-захуй, легчы-ўстаць, казлабродзішча» у іх бы не атрымалася. Таму, калі трэба было штосьці прамовіць не для чужых вушэй, яны проста выводзілі суразмоўцу з кабінета.

Але Батурын быў сапраўдным візантыйскім майстрам. Эрудыцыя дазваляла яму выказаць любую крамолу, але гэтак зашыфраваць, што быццам бы і сэнс зразумелы, і прычапіцца няма да чаго. Вычытваць ягоную мову заўсёды трэба было між радкоў. Але і ў саміх міжрадкоўях ён умудраўся прыхаваць яшчэ міжрадкоўі. Праўда, нават і з яго эзопавай мовай: *«Свинья под Дубом вековым, Из дальних странствий возвратясь, На корабле у Пушек с Парусами, Навозну кучу разрывая, Проказница-Мартышка, Осел, Ко-*

*зел, Да косолапый Мишка Затеяли сыграть Квартет ...»* — яму не ўсё ўдавалася. Не раз я назіраў, як ён з кімсьці прагульваўся за размовай па двары кінастудыі.

Сэнс міжрадкоўяў, адрасаваных нам, зводзіўся да таго, што вайна з Расіяй не вечная, таму ў Канцылярыі сумняюцца ў слушнасці асноўнага пасылу. Фільм, вядома, патрыятычны, што цяпер, падчас баявых дзеянняў, вельмі да месца. Але здымкі — працэс доўгі, і калі праз год фільм з'явіцца на экранах, ніхто толкам не ведае, у наколькі блізкіх адносінах мы будзем з Масквой. Можа, гэтая блізкасць акажацца большай за сяброўства, а тут раптам скандал. Наш чалавек забіў рускага Імператара Аляксандра. Тут у міжрадкоўях я прачытаў міжрадкоўе міжрадкоўяў: сама ідэя забіць Імператара Аляксандра была сцэнарнай памылкай. Будзь ён Мікалаем ці Аўгустам, усё магло б скласціся інакш.

Напрыканцы Батурын суцешыў нас надзеяй: маўляў, фільм толькі паставілі на кансервацыю, але ўсё адно мы яго здымем троху пазней. Напэўна, у гэтае суцяшэнне ён сам не верыў. Усё было ясна. Заставалася толькі маё пытанне.

— Студыя за сцэнар заплаціць! — цвёрда, *па-пацанску* адрэзаў Батурын пасля звароту Надзеі Пятроўны. — Гэта я абяцаю!

## 46

**У** пятніцу я патэлефанаваў Машы. Вядома, не трэба было гэтага рабіць. Варта было пачакаць яшчэ хоць бы некалькі дзён. Але я не стрымаўся. Мне вельмі хацелася яе ўбачыць, ці хаця б пачуць і паведаміць, што з Палінай ўсё вырашылася. А калі так, то навошта цягнуць гэты бессэнсоўны тайм-аўт.

Праўда, абяцанне Батурына заплаціць за сцэнар было пакуль толькі намерам. Спярша трэба было дачакацца гро-

шай, але ўсё ж катастрофа адсунулася. Калі Батурын слова *пацанскае* стрымае, тады я выратаваны і ўсе дамовы з Палінай рэальныя.

Пасля абеду я заехаў на студыю і заспеў Канаваленку ў той жа паставе, што і два дні таму. Ён сядзеў у кабінеце з Вікай, Валей і Колем, а перад імі стаяла пачатая бутэлька віскі.

— Усё, на хуй, у Маскву! — узмацніў маё дэжавю Канаваленка. — Я ўжо тэлефанаваў. Прапануюць серыял. Ганарар — шэсцьдзясят тысяч баксаў. Гэта не тут за капейкі ўябываць. Беларускае кіно, беларускае кіно! Не будзе, на хуй, ніякага беларускага кіна!

Я выйшаў у калідор. Пастаяў ля акна, перапаліў. Я вагаўся, але ўсё ж дастаў тэлефон і набраў нумар. Гудкі былі доўгія, але ніхто не адказаў. Нервова запаліўшы яшчэ адну, я зразумеў, што аблажаўся, не варта было тэлефанаваць, але і адступаць цяпер позна. Праз дзесяць хвілін я набраў ізноў. І гэтым разам Маша не адказала. Цяжкая бетонная пліта нібыта лягла на плечы. Згінаючыся пад яе цяжарам, я дабраўся да кабінета, узяў у Колі тэлефон, выйшаў ў калідор і набраў з яго нумара. Маша адказала адразу.

Як мага больш бадзёрым голасам я ўзяўся распавядаць пра нашы дамовы з Палінай. Маўляў, праблем з ёй болей не будзе, як не будзе і яе званкоў, але ў думках я праклінаў сябе за сваю мяккацеласць.

— Дамовіліся? Я рада за вас! — выслухаўшы, холадна адрэзала Маша. — А наконт званкоў не ўпэўнена! Яна не далей як учора мне тэлефанавала!

Прагнуўшыся пад бетоннай плітой яшчэ болей, я на паўсагнутых нагах паплёўся па калідоры, намагаючыся ўцяміць, як такое магло стацца. Учора быў чацвер, а я ўзяў з Паліны слова ў аўторак.

— Як вясковае жыццё? — паспрабаваў я змяніць тэму, але ў думках ужо размазваў Паліну па асфальце.

— Ніяк! — гэтак жа холадна адказала Маша. — Я яшчэ не выбіралася за горад. Усе гэтыя дні мы прабухалі з Зойкай!

— Можа, пабачымся на выходныя?

— Не ведаю. Пэўна, я нарэшце паеду! Бацька абяцаў адвезці.

— Дык, можа, сёння? Хоць ненадоўга на каву? — асцярожна, з апошняй надзеяй запытаўся я.

— Сёння дакладна не! Мы з Зойкаю сустракаемся з сябрамі. Пойдзем куды-небудзь выпіць! — адсекла апошнюю надзею Маша.

Калі, глуха грукнуўшы бетоннай плітой аб вяршнікі дзвярэй, я ўвайшоў у кабінет, нават Канаваленка злітаваўся нада мною. Падпусціўшы некалькі шпілек наконт баб, ён прапанаваў пакінуць машыну і выпіць. Выпіць хацелася, але я ведаў: не дапаможа.

Увесь вечар, пакуль я сядзеў за гарбатаю ў «Шклатары», а потым тупа бадзяўся па цэнтры, я размазваў сябе па асфальце, таптаў за сваю бесхрыбетнасць. Тэлефанаваў Паліне, але тая ўсё адмаўляла, казала, маўляў, ёй няма больш чым заняцца, як толькі назвоньваць маім наркаманкам.

Вярнуўшыся дахаты, я адправіў Машы эсэмэс. Напісаў, што, калі ёй зробіцца нудна з сябрамі, я чакаю яе ў любы момант, хоць а трэцяй ночы. Праз пару хвілін прыйшоў адказ, які крыху мяне суцешыў:

«*Сэнкс! Буду мець на ўвазе. Можа, не сёння. Але прапанова прыехаць так, знянацку, а трэцяй ночы мне спадабалася. Яшчэ пашкадуеце, што абмовіліся!*»

Маша, відаць, развесялілася ў кампаніі і троху падабрэла. Але непрыемнае адчуванне, што яна з кімсьці там весяліцца і ўжо дакладна не толькі з сяброўкамі, але не мае жадання знайсці часу для мяне, засталося. Слабая надзея, што Маша падабрэе яшчэ болей і ўсё ж прыедзе, тлела да трэцяй ночы, пакуль я не адправіўся спаць.

У суботу з раніцы я спрабаваў сканцэтравацца на справах, але па-ранейшаму спадзяваўся на сустрэчу. Аднак каля першай прыйшоў эсэмэс:

*«Вельмі шкада, але сёння мы не ўбачымся. Ваша прынцэса памятая і п'яная. Калі палягчэе, патэлефаную».*

Чорт мяне тузануў, але я не стаў чакаць і тут жа пазваніў сам. Голас Машы быў бляклы і млявы. Я бадзёра пралапатаў, што разумею яе стан, што можам перанесці сустрэчу на заўтра. Але яна бясколерна адказала: «Не ведаю». Размова скончылася нічым, і тут я адчуў, як жа мне хуёва. Ізноў я ўсё зрабіў няслушна. Эсэмэс жа быў нармальны. Трэба было пачакаць, але я чарговы раз усё сапсаваў. На душы зрабілася тужліва і паскудна.

З надыходам цемры цяжар узмацніўся. Сядзець дома ў самоце стала невыносна. Грукнуўшы дзвярамі, я адправіўся ў цэнтр. Субота. Ва «Угарні», напэўна, шабат. Але ва «Угарню» я не паехаў. Бачыць усё тыя ж твары і плявузгаць з імі ні аб чым я сёння не мог. Хацелася нажэрціся з кімнебудзь іншым.

Прысеўшы на Кастрычніцкай ў «Пенале», я заказаў дзвесце грам каньяку і набраў Джэфа.

— Джэф, мне хуёва!

— Зразумеў, не пытанне! Давай нажарэмся! — з гатоўнасцю адгукнуўся ён.

— Ты памятаеш тую файную паненку, з якой прыходзіў у «Шклатару» некалькі тыдняў таму? У яе яшчэ такое дзіўнае імя, нейкае японскае.

— Міка?

— Дакладна. Міка!

— О! Гэта вельмі файная паненка! Сапраўдная гейша! А ведаеш, як перакладаецца яе імя? Маладзік! Уяві! Новы месяц! Першая квадра! Як табе?

— Нармальна! Пасуе! Слухай, патэлефануй ёй. Можа, Маладзік сёння таксама нажэрціся хоча?

## 47

Яны стаялі ў пустой і халоднай цёмна-сіняй прасторы. Іх было дзевяць. Дзясяты не прыйшоў. Калі б ён з'явіўся, то даў бы зразумець, што роўны з усімі. Аднак дзясятка мае іншы парадак. Замест сябе ён адправіў двух комікаў — Тарапуньку і Штэпселя, якія праз канфэранс мусілі давесці поўную нікчэмнасць дзявяткі.

Праўда, ужо на першых хвілінах тэледэбатаў дзявятка ператварылася ў васьмёрку. Валошын заявіў, што не хоча ўдзельнічаць у фарсе, заклікаў усіх пасля выбараў рушыць на Плошчу і сышоў. Штэпсель наўздагон штосьці кінуў пра тумбачку, якая будзе цяпер прадстаўляць валошынскія інтарэсы. Тарапунька хацеў з гэтай нагоды распавесці анекдот пра паручніка Ржэўскага, але Хоміч яго асек, і яны прыступілі.

Усе разважалі разумна і слушна. Хоміч лаяў, Дрозд нерваваўся з нязвычкі і казаў пра сумленныя выбары, Лапацін з усмешкаю заклікаў выйсці на Плошчу. Макарэвіч красамоўнічаў пра Еўропу. Міхасёў — пра інтарэсы народу. Але ўсе яны — і Лапацін, і Макарэвіч, і Міхасёў, як і пяцёра астатніх — выглядалі нягегла. Усё, што яны абвяшчалі, раставала ў прасторы.

Гіганцкую студыю афарбавалі ў халодны цёмна-сіні колер зорнага неба. На фоне яго прэтэндэнты мусілі падавацца прыхаднямі, гуманоідамі з іншай планеты, а іх іншапланетная мудрасць — не зямною, нетутэйшай, чужой для народу. Адразу за выступоўцамі стаялі тры велізарныя гарызантальныя люстры, якія ўзмацнялі адчуванне іншапланетнага краявіду. Люстры былі зробленыя з вялікіх нацягнутых на канструкцыі святлоадбівальных плёнак, таму выразнага адлюстравання не давалі. Выява атрымоўвалася рассеяная, нібыта туманная, што мусіла падкрэсліць туманнасць таго, што яны прамаўляюць.

Акрамя гэтага, плёнкі выяву скажалі. Аднаму выцягвалі галаву да агіднага касмічнага яйка. Іншаму падаўжалі і пераламлялі ногі. Люстры нібыта крычалі: «Зірніце на гэтых яйкагаловых! Бачыце, гэта лунацікі, марсіяне, прыхадні з космасу! Не верце ім! Усё, да чаго яны заклікаюць, — падман! Паглядзіце на іх мутныя адбіткі ў люстрах. Яны тут сапраўдныя! Няўжо вы не зразумелі яшчэ? Гэтыя гуманоіды небяспечныя!»

Касмічны краявід студыі ўзмацняла гэткая ж цёмнасіняя люстраная падлога, у якой гуманоіды адлюстроўваліся яшчэ раз. Але калі ў люстрах глядач бачыў іх са спіны, то тут яны стаялі перакуленыя дагары нагамі. Дакладна гэтаксама трэба было ўспрымаць сутнасць іх прамоваў — двудушных, двухсэнсоўных, ілжывых.

Перад кожным перакрутышам стаяла белая кафедра, якая формай нагадвала века труны. Яна прыходзілася яйкагаловым крыху вышэй, чым па пояс, але разам з працягам у люстранай падлозе, атрымлівалася па памеры якраз дакладна з труну. Восем прыхадняў стаялі па струнцы каля сваіх белых трунаў, дзявятая — валошынская — пуставала.

Чорныя пахавальныя гарнітуры лунацікаў зліваліся з касмічнаю сінню. А яркія, асляпляльна белыя труны выглядалі на яе тле вельмі кантрастна. Труны неслі падвойнае пасланне. У адным яны нібы папярэджвалі гледача: «Бачыце, куды вас загоняць яйкагаловыя, калі дабяруцца да ўлады!» У наступным улада намякала, куды можа загнаць саміх гуманоідаў. На веку кожнай труны прадбачліва было выбіта імя кандыдата.

— Не зразумеў! Гэта шо за хрэнь! Спецэфект ці інтэрнэт ў цябе прытарможвае? Зірні, як яны рухаюцца! Быццам бы ўсе абдзяўбаныя! Во, во, глядзі! Зірні на Макарэвіча! Ха-ха! Чувак! А крута, калі б яны прыйшлі на дэбаты

абкураныя! Я б сказаў: «Ну, чувакі, вы — супер!» — весяліўся Джэф, торкаючы пальцам у манітор.

— Можа, запіс храновы? А інтэрнэт у мяне ўвогуле хуткасны!

Тое, што іншапланецяне рухаліся нейкімі дзіўнымі рыўкамі, я таксама адразу заўважыў. Быццам бы з дваццаці чатырох кадраў некалькі было выдалена. Я не ведаў, што гэта за эфект, але складвалася ўражанне, што атмасфера Зямлі для іх занадта шчыльная, таму кожны рух даваўся ім з намаганнем.

— Не, ну ты зірні! Паглядзі на Дразда! Яны дакладна выстаўляюць яго ідыётам! Зірні, як ён лыпае вачышчамі!

Перыядычна камера выхоплівала буйным планам кожнага з кандыдатаў ў самы няўдалы момант. У носе, вядома, ніхто не калупаўся. Але варта было прыхадню выявіць нейкую непрыемную грымасу на твары, як яна тут жа ляцела ў эфір са схаваным падтэкстам: «Паглядзіце, які афэлак! І вы збіраецеся галасаваць за яго?»

Асабліва даставалася Хомічу, Макарэвічу і Дразду. Хоміч быў хмурны і сур’ёзны. Але як толькі ягоная пахмурнасць пераходзіла ва ўзлаванасць, камера неадкладна яе фіксавала. Макарэвіч жа не ведаў, чым заняць свае рукі ды ўвесь час намагаўся іх куды-небудзь прыладзіць. У пэўны момант ён пачухаў тое самае месца, але камера тут жа гэта заўважыла. Неўзабаве сцяміўшы, што яго спадцішка здымаюць, Макарэвіч у такія імгненні выцягваўся і ўтаропліваўся ў аб’ектыў. Дрозд не рэагаваў ніяк — працягваў ад хвалявання хутка-хутка лыпаць вачамі. Лепш за ўсіх трымаўся Лапацін. Ягоная загадзя адрэпетаваная шырокая ўсмешка не сыходзіла з твару, таму камера рэдка яго хапала. Ён быў ёй не цікавы.

— Ды выключайце вы ўжо гэтую каламуту! Колькі можна! Не магу піць пад такую хрэнь! Я хачу «Ленінград».

Усё! Я іду і ўрубаю! — Грыша ўзнялася і накіравалася ў суседні пакой, весела дадаўшы: — Сваёй прынцэсе гэткае б наўрад ці паказаў!

— А я, памятаю, папёрся раз ў Піцер на канцэрт Мэнсана, — тут жа падхапіў тэму «Ленінграда» Джэф. — Ён тады ўпершыню прыехаў у Расію. Карацей, уяві, я кажу сабе: «Бля буду, паеду!» Хто б іншы, я б з Мінска не папёрся. Але ж гэта Мэнсан! Карацей, прыязджаю за пару дзён да канцэрта, купляю квіток за сотку баксаў. Перад канцэртам курнуў і еду ў клуб. Гляджу, на ўваходзе — ахова, думаю, пранесці ж, гады, не дадуць. Заходжу ў кнайпу, выпіваю дзвесце. Прыкінь, пачынаецца канцэрт. Я на танцполе, вакол — натоўп. Я на прыходзе. Ну, поўны адлёт! Раптам чую, хтосьці ззаду наступае мне на пятку. А чаравік, напэўна, развязаўся, і, уяві, адчуваю, адна нага ў мяне ў чаравіку, а другая ўжо босая. А натоўп такі, што не магу нагнуцца і пашукаць! Я нагою вакол сябе — раз-раз, адчуваю побач толькі нечыя ногі. Адным словам, увесь канцэрт Мэнсана ў мяне ў галаве адно: «Дзе чаравік?» Чартыхаюся, якога ражна пёрся, каб вось гэтак бяздарна. А калі не знайду, як тады па Піцеры ў адным чаравіку?

— Джэф, хопіць ужо трындзець пра свой чаравік! — мабыць, Грыша чула гэтую гісторыю ўжо не раз.

— Карацей, пасля канцэрта ўвесь натоўп зваліў, а чаравік валяўся на танцполе. Прыкінь, ха-ха, увесь канцэрт яны па ім тапталіся.

Мы весяліліся ў мяне ўжо цэлы вечар. Элька, другая жонка Джэфа, якая прыехала ў Мінск з Амстэрдама на пару тыдняў, пайшла каля гадзіны ночы. Калі б я падаў знак, яна б, хутчэй за ўсё, засталася. Увесь вечар Элька глядзела на мяне позіркам вялікай драпежнай яшчаркі. Быццам чакала моманту, калі конік пакажа галоўку з зацішка, каб тут жа яго злізнуць вострым і доўгім, бы бізун, язычком.

Але конік галавы ўсё не паказваў, рабіў выгляд, нібы не заўважае яе недвухсэнсоўнага погляду. Зусім не таму, што яшчарка была непрыгожая. Наадварот, дзяўчына-вітамін з вялікімі, злёгку раскосымі вачамі. Але слова, якое я сабе даў, трымала.

Побач з яшчаркаю пад «Вечным горадам» — вялікай, у цяжкай раме карцінаю Жданава, што загадкава мігацела начнымі агнямі, увесь вечар сядзела Міка. Каб яна глядзела на мяне гэтаксама, як Элька, супраціўляцца было бы цяжэй. У ёй сапраўды мігцела нешта ад дзіўнага хараства маладзіка. Яе вострыя вусны на выцягнутым, абсалютна бледным твары нязменна выяўлялі адчужаную паўночную ўсмешку. Гэткія ж безудзельныя вочы пазіралі на ўсё з ледзь заўважнай, але заманлівай пагардай. Гэтак, напэўна, мог бы глядзець маладзік на акіянскую хвалю ў час прыліву, якая хоча яго, але не можа дастаць. Аднак Міка ўвесь вечар прываблівала Джэфа. Здавалася, што паміж імі існавала даўняя патаемная сувязь. Наўрад ці гэта было каханне, хутчэй, нешта падобнае на жаданне давесці яго да прыліву і ў момант кульмінацыі ўсунуць два пальцы ў разетку, потым высмактаць кроў, ад гэтага кончыць і ўпасці на яго нерухомае цела.

Грыша чамусьці назірала за іх перамігваннямі спакойна. Напэўна, яна нешта ведала, але старалася не заўважаць. Я ж, набраўшы ўвечары нумар Джэфа, насамрэч хацеў убачыць Грышу. Пачуць яе ціхую мядовую калыханку. Але пра Машу мы амаль не гаварылі. Увесь вечар вясёлымі байкамі раздзіраў эфір Джэф, паўночныя яшчаркі радавалі вока, а я быў п'яны, так што калі і ўзгадваў пра Машу, то мімаходзь і нязменна з лёгкім раздражненнем.

Не памятаю, як тое здарылася, але праз гадзіну мы з Грышай ляжалі абсалютна голыя за зачыненымі дзвярамі маёй спальні. Магчыма, я папрасіў праспяваць калыханку, а заслухаўшыся, пачаў мімаволі здымаць з яе адзенне.

Яна, пэўна, не супраціўлялася, і нават прысутнасць Джэфа, які заціх у суседнім пакоі з Мікай, яе не стрымала. Грыша заўсёды падабалася мне з таго дня, калі я ўбачыў, як яна цалавалася з Джэфам на кухні іх ранейшай кватэры. Яна ж раптам прызналася, што я таксама ёй заўжды падабаўся, яшчэ з тусоўкі на Чырвонай, куды прыходзіў ужо вядомым нефармалам з доўгім распушчаным хайрам. Але яны былі яшчэ падлеткамі, таму я яе не бачыў.

Я даўно хацеў Грышу. Цяпер жа нават адзенне нас ужо не раздзяляла, але я спыніўся. Зусім блізка — на іншым канцы горада — паміж намі стаяла Маша. Крыху далей — на канапе ў суседнім пакоі — Джэф. Усю ноч мы каталі адно аднаго жаданнем і сентыментальнымі ўспамінамі, а пад раніцу заснулі.

Назаўтра прачнуўся я позна. Грышы побач ужо не было. Я заспеў усіх у вялікім пакоі. За акном весяліўся марозны нядзельны дзень, але твары ля стала былі пахмурнымі ці то з пахмелля, ці то праз нечаканыя павароты гэтай ночы. Джэф, пазбягаючы зірнуць Грышы ў вочы, распавядаў штосьці ў тэлевізар. Грыша, апусціўшы галаву, панура круціла ў руках пусты пачак. Толькі Міка па-ранейшаму з лёгкай пагардай усміхалася марознаму сонцу. Напярэдадні яна выпіла меней за ўсіх і, здавалася, учора два пальцы ў разетку Джэфу ўсё-такі ўставіла.

Хоць троху пабольвала галава, адчуваў я сябе нашмат лепей, чым дзень таму. Згрызоты сышлі, а раздражненне ўзмацнілася. А што да мінулай ночы, мне не было чым сябе папракнуць. Выпіўшы чарку, я пасадзіў Джэфа абіраць бульбу, а сам адправіўся ў краму праз дарогу за каньяком і інгрэдыентамі для пахмельнага рыбнага супу.

— Паслухай, мне няёмка цябе пра такое прасіць, — пачала здалёк пабляклым аксамітам Грыша, калі я вярнуўся. — Але калі ты супраць, я не пакрыўджуся. Нам хуёва.

Разумееш, каньяк не дапаможа. Калі ты скажаш «не» — ніякіх праблем. Мы паедзем. Карацей, можна, мы ў цябе сёе-тое забадзяжым? Не хвалюйся, мы потым адчынім акно і ўсё праветрым.

Што гэта будзе не кампот з сухафруктаў і не згушчонка з арэшкамі, я сцяміў.

— Добра, але толькі сёння! Вы зварыце ў мяне гэты кампот усяго адзін раз. Ок? — неахвотна пагадзіўся я і адправіўся на кухню гатаваць рыбны суп. Джэф тут жа выклікаў таксоўку і паляцеў некуды за сухафруктамі.

Калі кватэра напоўнілася такім дурманлівым водарам, што ён, здавалася, пахмяляў ужо адным толькі пахам, нечакана прыйшоў эсэмэс. Я неахвотна, з выглядам: «Каго там яшчэ чэрці прынеслі!» — выйшаў у залу, зірнуў у тэлефон і атарапеў. Паведамленне было ад Машы. Я тут жа вярнуўся на кухню і прачытаў:

*«Добры дзень, дарагі! Сёння ён сапраўды добры. Ва ўсякім разе, нашмат дабрэй, чым учора. Чым займаецеся?»*

Выпаліўшы ад хвалявання цыгарэту, я закінуў у рондаль дзве бляшанкі ласося і напісаў:

*«Дзень добры, Прынцэса! Вельмі шкада, але сёння мы не ўбачымся. Твой Прынц п’яны і памяты. Сустрэнемся праз тыдзень».*

Потым я закінуў у суп слоік аліваў, пакінуў два на закуску, на радасцях падняў чарку і выпіў. Рэшта гэтага дня праляцела ў дзіўнай узрушанасці. Я зноўку піў, Міка пайшла, Джэфварыў свой кампот, потым безупынку трындзеў. Грыша ажыла таксама. Мне падалося, што няёмкасць паміж імі мінула. Потым мы пілі ўсе разам, а бліжэй да вечара ад Машы зноў прыйшоў эсэмэс:

*«Што ж, 1 : 1! Гуляем далей».*

Я выйшаў на кухню і, трыумфуючы ў душы, запаліў. Цяпер я быў адназначна ўпэўнены: Маша вернецца. Трэба

было пачакаць толькі тыдзень. У наступную нядзелю я ёй патэлефаную, і мы сустрэнемся ў панядзелак. Я вярнуўся да гасцей шчаслівы. Да дзевятнаццатага заставалася ўсяго сем дзён.

## 48

Госці пілі ўжо які дзень запар. Пачыналі звычайна ад абеду — раней ніхто не ўставаў, з хмурнымі памятымі тварамі спускаліся ў вялікую залу і чакалі, пакуль пададуць юшку. Дзеля аднаўлення ранішняй бадзёрасці духу яна падыходзіла лепей за ўсё. Гатавалі яе тут выдатна, рыбу бралі заўсёды толькі жывую, злоўленую на досвітку ў Нешчардзе —бліжэйшым дзікім лясным возеры. Прыпраўлялі востра, каб лепей здымала пахмелле. Дадавалі яшчэ нейкія мясцовыя зёлкі, але рэцэпт трымалі ў сакрэце. Госці любілі пакаштаваць юшкі не толькі для ранішняй, але і вечаровай бадзёрасці духу. Таму на кухні вакол вялізнага чопа круглыя суткі мітусілася чэлядзь.

Пасля юшкі з моцнай налiўкай ўсе ажывалі. Зала напаўнялася шумам, смехам, п’янымі галасамі. Тады падавалі гарачае: індычку з лімонам, смажанага гусака, бараніну з сельдэрэем, верашчаку, цэпеліны, часам — дзічыну.

Спусціўшыся, як звычайна, у абед у вялікую камінную залу, пан Генрых заспеў гасцей, калі тыя акурат апляталі запечаных рабчыкаў. З парога ён заўважыў, што нешта дзіўнае тут дзеецца: у цэнтры прасторнага стала сярод страў і закусак месцілася арфа. Побач, проста на стале, у белай грэцкай тозе сядзела пышная дама з распушчанымі выцвілыміваласамі. Дзявуха млява перабірала струны, напаўняючы залу мелодыяй пасляабедзеннай ляноты. Два служкі ў бардовых лiўрэях з перапэцканымі сажай тварамі, уяўляючы маўраў, стаялі ля дзвярэй. У глыбі залы

з кардоннай каронай на галаве сядзеў пан Скамароха. Побач у белай сукенцы — Гугон. Яго макушку аздабляла карона трохі меньшая. Пан Свіное Рыла па звычаі спаў, утыкнуўшыся ў талерку каля ног арфісткі.

— Пакінь і ты нас, любая Гертруда! — узнёсшы руку да неба, пафасна дэкламаваў пан Скамароха па маленькай кніжыцы ў цёмным скураным пераплёце. — Мы толькі што па Гамлета паслалі, каб мог ён тут, нібыта выпадкова, знайсці Афелію.

— Што тое мае азначаць? — пацікавіўся Генрых у маўра.

— Яснавяльможнае панства пазабавіцца мае ахвоту, пан аканом, — паўшэптам адказаў той. — Моташна ім, значыцца, які дзень без просыпу піць. Вось і надумалі. Дзеля пацехі пана Гамлета ў ролях чытаць. А дамова ў іх такая: хто засмяецца, той лезе пад стол ды адтуль свае слоўцы прамаўляе. Пан Альберт ужо там. Ну пацеха, даруй Божа!

— Што ж, няхай цешацца! — Генрых кіўком клікнуў Карпу. — Ідзі ў склеп! Прынясеш на кухню шафрану ў юшку. Ды паболей бяры, каб надоўга хапіла!

— Гертруда! Што вы спіце? — касавурыўся Скамароха на закалыханага гукамі арфы Гугона, — Мы з бацькам, як законныя шпіёны, пастанем так, каб, бачачы нябачна, абмеркаваць спакойна іх спатканне... Іх спатканне! — раздражнёна паўтарыў пан Скамароха і балюча пхнуў Гугона пад сталом нагою.

— Дык я пайду! — схамянуўшыся, падаў Гугон голас і рассеяна зазірнуў у кніжку. — Афелія, жадаю ад душы, каб Гамлета рабіла непрытомным адна твая прыгожасць.

— Ах, як бы я хацела! — адпіўшы з келіха, найграна ўздыхнула пані Мальвіна.

— Афелія, тут гуляй! Чытай, глядзі ў кнігу: чытанне аздабляе..., — уступіў быў пан Твардоўскі, затым пацягнуўся да графіна, наліў сабе і каралю і, намаляваўшы на тва-

ры замілаванне, працягнуў ялейным галаском: — ...нам самоту. Нас варта папракнуць за гэты грэх, — усім вядома, што набожным тварам і справамі святымі мы ўмеем падсаладзіць і чорта.

— Ах! Гэта праўда! — смачна кракнуў Скамароха і тут жа перакуліў у глотку налітую Палоніем чарку. — Сумленне мне, як бізуном, пагладзіў! — паморшчыўшыся, хруснуў ён салёным агурочкам.

У адказ Твардоўскі чокнуўся з Гертрудай і, зазірнуўшы ў кніжыцу, з трывогаю ў голасе ўсклікнуў:

— Ідзе, я чую. Пойдзем, найяснейшы!

Усе ў чаканні замёрлі.

— Ідзе, я чую. Пойдзем, найяснейшы! — закінуўшы ў рот італьянскую кілбаску, гучна паўтарыў пан Твардоўскі, але, не дачакаўшыся адказу, моцна стукнуў па стале кулаком. — Гамлет! Яшчэ Польска, курва маць! Вы што, заснулі?

— Пытанне: бычь чы не бычь! — пачуўся з-пад стала голас пана Альберта.

— Ну хвала богу! Гамлет жывы!

— Цо разумней: чы це’рпіць удажы, каменні, стшэлы ярастнэго лёсу, — перасільваючы акцэнт, працягваў з-пад стала Гамлет, — альбо ўзброіцца на можэ кшыўд і знішчыць іх змаганнем? Графін! Подайтэ мне графін!

— Які яшчэ графін? Няма яго ў Шэкспіры! — стараючыся патрапіць у рыфму, утаропіўся ў кніжыцу Палоній.

— Панове, прошэ! О Езу! Графінчык каньяку! Чы ж мне сядзець еднэму ў самоце і без каньяку?

— Афелія, падайце прынцу дацкаму графін! — паблажліва кіўнуў Скамароха.

— І келіх? З чэго на холеру бендэ піл? — падпоўзшы на карачках да Мальвіны, Гамлет палка абхапіў яе ногі. — Афелія?.. О німфа, памяні мое гжэхі ў твоіх модлітвах.

Гулліва прыўзняўшы абрус, з-пад якога тут жа паказалася галава Гамлета, Афелія, ледзь стрымліваючы смех,

передала яму графінчык, але адразу сабралася і з сур'ёзным выглядам прачытала:

— Прынц, хацела запытаць вас аб здароўі.

— Дзенькуе бардзо! Цудоўне, фантастычне! — адкінуўшы ў бок кніжыцу, Гамлет нечакана задраў Афеліі сукенку і кінуўся пакрываць пацалункамі яе ногі. — Цудоўне! Лепей не быва! Любе! Любе тэ ножкі!

Афелія пачала была гулліва супраціўляцца, але праз імгненне не вытрымала і залілася смехам.

— Ага! Засмяяліся! Пад стол! Пад стол!

— Але ж гэта несправядліва! Гамлет да мяне сам прычапіўся! Заказытаў мяне вусішчамі!

— Аднак жа правілы гульні! Раз засмяяліся — пад стол пайдзіце! Пад стол, Афелія! Пад стол! — паўтарыў Скамароха пад ухвальныя крыкі гасцей. — Пад стол! Пад стол!

Какетліва абвёўшы ўсіх поглядам, Мальвіна спаўзла на падлогу:

— Прынц, у мяне ёсць памяткі ад вас, я ўсё збіралася іх вам вярнуць, дык вось, вазьміце, я прашу вас.

— Афелія, а келіх? Келіх дзе?

Афелія адкінула абрус, прыхапіла два кілішкі і, ціхенька пабразгваючы імі, тут жа зноў знікла пад сталом.

— О мая Афелія, мая крулева, я чекам ці!

У доўгім пацалунку яны апусціліся на паркет.

## 49

Скляпы пад Камаедамі былі самай старажытнай часткай палаца. Верх яго не раз перабудоўваўся, аздабляўся пад новыя павевы і густы. Але падзямелле заставалася той нязменнай асновай, якая ацалела ад замка, ад ранейшых часоў, калі Камаеды былі болей прыстасаваныя да абароны, чым да баляў і свецкіх прыёмаў.

Заблытаным лабірынтам яно цягнулася пад усімі незлічонымі пабудовамі сядзібы. Пагаворвалі, што ў адным з яго прапахлых балотнаю цінай пакояў Казімір схаваў скарб. Не ўсе ў гэта верылі, але тое, што недзе ў падзямеллі замураваны ўваход у доўгі тунэль да Глухога возера, ведаў кожны. Не раз ён уратоўваў жыццё насельнікам дома. Дабрацца паверсе да возера было амаль немагчыма, з усіх бакоў яго атачалі балоты. Але калісьці яшчэ Казімір паставіў на возеры патаемны прычал, з якога па прытоках Дрысы на лодцы можна даплыць да Нешчарды.

Праўда, Глухое возера мела ў народзе благую славу. Рыба ў ім даўно знікла, затое вадзілася ўсялякая нечысць. Хадзіла паданне, што калісьці было ўсё іначай. На беразе стаяла рыбацкая вёска, а рыбы было тут столькі, што самім хапала ды яшчэ і ў Рыгу вазілі. Жыў у гэтай вёсцы вядомы ва ўсёй акрузе рыбак па імені Родзька. Як ні закіне ён нерат, выцягваў поўна ляшчоў, акунёў ды карпаў. Але раз у начную завіруху пастукаў нехта да яго ў акно ды папрасіў пазычыць сані. Родзька ў цемры чалавека не разгледзеў, прыняў за суседа, а раніцою знайшоў у двары свае залубянелыя сані з вялізным ляшчом.

Пасля таго колькі Родзька нерат ні закідваў, траплялiся адны пачвары. Хадзілі чуткі, што той ноччу пастукаўся да яго чорт. Ён жа і ўсю рыбу з возера скраў, а гадаў засяліў. Неўзабаве рыбакі з вёскі сышлі, а возера пачало абрастаць дрыгвою. Казалі, што ўваход у тунэль таму і замуравалі, каб нечысць з возера ў Камаеды не прабралася.

Карпа не любіў гэтых пазавальваных старызнай скляпоў. Хоць уваход у тунэль ужо сто гадоў як быў замураваны, але кожны раз ён адчуваў тут нечую прысутнасць. Нібыта нечысць з возера падыходзіла да самага дома і хавалася зусім побач, за мурам. Як трэба было сюды па справе, стараўся выбрацца як найхутчэй.

Трымаючы ў руках паходню, а пад пахай бярэмя шафрану, Карпа ўжо вяртаўся да сходаў. Мінаваўшы доўгі скляпеністы калідор, ён толькі павярнуў за рог, як раптам замёр. Наўпрост перад ім на крюку, што звісаў са столі, боўтаўся вялікі, жывы яшчэ карп. Хапаючы ротам паветра, ён быццам з мальбою мутным вокам пазіраў на Карпу. З жахам карузлік падышоў да карпа, каб зняць, але той вісеў завысока. Каб дастаць да крука, трэба было што-небудзь падставіць.

Карпа кінуўся па калідоры, прывалок запыленае крэсла, ускараскаўся і паспрабаваў дацягнуцца. Ён ужо мог ўхапіцца за рыбіну, але да крука яшчэ было сантыметраў трыццаць. Прыхапіўшы стос кніг, ён падклаў іх пад ногі і паўтарыў спробу. Выпрастаўшыся ў струнку, карузлік пацягнуў руку, але ўсё адно да крука троху не хапала. Паклаўшы на крэсла яшчэ некалькі кніг, Карпа зноў з асцярогаю ўскараскаўся на хісткую піраміду. Цяпер крук і каламутнае вока боўталіся амаль ля твару.

Абхапіўшы адной рукой карпа, карузлік пацягнуўся другой да крука і пачаў акуратна здымаць рыбу. Балансуючы на кнігах, ён ўжо яе адчапіў, моцна прыціснуў да сябе абедзвюма рукамі і хацеў быў спусціцца, як раптам крук падскочыў, уваткнуўся Карпе ў рот і пацягнуў да столі.

Зароўшы ад болю, Карпа выпусціў рыбу і ўхапіўся за ланцуг. Паспрабаваў дастаць нагою да спінкі крэсла, каб крук адчапіць. Але ногі ўжо сутаргава боўталіся на некалькі сантыметраў вышэй. Неўзабаве хрыпы карузліка сціхлі, а ногі бязвольна павіслі.

## 50

Абапёршыся спінаю аб дубовую ножку, Гамлет спаў пад сталом. Часам, пачуўшы мелодыю арфы, ён з трывогай рас-

плюшчваў вочы, блытана мармытаў: «О Езу… моя крулева…» — яшчэ мацней прыціскаў да грудзей спустошаны графін і зноў перакульваўся ў сон. Побач у растрапанай сукенцы ляжала Афелія. Часам яна нервова здувала з вачэй валасы і з агідаю пазірала на потны, няголены, збрыджаны касавокасцю твар Гертруды, на яе мярзотныя вусікі, якія, быццам выспачка шызага балотнага моху, тапырыліся пад носам.

— Ну што, Афелія? — папраўіўшы на галаве карону, Гертруда ўсім целам насунулася бліжэй.

Не ў сілах пераносіць смурод з разяўленага ва ўхмылачцы рота, Афелія павярнулася спінай, знайшла ў кнізе патрэбнае месца і самнамбулічным галаском праспявала:

— Як пазнаць, хто мілы ваш? Мой мілы — пілігрым: капялюш і доўгі кій, сандаліі на ім.

Падабраўшыся яшчэ бліжэй, Гертруда юрліва слізганула вусамі па ножках Афеліі і, рэзкім рухам задраўшы яе спадніцы, агаліла тонкія, расчырванелыя, нічым не прыкрытыя ягадзіцы.

— Што ты спяваеш, мілае дзіця?

— Маўчыце, не перабівайце, — нервова, скарагаворкаю праспявала Афелія. — Панна, панна, ён памёр, у магілу лёг: на магіле той трава, камень каля ног…

— Афелія, — звёўшы вочы да пераносся, прашаптала ў адказ каралева і, задраўшы сваю сукенку, навалілася на Афелію ўсім целам.

— Маўчыце, ах, не перабівайце, ах. Ах! — адчайна замітусілася тая, — Саван бел, як белы снег. Ах! Ах!

Праз хвіліну хаатычныя рухі Афеліі сталіся мернымі і рытмічнымі. Толькі два словы выляталі ў такт з яе скажоных пагардаю вуснаў:

— Ненавіджу! Ах! Ненавіджу! Ах! Ненавіджу, ах, ах, ненавіджу вас усіх!

## 51

Крычалі страшна, пранізліва, з кухні. Ледзь пераступіўшы парог дома, Ян пачуў крык ды кінуўся па калідоры, убег на кухню і ўбачыў спалоханую прыслугу, якая стоўпілася ля вялізнай дубовай бочкі. Ян падышоў бліжэй, глянуў і замёр. З глыбіні бочкі паказаўся знявечаны твар Карпы. У яго ных шырока расплюшчаных вачах застылі жах і здзіўленне. Пастаяўшы момант у аняменні, Ян выскачыў з кухні і кінуўся да камiннай залы.

Убегшы туды, ён тут жа падляцеў да аканома, схапіў за грудкі і пад істэрычны віск таўстухі-арфісткі паваліў яго на стол. З грукатам пасыпаўся посуд.

— За што? Чуеш?! За што ты забіў яго? За што ты забіў гэтага няшчаснага чалавека?

Спрытна адштурхнуўшы нападніка, аканом падскочыў і тут жа перакаціўся на той бок стала.

— Пастойце! Вып’ем, панове! — пачуўся раптам з-пад абруса голас Скамарохі. — Г... Га-а-а-млет! — п’яна працягнуў ён, прыцiснуў да сябе галаву пана Альберта і смачна пацалаваў яго ў лоб. — П’ю... Ік! За цябе! — ікнуўшы яшчэ раз, ён неўразумела ўтаропіўся ў кнігу. — А вось... знайшоў... Нясіце кубак прынцу!

Адхінуўшы галаву, пан Альберт здзіўлена прыслухаўся да шуму у зале. Потым, вылупіўшы вочы, ён паднёс кніжыцу да носа і спалохана прачытаў, ледзь вымаўляючы словы:

— Пастаўце. Потым. Трэба... перш... закончыць... Ік!

Толькі ён перакуліў наліты яму кілішак, як тут жа побач на падлогу звалілася талерка з фаршаванаю курыцай. Выкаціўшы вочы яшчэ болей, пан Альберт пацягнуўся за курынай нагой, схапіў яе, паднёс да рота і, зазірнуўшы ў кніжыцу, няўпэўнена вылупіўся на Скамароху:

— Што, мо-о-о няпраўда?

Прыслухоўваючыся да незразумелага грукату, крыкаў, бразгання посуду, што даносіліся з-за куліс, Скамароха, нібы ў спробе знайсці адказ, таксама паднёс кнігу да носа:

— Наш... сын... Ік! Напэўна выйграе!

Разбуджаны шумам Гугон пацягнуўся быў да графіна, але Скамароха адхіліў яго руку:

— Не-е-е пі-і-і... Гертруда... У келіху атрута...

— Выбачай, мой друг. Я вып'ю.

— О Божа, што за гром? Чым мы абразілі нябёсы? — пачуўшы над сабою тры гучныя глухія ўдары, Скамароха спалохана задраў галаву ўгару, пацягнуўся да папяровай кароны, скамячыў яе і, скрывіўшы ў грымасе твар, раптам па-дзіцячы заплакаў: — Пра-а-а-пілі... пра-а-а-гулялі... ма-а-тухну-у-у... зя-я-я-мельку... ро-о-о-дную-ю-ю! І-і-і-і... — румзаў ён, размазваючы па твары п'яныя слёзы пакамечанай папяровай каронай.

— За што? За што ты забіў яго?! Дзе?! Дзе твой гаспадар?! Што яму ад мяне трэба?! — крычаў Ян у шаленстве, ухапіўшы аканома за горла.

— Сёння! Сёння апоўначы! — хрыпеў той у адказ. — Будзьце ў пакоі! Апоўначы да вас прыляціць адна знатная дама.

## 52

Раніцай дзевятнаццатага я патэлефанаваў Колю і папрасіў увечары даставіць кветкі. За тыдзень столькі ўсяго адбылося, што я зноўку не ведаў, ці захоча Маша мяне ўбачыць. Пачалося ўсё з пахмельнага панядзелка. У аўторак я пачуваўся значна лепш. Мы сустрэліся з Палінай і адправіліся ў рыэлтарскую кантору — скласці дамову і выставіць на продаж яе кватэру. Грошай за сцэнар яшчэ не было. Я чакаў іх з дня на дзень, але на кватэру ганарару ўсё адно не

хапала. Параіўшыся з рыэлтарам, я зразумеў: усё ж давядзецца браць крэдыт. Праўда, дамову мы не заключылі — вырашылі зрабіць гэта ў чацвер.

У сераду Паліна папрасіла адвезці яе ў «Карону». Мы сустрэліся ў горадзе. Дарогаю я па справах ненадоўга выскачыў з машыны, а Паліна засталася. Калі праз пяць хвілін я вярнуўся, то заўважыў на яе твары дзіўную змену. Зірнуўшы на свой тэлефон, які непрадбачліва пакінуў побач з сядзеннем, я ўсё сцяміў. Паліна прачытала нядзельныя эсэмэсы ад Машы. Надзьмуўшыся, яна нервова кінула мне: «Навошта ты зноў ілжэш? Ты ж казаў, што вы рассталіся!» Усю дарогу да «Кароны» мы напружана маўчалі, быццам кожны прытрымліваў сваю злосць.

Каля «Кароны» Паліна выскачыла з машыны і знікла. Адчуўшы нядобрае, я кінуўся яе шукаць у лабірынтах прылаўкаў. Яна хавалася ў развалах дыскаўнтнай макароны і засяроджана размаўляла з некім па тэлефоне. Чамусьці вырашаўшы, што яна гаворыць з Машай, ува мне прачнуўся Тэсей. У шаленстве я падляцеў, рвануў тэлефон ад яе вуха і выдраў разам з ім Мінатаўру пасму валасоў. Пачуўся віск, бліснула маланка, а за ёю грымнуў гром. Публіка ў «Кароне» з цікаўнасцю назірала за шквалам дзіўнай стыхіі. Я вярнуўся дамоў, разумеючы: правалілася ўсё. Замірэнне, дыпламатыя, мемарандумы, камюнікe — усё, усё, усё пайшло прахам. Яна зноўку прагнула вайны да поўнай перамогі.

Усю ноч Паліна дасылала маланкі, а раніцай выставіла ўльтыматум. У 20.00 мне належала з'явіцца на вакзале з грашыма, інакш у 20.15 яна будзе ў Машы і ўсё раскажа яе бацькам. Сума называлася нейкая дзіўная — нашмат меншая, чым патрабавалася на кватэру. Паліна ведала, чым мяне дабіць. Размова з бацькамі была горай за званкі самой Машы. Гэтага тая дакладна б не даравала. Як на

злосць, мне трэба было пільна выехаць на дзень у Варшаву, таму яна і прызначыла сустрэчу менавіта на вакзале. Я вагаўся: патэлефанаваць Машы, папярэдзіць ці не. Што ні варыянт, то блага. Паліна зноўку заганяла мяне ў тупік, дзе кожны наступны крок пагражаў матам.

Увечары я вырашыў заставацца на месцы, нічога не рабіць, дачакацца нядзелі. Па дарозе на вакзал я праверыў картку ў банкамаце і атрымаў першую за апошнія дні добрую вестку: грошы прыйшлі. Батурын усё ж аказаўся сапраўдным *пацаном* — стрымаў слова.

У 20.00 я сустрэў Паліну каля цэнтральнага ўвахода. Цягнік Мінск — Варшава ўжо стаяў на пероне. Усадзіўшы Паліну ў пустое купэ, я выцягнуў чаркі, наліў каньяку, спакойна перапрасіў Мінатаўра за выдраны ў лабірынце кудзер ды заклікаў глупстваў не рабіць, да Машыных бацькоў не хадзіць і ёй самой не званіць. Потым мы выпілі, і я адчуў, што Мінатаўр трошку палагаднеў.

Увесь вечар да самай мяжы мы працягвалі пачатую размову праз эсэмэсы. Я выходзіў у тамбур, паліў і разумеў, што справа тут не ў грошах, а ў татальнай крыўдзе на бессэнсоўны ход рэчаў. Калі б Паліна была мудрэйшай, яна б ведала, што нельга ўскладаць віну за бессэнсоўнасць на іншых. Яны ж гэтаксама вісяць на тым жа круку. Ніхто іншы не зможа напоўніць тваё жыццё сэнсам. Іншы ў лепшым выпадку здольны толькі забавіць, запоўніць пустэчу яркімі фішкамі. Паліна патрабавала ад мяне карнавалу, хацела, каб прыгажосць замяніла ёй сэнс. Але карнавалы, калі яны ў нас і здараліся, былі абсурднымі і тупымі. Абвінавачваць сябе яна не ўмела, таму вінаватага шукала заўсёды ўва мне. Лічыла, што я заняў месца, на якім мог апынуцца іншы — той, хто лепей запоўніў бы пустату. Я ж і сваю з цяжкасцю запаўняў, дый тым, у чым Паліна хараства не бачыла. Праца без выходных, нейкае незразуме-

лае народу мастацтва, бабы і п'янкі з сябрамі-падонкамі, падполле, вечныя даўгі. Яна ж хацела простага буржуазнага шчасця.

Начныя размовы з Палінаю крыху мяне супакоілі. У пятніцу, зрабіўшы зранку патрэбныя справы, я захацеў радыкальна абнавіць гардэроб. Вырашыўшы, што мы някепска будзем выглядаць разам з Машай у чорным, я прайшоўся па варшаўскіх буціках — накупіў чорных шмотак: класнае італьянскае паліто, марынарку, пару нагавіц і кашулю. Але бліжэй да ночы ў Паліны пачалося абвастрэнне. Ужо на пад'ездзе да мяжы ад яе прыйшоў эсэмэс. Яна пісала, што Гітлер таксама быў сентыментальным і нават любіў дзяцей, але разжаліць і забалбатаць яе не выйдзе. Што яна пачне дзейнічаць заўтра.

З яркімі пакетамі, поўнымі чорнай трывогі, суботняй раніцай я выйшаў на перон. Я разумеў, што выйграў усяго пару дзён.

У нядзелю бліжэй да абеду ў неспакойным і радасным прадчуванні сустрэчы я адправіўся на Камароўку. Дні сталі кароткія. Ужо а трэцяй на горад насоўваліся прыцемкі, а да пятай яго агортвала такая непрыемная цемра, што нават пампезнае асвятленне праспекта не ратавала ад тужлівага адчування доўгай зімы. Таму кветкі я хацеў завезці яшчэ завідна, злавіць Машу ў дзённым настроі. Кожны раз я дарыў ёй усё большую колькасць руж. Цяпер іх было адзінаццаць. Да таго ж мне падабалася гэта лічба.

Падхапіўшы ў «Шклатары» Колю, я завёз на Маркса букет і ў чаканні адказу паехаў у вялікую будаўнічую краму на ўскраіне горада: да новага года хацелася скончыць рамонт у трэцім пакоі. Мне не цярпелася пачуць водгук ад Машы, але мінула дзесяць, пятнаццаць, дваццаць хвілін, а тэлефон усё маўчаў. Супакойваючы сябе тым, што яе, напэўна, няма дома — дзверы зноў адчыніў бацька, — я пры-

ехаў у краму. Прайшло яшчэ паўгадзіны. Я блукаў сярод прылаўкаў з фарбамі, ваннамі, ацяпляльнымі катламі, а званка ўсё не было. Што Маша, атрымаўшы букет, патэлефануе, я не сумняваўся. Значыць, яе сапраўды дома няма. Альбо… Яна там, але не патэлефануе ўжо ніколі. Я зноўку мучыўся ў здагадках. Што магло здарыцца за гэтыя дні? Можа, усё ж Паліна схадзіла?

Мінула яшчэ паўгадзіны. На вуліцы сцямнела. Я ўжо не знаходзіў сабе месца сярод бясконцых шэрагаў унітазаў, кухенак, дзвярных ручак, цвікоў. Свет правальваўся пад нагамі. Я апускаўся, а ён бясколерна мільгацеў з высокіх стэлажоў люстрамі, умывальнікамі, шклопакетамі ды электрычнымі кабелямі. Мне хацелася самому набраць нумар Машы, перапыніць невядомасць, але я працягваў чакаць.

Каля пятай прыйшоў эсэмэс. Я з нецярпеннем адкрыў і прачытаў:

«*Лячу дамоў убачыць ружы… ДЗЯКУЙ!!! Ах, ну што вы са мною робіце?!! Я вам увечары патэлефаную. Абдымаю*».

На радасцях я паляцеў да касы. Па дарозе назад заскочыў на выбарчы ўчастак, дэманстратыўна паставіў птушку каля прозвішча Макарэвіча і шчаслівы вярнуўся дахаты.

## 53

У геаметрыі плошча — лікавая характарыстыка двухмернай фігуры. У архітэктуры — адкрытая, аточаная будынкамі і пасадкамі прастора. У нас — акт збавення віны, прынясенне ахвяры, пасля якога настае катарсіс.

Наша Плошча ніколі не прывязаная да канкрэтнага месца. Яна можа прайсці на Кастрычніцкай, можа на Леніна, можа на Коласа, наўрад ці на Бангалор — у скверы для выгулу сабак, куды звычайна адпраўляе яе Канцылярыя. Магчымая яна на Нямізе, у Курапатах, на вакзале ля Пля-

ца варот. Але не мае значэння, дзе адбудзецца ахвяраванне, як няважны і лік: пяць, дзесяць, сто чалавек, тысячы тысяч. Важны сам акт прынашэння.

Час, калі Плошча штосьці вырашала, застаўся ў дзевяностых. Час, калі яна будзе нешта вырашаць, яшчэ не прыйшоў. Роля яе ў міжчассі — паганскі рытуал, які трэба адбыць, ды заадно паказаць, што падполле яшчэ існуе. Нагоды звычайна вядомыя: Дзень Волі, Дзяды, Чарнобыльскі шлях. Каго ўкрыжуюць, ніхто толкам не ведае. Адмысловага ягняці не рыхтуюць. Кінуць на жорны могуць і шамана з ліку правадыроў партый, могуць і мінака, які выпадкова трапіўся на аўтобусным прыпынку. Небарака, ясная справа, крычыць: «Пакіньце мяне, я чакаю маршрутку на Уручча!» Але пізданулўшы таму пару разоў у хлябальнік, яго адпраўляюць асаблівым маршрутам.

У памкненні зліцца з натоўпам паўсюль шмыгаюць усюдыісныя Гугоны. Часам яны складаюць чвэрць, а разам з рэпарцёрамі і панамі Альбертамі з амбасад — і да паловы ўдзельнікаў Плошчы. Паны Скамарохі з партыйнага бамонду ім даўно вядомыя, а таму малацікавыя, дый шуму з хаты ад іх замнога. Іхны інтарэс — свежыя твары. Касавурачыся на самыя адметныя, яны чакаюць кіўка ад тайнага дарадцы Канцылярыі пана Твардоўскага, а ўбачыўшы, тут жа цягнуць небараку ў вялізны тупарылы МАЗ з закратаванай будкай.

Б'юць балюча, але не да смерці. На смерць у гэтай гульні мараторый. Правілы даўно ўсім вядомыя. У прэйскуранце паслуг на ахвярапрынашэнне графа «прычыненне ягняці цялеснага пашкоджання, не сумяшчальнага з жыццём», адсутнічае. Прычыніць яго да смерці баяцца ўсе, але асабліва самі канцылярскія. Таму ахвярам звычайна даюць сутак пятнаццаць у клетцы з бамжамі. Скамароху могуць упаяць паболей — годзікі два, тры, чатыры.

Але раз на пяць гадоў збіраецца асаблівая Плошча — вялікае пяцігадовае веча. На звычайную, як правіла, выходзіць адно падполле. На гэту ж, як на паганскае свята, выбіраюцца ўсім светам, з жонкамі, з дзецьмі на плячах, з калегамі і сябрамі. Многія з тых, хто пяцігодку маўчаў, лічаць за абавязак свой грэх адкупіць.

Рыхтуюцца да гэтай Плошчы сур'ёзна. Ужо за месяц з крамаў знікаюць спальнікі і намёты. На сайтах гучаць парады, даюць інфармацыю, як апранацца, што ўзяць, хто будзе спяваць, чаго лепей не піць, дзе можна пераначаваць прыезджым з рэгіёнаў, як паводзіць сябе ў выпадку аблавы. Канцылярскія таксама не спяць. Да горада сцягваюцца спецыяльныя часткі, пачынаюць хадзіць чуткі, што рыхтуюцца тэракты: будуць узрываць, маўляў, лепей перасядзець ліхалецце дома.

Раней я хадзіў на кожную Плошчу, потым выбіраў найважнейшыя, пакуль яны ўсе не зрабіліся мне не цікавымі. Але пяцігадовага веча я не прапускаў ніколі. Аднак сёлета ўпершыню ў мяне не было жадання на яго пайсці. Бо я добра памятаў папярэднюю Плошчу, пяцігадовай даўніны. Ведаў людзей, якія яе рыхтавалі, разумеў, што за ёю стаіць і за каго там стаяць. Гэтая ж падавалася нейкай каламутнай. Я адчуваў, што за ёй адбываецца нейкая няясная мне валтузня, у якой я буду толькі масоўкай.

Але ўвечары пасля эсэмэса ад Машы настрой у мяне перамяніўся. Да таго ж заехала дачка і папрасіла яе падвезці. Яна сустракалася з аднакласнікамі непадалёк ад Кастрычніцкай. У адрозненне ад мяне Вера ніводнай Плошчы не прапускала, а тым болей не магла прапусціць гэту.

Ужо на пад'ездзе да цэнтра я крыху пакружыў па прылеглых кварталах, спрабуючы ацаніць настрой канцылярскіх. Звычайна, калі планаваўся вялікі хапун, машыны з *касманаўтамі* ставілі не толькі ў дварах, але і дэманстра-

тыўна на вуліцах. Гэтым разам усё выглядала спакойна. Хутчэй за ўсё, яны недзе былі, але хаваліся па цёмных падворках. Народ з усіх канцоў горада ўжо сцягваўся да Кастрычніцкай. Прыпаркаваўшы машыну за ГУМам ля сцёпінскага дома, я тут жа сустрэў Сераду, дырэктарку падпольнага тэатра. Павіншаваўшы яе са святам, я рушыў у «Цэнтральны». Да восьмай яшчэ заставаўся час, можна было выпіць кавы і агледзецца.

Звычайна абрад пачыналі менавіта з гэтага. Людзі збіраліся на подступах, але выходзіць на плошчу не спяшаліся. Нехта рабіў выгляд, што чакае маршрутку на Уручча, хтосьці заходзіў ва ўніверсам выпіць кавы, іншыя нібы выпадкова прагульваліся па праспекце. Былі, вядома, і тыя, пераважна з маладых актывістаў, хто адразу валіў на Плошчу. Але, калі абрад абяцаў быць сур'ёзным, такіх білі першымі. Пасля трэцяга мардабою шмат каму надакучвала. Яны або ішлі ў партыйныя лідары, або рабіліся крыху абачлівей.

Але зараз за вітрынамі ўніверсама, здавалася, было спакойна. Да Плошчы падцягваўся народ, на мінакоў скрыва пазіралі Гугоны ў цывільным, але ачаплення з *касманаўтаў* не было. Уздоўж праспекта праз кожныя тры метры стаялі толькі даішнікі, з чаго вынікала адно — разгону не будзе. Тое, што вялікага ахвярапрынашэння не прадбачыцца, было зразумела і раней. Еўропа рыхтавалася гэтыя выбары прызнаць, а мардабой на прыпынках азначаў бы правал усёй аперацыі, якую па-майстэрску плялі столькі месяцаў. Гэта была б нават не кропля смуроду ў гарцы салодкага канцылярскага мёду, а самае што ні на ёсць вядро адборнага гаўнішча.

Нават сціплае ахвярапрынашэнне не было нікому патрэбнае. Еўропе, якая ўжо шмат гадоў з абурэннем пазірала на нашыя дзікія рытуалы, рашэнне прызнаць Імперата-

ра далося няпроста. Цяпер жа, каб зрабіць апошні крок і, праглынуўшы горкую гарошыну, ускласці на яго карону, ёй важна было хаця б захаваць твар. Імператару ж як паветра патрэбна была гэта хай сабе і кардонная, няхай і авансам, але карона. Ён разумеў, што Еўропа і так шмат на што заплюшчыла вочы, але, ён зладзь зараз пры тэлекамерах мардабой, яна гэтага не стрывае.

Дапіўшы каву, я выйшаў на плошчу. Народ усё прыбываў. Здавалася, настрой людзей быў не такім, як пяць гадоў таму. Тады над усімі вісела трывога. Цяпер жа, хутчэй, адчувалася свята. З гучнагаварыцеляў, нарасстаўляных па перыметры плошчы, разносілася вясёлая музыка — адмысловы падарунак да свята ад Канцылярыі.

Пад «*Яся*», які крыху двухсэнсоўна *касіў канюшыну*, усё, што адбывалася, нагадвала запозненыя зімовыя Дажынкі — вялікае Імперскае свята ўраджаю. Здавалася, выкаці зараз на плошчу гандлёвыя палаткі са смажнямі і таннай гарэлкай на разліў ды выпусці на прыступкі Палаца Рэспублікі ансамбль «Харошкі» — і ілюзія карнавалу ў калгасе будзе поўнай. Пад «*Я лягу-прылягу край гасцінца старога*» людзі невялікімі кампаніямі пачнуць уладкоўвацца наўпрост на сумётах, дастануць прынесеныя з сабою вялікія бутлі з півам і пад вясёлы рогат возьмуцца смажыць на марозе кілбаскі.

Праўда, «Песняры» спявалі не дэманстрантам, а тым, хто коўзаўся на каньках ля вялікай, дваццаціметровай, аздобленай святочнымі гірляндамі навагодняй елкі. Штогод напярэдадні каталіцкіх Калядаў на плошчы залівалі коўзанку, але звычайна значна меншую. Цяпер жа, не пашкадаваўшы высілкаў, яе зрабілі вялізнай, ледзь не на ўвесь пляц. Таму дэманстрантам даводзілася туліцца на ўскрайках, на ходніках прылеглых да Кастрычніцкай плошчы вуліц.

На гіганцкай коўзанцы гарэзнічалі на коньках вясёлыя Гугоніхі і Гугоны. Тое, што гэта яны, не выклікала сумневаў. Якому нармальнаму чалавеку прыйдзе ў галаву катацца ў гэты час на плошчы, дзе зараз, магчыма, пачнуць раздаваць важкія піздзюлі ўсім без разбору, а ты на коньках нават не зможаш дабегчы да падваротні. Пад «*Касіў Ясь канюшыну*» Гугоны жвава размахвалі рукамі, быццам сапраўды трымалі ў іх косы і штосьці касілі. Пад «*Я лягу-прылягу*» хтосьці часам куляўся і плаўна, нібы белы лебедзь па возеры, плыў рылам па лёдзе. Так. Гэта было менавіта яно! Начное лебядзінае возера Гугонаў. Яны выконвалі танец маленькіх шэрых лябёдкаў каля навагодняй елкі.

Ах, якая ж Еўропа дурненькая, што заве гэта дыктатурай! Гэта ніколі не было дыктатурай, а толькі гульнёй ў яе. А калі нават і дыктатурай, то новага, не вядомага раней ўзору — дыктатурай эпохі постмадэрнізму, іранічнай, часам вясёлай, раз-пораз сумнай, з мноствам цытат і змяшэннем стыляў. Яна магла працытаваць Гітлера, але з іроніяй, не папраўдзе. Яна магла гуляцца ў Савецкі Саюз, але толькі па тэлевізары на селектарнай нарадзе, бо ніхто даўно не жыве пры марксізме і само жыццё ўжо каштуе не па-савецку. Яна нават умудралася цытаваць Цяньаньмэнь, але ж без крыві. Бо кроў — гэта ўжо не цацкі. Толькі разок у канцы дзевяностых яна раптам перакрочыла межы гульні, але тут жа сама больш за ўсіх спужалася.

А гэта ж усяго толькі пацешная гульня, дзе насамрэч ніхто нічога не забараняе. Хочаш выйсці на Плошчу? Калі ласка, абуй канькі ды катайся! Хочаш тэледэбатаў — вось табе прамы эфір пры крывых люстрах, каб народ лепей цябе разглядзеў. Хочаш штосьці нядобрае вякнуць — маеш для гэтага дзве шматтыражкі: «Зямля і воля» ды «Наша Гета». Хочаш выдаваць няправільны часопіс — ніхто не забараняе. Але рэкламы табе не дадуць і прадаваць будзеш

сам з-пад крыса ў падваротнях. А калі патрапіцца мент, ужо не крыўдуй! Парушаеш правілы рознічнага гандлю.

Спачатку многія не ўцямілі, што гэта гульня. Такіх прыструнілі. Але паступова ўцягнуліся, разабралі ролі, вызначылі паняцці і межы, якія лепей не пераходзіць. Бізнес першы ўсвядоміў, як і з кім трэба гуляць. Следам рыбакі Родзькі ды пралетары Карпы, якія ў постмадэрнізме слаба кемілі, падмахнулі кантракт, не гледзячы. Нават блатны свет прызнаў новыя правілы. Хаця з рэстараннай нары давялося яму злезці ды перабрацца ў піўнушку бліжэй да парашы.

Даўжэй за ўсіх упіраліся ды забаўлялі публіку кулачнымі бойкамі партыйныя. Крычалі: «Улада — дурная!» — ды лупілі адзін аднаго да крыві па носе. І з кожным ударам усё болей драбнелі ды крышыліся. *Фронтаўскія* рабіліся *фронтахрысціянскімі, фронтаграмадзянскімі, заходнефронтоўскімі, маладафронтоўскімі*. *Прафсаюзныя — металістамі, тэкстыльнікамі, трактарыстамі*. *Магілёўскія — клічаўскімі, бабруйскімі, шклоўскімі.* А калі зусім здрабнелі, іх на пацешную ролю дурніца-ўлада і без кантракта прызначыла.

Горш было тым, хто не вызначыўся, не знайшоў яшчэ ў гульні сваё месца ды працягваў крычаць: «Дурная ўлада!». Такіх звычайна адпраўлялі на нары. Праўда, нары таксама былі постмадэрнісцкія, пацешныя і, хутчэй, ганебныя — пятнаццаць сутак з бамжамі. Прафесійных Скамарохаў усаджвалі пасур'ёзней, але не часта і толькі тады, калі яны правілы гульні парушалі.

Ацаніўшы іронію пастаноўкі, я пабадзяўся сярод карнавалу пад елкаю ў пошуках знаёмых. Як ні дзіўна, людзей старой гвардыі, тых з падполля, хто зазвычай выходзіў на Плошчу, я сустрэў няшмат. Твары былі ўсё больш новыя, мне незнаёмыя. Праўда, народу вакол коўзанкі сабралася ўжо тысяч пад дзесяць. Разгледзець у цемры знаёмых, па-

раскіданых па перыметры плошчы, было складана. Я нават не змог знайсці Веру, якая таксама недзе тут круцілася з сябрамі.

Час набліжаўся да восьмай, але галоўных партыйных шаманаў усё яшчэ не было. Буйнога ахвярапрынашэння сёння не прадбачылася, відаць, таму яны не спяшаліся. Раз-пораз я паглядаў на тэлефон, чакаючы званка ад Машы. Неўзабаве я адчуў, што мерзну. Мароз быў нямоцны, але пранізвалі сырасць і вецер. Я ж да заклікаў на сайтах не прыслухаўся і заявіўся на плошчу ў піжонскім італьянскім паліто, лёгкіх нагавіцах і, вядома ж, не ў валёнках, а ў такіх жа піжонскіх італьянскіх туфлях. Хутка вырашыўшы, што гулянкаю ўсё і скончыцца, я вярнуўся да машыны і паехаў дахаты.

Ужо на выездзе з аркі ля ГУМа я заўважыў вялікую калону, што рушыла ад вакзала ў бок Плошчы. Але затрымлівацца я не стаў, збочыў на Камсамольскую, як тут пачуўся доўгачаканы званок.

— Дзякуй за кветкі! Такіх прыгожых руж мне яшчэ ніхто не дарыў! Вы мяне пестуеце! — весела, намагаючыся перакрычаць шум навокал, шчабятала Маша. — А мы з сябрамі на Плошчы! Тут так файна! Проста народнае гулянне! А людзей столькі — здаецца, увесь горад сабраўся! Чуеце, які шум? Не перакрычаць!

— Ведаю, я толькі што ад'ехаў! — прамовіў я з лёгкім шкадаваннем. Я чамусьці не падумаў, што Маша таксама можа быць там. У мяне нават мільганула думка вярнуцца, але я тут жа яе адагнаў. Усё ж нашу сустрэчу я ўяўляў інакш. Ужо напэўна без шматлюднага натоўпу.

— Нічога не чую! Кажыце гучней! — пракрычала ў адказ Маша.

— Калі мы ўбачымся?

— Давайце ў аўторак вечарам! Панядзелак — дзень цяжкі! У аўторак лепей!

— У колькі табе трэба будзе вярнуцца дахаты? — пракрычаў я, каб асцярожна прыкінуць сцэнар сустрэчы.

— Да раніцы я нікуды не спяшаюся! А а дзявятай мне трэба на працу!

Гэта было тое, што хацеў я пачуць. Ноч і ўвесь вечар. У нас будзе цэлая ноч з аўторка на сераду. Праскочыўшы міма людзей, што спяшаліся на Плошчу, міма ціхароў, якія шнарылі сярод іх, міма даішнікаў ля дарогі, я радасны паехаў дахаты.

## 54

**Я** — Імператар! Я еду ў Цэнтр. Мне трэба на Плошчу. Вагон на «Кастрычніцкай» не спыняецца, едзе далей. Я выходжу на «Леніна». Вярнуцца пешкі недоўга, хвілін дзесяць. Я бачу спіны людзей. Яны таксама рушаць на плошчу. Твараў насустрач няшмат. Я бачу, ім страшна. Яны спяшаюцца прэч.

Я не люблю гэты праспект. Ён чорны і гулкі. Ён — рогі багацця ў цемру. Ён — распусніца, прыбітая да крыжа. Ён — спарахнелы рыцар у латах. Ён — барабанны дробат з жоўтымі тварамі. Ён конны манах на бочцы віна. Ён — лязо даўгога нажа. Ён — карузлік з вялізарнаю рыбай. Ён працятыя іголкай жоўтыя вухі. Ён — вялікія галовы зайцоў. Ён — каланады ў пустэчу. Ён маска без зрэнак. Ён ліліпут у падножжа высачэзных дзвярэй. Ён палац уздоўж лесвіцы ў неба. Ён спіны людзей, што рушаць на Плошчу. Ён жоўтыя твары насустрач. Ён конны Ленін на бочцы віна. Ён спарахнелы Фелікс у латах. Ён маска Карла з лязом даўгога нажа. Ён — Імператар з вялізарнаю рыбай. Ён барабанны дробат у спіны людзей. Ён галовы зайцоў, што спяшаюцца знікнуць. Я бачу, ім страшна.

Я іду.

## 55

Ян перайшоў на другі бок вуліцы Леніна, нырнуў у цёмную арку, але, на дзіва, нікога ў двары не ўбачыў. Звычайна яны хаваліся тут — чорныя людзі ў шаломах. Але зараз, акрамя невялікіх кампаній, што распівалі на марозе піва, не было нікога. Прамінуўшы двор, Ян праз наступную арку выйшаў на Энгельса. Тут ужо тоўпіўся народ. З дынамікаў разносілася разухабістая папса, а на вялізным пляцы коўзаліся нейкія дзіўныя тыпы з картаплянымі тварамі.

Плошча здавалася велізарнай, таму ацаніць, колькі народу рассяродзілася па яе краях, было складана. Тым часам людзі ўсё падыходзілі. Каму ўжо не хапала месца на ходніках, пачыналі займаць коўзанку. Ян таксама ступіў на лёд і рушыў у глыбіню пляца.

На тым баку праспекта ён заўважыў вялікі натоўп каля трыбун у скверы Палаца афіцэраў. На гэтым баку трыбун пакуль не было, як не было і лідараў. Людзі хаатычна перасоўваліся, пераміналіся з нагі на нагу, часам, каб узбадзёрыцца, скандавалі: «Жыве Беларусь!». Машыны, што ехалі па праспекце, дружна сігналілі ім у адказ, а так нічога асаблівага не адбывалася.

Хвілін праз пяць з боку вакзала паказалася даволі вялікая, у некалькі тысяч чалавек, калона. Людзі, што ўліліся на плошчу, занялі падыходы да Палаца Прафсаюзаў, прыступкі якога тут жа ператварыліся ў трыбуну. Ян бачыў, што там распачаўся мітынг, але нічога толкам не мог расчуць. Падысці бліжэй ніяк было няможна — подступы да палаца шчыльна атачаў натоўп. Выступоўцы штосьці крычалі ў мегафон, але іх словы да Яна не даляталі. Неўзабаве трывожнай хваляй пракацілася пагалоска, што на валошынскіх напалі, арыштавалі апаратуру, а сам Валошын моцна збіты.

Праз нейкі час Плошча скаланулася. Ядро дэманстрантаў ля Палаца Прафсаюзаў рушыла да праспекта і, лёгка паглынуўшы кволы міліцэйскі кардон, выйшла на праезную частку. Натоўп, што стаяў ля Палаца Афіцэраў, пацёк насустрач, і неўзабаве Ян убачыў, як з усіх бакоў на праспект рынулі людзі. Усе, хто ціснуўся па тратуарах, у кутах, падваротнях, зліваліся ў адзін агульны паток, які накіроўваўся ў бок Незалежнасці.

Падхоплены хваляй, Ян рушыў разам. Зараз ён бачыў, як іх многа. Цяпер гэта былі ўжо не ліліпуты, што нядаўна сіратліва туліліся ля халодных Імперскіх муроў. Паток мацнеў на вачах, зліваўся ў адно гіганцкае цела, рабіўся ўпоравень са сценамі і хадой волата крочыў на захад да гэткай жа, як ён сам, гіганцкай плошчы.

Пачуццё, блізкае да эйфарыі, ахапіла Яна. Наперадзе луналі сотні сцягоў, усё новыя і новыя людзі ўліваліся ў натоўп, які тысячамі галасоў скандаваў: «Жыве Беларусь! Жыве!» Мінаючы прыціхлы Палац Дзяржбяспекі, Ян заўважыў, як нейкі хлопец забраўся на калону ля ўвахода, скінуў з яе зялёна-чырвоны сцяг і пад захопленыя крыкі прысутных узняў бел-чырвона-белы. Хмурныя фасады Палаца маўкліва і бяссільна пазіралі чорнымі гірляндамі акон на стыхію, што падкаціла да ягоных муроў. Зараз увесь горад быў падуладны ёй. Супраціву не адчувалася, а ліліпутамі цяпер здаваліся яны — рэдкі ланцуг з міліцыянтаў, што ціснуліся па ўскрайках, ды нейкія людзі ў някідкіх касцюмах, якія ўсё старанна здымалі на відэа. Але здымалі Яна ўжо не раз, ён прыязджаў у горад ледзь не на кожную Плошчу. Тое, што ў дасье з'явіцца яшчэ некалькі новых старонак, па вялікім рахунку, значэння не мела.

Ягонае стаўленне да ўлады было вядомае яшчэ з той Плошчы — пяцігадовай даўніны, калі ён жыў у намётавым лагеры на Кастрычніцкай. Перамагчы яны тады не маглі,

але ўсё ж па-свойму перамаглі. Улада па-сапраўднаму спалохалася. Пасля начнога штурму той, каму яны хацелі сказаць «сыходзь!», тыдзень не з'яўляўся перад тэлекамерамі. Казалі, не хацеў, каб народ бачыў ягоныя вочы. Ён жа лічыў сябе месіяй, а яны былі проста дзецьмі, а не штатнымі рэвалюцыянерамі ці праплачанаю масоўкай. Тады ўпершыню за шмат год цярновы вянок да болю ўпіўся яму ў галаву. Чым скончыцца гэтая Плошча, Ян не ведаў, але, абачліва прыхапіўшы з сабою цёплыя рэчы, зубную шчотку і тэрмас, быў гатовы і да намётаў.

Неўзабаве яны мінулі Паштамт. Калона надта расцягнулася. Ян ішоў бліжэй да сярэдзіны, галава волата была ўжо на подступах да Дома ўрада, а ногі, мабыць, толькі што пакідалі Кастрычніцкую. Пад бой званоў на Чырвоным касцёле народ спакваля запаўняў прастору плошчы Незалежнасці.

Хвілін праз пятнаццаць Яну падалося, што ніхто толкам не ведае, што рабіць далей. Людзі працягвалі скандаваць, махалі сцягамі, перасоўваліся з месца на месца, спрабуючы сагрэцца. Нейкія гукі даляталі ад помніка Леніну, але зноўку нічога ні было чуваць. Ян пачаў прабірацца бліжэй да манумента. Праціснуўшыся да самага эпіцэнтра, ён заўважыў знаёмыя твары: Лапаціна, Хоміча, Міхасёва. Тут жа круцілася мноства журналістаў і тэлекамер, але галоўнае — хоць штосьці можна было расчуць. Нейкую апаратуру ўсё-такі падключылі.

З трыбуны выступаў Лапацін. Сэнс яго слоў здзівіў і азадачыў. Ян адразу зразумеў, што гэта значыць. Такое мог выкрыкнуць чалавек ці ў адчаі, ці будучы абсалютна ўпэўненым ў тым, што ён кажа. Можа, Лапацін ведаў нешта, чаго не ведалі іншыя. Ён абвяшчаў падзенне рэжыму, заяўляў аб стварэнні ўрада нацыянальнага выратавання і неадкладна патрабаваў для перамоваў сілавых міністраў.

У перакладзе на скупую канцылярскую мову ён абвяшчаў змену ўлады. Але большасць людзей, да якіх ён звяртаўся, гэтага нават не чулі.

Ян недаверліва ўзняў вочы на змрочны фасад Дома ўрада, які маўкліва назіраў за ўсім пустымі вачніцамі. Каля яго падножжа ўжо пачыналася нейкая валтузня, а з плядскатага даху гіганцкага будынка ўглядаліся ў Плошчу чорныя сілуэты снайпераў.

## 56

**З** усіх цытат дэмакратыі гэта падавалася адной з наймацнейшых. Другую гадзіну па першым канале ішоў прамы эфір, на які запрасілі не толькі прадстаўнікоў Канцылярыі, але і людзей з падполля. Удзельнічалі старшыня Цэнтрвыбаркама, назіральнікі, журналісты, рэдактар «Зямлі і волі». Прысутныя нібы сядзелі за гарбатай ля вялізнага, вышынёю ў метр, аздобленага мудрагелістымі крэмавымі ружачкамі вясельнага торта. Кожнаму адразалі кавалачак і давалі пакаштаваць. Той, да каго даходзіла чарга, салодка прыцмокваў языком ды браўся нахвальваць талент кандытара.

Нават апаненты хоць і папракалі за лішак цукру, малую колькасць узбітых яек і ванілі, але, здавалася, былі задаволеныя і зусім не збіраліся ўляпіць кавалкам у храпу суседу. Пакуль я назіраў за гэтым пастаральным чаяваннем, у мяне самога зрабілася неяк салодка ў роце. Усё падавалася цудоўным. Хоць Маша з Верай і знаходзіліся на Плошчы, але там жа было спакойна. Каля дзясятай я тэлефанаваў Машы. Яна сказала, што ўсе ўжо ля Дома ўрада, што тут файна, праўда, надта зімна. Але яна ўжо паспела збегаць дамоў, дзякуй богу, што побач, папіць гарбаты і троху сагрэцца.

Шоу ў прамым эфіры мусіла цягнуцца яшчэ некалькі гадзінаў, пакуль ішоў падлік галасоў. Але бліжэй да адзінаццатай я раптам заўважыў на твары вядоўцы прыкметы неспакою, быццам у сваім кавалку торта ён нечакана знайшоў здохлую муху. Прыцiскаючы рукой навушнік, ён атрымліваў з апаратнай нейкую інфармацыю, і па тым, як салодкасць знікла з твару, я разумеў: здарылася нешта вельмі нядобрае.

Праз імгненне вядоўца заклапочана заявіў, што паступіў відэазапіс з плошчы. На экране адразу ж паявілася карцінка. Нейкія людзі грамілі кіямі дзверы Шэрага дома. Ашаломлена, не верачы вачам, я глядзеў на дзікую мясарубку. «Гэта штурм Дома ўрада», — неяк асуджана выціснуў з сябе вядоўца, відаць, шакаваны ўбачаным не меней.

Схапіўшы тэлефон, я тут жа набраў Машу. Нумар быў недаступны. Тэлефон Веры таксама маўчаў. Ужо было ясна: найгоршае адбылося. Я кінуўся да камп'ютара, паспрабаваў зайсці на старонку «Наш Покліч», але тая не адкрывалася. «Наша Гета» пісала, што невядомыя разбілі дзверы ў Доме ўрада, «Свабода» — што пачаўся разгон, а тэлефоны маўчалі. Я зразумеў, што іх адключылі.

Я патэлефанаваў Машы на хатні. Нейкая жанчына, напэўна, маці, з трывогаю адказала, што Машы дома яшчэ няма. Я папрасіў, каб яна мяне адразу набрала, як толькі вернецца, накінуў паліто і выскачыў з хаты.

## 57

«Галівуд з намі!» — крычала з помніка Леніну Серада і пералічвала прозвішчы вядомых акцёраў, якія ў думках былі з намі. А ў гэты час вялікая галівудская масоўка на спецтэхніцы ўжо сапраўды ўязджала на плошчу. На трыбуну ў ног правадыра сусветнага пралетарыяту забіраліся ўсё но-

выя і новыя людзі, заклікалі не разыходзіцца, а каля муроў Дома ўрада амаль гадзіну штосьці адбывалася, але што менавіта, Ян не мог разгледзець. Па гуку разбітага шкла ды здрыганням навагодняй елкі можна было меркаваць, што хтосьці спрабуе прарвацца ўсярэдзіну.

Яшчэ да прывітанняў з Галівуда на трыбуне паказаўся з акрываўленаю галавой Ільічэўскі, зрывістым голасам пракрычаў пра правакацыю ды заклікаў міліцыю быць з народам. Ян адчуваў, што хутка пачнецца хапун, але пайсці з Плошчы саромеўся. Тым больш людзі побач таксама не разыходзіліся. Яны скандавалі: «Міліцыя з народам!» — але што рабіць далей, не ведалі. Міліцыя ж і сапраўды ўжо пятнаццаць хвілін як была з народам. Частку яго яна паспела замкнуць у П-падобнай чашы на подступах да Дома ўрада.

З трыбуны несліся лозунгі, адрасаваныя хутчэй прышэльцам, крычалі пра мірны характар мітынгу, нехта прасіў у мегафон выклікаць хуткую дапамогу — відаць, ужо былі ахвяры, хтосьці заклікаў да перамоваў. Неўзабаве па плошчы пранёсся радасны покліч: «Сыходзяць!» *Касманаўты*, якія адсеклі людзей каля Дома ўрада, раптам зняліся, і на секунду ва ўсіх мільганула надзея: «А калі цуд усё-такі адбыўся — і мы перамаглі?»

Але неўзабаве Ян заўважыў, як да заходняга боку плошчы пачалі падцягвацца аўтазакі і машыны з войскамі. У гэты момант на Леніна забраўся паэт Габрыловіч і пад гітарны акампанемент заспяваў баладу каталонскіх партызанаў. Упершыню за ўвесь вечар Ян пачуў тое, што яго кранула. Ён адчуў, як хваля трывожнага яднання праляцела па Плошчы. Тое, што разносілася з трыбуны да гэтага, не аб'ядноўвала. Хутчэй, здавалася чымсьці недарэчным. Выступоўцы быццам размаўлялі не з Плошчаю, а самі з сабою. Адны ў разгубленасці не ведалі, што казаць і рабіць.

Іншыя ведалі, але іхныя заклікі былі пустой дэкларацыяй. Яны нібы мроілі свой ідэальны свет, у якім пагарджалі рэальнасцю. Але рэальнасць нікуды не знікла. Яна па-ранейшаму заставалася тут, сутыкалася з іхнымі мроямі і разам з імі пераламлялася ў насланнё.

І неўзабаве яно пачалося. На плошчу з усіх бакоў рынулі *касманаўты*. Ян ніколі не бачыў іх столькі ў адным месцы. Незлічонымі рымскімі фалангамі яны ўсё ўліваліся і ўліваліся на плошчу, падзяляючы яе на часткі. Першымі зноўку адсеклі тых, хто стаяў у чашы каля Дома ўрада. У гэтых шанцаў выбрацца практычна не засталося. З трох бакоў іх атачалі глухія сцены. Яны маглі адно збіцца ў кулак і паспрабаваць прарвацца на плошчу. Але яе таксама з усіх бакоў абкружалі. Тую яшчэ адкрытую частку, якая прылягала да праспекту, спешна займалі прыбылыя на грузавіках салдаты.

Фалангі, бразгаючы дзеля застрашэння шчытамі, рассякалі Плошчу, але пакуль не нападалі. Яны быццам крэслілі гіганцкую шахматную дошку і толькі пачыналі расстаўляць на ёй фігуры. Туры чорных — вялікія тупарылыя аўтазакі — ужо маячылі па кутах. Іх ферзі і коні загадзя зрабілі шах каралю суперніка і яго афіцэрам, замкнуўшы іх каля помніка Леніну. Партыя мусіла пачацца з ужо прайгранай белымі сярэдзіны. Заставалася толькі расставіць пешкі.

Калі б чорныя выставілі свае фігуры ў баявым парадку толькі з заходняга боку плошчы, белыя зрабілі б ход першымі і саракатысячны натоўп кінуўся б на ўсход да Кастрычніцкай. Непазбежна пачалася б цісканіна. Але чорным патрэбныя былі не ахвяры, а застрашэнне і пакаранне белых. Таму фігуры ставіліся так, каб бегчы не было куды. Ян разумеў: як толькі шэрагі чорных пешак зоймуць свае месцы, яны зробяць ход першымі. Праўда, яшчэ заставалася малюсенькая надзея, што ўся гэтая партыя — адно за-

страшэнне. Што адмашкі да пакарання не будзе, а ім усё ж дадуць сысці.

Але неўзабаве каманда прыйшла. Чорныя зрабілі ход, і пачаўся хаос. Здавалася, яны насоўваюцца адусюль, таму ніхто толкам не ведаў, дзе ратавацца. Нехта бег Яну насустрач, нехта — на захад, хтосьці — на ўсход. Людзі гойсалі ў пошуках незакрытых шчылін. На секунду заскочыўшы на высокі мармуровы парапет азірнуцца, Ян краем вока заўважыў, што ў чашы ля Дома ўрада ўжо пачалася мясарубка. Сотні чорных дручкоў выляталі з віру, быццам там малаціла гіганцкая збожжакасілка. Цяпер Галівуд дакладна прысутнічаў тут — раскошнае батальнае палатно з масоўкай у дзясяткі тысяч.

Убачыўшы яшчэ не замкнёны салдатамі разрыў на праспекце, Ян паміж дзвюма шарэнгамі чорных пешак кінуўся да яго. Па праспекце, які ніхто і не думаў перакрываць, ішоў паток машын. Да ратавальнага берага на тым баку трэба было пераплыць раку шырынёю аж у восем палосаў. Ян заўважыў, што на праезную частку ў мностве месцаў ужо высыпалі людзі. Тое, што насоўвалася ззаду, падавалася ім злом нашмат страшнейшым. На шчасце, кіроўцы, ўбачыўшы ўцекачоў, прыпынілі машыны і ў знак салідарнасці пачалі сігналіць. Над плошчаю ўзнялася какафонія хору клаксонаў. На Чырвоным касцёле білі ў набат. Паўсюль чуліся адчайныя жаночыя крыкі, і з усіх бакоў даносіўся лямант: «Фашысты!»

Ян праскочыў паміж машын на другі бок праспекта, троху яшчэ адбег, сцяміў, што тут небяспекі пакуль няма і прыпыніўся аддыхацца. Азірнуўшыся, ён заўважыў, што пад Чырвоным касцёлам сабралася вялікая група, відаць, у спадзеве, што каля касцельных муроў людзей не крануць. Але да іх ужо ляцелі чорныя пешкі. Пад завіруху касілак яны пачалі іх хапаць і цягнуць да аўтазакаў. З адчаю, ня-

навісці і бяссілля штосьці змяніць Ян мог зараз толькі адно. Людзі, што перабраліся на гэты бок праспекта, апантана крычалі: «Фашысты! Фашысты! Фашысты!»

## 58

Адшукаць іх сярод тысяч людзей шанцаў амаль не было, але сядзець дома і тупа чакаць таксама здавалася немагчымым. Усю дарогу я спрабаваў датэлефанавацца, але нумары Веры і Машы маўчалі. Хутчэй за ўсё, мабільную сувязь адключылі толькі на плошчы, бо мой тэлефон сігнал прымаў. Мне ўжо пазваніла перапалоханая Тамара Сямёнаўна, мая былая цешча, з пытаннем, дзе Вера. Я паспрабаваў яе супакоіць, маўляў, калі нават дачка пападзецца, яе адразу адпусцяць. Раней непаўналетніх заўсёды адпускалі, у горшым выпадку ставілі на ўлік у дзіцячым пакоі міліцыі. Але Вера і так ужо была на ўліку пасля таго, як папалася з маладафрантоўскімі ўлёткамі. Праз пяць хвілін з тым жа пытаннем патэлефанавала Паліна. Яна таксама была на плошчы, але нядоўга. Пайшла, калі ўсё яшчэ выглядала карнавалам.

Хоць верагоднасць адшукаць Машу з Верай была невялікая, заставалася надзея, што сувязь адновіцца, і я даведаюся, дзе менавіта яны. Неўзабаве я выскачыў на праспект і адразу здзівіўся незвычайна вялікай для гэтага часу колькасці машын. Напэўна, многія кінуўся ратаваць сваіх, а можа, іх адмыслова адпраўлялі сюды з паралельных вуліц. Мне неаднойчы даводзілася назіраць, як падчас чарговай Плошчы даішнікі перакрывалі суседнія праезды і кіравалі машыны на праспект, каб стварыць на ім суцэльны паток.

Даехаўшы да ГУМа, я нарэшце датэлефанаваўся да Веры. Тая паведаміла, што з ёю ўсё ў парадку, яна ўжо на Нямізе садзіцца ў аўтобус і едзе дахаты. Гэта навіна мяне

крыху супакоіла, але Машын тэлефон па-ранейшаму быў недаступны. Я бачыў, як з боку Незалежнасці па праспекце спешна ішлі людзі. Але на подступах да самой плошчы яны ўжо не ішлі, а беглі. Я заўважыў, як каля гатэля «Мінск» група людзей спрабавала заскочыць унутр, але тут жа да іх падляцелі *касманаўты* і пацягнулі да аўтазакаў.

На самой плошчы адбывалася нешта жахлівае. Зараз гэта было не лебядзінае, а начное возера валькірый. Іх чорныя крылы з пёрамі са шчытоў злавесна мігацелі шаломамі і пад касцельны набат кружылі па плошчы, заганяючы ахвяры ў Валгалу змрочных закрачаных МАЗаў. Часам, калі крылы раптам рассыпаліся, Вагнера тут жа змяняў Хачатуран, ягоны танец з шаблямі. Праспект стаяў ў адным вялізным заторы, а па ім напярэймы несліся сотні людзей. Тых, каго даганялі, валаклі ў аўтазакі. Хтосьці даходзіў сам, а некага цягнулі за рукі па снезе.

Я ўсё яшчэ знаходзіўся пры ўездзе на плошчу, як раптам прагучаў званок. Я з палёгкаю ўбачыў нумар Машы.

— Дзе ты?

— Не хвалюйся! Я ўжо дома, толькі што забегла ў пад’езд.

— З табою ўсё ў парадку?

— Я нармальна, а вось людзі!... — голас Машы быў адрывісты, а па гуку ў трубцы я зразумеў, што яна адмыкае дзверы. — Давай я крыху пазней табе ператэлефаную!

Неўзабаве я выбраўся з праспекта, абмінуў плошчу і па Нямізе накіраваўся ў бок дома. Тут таксама было трывожна. Кагосьці выбарачна выхоплівалі на ходніках і закідвалі ў аўтазакі.

Калі я вярнуўся, Вера ўжо была дома. А праз нейкі час ад Машы прыйшло паведамленне:

*«Са мной-та добра, а вось людзей шкада. Я, калі яны паперлі, шарахнулася ў бок, так што нават фініка пад во-*

*кам нармалёвага няма. Так, лёгкая прыпухласць над вуснамі. Думаю, ты пацалуеш — і ўсё пройдзе».*

## 59

Яны наляцелі познім вечарам. Ахрэм, які драмаў у старожцы ля брамы, прачнуўся ад брэху. Звычайна, калі да дома падыходзілі ваўкі, сабакі брахалі іначай. Злосна, але не так азвярэла. Адчуўшы нядобрае, Ахрэм выйшаў у двор і прыслухаўся. Да дома набліжаліся вершнікі. Хутка вярнуўшыся ў старожку, ён прыхапіў ля стала дубальтоўку і расштурхаў хлопца, які спаў у суседнім пакоі.

— Алесь, жыва, куляю да гаспадара! Скажаш пану Адаму, у нас няпрошаныя госці!

Неўзабаве пачуўся настойлівы грукат у браму.

— Каго там яшчэ ліха прынесла? — не паказваючы з-за варот носа, крыкнуў Ахрэм.

— Пришла беда — отворяй ворота! — пачуўся з таго боку задзірлівы голас.

— Правальвайце! Уначы гасцей не прымаем! — па грукаце капыт Ахрэм вызначыў, што вершнікаў было не меней за два тузіны.

— Отворяй! Мать твою! Не то ворота снесем!

Расчыніўшы акенца ў брамцы, Ахрэм выглянуў вонкі. Перад ім стаяў маладзён у казацкай папасе і з нахабнай ухмылкай тыцкаў яму ў твар нейкай паперай.

— Предписание из Петербурга произвести досмотр имения Адама Завальни!

— Пачакай, «досмотр», каб цябе пярун калядны спаліў, гаспадару паведамлю! — Ахрэм злосна пляснуў акенцам.

— Давай, пошевеливайся, пярун, твою в бога душу мать! Не откроете — приступом возьмем!

На ганак дома, падпяразваючыся на хаду, ужо выбег

устрывожаны Адам. Ён схіліўся да Ахрэма і шапнуў таму ў вуха:

— Жыва пазбірай у патайнік усе стрэльбы! Ды папярэдзь людзей, каб маўчалі як жабы ў карчы! А я пакуль іх прытрымаю.

Адам няспешна падышоў да варот, расчыніў у іх брамку і з хітраватым прыжмурам утаропіўся на гасцей. З каня тут жа спешыўся станісты чалавек у дарагім футры і шоўкавым галасам, але з інтанацыяю, якая выключала пярэчанні, прамовіў:

— Господин Завальня? Позвольте представиться, барон Александр фон Меер. Понимаю, вряд ли вы рады столь позднему визиту. Однако вынужден произвести у вас обыск!

— От, матка вінавата, што дачка чаравата! Прабачце, не разумею вашай мовы! — хітра скасавурыўся на мажнага спадара Адам. — Хоць ты тлумача выклікай! Што вы тут «произведете»?

— Бросьте паясничать, господин Завальня! Всё вы прекрасно разумеете! Вот предписание! Извольте ознакомиться! А если толмач вам нужен, то я лучше любого толмача растолкую!

— Мальгрэтушка, сонейка маё! Прынясі акуляры з майго пакоя! — крыкнуў Адам, узяўшы ў рукі працягнутую паперу. — Тут барон з-за мора нейкія паперкі прывёз. А то ведаеце, — ён зноўку прыжмурыўся на барона, — вочы ўжо не тыя. Здалёк то добра, але зблізу ні халеры не бачу!

Напнуўшы на нос прынесеныя Мальгрэтаю акуляры, Адам узяўся старанна, слова за словам, па складах вывучаць паперы.

— Если вы имеете в доме запрещенное указом оружие или другие... — нарэшце, не вытрымаўшы, пачаў быў барон.

— Што вы, любенькі! Якое «оружие»? — перабіў яго Адам. — Даўно не трымаем! Стрэльба ў хаце — за Уралам палаці! Што мы, закону не ведаем? Няма! Даўно няма!

— Также если вы укрываете государственного преступника Яна Завальню, — раздражнёна працягнуў барон, — обвиняемого в покушении на жизнь его Величества Императора Александра, то лучше вам добровольно выдать его. Конечно, если вы не желаете со своими палатями за Урал перебраться!

— У «покушении» на каго? — здзіўлена ўзняў вочы Адам.

— Да, да, представьте себе, господин Завальня, на Императора! Ваш племянник Ян Завальня дерзнул поднять руку на самого Государя!

— Не ведаю такога! — Адам злосна сунуў паперы назад.



Праз гадзіну на ганку паказаўся ўсё той жа маладзён з нахабнаю храпай і, з прыкрасцю махнуўшы рукою, адрапартаваў:

— Никого, ваше превосходительство! Все облазили — ни оружия, ни ирода этого! Все чисто! Ни литературы недозволенной, ни прокламаций. Они вообще книжек не держат!

— Что же это вы, господин Завальня, и книг не читаете? — з ухмылачкаю запытаў барон. — В вашем-то медвежьем краю небось со скуки завоешь. Могли бы развлечь себя каким-никаким французским романчиком.

— Дзякуй, пан Меер, не маю патрэбы ў вашых кніжках. У Бібліі — усе мае кніжкі! — Адам правёў барона да брамы.

— Да, жаль, но вынужден откланяться. Правда, думаю, ненадолго! Что-то мне подсказывает, пан Завальня, что мы скоро увидимся. Попомните мое слово, непременно увидимся!

— Заўсёды рады бачыць вас, спадар барон! Толькі загадзя папярэдзьце! — крыкнуў Адам наўздагон кавалькадзе і ўжо цішэй дадаў: — Каб мы пачастункі для вас прыгатавалі! Каб вас звяло ды скруціла! Алесь, любенькі! —

клікнуў ён хлапчука, як толькі праводзіў вершнікаў поглядам. — Бяры скакуна самага жвавага і куляй ў Камаеды! Папярэдзь Яна, каб сыходзіў! Скачы напрасткі, праз Пачаноўскі лес. Ды не марудзь, розніцы ўсяго паўгадзіны. І будзь асцярожны! Глядзі не заблукай і ў твань не патрап!

## 60

Стрэлкі на ходзіках набліжаліся да адзінаццатай. Да візіту загадкавай госці заставалася троху больш за гадзіну. Ян знемагаў у чаканні. Паліў, адкладаў люльку на стол, браў апельсін, пачынаў яго абіраць, кідаў, зноў паліў, потым узнімаўся і, закінуўшы рукі за галаву, клаўся на ложак. У думках круцілася кінутая пры расстанні Марысяй фраза: «Няўжо вы не зразумелі яшчэ? Вы! Ім патрэбныя вы!» Але як і навошта? Ян ламаў галаву, але адказу пакуль не знаходзіў і з яшчэ большаю нецярплівасцю чакаў гэтай сустрэчы, на якой, здавалася, усё павінна было праясніцца.

Дапаліўшы чарговую люльку, Ян вытрас тытунь на стол і зноўку прылёг. Нечакана яму падалося, што ён чуе да болю знаёмую з дзяцінства мелодыю. Адну з тых калыханак, што яму напявала маці. Ян напружана ўслухаўся ў цішыню. Не, гэта не было галюцынацыяй. Гук відавочна даносіўся з-за дзвярэй. Здзівіўшыся, ён устаў і асцярожна іх адчыніў.

Калыханка гучала з глыбіні калідора. Як ні дзіўна, нічога іншага цяпер ён не чуў. Звычайна ў гэты час застолле ў камінным зале было ў самым разгары. Але сёння ніякага шуму і музыкі знізу не даносілася. З цішыні далятала толькі гэта мелодыя, якая быццам клікала пайсці за ёю.

Ян зрабіў некалькі крокаў па калідоры на гук і неўзабаве адчуў, што цячэ той ад лесвіцы. Мелодыя нібы заклікала спусціцца. Ян прайшоў на першы паверх. Цяпер ка-

лыханка лілася з-за дзвярэй камінннай залы. Асцярожна іх прачыніўшы, Ян убачыў, што зала пустая. На вялікім стале панавала бязладдзе няскончанага застолля. У цэнтры параненйшаму ўзвышалася арфа, але вакол не было ні душы. Толькі чулася калыханка, якая лілася цяпер з-пад стала.

Зрабіўшы некалькі крокаў, Ян раптам заўважыў лужынку крыві, якая выцякала з-пад абруса менавіта адтуль, адкуль ішоў гук. Ён няспешна наблізіўся, нахіліўся, рэзка адкінуў абрус і тут жа з жахам адхінуўся. Пад сталом ляжаў у крыві заколаты шпагай пан Скамароха, побач, таксама заколатыя, пан Альберт і Твардоўскі. Гугон, прыхіліўшыся да ножкі стала, сядзеў у расхвастанай жаночай сукенцы крыху наводдаль. Яго ашклянелыя зрэнкі сыходзіліся на пераноссі, крыві відаць не было, але з напаўразяўленага рота выцякала бялявая пена. Відаць, Гугона атруцілі. Каля Скамарохі валялася ў крыві пакамечаная папяровая карона.

Троху ачуўшыся, Ян зноўку нагнуўся і зазірнуў углыб пад стол. У далёкім куце, абхапіўшы рукамі калені, сядзела Мальвіна. Зрэдку пазіраючы на яго адсутнымі вачыма, яна зрывала з хрызантэмы пялёсткі і напявала:

— *Баю-баюшкі-баю, не кладзіся на краю, прыйдзе шэранькі ваўчок ды ўхопіць за бачок, ды пацягне ў лясок пад зялёненькі кусток.*

— «Гамлет»! Гісторыя пра прынца дацкага. У апошнім акце смерць спасцігае ўсіх!

Здрыгануўшыся, Ян азірнуўся на голас. На стале побач з арфаю сядзеў захінуты ў чорны плашч чалавек гэткага вялізнага росту, што, нават седзячы, ён быў упоравень з арфаю. Твар незнаёмца прыкрывала казліная маска, дакладна такая ж, як у бацькавай труне. Цяжкі голас рэзанаваў у ёй, таму здавалася, што незнаёмец прамаўляе чэравам.

— Хто вы? — ашаломлена спытаў Ян.

— Вы, здаецца, шукалі таго, хто напісаў вам ліст? — схіліўшы маску да арфы, незнаёмец павольна прайшоўся па струнах.

Яго рука падалася Яну занадта далікатнай. Яна неяк дысанавала з яго ростам і голасам.

— Гэта я вас паклікаў сюды, — незнаёмец працягваў перабіраць струны, і неўзабаве Ян выразна расчуў усю тую ж мелодыю калыханкі. — ...*Не кладзіся на краю, прыйдзе шэранькі ваўчок ды ўхопіць за бачок...*

— Чаго вам ад мяне трэба? — гнеўна ўсклікнуў Ян.

— Не спяшайцеся! Вы пра ўсё хутка даведаецеся. Калі прыйдзе час, вам трэба будзе расчыніць усяго адны дзверы. — Скончыўшы граць, незнаёмец заціх і з размаху, з усёй моцы штурхнуў арфу. Тая на долю секунды завісла на краі стала, затым перакулілася і паляцела з вышыні проста на Яна.

Адскочыўшы ўбок, Ян страшна крыкнуў, як...

...раптам прачнуўся. Няўцямна агледзеўшыся ў пакоі, Ян знайшоў сябе ў ложку. Вакол панавала ціша. Толькі півач вялізнага гадзінніка, што стаяў у куце, манатонна прагортваў час. Да сустрэчы заставалася паўгадзіны.

## 61

Дарогу да Камаедаў напрасткі праз Пачаноўскі лес Алесь ведаў, але ніколі не выбіраўся на яе ноччу. Тутэйшыя мясціны і днём выглядалі панура: Пачаноўскі лес з усіх бакоў акаляў Глухое возера, якое кожны стараўся падалей аб'ехаць і завідна, а ўжо тым болей з надыходам цемры.

Дый самі Камаеды лічыліся месцам нячыстым. Усё ў іх было благім, апроч назвы. А Камаедзіцу ў гэтых краях параней шаму кожнай вясной святкавалі, калі мядзведзь прачынаўся ад спячкі. Варылі тады ў яго гонар гарохавую

кашу, елі самі ды ляпілі з яе камы. А потым неслі іх у лес гаспадара залагодзіць.

Непралазны гушчар неўзабаве скончыўся і пачалося драбналессе. Адчуваючы, што возера ўжо блізка, Алесь з асцярогай углядаўся ў цемру. Хутка ён ўехаў у туман, спачатку амаль празрысты, але з кожнай хвілінай гэты туман усё болей згушчаўся. Разам са смугой Алеся агарнула кепскае прадчуванне. Ён ужо зусім не бачыў дарогі, прабіраўся наўздагад. Хвілін праз дзесяць яму падалося, што туман пачынае радзець. З радасці ён прышпорыў каня, як раптам той праваліўся па грудзі ў халодную гнілую ваду. Конь заржаў і рвануўся, але яшчэ больш захрас у дрыгве.

Алесь у жаху паспрабаваў за што-небудзь ухапіцца, але побач не было ніводнага, нават чэзлага дрэўца. Яго атачала адна гразкая балотная жыжка. Конь пад ім сутаргава і бессэнсоўна тузаўся, спрабуючы вырвацца, але з кожным новым рухам яны апускаліся ўсё глыбей і глыбей. Калі жыжка падступіла пад самае горла, туман на імгненне развеяўся, і наперадзе на маленечкай выспе Алесь убачыў жанчыну ў белым. Ён захрыпеў, пацягнуўся рукой, молячы аб паратунку, але Плачка не зварухнулася, толькі моўчкі рыдала. Ён быў рвануўся да яе ізноў, але тут яго паглынула багна.

## 62

Адкуль яно з'явілася, ніхто толкам не ведаў. Магчыма, вылецела той ноччу з правага вуха бронзавага Ільіча, што стаіць каля Дома ўрада. Але аднекуль яно ж вылецела і нерухомым воблакам завісла над горадам. Удзень яно апускалася на вуліцы ды ахінала іх жаўтаватым гніласным малаком. Ноччу ўздымалася і, расцягнуўшыся на кіламетры, свяцілася лілова-блакітным коканам у чорным бяззорным небе.

Штовечар я назіраў яго з акна, выходзячы на кухню перапаліць. Падобнае да вялізнай касмічнай талеркі без выразных абрысаў воблака нерухома вісела над горадам і выпраменьвала нейкую каламуць, якая працінала ўсё наўкол, і ўсё, што наўкол адбывалася, рабілася падобным да наслання.

У панядзелак, яшчэ не ачуняўшы ад шоку, усе проста маўчалі. Раніцай людзі ехалі ў метро на працу, стараючыся не глядзець адзін аднаму ў вочы. Арышты іператрусы ў штаб-кватэрах партый працягваліся ўсю ноч, а як толькі адкрыліся офісы, банкі і крамы, спехам запрацавалі суды. Відаць, да такой колькасці затрыманых ніхто не быў гатовы, таму судзілі хутка, як на канвееры. Упайвалі кожнаму пятнаццаць сутак арышту цягам некалькіх хвілін. Увесь дзень я праглядаў на сайтах навіны — адна абсурднейшая за другую, а ў прамежках падшукваў у інтэрнэце кватэру. Запрашаць Машу да мяне было рызыкоўна. Заставалася зняць апартаменты на суткі.

Паміж паведамленнем пра знікненне Валошына і заявай назіральнікаў АБСЕ я адшукаў неблагі варыянт на праспекце і патэлефанаваў. Аказалася, што кватэру ўжо здалі, але гаспадыня прапанавала мне цалкам прыстойную замену на бульвары Талбухіна. Увечары я заехаў у прыціхлую «Шклатару». У ёй быццам ляжаў нябожчык. Нават «Манага», бар, заўсёды перапоўнены ферамонамі, у гэты вечар пацьмянеў, скурчыўся і апаў.

У аўторак зранку я паехаў глядзець кватэру. Пакой быў невялікі, але стыльны, з добрым рамонтам, а галоўнае — з шыкоўным двухспальным ложкам. З разуменнем ацаніўшы мой не камандзіровачны выгляд, гаспадыня зазірнула ў пашпарт, працягнула ключы і папрасіла паліць толькі на кухні.

Увечары перад сустрэчай з Машай я зноўку заехаў на бульвар, завёз каньяк і закускі, запаліў свечкі, паставіў

Брэгавіча «Час цыган» і роўна а сёмай быў каля яе пад'езда. Калі Маша выпырхнула з яго ў чорных боціках, кароткай спадніцы і паўкажушку, мне раптам здалося, што воблака над горадам на нейкі час зніклі. Па дарозе ад хвалявання я безупынна гаварыў, нібы імкнуўся ў пятнаццаць хвілін укласці ўсё, што здарылася за два тыдні.

Двор на бульвары быў стары і цесны, таму я прыпаркаваўся на вуліцы, і вузкай сцяжынкай у снезе мы пачалі прабірацца да ганку. Маша крочыла спераду, няўпэўнена трымаючыся на высокіх абцасах на кепска пратаптанай каляіне. Злізваючы поглядам чорную памаду з яе ног, я хацеў дагнаць і ўпасці разам у снег тут жа пад чорным бяззорным небам.

Потым усё адбылося як у галівудскім кіно. Мы наспех выпілі па кілішку за сустрэчу і пачалі раскідваць адзежу проста на кухні. Пра шыкоўны двухспальны ложак мы ўзгадалі толькі гадзіны праз дзве. Зрэшты, гэтай ноччу нам бы хапіла і вузенькай кушэткі.

У нядоўгіх перапынках мы многа і блытана гаварылі, пераскокваючы з тэмы на тэму. Маша прызналася, што сумавала. Яшчэ дадала, што я схуднеў. Я з усмешкаю адказаў, што гэта з тугі. Ад перажыванняў апошніх тыдняў я сапраўды прыметна асунуўся. Хоць, часам паглядаючы на сябе ў люстэрка, адзначаў, што запалыя шчокі мне болей пасуюць. Маша шчабятала нешта пра Зойку, маўляў, не ў час прыляцела. Таму за горад яна выбралася ўсяго пару разоў і то займалася там толькі прыбіраннем. Казала, што там яшчэ суцэльны бардак, асабліва на падворку, але хутка яна мяне запросіць. Лаяла па-добраму кошку Кацьку за яе шалапуцтва. Смяялася, што тая можа на суткі знікнуць, а там, чаго добрага, прынясе ў падоле з паўтузіна кацянят. Потым жартам дадала, што яна таксама кошка, што ёй таксама патрэбен мужык, які б трахаў яе ды карміў.

Я ж распавядаў пра ліхтугі са сцэнаром, глядзеў у яе памутнелыя вочы і дакладна ўжо ведаў, хто гэты мужык, які будзе яе карміць, трахаць і кахаць. Потым, прапанаваўшы разам сустрэць Новы год, я агучыў некалькі варыянтаў, куды можна паехаць. Маша была згодная на ўсе і ўпершыню ўвесь вечар казала мне «ты». Пра тое, што здарылася на плошчы, мы амаль не ўспаміналі. Толькі адзін раз я, не вытрымаўшы, завёў гэту тэму, на што Маша здзіўлена запытала:

— Дык ты мяркуеш, гэта былі не пераапранутыя мянты?

— Вядома! Якія мянты? Ты падумай, навошта ім граміць Дом урада, калі перамога і так ужо ляжыць у кішэні. Яны спадзяваліся, што народ пакрычыць на марозе ды разыдзецца.

— Дык хто ж гэта тады?

— Тыя, каму гэта выгадна. А Канцылярыі гэта дакладна было не патрэбна. Ты ж бачыш, яны стрымлівалі разгон да апошняга. Ім і трэба было пратрымацца ўсяго пару гадзін. Адагнаць правакатараў ад Шэрага дома — і ўсё! Нічога больш не рабіць! — я пачынаў распальвацца. — Але не стрымаліся! Нервы здалі — і баста! І панеслася! Я таму і не хацеў ісці на Плошчу! Як адчуваў, што ногі і хвост растуць з Масквы! Толькі не думаў, што ў яе ўсё так хвацка атрымаецца! Напэўна, яны і самі не спадзяваліся! Відаць, думалі: «Ай, закінем пробны шар наўдачу, а раптам спрацуе». А выйшла нават лепей, чым чакалі. Увогуле выйшла прыўкрасна! Гратуляцыя! Адна з найлепшых крамлёўскіх спецаперацый за апошні час! Зараз яны замкнуць Імператара сам-насам з Крамлём, адгародзяць яго ад Еўропы — і рабі з ім усё, што хочаш! Не рыпнецца ўжо нікуды! Толькі разам з ім яны і нас замыкаюць! Усе ў адной клетцы сядзім!

— Што ж цяпер будзе? — асцярожна запыталася Маша, недаверліва выслухаўшы маю надрыўную прамову.

— Не ведаю! Звера выпусцілі, зараз загнаць яго назад у клетку будзе цяжка! На цвярозы розум трэба паспрабаваць хоць штосьці адкруціць назад. Толькі не факт, што цвярозы розум яшчэ нешта вырашае.

Мы ненадоўга заснулі пад раніцу. А дзявятай Маша ўзнялася на працу. Але мы яшчэ доўга не маглі расстацца. Пілі каву, зноўку падалі ў ложак. Яна набірала шэфа і адпрошвалася на пару гадзінаў. Я браўся Машу падвезці, але яна катэгарычна адмовілася. І толкам нічога не адказала на маё пытанне, чым жа яна займаецца на працы. Выбраліся мы ўжо бліжэй да дванаццатай. Я высадзіў яе ля метро, дамовіўшыся сустрэцца ў бліжэйшую пятніцу, каб адзначыць Каляды.

## 63

Горшае пачынала збывацца. Па гародзе блукаў уцёклы звер з Плошчы. Удзень ён раставаў у тумане, ахінаючы ўсё прыкрым прысмакам страху ды адчуваннем татальнай нягегласці. Ноччу ўзбіраўся на воблака і пільна, не міргаючы, пазіраў на горад. Часам здавалася, што воблака зліваліся з ім, рабілася адным вялікім каламутным вокам. Разпораз яго блакітныя бялкі барвавелі, потым набывалі колер жухлага лісця, а тады знячэўку цьмянелі. Але пад раніцу вока заўсёды знікала. Яно спускалася на зямлю і зноў раставала ў малацэ новага дня.

Праглядаючы навіны на сайтах, я разумеў, што мы ўсё глыбей і глыбей апускаемся ў багну. Кожны новы крок здаваўся яшчэ недарэчнейшым і бессэнсоўнейшым за папярэдні. Надзеі, што нешта можна адкруціць назад, раставалі. Большасці з шасцісот затрыманых далі па пятнаццаць сутак. Але некалькім дзясяткам чалавек збіраліся ўпаяць тэрміны пасур’ёзней. Сярод іх і Макарэвічу, якога такса-

ма абвінавацілі ў арганізацыі беспарадкаў. Хаця на тле заклікаў Лапаціна і Хоміча яго пазіцыя выглядала амаль пацыфісцкай. Еўропа абуралася. Масква зычліва маўчала.

Тое, што адбывалася, здавалася настолькі недарэчным і нікому тут не патрэбным, што не ўкладвалася ў галаве, як канцылярскія гэтага не разумеюць. А галоўнае — у гэтай гісторыі заставалася шмат няяснага. У сераду вечарам я не вытрымаў і патэлефанаваў Лёшы, таму самаму прыяцелю з Канцылярыі, які яшчэ год таму папярэджваў пра крамлёўскія намеры.

На наступны дзень мы сустрэліся ў дарагой і моднай кавярні на вуліцы Леніна. Лёша хоць і ўважаў сябе ў душы за дэмакрата, але лічыў за лепшае бачыць народ праз вітрыны рэстарацый прэміум-класа. Апошнімі гадамі ў ім усё выразней праяўлялася штосьці ад будучага старшыні абкама. Здавалася, нават паўнець ён пачаў не праз генетычную схільнасць, а з прычын ідэалагічных. У хударлявым старшыні абкама прысутнічала б нейкае непаразуменне, недапушчальная пагарда стылем. Але хлопец ён быў някепскі, погляды меў ліберальныя, заўсёды цвяроза разважаў пра нацыянальныя інтарэсы і, як большасць будучых абкамаўскіх старшыняў, любіў жанчын і застоллі. Карацей, уяўляў сабою ідэальны тып партыйнага Пантагруэля эпохі позняга застою.

У гэты вечар Пантагруэль быў хмурным і разгубленым. Замовіўшы сабе віскі, ён адразу ж пацвердзіў усе найгоршыя здагадкі. Многага ён дакладна не ведаў, а толькі падазраваў, але высновы былі не суцяшальныя. Версію, што Шэры дом штурмавалі пераапранутыя мянты, ён адразу адмёў.

— Ты што, не чытаў хроніку дзевятнаццатага на «Поклічы»? Яны што, зусім фішку не сякуць? Усе крычаць пра мянтоўскую правакацыю, а яны ж нават не сталі нічога рэдагаваць на сайце. Захоплена пішуць пра сотні моцных хлоп-

цаў, якія спрабуюць прарвацца ў Дом урада! Скажаш, не ведалі? Ці не разабраліся ў цемры? Мянтоў не разгледзелі?

— Дык ты што ж, мяркуеш, што гэта былі лапацінскія? Але гэта ж бязглуздзіца! Гэта ж самагубства!

— Я думаю, — Лёша зірнуў на тэлефон, крыху памарудзіў, потым узяў яго са стала і засунуў у кішэню, — лапацінскія маглі не ведаць, дакладней, ведала ўсяго некалькі чалавек, а брыгада была не лапацінская, і не валошынская, і нават не хамічоўская, а маскоўская. Прыехала група падтрымкі, расхуячыла дзверы і гэтай жа ноччу зваліла. І цяпер хрэн іх дастануць, бо пашпарты ў іх не беларускія. А тыя з мясцовых, хто пад шумок туды ўлез, — гэтых, вось пабачыш, зараз усіх знойдуць. Усе запісы прасканууюць і знойдуць. І тэрміны ўпаяюць. Толькі паглядзіш, будзе іх пару дзясяткаў, а дзверы хуячыла людзей нашма-а-ат, — ён расцягнуў апошняе слова, — болей.

— Дый чорт з імі, з дзвярамі! — раздражнёна кінуў я. — Гэта ж усяго хуліганка! Падумаеш, хай кампенсуюць — і закрыць тэму! Выпусціць усіх і адкаціць сітуацыю назад! На храна пятлю сабе на шыю накідваць і ўласнымі рукамі яе яшчэ і зацягваць! Канец жа вяровачкі зразумела, дзе!

Ясна, што вяровачка вілася да Крамля. Але справа нават не ў тым, на чыю менавіта шыю яна зараз была накінута. Фактычна вяроўку накідвалі на ўсіх і цягнулі назад у Імперыю. Тутэйшая ж нібыта Імперыя была толькі постмадэрнісцкай цытатай. Яна трымалася не на сістэме, а на адным чалавеку. З ягоным сыходам яна рассыпалася. Тое, што адбывалася далей на ўсход, было значна сур'ёзней. Імперыя там заўсёды трымалася на сістэме. Калі ў нас шанцы сысці меліся велізарныя, то там амаль ніякіх. А значыць, вяроўку любым спосабам трэба было скінуць.

— Позна! — неяк асуджана працягнуў Лёша. — Цяпер не адкруціш! Па-першае, Захад выбары ўжо не прызнаў,

так што замарочвацца карцінкай зараз дакладна ніхто не будзе. Але галоўнае не гэта. Дзверы — добра, хрэн з імі! Не пра дзверы гаворка. Яны мяжу пераступілі. Ім зараз могуць упаяць спробу перавароту. Калі б не было лапацінскіх заяў пра камітэт нацыянальнага выратавання дый іншай лабуды, то можна было б спісаць на хуліганку. Альбо былі б заявы, але без штурму. А ў пакеце — гэта ўжо сур'ёзна. Так што, мяркую, ім улепяць спаўна. Тым болей, уяві, які ён, — Лёша ўзняў указальны палец да столі, — злы на іх. Уяві, чаго яму каштавала трываць іхныя закідоны па тэлеку, а ў канцы атрымаць такую падляну. Так што пакарае абавязкова, асабліва Лапаціна і Хоміча.

— А пры чым тут тады Макарэвіч? Якое ён мае да дзвярэй дачыненне?

— Так, Макарэвіча шкада! Ён тут увогуле ні пры чым, не ў час пад руку трапіўся! Я і так спрабую каму трэба гэта ў вушы ўкласці. Толькі ад такіх, як я, зараз мала што залежыць. Хочаш, я ў двух словах абмалюю, што цяпер адбываецца. Уяві, што ўсіх канцылярскіх можна падзяліць на чатыры групы. Адна — безнадзейныя ідыёты. Гэтых ужо не зменіш. Трэба чакаць, пакуль самі павыміраюць. Другая — прагматыкі. Яны — пры свядомасці і з прыстойнаю адукацыяй. Трэцюю назавём заходнікамі. Гэтыя фішку сякуць. Разумеюць, што трэба пакрысе чаліць у Еўропу, а ад Крамля трымацца падалей. А ў чацвёртых з кішэні славянафільскі пагон тырчыць. Гэтыя самыя небяспечныя. У кожнага другога — хвост у Крамлі. Вядома, усе групы адна ў адну перацякаюць. Ідыёт можа быць і ў заходніках, і ў славянафілах. Тое самае прагматык. У апошнія гады прагматыкі з заходнікамі пакрысе адціскалі ідыётаў і славянафілаў. Але зараз сітуацыя змянілася. Спадзяюся, што ненадоўга. Толькі цяпер зноў яны руляць.

Праз гадзіну мы выйшлі з кавярні. Апусцелы да ночы горад пах свежым снегам і рэшткамі гару ад не так даўно

зніклых аўтамабільных затораў. Гадзіннік на ратушы прабіў дзевяць. За агароджаю Езуіцкага касцёла самотна свяцілася ў цемры гірляндамі калядная елка.

— Ведаеш, я вось тут падумаў, — пачаў Лёша, — калі Лапацін і Хоміч усё загадзя ведалі, гэта ж самагубства. Ёсць у мяне на гэты конт адна здагадка. Але гэта толькі здагадка, і я табе нічога не казаў! — ён з апаскай азірнуўся на пустой вуліцы і перайшоў на шэпт. — Ім жа маглі штосьці паабяцаць. Ну, разумееш, намякнуць на вушка: давайце, хлопцы, бярыце Кабмін! Вы толькі пачніце, а нашы людзі дапамогуць. Сячэш, пра што я? Маўляў, ёсць тыя ў Канцылярыі, хто вас падтрымае. Вы толькі дзверы падапхніце — і ўсё пасыплецца. Абкладзем мядзведзя, выкурым з бярлогу — і на рагаціны. А калі так, то Валошын таксама мусіў ведаць. Можа, ён напярэдадні сам зваліў, бо адчуў: крамлёўская падстава! Зразумеў, чым усё скончыцца. Людзі ў іх тут напэўна ёсць, але зараз не рашацца. А іх проста пакарыстаюць, вытрасуць і здадуць як шклатару.

## 64

Народу на літургію сабралася багата. Католікаў у горадзе было многа, таму Нараджэнне Хрыстова святкавалі. Нават Канцылярыя, якая больш любіла цытаваць праваслаўе, гэта прызнала і абвясціла дваццаць пятае выходным. Так што найважнейшыя рэлігійныя святы ў нас адзначалі двойчы, як Каляды, так і Вялікдзень.

Калі мы з Машаю з’явіліся ў касцёле Дзевы Марыі, літургія ўжо пачалася. Усе лаўкі былі, натуральна, пазайманыя, і людзі туліліся ў праходах. Раней, гадоў дзвесце таму, калі католікаў у горадзе было болей, чым праваслаўных, тут, пры касцёле, месціліся езуіцкі калегіум і кляштар. Пазней, ужо пры саветах, сюды засялілі спартыўнае таварыства «Спартак». Сам касцёл, дзякуй Богу, не

знеслі, а толькі зрэзалі вежы, падзялілі на паверхі і абсталявалі ў цэнтральным нэфе фізкультурныя залы. Але ў дзевяностых яго вярнулі каталікам, адбудавалі і зрабілі кафедральным.

Затрымлівацца надоўга мы не збіраліся. Завітаўшы, хутчэй, сімвалічна, мы з цікавасцю паразглядалі свежыя, толькі што адрэстаўраваныя барочныя фрэскі, алтар са скульптурамі і накіраваліся да выйсця.

Ужо ў прытворы я падышоў да шапіка прыгледзець якінебудзь калядны сувенір. Падабраўшы срэбраны дызайнерскі крыжык на ланцужку, я палез за грашыма, але тут Маша заявіла, што яго не надзене. На пытанне чаму яна адказала, што і так сёння дзеля мяне зрабіла зашмат, прыйшла ў касцёл і нават укленчыла падчас літургіі. Я азадачыўся, але не стаў паглыбляцца ў складанасці яе стасункаў з Богам, тым больш што ў той жа кватэры на бульвары Талбухіна нас ужо чакаў святочны стол.

Пасціцца на куццю ў каталікаў даўно ўжо не прынята, таму я вырашыў не стрымліваць сябе. Заехаўшы на кватэру гадзіны за дзве да сустрэчы, я расклаў на шырокія чорныя талеркі фаршаванага ласося, паштэты з карпа і шчупака, адчыніў бляшанку ікры, нарэзаў фарэль. Праўда, традыцыйнага гусака гатаваць не стаў. На стале яго ўвасабляў гусіны паштэт з салёным базілікавым алеем. Дадаўшы да кампазіцыі курыныя рулеты з чарнаслівам, шпінатам і блінамі, мюнхенскія кілбаскі, масліны і памідорчыкі чэры, я паставіў у цэнтры пляшку каньяку і маленькую калядную елку, з намёкам пасадзіўшы пад яе двух анёлачкаў.

Увесь вечар Маша быццам свяцілася, выпраменьвала спакой, які тут жа перадаваўся і мне. Размаўляць пра благое не хацелася, усё болей мроіліся паветраныя замкі. І найбліжэйшы з іх — навагодні, у якім мы збіраліся правесці цэлыя два дні. Маша прапаноўвала паехаць у Піцер да ста-

рых знаёмых. Мне ж хацелася сустрэць Новы год ціха. Закаціць куды-небудзь у глуш далей ад горада, ад людзей і трывог апошніх тыдняў, піць на марозе з рыльца каньяк, абдымацца ў лесе, цалавацца пад шапкамі снегу ды цешыцца з таго, што ўсё-такі я сустрэў яе тады ў цемры на прыступках «Шклатары».

Я ведаў, што Сцёпін выбіраецца з сям'ёю на хутар каля Блакітных азёраў. Гэта недалёка ад Камаедаў, мясцін, дзе адбывалася гісторыя нашага новага фільма. Раней я там не бываў, паехаць на выбар натуры мы так і не паспелі. Край там глухі і надзвычай прыгожы, лепшага замка на Новы год нам не знайсці.

Вечар мы пачалі бы тыя анёлачкі ля елкі. Кінуцца адразу ў абдымкі здавалася няслушным. Але неўзабаве ў анёльчыкаў выраслі рожкі, дачакацца хаця б поўначы не атрымалася.

У суботу Маша мусіла з'явіцца на працы бліжэй да абеду. Таму ўсю раніцу мы правялі ў пасцелі. Спыніцца было немагчыма. Маша выпускала з клеткі звера, які зусім не жадаў вяртацца назад.

— Ну ты і самец! У цябе, напэўна, шмат палюбоўніц?

— Гэта ўсё ў мінулым. Я ўсіх адправіў у адстаўку.

— Навошта? Не варта гэтага рабіць.

Прыняўшы яе словы за жарт, я адправіўся на кухню прыгатаваць каву.

Турка ўжо закіпала, калі прыйшоў гэты эсэмэс. Прачытаўшы яго, Маша адразу перамянілася. Яна неяк згасла, а ў вачах прамільгнула трывога, якая тут жа перадалася і мне.

— Штосьці здарылася? — асцярожна запытаўся я. — Гэта Паліна?

— Не, яна тут ні пры чым, — адказала Маша здушаным голасам і адвярнулася да сценкі.

— Паслухай, — пачаў я з лёгкім раздражненнем, здагадваючыся, што эсэмэс звязаны з той іншай, таемнай Машай, якая ніяк не хоча адкрыцца. — Мы ж цяпер разам! Твае праблемы зараз і мае праблемы. Я не пытаюся, пра што гэты эсэмэс, але я проста хачу табе дапамагчы!

— Мы не разам! — глуха адазвалася Маша.

Я з крыўдай дэманстратыўна адышоў і моўчкі ўтаропіўся ў акно.

— Прабач! Я не хацела цябе пакрыўдзіць. Але тут ты нічым не дапаможаш. Выкліч таксоўку, мне трэба на працу. Давай паедзем на Блакітныя азёры!

## 65

**У** вітальнай зале было бязлюдна і ціха, толькі з-за замкнёных дзвярэй ледзь чутна далятала меладыя арфы. Агледзеўшыся, фон Меер кінуў позірк на груды мэблі, пазвальванай ля сцен, нібы хлам, і накіраваўся да вялікай каміннай залы. Яшчэ на пад'ездзе да сядзібы ён заўважыў у вокнах святло, але іх ніхто не сустракаў. Па паху застолля, які яшчэ лунаў у паветры, можна было зрабіць выснову, што дом спехам пакінулі перад самым іх паяўленнем.

Пераступіўшы парог залы, барон са здзіўленнем убачыў з тузін вялікіх, у чалавечы рост, палатняных лялек. Дзве, прыхінуўшыся бардовымі ліўрэямі да сцяны, стаялі ля дзвярэй. За прасторным накрытым сталом у мудрагелістых паставах сядзелі астатнія. Побач з лялькаю ў белым жаночым строі прымасцілася пудзіла таўстуна з акруглым, як блін, тварам. Таўстун цягнуў анучныя рукі да талеркі і ўсміхаўся чырвонымі вуснамі з плюшу. Крыху воддаль, утыкнуўшыся рылам у талерку з вяндлінаю, сядзела нейкая нібыта свіння. У цэнтры стала ўзвышалася вялізная арфа. Да яе, быццам перабіраючы струны, схілілася баба

з густым, звітым з тонкай вяроўкі валоссем. З вялікіх грудзей бабы тырчалі пучкі рудай саломы.

Гукаў арфы ўжо было не чуваць, але аднекуль з-пад стала даносілася парасячае рохканне. Рэзка задраўшы абрус, барон убачыў двух парсюкоў. Адзін меў на галаве маленькую папяровую карону. Галаву друга таксама аздабляла карона, але быў ён худы і драбнейшы, затое з вялікім ружовым бантам на шыі.

Наблізіўшыся да пудзіла з ненатуральна ссунутымі да пераносся гузікамі-вачамі, фон Меер дакрануўся да твару, але тут жа адхапіў руку назад. На кончыку пальца праступіла маленькая чырвоная кропля. Прыгледзеўшыся да лялькі, барон раптам заўважыў, што з яе тырчыць мноства дробных іголак.

— Обыскать! Перевернуть все! — фон Меер раздражнёна пхнуў ляльку нагой. — Всех, кого найдете, — ко мне!

— Господин барон! — пачуўся з дзвярэй голас. — Не изволите ли взглянуть? Там наверху какая-то бесовщина!

Праз хвіліну фон Меер стаяў на парозе спальні Станіслава. Засяродзіўшы погляд на масцы, ён павольна наблізіўся да труны.

— А вот и козел! — ён пацягнуўся рукой да маскі. — Кто же ты, третий?

Асцярожна прыўзняўшы казліную морду, барон знайшоў пад ёй адно пустэчу.

— Чертовщина какая-то, ваше благородие! — пачуўся з-за яго спіны голас.

— Сам вижу, что чертовщина!

— Сюда бы батюшку, да всё освятить!

— Обойдемся без попов! Искать дальше!

— Господин барон, кажись, здесь кто-то есть!

Фон Меер выйшаў ў калідор і наблізіўся да замкнёных з сярэдзіны дзвярэй.

— Ломайте! — толькі паспеў ён загадаць, як дзверы знянацку адчыніліся і на парозе паказаўся Ян.

— Что же вы, милейший, тоже в куклу не обратились? Или в свинью? — з ухмылкай запытаўся барон.

— Кто вы и что вам угодно?

— Ян Завальня, вы арестованы за участие в заговоре против Его Величества Императора Александра!

## 66

— Что ж ты, Герасим? Я же просил понежней! — барон уважліва паглядзеў на знявечаны, са слядамі запечанае крыві твар Яна.

— Виноват, ваше благородие! Только как же-с с ними иначе? Они-то молчат. Из них и клещами слово не вытянешь! — паправіўшы фартух, выцягнуўся перад баронам Герасім.

Фон Меер абвёў поглядам прасторны пакой і наблізіўся да доўгага, абабітага бляхай стала. Няспешна разгледзеўшы рыштунак на ім, ён дакрануўся рукой да гарачага яшчэ самавара.

— А ты не клещами! Клещи, голубчик, оставь на десерт! Ты для начала господину Завальне чаю, что ли, предложи. Кстати, Герасим, а действительно, сделай-ка нам чайку! И развяжи ты его. Что ты, ей-богу! Куда он из подземелья-то денется?

Падхапіўшы ля сцяны крэсла, барон усеўся насупраць Яна і зноўку паглядзеў на яго доўгім немігатлівым позіркам.

— Не понимаю я вас, молодой человек, — нарэшце вымавіў ён. — Знатного рода, поместье приличное, молод, собой хорош. Жить бы всласть, а теперь — эшафот. Что же вас к бесам-то потянуло? Аль жить скучно стало?

Барон узяў працягнутую Герасімам шклянку і пачаў няспешна размешваць цукар.

— Ать? Не слышу? Молчите? Что ж, могу понять сообщника вашего, Илью Зосимовича. Брат и отец в восстании погибли. Мать с горя умом тронулась. Тут, так сказать, кровная месть. От ненависти человек готов хоть с мелким чертом, хоть с самим Люцифером договор заключить. А вы-то, вы-то зачем? За что вам ненавидеть?

— Так ведь кроме ненависти, барон, есть еще идеи и чувства. Уж не думаете ли вы, что любовь к родине — недостаточное основание для такого поступка?

— Да, любовь к родине понять можно. Ведь родина — это как мать. Но идеи! Какие идеи?! Свобода? Равенство? Братство? Чушь это всё! Утешение для убогих! Нет для человека ничего более невыносимого, чем свобода! Как не существует в природе и равенства. Или вы живете иллюзией, что идея равенства может, к примеру, объединить народы? Чушь! Естественный принцип природы — война всех против всех! Лишь Империя объединяет! Спасает народы от взаимного истребления. Вспомните Рим. Ведь пока Империя жила, было и процветание, и братство, и равенство. Стоило ей пасть, снова началось истребление.

Барон прыняў у Герасіма гарбату, уласнаручна падаў яе Яну і лагодным голасам працягнуў:

— А ведь я, господин Завальня, к вашему сведению, тоже, так сказать, из инородцев. Фон Меер — как понимаете, фамилия не русская. И, как вы метафору изволили изобразить, мать-земля моя от вас совсем неподалеку. Родовое гнездо наше в Инфлянтах, под Ригой. Однако я ради её же блага великой идее служу. Идее единенья народов. Кстати, ведь вы тоже когда-то хотели Империей стать. И знаете, что вас, голубчик, сгубило? Слишком много у вас в Речи Посполитой было свободы. А ещё матерей. Польша,

Литва, Беларусь, Украина, Инфлянты. Да каждый о своей пекся.

Барон усутыч наблізіўся да Яна і, раптоўна змяніўшыся ў твары, закрычаў:

— А в Империи нет матерей!!! Нет! Все мы, сука, сироты!!! Слышишь, сироты?! Вот где истинное равенство и братство! Мы, сироты, этот храм возводим! — ён павярнуўся да Герасіма і ўжо абсалютна спакойным голасам спытаў: — Правда, Герасим?

— Так точно, Ваше благородие! — злёгку падскочыўшы, той ляснуў абцасамі. — Истинная правда! Сироты! Храм возводим!

— Однако вернемся. Скажите, разве есть идея, способная оправдать убийство? В чем эта благая цель, дарующая вам индульгенцию на отпущенье сего греха? Свобода? Родина-мать? Народ? Да, народ! Только за него не убивают. За народ жизнь отдают!

— А что же тогда инквизиция? Или убить во имя Бога можно?

— А кто вам сказал, что инквизиция от Бога?

— Кому же вы тогда служите, господин Инквизитор?

— Скорби!

Барон шматзначна замоўк, потым, заклаўшы рукі за спіну, прайшоўся па пакоі, узяў шклянку з гарбатаю, ізноў усеўся насупраць Яна.

— Поначалу это дело выглядело как заговор одиночки, озлобленного на всех неврастеника. Вы здесь, скорее, случайность. Я думаю, вы нечаянно попали в дьявольские жернова. Сперва Илья Зосимович соблазнял вас рассказами о страданиях матери-родины. Потом вы как человек благородный, озабоченный ее судьбой, не смогли ему отказать, когда Зосимович предложил вам участвовать в покушении. Но тут-то и начинается для вас неразрешимая

дилемма. Одно дело — страдать за родину-мать, другое дело — убить. А убить-то вы неспособны. Я же вижу вас насквозь. Вы добрый, интеллигентный. Вам и муху прибить тяжело, а уж тем более человека. Мысль об убийстве становится для вас мукой. Но держит слово, данное Зосимовичу. Кстати, вы знаете, что на допросе он назвал вас Иудой?

Глытнуўшы яшчэ гарбаты гарбаты, барон спакойна працягнуў:

— И вдруг накануне покушения вам приходит известие о смерти отца! О! Представляю, с какой тайной радостью вы за него ухватились! Ведь судьба давала вам шанс с благородным лицом выйти из игры! Уехать. Исчезнуть. И поверьте моей интуиции, так бы и случилось. Если б Зосимович не сознался, сидели бы вы тихо, а через несколько лет выбросили бы эту дурь из головы. Женились бы, детишек завели. Но!

Барон схіліўся да вуха Яна і па-змоўніцку прашаптаў:

— Но тут появляется некто третий. Назовем его покамест Козел. И становится очевидно: нет! Не все так просто! Это заговор! Большой заговор, ниточки которого ведут сюда, — выпрастаўшыся, барон прыкрыкнуў: — Герасим! Выйди!

— Ну как же-с? Они же не связаны!

— Пошел вон, дурак!

— Так точно, ваше благородие!

— Ты тоже выйди! — кіўнуў фон Меер пісару за сталом.

— Жаль мне вас! Ведь повесят! — прамовіў ён са спагадай ў голасе, ледзь зачыніліся дзверы за Герасімам, — А главное — в сущности, за что? За то, от чего вы сами по мягкости души отказались. А ведь вы нам не опасны! Опасны другие. Те, кто стоит за вами. А теперь, голубчик, я хочу предложить вам сделку. Слушайте меня очень внимател-

но. Другого шанса у вас не будет. Вы расскажете мне все! Все, все, что знаете про заговор, а я подарю вам свободу.

— Вы меня отпустите? Как же так? Ведь это ж измена.

— А кто сказал, что я отпущу? Вы просто будете жить на свободе. Лучше даже будет, если уедете в Европу. Официально я, конечно, отпустить вас не смогу, но организую побег.

## 67

Не разумею, як гэта здарылася. Выпі я ў той вечар меней, то нешта б прыгадаў. Але некалькі гадзін у памяці сцерліся. Апошняе, што я яшчэ цьмяна бачыў, перад тым як скончылася стужка, — ноч у драпінах і шумах, вузкая сцежка ў сумётах. Я віхляю па ёй, правальваюся па калена і падаю ў снег. Падымаюся і зноў валюся.

Мы сустрэліся з Машай трыццаць першага раніцай. Кампаніяй на дзвюх машынах мы адпраўляліся на Блакітныя азёры. Макараў з нявестаю пад'ехаў да «Шклатары» а дванаццатай. Па дарозе мы забралі Сцёпіна з дачкой і жонкай, заскочылі ў краму прыкупіць свежага хлеба і па заснежаных вуліцах пачалі выбірацца на трасу.

Горад засыпала ўжо некалькі дзён. За ноч снегу намятала столькі, што і да абеду не паспявалі расчысціць дарогі. Толькі збольшага прыбіралі праспект і колькі галоўных вуліц. Астатняе ператваралася ў непралазную шэрабурую кашу. Горад тануў у сумётах, якія штораніцы падрасталі яшчэ на некалькі сантыметраў. На абочынах пад высокімі баярскімі шапкамі стаялі кінутыя машыны. Здавалася, недзе побач з гары сыходзіць лавіна, якая хутка занясе горад па самыя дахі, і ён адправіцца ў белую летаргію. Засне да вясны. Забудзецца на смутныя часіны. А як прачнецца, усё ўжо будзе па-іншаму.

А можа, проста па вуліцах блукаў белы мядзведзь, пасыпаючы горад перхаццю з белае поўсці. Пратаптаныя ім дарогі пазнаваліся па брудным, змяшаным з мядзведжым памётам і аўтамабільнай алівай, снезе. У адчуванні прысутнасці звера ўсё заціхала рана. Толькі на некалькі гадзін горад ажываў у заторах. Але а восьмай вуліцы зноў пусцелі. Адно гірлянды навагодніх агеньчыкаў самотна свяціліся ў завеі.

Спраўджваўся найгоршы сцэнар: Канцылярыя шукала доказаў змовы. У ноч на Каляды паўсюль зноў пракацілісяператрусы. Напачатку тыдня яны працягваліся, цяпер у рэдакцыях і на кватэрах журналістаў. У аўторак, забраўшы тэхніку,ператрэслі офіс «Нашага Гета». Некалькі разоў наведваліся да сваякоў Макарэвіча, супраць якога ўжо высунулі абвінавачанне ў арганізацыі Плошчы. Абшукалі нават гараж ягонага цесця.

Пачаліся ператасоўкі і ў самой Канцылярыі. Змянілі колькі міністраў, звольнілі кіраўніка Імперскай тэлерадыёкампаніі і нават таго вядоўцу, які ў дзень выбараў раздаваў бісквіт у простым эфіры. Казалі, што ў кавалках салодкага торта знайшлі яшчэ некалькі прусакоў — няслушна пастаўленых пытанняў. Батурына знялі з пасады напярэдадні Калядаў. Хоць наш праект замарозілі, але пакуль быў Батурын, яшчэ заставалася кволая надзея. Цяпер жа стала зразумела, што фільм замялі назаўсёды. На студыі збіралі подпісы ў падтрымку былога дырэктара, хадайнічаў за яго Канаваленка, але ўсё марна.

Добрых навінаў было толькі дзве. Дваццаць дзявятага пачалі выпускаць з вязніц тых, каму далі па дзесяць сутак. Ды перад Калядамі, нягледзячы на тое, што рэдактарка «Поклічу» Таня Фядорчанка заставалася ў «амерыканцы», сайт зноў запрацаваў. Хоць чытанне кепскіх навін на «Поклічы» аптымізму не дадавала, але сам факт, што ён усё ж

працуе, крыху супакойваў. Было ў гэтым штосьці ад звычкі пачытаць за кубачкам кавы ранішнюю газету. Хоць там і паведамлялі, што ўсё коціцца ў пекла, што канец свету вось-вось надыдзе, але ўжо адно тое, што ты яе чытаеш, цешыла — ён пакуль не настаў.

У завеі трывожных падзей, што пазвальваліся на горад, я працягваў займацца рамонтам. Кожны дзень я здымаў у банкамаце грошы і набываў валюту. Казалі, што рубель хутка абваліцца, таму да новага года трэба было перавесці ў гатоўку ўвесь ганарар.

Раніцай трыццатага я заскочыў ў абменнік, набыў пару тысяч зялёных, а потым, адстаяўшы хвілін сорак у чарзе на паркоўку, заехаў у «Карону» закупіцца да Новага года. Калі б канец свету прызначылі на першае студзеня, усё адно напярэдадні ў «Кароне» тоўпіўся б народ у даўжэзных чэргах па рыбныя рулеты і курэй, фаршаваных чарнаслівам. Зрэшты, нават у смутны час Новы год мусіць настаць у кожнай замеценай снягамі партызанскай зямлянцы. А ўжо тым болей у заснежаным замку на Блакітных азёрах.

Некалькі гадзін дарогі Маша маўчала. Тое, што яна нечым прыгнечана, я заўважыў яшчэ ў «Шклатары». Гэта была быццам іншая Маша, якая адчужана глядзела ў сябе ды нічога вакол не заўважала. Мяне гняла яе безуважнасць. Хоць у канцы гэтай доўгай белай дарогі нас чакалі цэлыя два дні шчасця, але неяк яго я не адчуваў. Можа, замінала напружанне апошніх тыдняў, якое свінцовым згусткам сядзела цяпер у скронях. Распусціць яго прадчуваннем шчасця не атрымоўвалася. Заставалася толькі растапіць яго каньяком, прыехаць на хутар і выпарыць у лазні. Напіцца, забыцца, астудзіць ледзяной, з палонкі, вадой.

У ранніх прыцемках мы пад'язджалі да азёраў. Запарушаная дарога пятляла па лясах, высачэзныя яліны стаялі пад цяжкімі шапкамі снега, але ўсёй гэтай прыгажосці

Маша нібыта не заўважала. Падбіраючы музыку павесялей, я зрэдку клаў далонь на яе руку. Але чаканага адказу не атрымліваў. Ад гэтага напруга ў скронях мацнела. Можа, трэба было пакінуць яе ў гэты вечар ў спакоі, я ж, наадварот, пачынаў злавацца. Усё ішло зусім не так, як уяўлялася, і ад гэтага яшчэ больш хацелася напіцца.

Калі сцямнела, мы нарэшце пад'ехалі да замка. Ён аказаўся не хутарам, а маленькай, у некалькі двароў, вёсачкай, закінутай у глухіх, занесеных снегам лясах. Сустракаў нас Хведар, прыяцель Макарава, мясцовы ляснік, які чакаў гасцей ужо ад абеду. Узрадаваўшыся, ён адразу павёў усіх рассяляцца па пакоях. Сам Хведар жыў у хаце на ўзгорку. Гасцявая ж хатка знаходзілася ў нізіне і складалася са спальні, куды з сям'ёю адразу ж уехаў Сцёпін, залы з вялікім раскладным сталом ля навагодняй елкі і кухні. За сцяной кухні пачыналася палова суседа.

Нам з Машай вызначылі пакой у хаце на ўзгорку. Выгрузіўшы з машыны рэчы, я тут жа дастаў пляшку і адпіў з рыльца проста на вуліцы. Маша таксама зрабіла глыток. Я ж сербануў яшчэ і неўзабаве адчуў, што п'янею. Можа, з галадухі, а можа, ад напругі, але хмель прыйшоў невясёлы. Хведар натапіў для нас лазню, але Маша пайсці ў яе не захацела. Сказала, пачакае ля стала, пакуль мы папарымся. Я яшчэ больш спахмурнеў і напружыўся.

Сцёпа з Макаравым пад вясёлую балбатню ўзяліся за Хведараў самагон. Я ж моўчкі распакоўваў прадукты, наразаў закускі, піў каньяк, усё болей хмялеў і пануры выходзіў перапаліць на ганак.

— Што здарылася? Чаму ты такі сёння? — не вытрымала нарэшце Маша, таксама выйшаўшы перапаліць.

— Я ў парадку, — паспрабаваў я скрывіць усмешку. — А вось што сёння з табою? І чаму ты не хочаш пайсці з намі ў лазню?

— Памятаеш той эсэмэс на Каляды? — Маша нервова зрабіла пару зацяжак. — Мой блізкі сябра трапіў у аварыю ў Польшчы. Яго ўжо перавезлі, але ён ляжыць цяпер у коме. Урачы нічога не абяцаюць.

Я паспрабаваў яе супакоіць. Але ў глыбіні душы здагадаўся, што справа тут не толькі ў сяброўстве. Хутчэй за ўсё гэты чалавек калісці быў Машы вельмі блізкім.

— А лазні я не люблю, — быццам адчуўшы маю здагадку, рэзка змяніла тэму Маша. — Мне ў лазню ўвогуле нельга. Сэрца шалёна пачынае біцца. Але, калі хочаш, я пайду!

— Не-не! Чорт з ёю, з лазняй! Я таксама не пайду! Пачакаем усіх у хаце!

— Не, я пайду! — уперлася Маша. — Калі хочаш, можаш тут пачакаць, а я ўсё адно пайду!

Я ўзяўся яе адгаворваць, але Маша ўпарта стаяла на сваім. Неўзабаве мы ўсёй кампаніяй выбраліся ў лазню. Наша размова нарэшце хоць штосьці мне праясніла. Напружанне крыху спала, але яго змяніла трывога. Я імкнуўся як мага хутчэй выправадзіць Машу з парыльні. Але яна быццам знарок забіралася ў самую спёку на верхняй паліцы, зацята сядзела там даўжэй за ўсіх, казала, што пачуваецца добра, што даўно не была ў лазні і забылася, як гэта цудоўна. Потым нарэшце ўставала апошняй, выходзіла голая на мароз і ішла да прасечанай у сажалцы палонкі. Скакала ў ледзяную ваду і адразу, нават не перачакаўшы ў прылазніку, вярталася ў парыльню.

Я ж, як сабака за гаспадаром, цягаўся за ёй неадлучна. Упіваючыся поглядам у яе аголеныя ногі, ішоў па вузкай сцежцы ў высокім снезе, заскокваў у палонку, вяртаўся ў прылазнік, наліваў сабе каньяку, зноў заходзіў у парыльню, сядаў на верхнюю лаву побач. Лазня сапраўды была добрая, але ў паводзінах Машы чуўся надрыў і выклік. Яна

быццам ўсё рабіла насуперак. А на маю сабачую адданасць агрызалася ўсмешкай. Ад гэтага я пахмурнеў яшчэ болей.

Далей быў святочны стол ля навагодняй елкі. Я піў самагонку і з Машай амаль не размаўляў. Згустак напругі не распусціўся, а толькі растрэскаўся, і ў расколінах з'явіліся правалы. Свядомасць пачала ўспрымаць усё, што адбываецца, фрагментарна. Яна нібы захоўвала рэчаіснасць на аскепках разбітай падчас застолля талеркі. У адным аскепку засталася елка і падарункі. Памятаю, нейкія для мяне. У другім — стол у суседзяў і тэлевізар, а ў ім Імператар і святочны канцэрт. У трэцім — цёмны двор, Сцёпа падпальвае феерверк і крычыць: «З Новым годам!» У чацвёртым — я зухавата танцую, кружуся па пакоі пад Гарыка Сукачова, б'юся рукамі аб сцяну, адштурхоўваюся, зноўку кружуся. У пятым — разбітае шкло. Шум наўкола, але быццам бы без крыві.

Але ў ніводным з аскепкаў чамусьці не прыпамінаецца Маша. Толькі ў самым апошнім, маленечкім, выкінутым у цемру двара, яна раптам з'явілася на вузкай сцяжынцы ў снезе. У суседнім аскепку, здаецца, быў Хведар. Сцежка віхляе, а я ўсё на яе не трапляю. Раблю крок, спатыкаюся, падаю ў снег. Хведар мяне падымае. Я раблю крок яшчэ і зноў спатыкаюся. І зноўку валюся ў снег.

## 68

Яна ўцякала. Я даганяў, хапаў, валіў яе на пасцель. Яна хвастала мяне па твары. Я душыў, крычаў, што кахаю. Яна вырывалася, зноў неслася да дзвярэй. Я зноў даганяў яе і кідаў на ложак. Тое, што ўчора было камяком напругі, сёння рвала скроні пытаннем. Як? Як? Як? Тваю маць! Як так магло стацца? Чаму ў першую раніцу новага года яна крычыць, каб я правальваў, што ўсё скончана, што яна ад мяне сыходзіць?

Я спрабую яе супакоіць, але кожнае слова і дотык дадае агрэсіі. Яна выпускае кіпцюры, шыпіць, драпае мне твар. Цяпер гэта не Маша, а чорная шалёная кошка. Я ж — памяты дваравы сабака, які спрабуе яе прылашчыць, лізнуць за вушкам, схапіць пашчай за шыю, прыціснуць лапаю да зямлі, але ўсё марна.

Нарэшце яна ўхілілася і, шмыгнуўшы за дзверы, ускочыла на дрэва. Цяжка дыхаючы, я сядзеў на ложку і намагаўся хоць што-небудзь прыпомніць. Аскепкі ўчарашняга вечара ўразаліся ў скроні нясцерпным болем, але нічога, што мало б выклікаць такую агрэсію, у галаву не прыходзіла. Магчыма, нешта хавалася ў цёмных правалах. Можа, ноччу здарылася што? Спаў я адзетым, відаць, дабраўшыся да ложка, тут жа адключыўся. Калі я прачнуўся, Маша ляжала да мяне спінаю. Я асцярожна дакрануўся, але яна тут жа падхапілася, быццам наэлектрызаваная, і кінулася з пакоя.

У галаве ўсё кружылася. Аскепкі ўпіваліся ў скроні ад думкі, што ўсё так бязглузда, нягегла, бяздарна абрынулася. Першы дзень новага года раптам стаўся апошнім. Свята ў заснежаным замку на возеры абярнулася насланнём. Дрыготкімі рукамі я пацягнуўся за цыгарэтамі, накінуў паліто і выйшаў на вуліцу.

Першы дзень быццам наўмысна здзекаваўся з нас. Сонца, адбіваючыся на дахах, дрэвах, сумётах, рэзала вочы белым марозным ранкам. Пахла лесам, дымам, свежым снегам і троху, відаць, ад мяне, самагонам. Маша сядзела на кукішках за рогам і паліла, нервова тузаючы ў руках цыгарэту.

— Маша, — пачаў я як мага спакайней, — Патлумач, што здарылася? Што я ўчора не так зрабіў? Даруй! Ну так, набраўся! Ну так, п’яная скаціна! Але няўжо з-за гэтага расстаюцца?

— Так! Расстаюцца! — без ценю сумневу адрэзала яна. — Усё! На хуй! Не хачу! Я вырашыла! Баста!

— Але чаму? Ці можаш хоць што-небудзь патлумачыць? — я асцярожна паклаў руку ёй на плячо. — Так, я напіўся. Усё гэта напружанне апошніх тыдняў. Увесь гэты піздзец. Масакра. Зразумей. Трэба было неяк зняць. Але ў нас жа яшчэ два дні! Абяцаю, сёння ўсё будзе іначай!

— Не трэба! — яна скінула з пляча маю руку. — І ніколі больш мне не звані! — Маша нервова падскочыла і забегла за рог.

— Расстаёмся?! На хуй?! Баста?! Не звані?! — ашалеўшы наноў, я падляцеў да Машы. — Нават калі п'яная скаціна! Нават калі ўчора нешта зрабіў! Няўжо няможна хоць нешта патлумачыць? Расстаёмся? Ок! Расстаёмся! Усё! Збірайся! Паехалі, на хуй, у Мінск! Зараз жа! Ні хвіліны тут не застануся! Хаця — заставайся! Надвор'е — цуд! Весяліцеся! Весяліцеся без мяне! А я паеду!

Заскочыўшы ў хату, я скоранька пакідаў рэчы ў торбу і вузкай сцяжынкай пабег уніз да машыны. Я быў яшчэ нецвярозы, таму сесці за руль мог у лепшым выпадку ўвечары, але да вечара мне было не дацярпець. Пачысціўшы машыну ад снегу, я вырашыў усё ж пайсці на кухню выпіць гарбаты.

Макараў са Сцёпай з пакамечанымі, але задаволенымі тварамі сядзелі на канапе каля стала. Чымсці яны нагадвалі двух вясковых катоў ля пустых місак. Адзін — пушысты, паласаты, матрацны, другі — доўгі і хударлявы котзадзіра ў гэткіх жа худых акулярах.

— Усё, еду, зараз жа! — кінуў я, бразнуўшы аб пліту гарбатнікам.

— Ты што, ненармальны? — Сцёпін з неўразуменнем пераглянуўся з Макаравым. — Свята толькі пачынаецца! Мы ўжо Хведара па самагонку паслалі. Зараз пахмелімся — ды ў лес! У сумётах валяцца пойдзем! Паглядзі, якое надвор'е. Гэта ж красацень неверагодная!

— Мне тут больш няма чаго рабіць! Мы рассталіся! Хай Маша за мяне паваляецца! — буркнуў я, насыпаючы ў шклянку заварку.

— От жа ж, бабы! Заўсёды свята сапсуюць! — праваркатаў лянiва Сцёпін. — Кінь дурное! На, стрэс здымі! — ён працягнуў сваю недапітую шклянку з самагонкай.

— Э-э-э, ты што!? Мянты першага на дарогах акурат такіх і пасуць! — азадачана падтрымаў Макараў. — Выпі лепей! Хочаш, і я табе сваю самагонку аддам?

— Што я ўчора нарабіў, што яна і размаўляць не жадае?

— Учора? Ды нічога такога! — Сцёпін склаў бровы домікам. — Дзівачыў, як заўсёды, а так нічога! Шкло вунь разбіў. Так танчыў, так танчыў! Добра, хоць адно, а то давялося б акно матрацам затыкаць. Адным словам, напіўся! Дык усе ж, я таксама напіўся. І Макараў. Нічога такога. На! Не, дуры! Выпі!

Выпіць мне страшна хацелася. Такога пахмелля ў мяне даўно не было. Але, плюхнуўшы ў шклянку кіпню, я прысеў да стала пачакаць, пакуль заварыцца гарбата.

## 69

**У** гэты дзень мы нікуды не паехалі. Я ўжо дапіваў гарбату пад заклікі застацца, калі ў хату ўвайшла Маша.

— Што ты з ім зрабіла? — ўсклікнуў Сцёпін. — Глянь, ён жа сам не свой! П'яны хоча ехаць у горад!

— Не трэба нікуды ехаць, — нечакана сказала мне Маша. — Давай застанемся яшчэ на дзень.

Я недаверліва ўзняў вочы. Голас Машы падаваў надзею. Выглядала яна ўжо спакайнейшаю і нават паспрабавала ўсміхнуцца Сцёпіну. Мне карціла запытацца, што ж такое ўчора здарылася, але пабаяўся зноў справакаваць істэрыку. Лепей было цяпер выпіць, на ўсё забыцца і ні ў якім разе не напіцца да разбітага шкла.

Неўзабаве напружанне крыху адпусціла і мы ўжо сядзелі за накрытым сталом. Хведар прынёс трохлітровік, да якога тут жа пацягнуўся паласатымі лапкамі Сцёпа, і ўзяўся нахвальваць тутэйшую рыбалку. Учора я толкам яго не разгледзеў. Макараў ездзіў сюды ўжо не першы год, казаў, што дзеля гасцей Хведар гатовы навыварат вывернуцца. Нечым ён нагадваў Зязюлю. Тая ж душэўная інтанацыя ў голасе, ледзьве прыметная нязграбнасць у твары і моцны акцэнт. І штукар ён быў на ўсе штукі, і самагон варыў добры. Праўда, дзіўна, што жыў бабылём, хаця жаніх быў ладны.

Зрэшты, месцы тут былі глухія, а ў вёсцы ўсяго пяць двароў. За сцяной на той палавіне хаты жыў стары з сабакам, такім жа старым, як ён сам. Калі кіламетраў за дзесяць і быў клуб, то з бліжэйшых хутароў народу там няшмат збіралася. А ў лясах нявестаў не вадзілася. Макараў нават неяк хацеў прывезці Хведару нявесту з Мінска, але тая напярэдадні так моцна напілася, што сватанне адмянілася.

Праз гадзіну, парадкам захмялеўшы на старыя дрожджы, мы пачалі збірацца ў лес. Я павесялеў ад самагонкі і адчування, што катастрофа ўсё ж абмінула. Маша выглядала спакойнай, хаця ўсміхалася нацягнута і гаварыла мала.

Выбіраліся мы даволі доўга, разбіралі цёплыя ватныя штаны і фуфайкі, што выдаў Хведар са сваіх запасаў, пераліваді ў пляшкі самагон, пакавалі закускі. А калі ўвайшлі ў лес, анямелі ад прыгажосці. Мы прабіраліся па некранутым, да калена, снезе ў атачэнні гіганцкіх белых ялінаў. Хведар вёў нас да ракі, што вілася ў нізіне. Большасць назваў тут засталіся паганскімі: Страча, Вайшкуны, Камаі, Швакшты, Лынтупы. Крыху далей Страча ўцякала ў возера Балдук.

Кіламетраў за пяцьдзясят на ўсход знаходзіліся і нашы Камаеды. Мне вельмі захацелася зірнуць на іх руіны, але сесці за руль ужо не было каму. Праўда, непадалёк былі руіны іншага маёнтка. Пракладаючы дарогу ў снезе, Хве-

дар крочыў наперадзе, за ім гужам астатнія. Час ад часу мы рабілі прывал і Макараў разліваў для сугрэву самагон. Я імкнуўся выглядаць знарок вясёлым, удаючы, што нічога не здарылася. Але толькі мы краналіся зноў, я з трывогай паглядаў на Машу, якая ішла наперадзе, і спрабаваў зразумець, чаму ж яна так пакрыўдзілася. Няўжо з-за таго, што я напіўся? Калі б яна была плюшавым зайчыкам, тады ясна. Але яна не была плюшавым зайчыкам і ведала выдатна, што я — не плюшавы мішка.

Нешта, мусіць, ноччу такі здарылася. Гэта думка мучыла мяне наймацней. Ведаць гэта магла толькі Маша. Але яна маўчала, і ад гэтага маўчання мне рабілася ніякавата. А можа, самае прыкрае адбылося не ўчора, а сёння? Калі раніцай ў яе здарылася істэрыка, не варта было звяртаць увагі, хай бы супакоілася. Замест гэтага я паказаў сваю слабасць, не ўтрымаўся і выпусціў звера. Упершыню яна зірнула яму ў вочы.

У галаве наноў круціліся нядобрыя прадчуванні. З пачуццём віны я віўся ля яе ног. Глядзеў адданымі сабачымі вачыма. Скуголіў, спрабаваў лізнуць ў нос і ў вусны, але Маша маўчала. Ні кіўка, ні ўсмешкі, ні костачкі, ні разу не пачухала за вухам. Мы каталіся на санках з адхону, залазілі на руіны, пілі ў лесе пад шапкамі снегу, усе весяліліся, нават часам і Маша, але толькі не са мною. Яна выстаўляла звера за дзверы, пакідала самотна скавытаць на марозе.

У прыцемках, ладна прамёрзшы, мы вярнуліся назад, і Хведар ізноў натапіў лазню. Учарашні дзень паўтараўся. Я зноўку з горычы пахмурнеў і напіваўся. Сядзеў ля яе ног у парыльні, хадзіў па пятах вузкай сцежкай да палонкі, потым абціраў яе ручніком, сам плюхаўся ў ледзяную ваду і вяртаўся ў прылазнік. Налівуў сабе чарку, залазіў на верхнюю лаву і з тугой назіраў, як Макараў любоўна расцірае бярозавым венікам сваю расчырванелую нявесту. У іх было

ўсё: секс, віно і кіно. У нас жа толькі недарэчны надрыўны арт-хаўз, але ніякага намёку на прыхільнасць. Ад гэтага я яшчэ болей змрачнеў і напіваўся, але не так, як учора. Цяпер я ўсё разумеў і ўсё помніў. Рэальнасць не рассыпалася на аскепкі, а цяжкім свінцовым зліткам сядзела ў мазгах.

Калі, вярнуўшыся з лазні, я выйшаў у цемру перапаліць, то з першай марознай зацяжкай усвядоміў: усё скончана, звера яна не даруе, не забудзецца на гэты прыступ нямогласці. Я ж ведаў, што ён сядзіць ува мне. Але заўсёды хаваў яго, імкнуўся трымаць пад замком, як раптам не змог управіцца, дазволіў яму вырвацца на волю.

Запінаючыся ў снезе, я забраўся на ўзгорак і набраў маскоўскі нумар Канаваленкі.

— Забірай мяне адсюль! Куды заўгодна! Хоць у Ніжні Валачок серыялы здымаць! — змрочна кінуў я і ў двух словах расказаў, што здарылася.

— Не скавычы! Знойдзеш сабе іншую! Ты паглядзі на гэта іначай. Затое цяпер ты зноў чалавек свабодны. На хрэн табе гэтыя дэкадэнткі? Вось мы зараз на лецішчы ў Нойза. Тут такія рэпершы — вочы разбягаюцца! Будзь я без Волі…

Я чуў, як Канаваленка пускае сліну, апісваючы рэперш, што сабраліся ў Нойза. Вядома, у нечым ён меў рацыю, цяпер я зноўку вольны. Але я болей не хацеў гэтай волі, як і не хацеў іншых баб.

Калі я вярнуўся ў хату, пушыстая кампанія сядзела за сталом ля новага трохлітровіка з самагонам. Маша на кухні засяроджана мыла посуд. Яна ўвогуле ўвесь час штосьці мыла. Варта толькі было з’явіцца на стале бруднай шклянцы з-пад гарбаты, яна тут жа яе хапала. Мабыць, мыццё посуду яе супакойвала.

Уключыўшы абыякавасць на поўную, я прысеў на канапу і пачаў супакойваць сябе самагонам. Хутка я адчуў, як

мая паказная абыякавасць змянілася спусташэннем. Елка, канапа, музыка з дынамікаў, Маша ля стала — усё ў гэтым вялікім белым пакоі быццам не мела да мяне дачынення. Усё зрабілася дзіўным, чужым, незразумелым. Усе размовы наўкол, здавалася, вяліся на невядомай мне мове.

Я чуў словы, але сэнс іх заставаўся няясным. Растапыранымі вожыкамі яны лёталі па пакоі, але не калолі. Вожыкі набліжаліся да вуха, казыталі і выклікалі адно толькі смех. Неўзабаве мяне ахапіла нейкая ідыёцкая весялосць. Я рагатаў ад кожнага слова, што залятала ў пакой. Сам выпускаў іх у паветра і зноўку валіўся ад смеху.

Машу я быццам не бачыў. Нарэшце заўважыў яе каля елкі, дзе яна сядзела нібыта спустошаная. Паставіўшы яе ўлюбёную «Бабушку», я выцягнуў Машу з-за стала, выклікнуў: «На развітанне — танец!» — і шалёна закружыўся з ёй па пакоі. Калі *бабушка докурила*, я пакінуў яе і пад «*Песни с окраины*» працягнуў танчыць у самоце.

Неўзабаве Макараў уключыў камедыю з Луі дэ Фюнесам і мы прыладзіліся шчыльным радком упоперак раскладзенай канапы. Машы з намі ўжо не было. Напэўна, яна зноў мыла на кухні посуд. Я ж піў самагон, гучней за ўсіх рагатаў і хутка, не памятаю як, заснуў.



Крыху прыадплюшчыўшы вочы, я ўбачыў перад сабою белую, слаба падсветленую рознакаляровымі агеньчыкамі сцяну і ноч за няшчыльна занавешанымі фіранкамі. Я паспрабаваў што-небудзь прыгадаць, і да мяне тут жа дайшло, што я ляжу ў нашым пакоі. Побач, як у нашы лепшыя ночы, паклаўшы галаву мне на плячо, спала Маша. Я раптам адчуў дзіўную лёгкасць. Цяжар, што душыў мяне суткі, імгненна прайшоў. Маша ж вярнулася. Вядома, усё папярэдняе было адно сном, насланнём, недарэчнасцю.

Я ляжаў з расплюшчанымі вачыма і баяўся паварушыцца, каб не спудзіць нечаканае шчасце. У белым пакоі было чыста і ціха. Я не мог прыгадаць, як тут апынуўся. Напэўна, п'янага зноўку прывалок Хведар. Зірнуўшы ў кут, я ўбачыў навагоднюю елку. Здаецца, учора яе не было, але ў прыступе гневу я мог і не заўважыць. Ледзь чутна пахрапваючы ў мяне на плячы, Маша спала адзетай. Ад яе крыху папахвала самагонам. Відаць, напярэдадні я так яе дастаў, што яна таксама напілася.

Яшчэ імгненне я паляжаў у асалодзе палёгкі, потым далікатна правёў рукою па Машынай спіне. Адчуўшы, як нешта злёгку кальнула ў шчаку, я асцярожна павярнуўся, зірнуў на Машу і натыкнуўся на вусы. Выкаціўшы вочы, я на секунду застыў і рэзка ўскочыў. Гэта была не Маша. Побач пад коўдраю ляжаў Хведар. Працверазеўшы за долю секунды, я ашаломлена агледзеўся і зразумеў, што гэта ўсё той жа пакой. У куце мігацела гірляндамі ўсё тая ж елка, побач стаяў той жа з белым абрусам стол, а я сядзеў на той жа канапе, дзе ўвечары заснуў.

Я ўзняўся і зірнуў на гадзіннік — палова на пятую ночы. Пакапаўшыся ў кішэнях у пошуках папяросаў, я нервова зашнураваў чаравікі, выйшаў у прыхожую і замёр.

У паўцемры кухні на разасланай канапе ў адной начной кашулі сядзела Маша. Яна глядзела мне проста ў вочы і нібыта чакала. Не кажучы ні слова, я кінуўся да яе, на хаду распрануўся і сцягнуў з яе кашулю.

## 70

— *В эту ночь при луне, на чужой стороне, милый друг, нежный друг, вспоминай обо мне!* — паставіўшы імбрык на драўляную галаву Сакрата, Герасім узяўся ботам раз-

дзімаць самавар, потым прысеў да стала і, працягваючы напяваць ў паўголаса, няспешна нарэзаў хлеб. Пачуўшы ззаду глухі гук, Герасім павярнуўся, заўважыў, што бот упаў на падлогу, але падымаць не стаў, а пацягнуўся да шклянкі, наліў у яе гарбаты, падзьмуў, сербануў.

— *Милый друг, нежный друг, вспоминай обо мне*! — хруснуўшы вялікім кавалкам цукру, ён не расчуў, як драўляная галава раптам хруснула ва ўнісон, і з трэшчыны, якая ўзнікла на патыліцы, паказаўся вялікі камар.

Зрабіўшы яшчэ глыток, Герасім зноў хруснуў цукрам. Драўляны Сакрат тут жа трэснуў ля пераносся, і з вузкай шчыліны вылецеў яшчэ адзін вялікі камар. Праз імгненне галава трэснула на макушцы, на шчацэ, потым пад носам. З кожным хрустам на галаве з'яўлялася новая расколіна, з якой тут жа выскокваў інсэкт.

Недапітай гарбаты заставалася яшчэ з паўшклянкі, калі адзін з камароў апусціўся Герасіму на лысіну. Той толькі хацеў быў ляснуць сабе па макушцы, каб інсекта прыбіць, як раптам самлеў і паваліўся тварам на стол, утаропіўшы застылы погляд на перакуленую шклянку і гарбату, што павольна сцякала ўніз.

***

Ян прачнуўся ад незразумелага шуму за дзвярыма. Прыўзняўшыся на ложку, ён зірнуў на агеньчык амаль дагарэлай свечкі, як у калідоры нехта ўскрыкнуў, і Ян выразна пачуў крокі, што набліжаліся да яго каземата. Хутка ляснуў замок, і на парозе паказаўся высокі чалавек у чорным плашчы з казлінай маскай на твары.

— Паспяшайцеся, пакуль не прачнуўся гарнізон! Дарога да варот вольная. За ёй вас чакае асядланы конь.

— Зноў вы?! Дык гэта быў не сон? — Ян падышоў да незнаёмца.

— Трымайце, ён вам спатрэбіцца! — той працягнуў рэвальвер. — У варотах брамка. Яна не замкнёная!

— Чаго вам ад мяне трэба?

Пустымі вачніцамі казліная маска моўчкі паглядзела на Яна.

— Я хачу, каб вы завершылі справу! — суха прагаварыў незнаёмец і пайшоў да дзвярэй. Але ў праёме ён прыпыніўся і зноўку зірнуў на Яна. — Вы павінны забіць Імператара! — адчаканіўшы апошняе слова, госць знік за дзвярыма.

— Забіць Імператара?!

Сумеўшыся, Ян выскачыў следам, але незнаёмец нібыта растаў. Ян кінуўся быў даганяць, але, дабегшы да кута, адскочыў назад. Наўпрост перад ім на падлозе ў лужыне крыві ляжаў вартавы. Ян пусціўся далей па калідоры, расчыніў дзверы ў канцы і ўбачыў свайго нядаўняга ката. Герасім ляжаў, утыкнуўшыся ў стол галавой, над якой вісела камарынае воблака. Ян імгненна праскочыў пакой, рвануў наступныя дзверы і выбег на двор. Удалечыні ён угледзеў вароты і кінуўся да іх. Да ратавальнай брамкі заставалася зусім нямнога, калі ён раптам пачуў за спінай крык.

Ян імгненна азірнуўся і заўважыў вартавога. З крыкамі: «Тревога! Тревога!» — той напярэймы бег да яго. Ян падляцеў да варот і з размаху пхнуў брамку. Але яна аказалась замкнёнай. Ян штурхануў брамку яшчэ раз штомоцы плячом, але ізноў безвынікова. Ён павярнуўся і з жахам убачыў, што вартавы ўжо амаль ля варот. З крыкам: «Стоять, стоять! Сволочь!» — ён падляцеў і выхапіў шаблю. Машынальна тузануўшы затвор, Ян націснуў на курок.

Выкаціўшы вочы, нібыта ў здзіўленні, вартавы на імгненне завіс у паветры і зваліўся проста Яну на рукі. Ян агаломшана адступіў крок назад, упёрся спінаю ў брам-

ку, нечакана адчуў, што яна паддалася. Ян недаверліва абярнуўся і ўбачыў перад сабой яе расчынены чорны праём. За спінай зноўку пачуліся крыкі. З дзвярэй са стрэльбамі наперавес выбеглі яшчэ людзі.

Не разважаючы ні секунды, Ян выляцеў за брамку, ускочыў на каня, што стаяў ля варот, і панёсся па вуліцы. Ззаду пачаўся перапалох, пачуліся стрэлы. Ян раптам адчуў рэзкі боль: адна куля ўсё ж яго дагнала. Не зважаючы на боль, ён гнаў каня ў ноч па пустых вуліцах Полацка ў намаганні пакінуць горад раней, чым сілы пакінуць яго.

## 71

Дарога ўсё далей сыходзіла ў глыбіню прыцемак. І да таго глухі лес здаваўся ўсё цішэйшым і цішэйшым. Ад гэтай незвыклай цішыні барону рабілася ніякавата. Да бліжэйшай вескі, дзе яны маглі спыніцца на начлег, заставалася яшчэ вёрстаў дзесяць. З асцярогай пазіраючы ў бакі, фон Меер бавіў час гутаркай з не надта гаваркім суразмоўцам.

— За что вы нас так ненавидите, господин Завальня? Ну ладно бы просто убили. Но это же какое-то изуверство! Дикость! Этакое варварство в наш просвещенный век! Простите, в голове не укладывается. Допустим, отравили вы Герасима неким неизвестным нам ядом. Но зачем же вахтенного растерзали? На нем же места живого нет. Так что даже экспертиза была вынуждена признать несусветную ахинею, мол, это дело рук не человеческих, а зверя. Возможно, часового растерзал крупный медведь. Ну, право же, откуда там медведю-то взяться?

— Дарэмна, пан Меер. Ні мяне, ні маіх людзей там не было, і ніякага дачынення да гэтага мы не маем! — Адам паварушыў знямелымі пад вяроўкай рукамі. — Усе пацвердзяць, што тае начы я знаходзіўся ў маёнтку.

— Конечно, ваши люди все что угодно подтвердят, лишь бы вас выгородить. Когда надо, вы и по-русски все прекрасно понимаете. Только кроме вас больше некому. Ну право, не тряпичные же чучела из Камаедов на гарнизон напали? Да и мотив очевиден — племянника из плена вызволить. Одного не пойму: как вам удалось туда проникнуть? Вероятней всего, подземный лаз. Как известно, раньше в этих зданиях располагался иезуитский коллегиум. Наверняка господа иезуиты прорыли подземный выход к реке, возможно, позднее замурованный, о котором мы не знаем. А ведь вы, насколько из досье известно, там тоже учились. И про подземный ход могли знать!

— Не ведаю я ніякага лаза! А пляменніка ўжо сто гадоў не бачыў! — буркнуў Адам, з трывогаю паглядаючы на гушчар.

— Напрасно вы его выгораживаете! Сообщили бы, где он скрывается, еще в первую нашу встречу, сейчас и сами бы на свободе были, да и ему лучше бы сделали. А так вы его единственного шанса лишили. Ведь теперь убийство караульного на нем. Теперь ему обратной дороги-то нет. Вы понимаете, о чем я. За соучастие в покушении на Императора ему, конечно, и так виселица грозила. Но там хотя бы был только умысел, а душу еще мог спасти. А теперь — кровь. И невинную жизнь загубил, и свою душу угробил.

Неўзабаве наперадзе паказалася цясніна. Глухі лес з абодвух бакоў навісаў над дарогаю, змыкаючы кроны дрэваў. Барон з асцярогаю азірнуўся на кавалькаду за ім, як аднекуль зусім блізка пачулася ваўчынае выццё.

— Волки! Ваше благородие! — прамовіў есаул, што ехаў побач з баронам.

— Не глухой! Сам слышу! Ничего. Нам они не опасны. Пострашнее зверя везем! — барон кінуў погляд на Адама, узняў вочы на лес, зноў павярнуўся да есаула, як раптам

убачыў, што той, звесіўшы рукі, ляжыць на кані з цесаком у спіне.

— Проклятье! Засада! В ружье! — прышпорыўшы каня, барон рвануўся наперад, але знянацку вялізная хвоя са страшным рыпам паляцела наўпрост на яго. Цудам паспеўшы праскочыць да таго, як дрэва ўпала на дарогу, фон Меер троху ад'ехаў і азірнуўся. Пачуліся стрэлы. Барон убачыў, як некалькі яго людзей, не паспяваючы хоць нешта ўцяміць, паваліліся з коней на зямлю. Агонь вялі з абодвух бакоў дарогі. Нападнікаў, відаць, было няшмат, але яны прыцэльна стралялі з гушчару у атрад, які ўнізе быў як на далоні. Шляхі адступлення адрэзала другая хвоя, што ўпала на дарогу ззаду.

Барон заўважыў, як некалькі чалавек, саскочыўшы з коней, кінуліся ў лес. Хтосьці пабег назад па дарозе. Некалькі куль прасвістала зусім блізка да галавы барона. Не раздумваючы болей ні секунды, фон Меер прышпорыў каня і паскакаў наперад.

Калі стрэлы сціхлі, з лесу паказаўся Ахрэм. Спусціўшыся з адхону, ён разрэзаў на запясцях Адама вяроўкі, але тут жа атрымаў ад таго важкую поўху.

— Навошта? Пацеха ты з меха! — з прыкрасцю выкрыкнуў Адам. — Я ж табе ўчора знак падаў! Не ўмешвайся! Гэта мая турбота! Ты што, не ўцяміў?

— Ну як жа, пане Адаме, мы хацелі як лепей! — з крыўдаю агрызнуўся Ахрэм.

— Як лепей, як лепей! Лепей з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці! Не было тут маёй віны! Разабраліся б ды адпусцілі!

— Не адпусцілі б яны вас, пане Адаме! Самі ведаеце, што не адпусцілі б!

— А хоць бы і так! То мая бяда! Я сваё ўжо пажыў! Не хацеў я крыві! А зараз яны вернуцца, каб забіць усіх!

— Ах, ты, курва сыну! Хацеў затаіцца!

Адам павярнуўся і ўбачыў, што яго людзі цягнуць з лесу параненага казака. Адзін з іх ужо быў замахнуўся прыкладам, каб яго дабіць, але Адам паспеў крыкнуць:

— Стойце! Параненых не дабіваць! Мы ж не звяры! Хопіць крыві! Перавяжыце яго — і на каня! З сабою возьмем — мо адходзім, — Адам ізноў павярнуўся да Ахрэма. — Даруй! Ведаю, ты як лепей хацеў! Але, адрэзаўшы галаву, па валасах не плачуць! Цяпер ужо дакладна нічога не зменіш! Толькі не было маёй віны, а зараз яны вернуцца!

— Хавацца трэба, пане Адаме! Бегчы! У лясы ўцякаць!

Адам памаўчаў, паклаў руку Ахрэму на плячо і ціха прамовіў:

— Няма куды нам бегчы, Ахрэм. Тут зямелька нашая. Хочаш — бяжы! А я застануся, — ён акінуў паглядам сваіх людзей і гучна крыкнуў: — Паслухайце мяне, браты мае! Ніхто іх сюды не клікаў! Яны самі на сваю пагібель прыйшлі! Не хачу воўкам па лясах туляцца! Тут мая зямля, і я з яе не сыду! Хто застанецца са мною, ведае, на што ідзе. Таму прымусам нікога не трымаю. Хто не гатовы — хай сыходзіць, — Адам замоўк на імгненне. — Я зразумею.

— Ахрэм? — ён запытальна паглядзеў на Ахрэма.

— Куды ж я без вас, пан Завальня! Круці не круці, а што трэба заплаці! Я застаюся!

— Дзякуй, Ахрэм! Іншага адказу ад цябе і не чакаў. На рэцэпт зелля не забыўся? Рыхтуй пачастунак гасцям! Вяртаемся!

## 72

Усе разумелі, што мы тонем. Палубы пусцелі рана. Хоць з вялікага плазменнага экрана, усталяванага на галоўнай палубе, велізарная галава капітана штовечар звярталася да апусцелай плошчы, спрабуючы ўсіх супакоіць, але кожны

ўсё адно ўсведамляў, што карабель ідзе на дно. Толькі вялікі буры мядзведзь, быццам нічога такога, кружыў на каўзелі вакол навагодняй елкі, што на Кастрычніцкай плошчы па-ранейшаму самотна мігацела святочнымі агеньчыкамі ў цемры.

Часам завеі змяняліся чыстымі марознымі днямі. Неба яснела, і ненадоўга выходзіла сонца. Але а пятай нязменна цямнела, а мы зноўку стаялі сярод ільдоў у апраметнай палярнай ночы.

Ва ўсім, што здарылася, Канцылярыя вінавапіла падполле, маўляў, гэта яно са сваіх ніжэй ватэрлініі палуб прарабіла дзіру ў судне. Яна працягвала шукаць змоўцаў і ледзь не штоночы ладзіла перытрусы ў ніжніх трумах. Па тэлевізары прайшоў фільм «Ільдом па метале», дзе паказалі знойдзеныя склады са зброяй, прызначанай для перавароту.

Падполле ж вінавапіла ўва ўсім канцылярскіх, сцвярджала, што гэта яны ўзарвалі парахавыя склады. Былі і такія, хто напярэдадні дзевятнаццатага бачыў па борце чорны сілуэт падводнай лодкі. Казалі, што гэта тарпеда, і, апелюючы да развагі, заклікалі дзіру залатаць. Але іх не слухалі і дзіру не латалі. Здавалася, надышоў час Гугонаў. П'янай матраснёй бадзяліся яны па апусцелых абледзянелых палубах, а прабоіна павялічвалася з кожнай гадзінай.

Вада прыбывала, карабель тануў, а я з трывогаю чакаў свой дзень народзін. Я даўно яго не адзначаў, але Маша захацела зладзіць з гэтай нагоды свята ў сябе на катэджы, прапанавала пасля той ночы на Блакітных азёрах, калі мы нечакана замірыліся. Назаўтра мы збіраліся вярнуцца, але ў Мінск не паехалі. Макараў хацеў набыць на азёрах хутар, мы адправіліся на яго паглядзець ды захраслі ў сумётах. Некалькі гадзін на дзвюх машынах мы сёрфілі ў снезе па нераз'езджаных лясных дарогах, а калі, прамерзлыя да касцей, вярнуліся да Хведара, вяртацца ў Мінск было позна.

Маша падаравала мне яшчэ адну ноч і дзіўны ўспамін пад раніцу, калі ў радыёкропцы за сценкай нечакана зайграў гімн. Стары сусед узняўся і, шоргаючы па падлозе нагамі, узяўся карміць сабаку. Звер скавытаў, а ў мяне ў галаве круціліся словы, прамоўленыя напярэдадні Машай. Яна сказала, што не бачыць перспектыў, што ёсць людзі, якія заўсёды будуць адно аднаго толькі мучыць. Цяпер яна мучыла мяне жаданнем сысці. Я ж пакутаваў ад страху яе страціць. Таму, калі перад самым ад'ездам яна прапанавала адзначыць мой дзень нараджэння, да мяне зноў вярнулася надзея.

Усю дарогу да Мінска Маша маўчала. На пад'ездзе да горада яна троху павесялела, каля свайго ганка падзякавала за тры дні прыгажосці, якой мы праве не заўважылі, і прапанавала як-небудзь зноў выбрацца ў лес.

Вярнуўшыся дахаты, я атрымаў эсэмэс ад Паліны. Высветлілася, што пасля Новага года яна ўсё ж схадзіла да Машыных бацькоў і нечага ім нагаварыла.

Увечары я адправіў з пасыльным букет. Мінула пару гадзінаў, але Маша маўчала. Я сядзеў у чаканні на камбузе ў «Шклатары» і праз ілюмінатары вітрын назіраў за штормам, што ўсхадзіўся на вуліцы. Бачыў самотныя фігуркі людзей, якія хавалі твары ў каўнеры, пазіраў на прыціхлых спадарожнікаў з суседніх канап і разумеў, што, акрамя Машы, цяпер мне ніхто не патрэбны.

Не дачакаўшыся адказу, каля дзясятай вечара я патэлефанаваў сам. Найгоршае пацвердзілася. Сухім голасам Маша зноўку заявіла, што нам трэба расстацца. Я штосьці спрабаваў ёй патлумачыць, крычаў, угаворваў, пераконваў. Яна ж адказала, што ёй абрыдла жыць у гэтай гідкай памыйніцы. Уначы я мучыў яе эсэмэсамі. Яна пісала, што я сам вінаваты, што не бывае аркестра без дырыжора. Калі б я не патураў Паліне, яна даўно б адстала. Паліна таксама

не спала. Паміж развітальнымі пасланнямі Машы я з гневам прачытваў яе істэрычныя эпікрызы, а пад раніцу забыўся хваравітым сном.

Увесь наступны дзень я згрызаў сябе дакорамі, што сам усё папсаваў. Калі мы сустрэліся, я быў самавіты, упэўнены ў сабе сапраўдны палкоўнік. Маша адчувала за мной моц. Але цяпер як яна магла застацца са слабым Тэсеем, які мітусіцца па лабірынце і не толькі не можа адолець Паліну, але нават не здольны перамагчы Мінатаўра ў сабе? Да вечара я грыз сябе, паліў адну за адной, а як сцямнела, адправіўся ў «Шклатару».

Я зноўку паліў на прыступках, калі пачуўся званок. Я з радасцю ўбачыў, што гэта нумар Машы. Голасам, не падобным на ўчарашні сухі і катэгарычны, яна падзякавала за кветкі і сказала, што думала пра мяне цэлы дзень. Я прызнаўся, што таксама ўвесь дзень пра яе думаў, папрасіў прабачэння за нечаканы візіт Паліны, сказаў, што найгоршае яна ўжо зрабіла і зараз напэўна знікне.

— Мяркуеш, яна адчэпіцца?

— Упэўнены! Я нават занёс яе тэлефон у чорны спіс і надалей ніякіх кантактаў з ёй мець не буду. А што дзень народзін? — асцярожна змяніў я тэму. — Твая прапанова яшчэ ў сіле?

— Я сваіх слоў назад не забіраю!

## 73

Я адчуваў, як яна вагалася, хісталася паміж жаданнямі сысці і застацца. Я чуў гэта ў Машынай інтанацыі. Калі мы стэлефаноўваліся, голас яе то рабіўся сухім і бясколерным, то нечакана ажываў і падаваў мне надзею. У такія дні я сам ажываў, але ненадоўга, і хутка зноў ўпадаў у пакутлівую няпэўнасць. Адно я ведаў дакладна — шмат што залежыць

ад гэтай сустрэчы. Калі Маша ўбачыць мяне ранейшым самавітым палкоўнікам, яна ўмацуецца ў жаданні застацца.

Кожны вечар пасля працы Маша адпраўлялася за горад прыбірацца ў доме. Ад маёй дапамогі яна катэгарычна адмовілася. Я не настойваў, бо разумеў: спрачацца з ёй бессэнсоўна. Калі яна штосьці пастанавіла, то абавязкова зробіць па-свойму.

Мы дамовіліся запрасіць чалавек дзесяць-дванаццаць. Планавалася, што госці застануцца начаваць, а гэта была менавіта тая колькасць, якую Маша магла камфортна размясціць. Мяне ж болей хвалявала іншае — як запрошаныя змогуць мне падыграць. Самых блізкіх сяброў я загадзя папярэдзіў, што мы на мяжы разрыву, што зараз многае залежыць ад гэтага вечара, які мусіць стаць маім бенефісам. Я буду весці сольную партыю, а іх задача — вярнуць пазалоту на мой ладна пашарпаны за апошнія месяцы мундзір. Таму да спіса гасцей я паставіўся асабліва дбайна. Трэба было запрасіць найлепшых людзей падполля.

Праўда, многія перадавікі з падпольнай дошкі пашаны апынуліся ва ўцёках. Лідар «Крыся Балконскага», які публічна нагаварыў гадасцяў Імператару, хаваўся ў Маскве. Мірон з «ДПР» быў у ад’ездзе. Гуру беларускае філасофіі Адамовіч перажываў гібель Тытаніка, таму быў не ў гуморы. Макарэвіч сядзеў у турме КДБ. Сераду, дырэктарку падпольнага тэатра, якраз з яе выпусцілі, але разам з Вярэнінам яны адразу зніклі, казалі, што іх бачылі ў Нью-Ёрку. Салтыкоў, прадзюсар «Крыся Балконскага», таксама затаіўся ў Маскве. Спявачак партызанскага кабарэ Басю і Пяркусю я блізка не ведаў. З крытыкам падполля Дуравым і музай бабай мы пасраліся на рэдкалегіі яшчэ гады два таму. З тых, хто заставаўся ў Мінску, я запрасіў Канаваленку, Сцёпіна, загадчыц «Шклатары» Люсю і Любу, некалькі прыяцеляў з «Партызанфільма», Платона, лідара

гурта «Плутоній», і Барбару Радзівілаўну, рэдактарку часопіса «Артабрэз».

У суботу, паправіўшы перад люстэркам эпалеты, я загадаў сабе быць увесь вечар вясёлым і важным, загрузіў у машыну каньяк і закускі ды адправіўся за горад. Я чамусьці ўяўляў Машын дом звычайным катэджам у пасёлку. Але ён аказаўся шыкоўнай крыху недабудаванай вілай з некалькімі спальнямі наверсе і велізарнай гасцёўняй, што вокнамі паўкруглага эркера выходзіла на возера.

А шостай вечара Маша сустракала нас каля ўвахода. Быццам здзекуючыся са старога палкоўніка, яна з'явілася перад гасцямі ва ўбранні Кармэн. Увесь вечар я не мог адвесці вачэй ад яе чорнай сукенкі і пунсовай ружы ў распушчаных валасах. У вобразе танцоркі фламенка яна мітусілася на кухні, рассяляла па пакоях гасцей, нібыта наўмысна катуючы мяне сваім хараством. У адказ я толькі пабразгваў эпалетамі і нецярпліва чакаў надыходу ночы, ужо шкадуючы, што ў доме столькі людзей.

У астатнім усё ішло паводле майго сцэнару. Госці весяліліся за раскошным сталом з мноствам прыгатаваных Машай пачастункаў, пелі «Сто лят!», узносілі заслугі палкоўніка. Але здавалася, што мае подзвігі ў бітве пры Трафальгары яе не цікавілі. Пад гусарскі рогат і акампанемент Канаваленкі яна вяла сваю сольную партыю. Я ж, імкнучыся схаваць скаванасць, выстаўляў сябе фатам, паводле свайго ж загаду піў патроху і часам, нібыта даючы інтэрв'ю перад камерай, спрабаваў падыграць гасцям.

— Ну што, калі выйдзе твой новы геніяльны раман? — пераходзіў Канаваленка да чарговай часткі лібрэта — «Заслугі палкоўніка ў літаратуры».

— Думаю праз месяц выдаць беларускую версію, — абыякава, быццам гэта ўсяго толькі мой чарговы бестселер, але з важнасцю адказваў я. — З нямецкай версіяй яшчэ пакуль

невядома. Рукапіс у выдавецтва я даслаў. Чакаю адказу. Калі немцы возьмуць, то і палякі напэўна захочуць. Але, увогуле, мне здаецца, што асноўны рынак для гэтага рамана будзе расейскі, — дадаваў я з выглядам, нібы вырасціў на плантацыі небывалы ўраджай мемуараў, які засталося толькі належна запакаваць ды экспартаваць у суседнія краіны.

— Так, адчуваю, гэта кніга стане бестселерам! Усіх парвём! — аплятаючы курачку ў ананасах, уступаў Сцёпін. Зрэшты, ён не хітраваў. У гета і пяцьсот прададзеных кніжак ужо лічыліся бестселерам. — Прэзентацыю будзеш ладзіць?

— Абавязкова! Не проста прэзентацыю, а цэлую рэкламную кампанію рыхтую. Ужо думаю над варыянтам рэкламнага слогана, — адказваў я, пазіраючы на Машу мядзведжымі вачыма, чакаючы моманту, калі можна будзе згрэбці яе ў ахапак і адасобіцца ў спальні, як з бачуркай салодкага з пунсоваю ружай мёду.

— Маэстра, а што вы зараз збіраецеся напісаць? — уступала ў размову Барбара Радзівілаўна, рэдактарка «Артабрэза», намякаючы, што час перайсці да падраздзела «Геніяльныя задумы палкоўніка».

— Хачу напісаць зборнік франтавых апавяданняў. Думаю назваць яго «Масакра». Нават ужо прыдумаў пачатак для першага аповеда: «Служыў у мяне ў палку адзін дэкаратар…»

— Ха-ха! Мастакі! Дэкаратары! — з рогатам перабіваў мяне Канаваленка. — Чаго яны толькі на мядзведзях не выраблялі! Не полк быў, а банда махноўцаў, — весяліўся ён, усё больш адступаючы ад лібрэта. — Пачатак здымак кожны раз завальвалі! Прыязджаем на пляцоўку, а ў іх вечна не гатова! А наш палкоўнік з Зязюлем у штабным вагоне самагонку жаруць і ручною пілой сала наразаюць! А адным разам, памятаю, здымалі мы сцэну на кухні ў замку — дык тры гадзіны чакалі, пакуль яны яе скончаць. Да вечара дарабілі, а маэстра ўжо ў дупу бухі…

— Ну і што з таго, што бухі? — перапыняў я Канаваленку, спрабуючы вярнуць яго да галоўнай лініі. — Затое якая кухня атрымалася! Сапраўднае сярэднявечча! За два дні з нуля збудавалі!

— Так, так, кухня выйшла геніяльная! Дык вось. Толькі пайшла камера, бухі маэстра лезе з ручніком у кадр і крычыць: «Ні хуя! Не здымаць! Нацюрморт не завершаны!» Кідае ручнік на стол, адыходзіць, глядзіць: «Не тое!» Ізноў кідае: «Ні хуя! Кепска! Не галандскі нацюрморт!» Я яму: «Стол усё адно ў кадр не трапляе!» А ён ужо ні халеры не чуе. Крычыць: «Ні хуя! Не галандцы!» — і кідае ручнік зноў. А потым раптам: «Во! Геніяльна! Вось цяпер можаце здымаць!»

## 74

Уёбак! Падонак! Гнідос! Як мог я такое ўтварыць! У «Шклатары» было холадна і цёмна. Захінаючы каўнер паліто, я ляжаў па цэнтры абсалютна пустой залі, нібыта на сцэне, з якой павыносілі дэкарацыі, і чакаў Грышу. Ехаць дахаты і адчуваць сябе падонкам у адзіноце мне не хацелася. Працягваючы руку да недапітай пляшкі каньяку, я рабіў глыток і заплюшчваў вочы, каб заснуць і не ўзгадваць таго, што здарылася.

Хацелася зляцець у пустэчу, праваліцца ў снег, сцерці з памяці ўсё, спаць не прачынаючыся, без сноў. Але нехта зноў выдзіраў маю галаву з пустаты, і ўспаміны ўчарашняга дня вярталіся. Я адкрываў вочы і нібы бачыў на сценах велізарныя крыклівыя надпісы: «Уёбак! Паскуда! Дзярмо!» Але варта было іх заплюшчыць, надпісы не сціраліся, а працягвалі біцца ў скронях і зноўку крычаць: «Дрэнь! Падонак! Мудак!»

Я не памятаю, у які момант усё пайшло не па плане. Можа, калі Канаваленка паехаў у Мінск? А можа, калі

Маша вынесла торт са свечкамі? Ці на горцы, калі мы каталіся на санках? А можа, уначы? Я чакаў яе набліжэння ўвесь вечар, але госці ўсё ніяк не разыходзіліся па пакоях, усё пілі ды танцавалі. Я таксама таптаўся пад музыку, параненйшаму мядзведжым позіркам пажыраючы Машу, і ўсё мацней раздражняўся ад яе флірта з Платонам. Я чакаў надыходу ночы. Але ноч прыйшла, а госці, не зважаючы на маё чаканне, быццам збіраліся танчыць да ранку.

Напэўна, гэта здарылася, калі мядзведзь раптам прачнуўся, тупнуў нагою і захацеў гасцей зжэрці. Спачатку ён зароў на Платона, потым — на выдаўца літаратуры для гета, пасля — на Любу і Люсю. Відаць, у мішкі на душы набалела. Мабыць, так яго ўсё заябала: і рускія, і французскія, і п'янь шляхетная, і жыццё падпольнае, і пажарнікі, і мянты. Так заябала, што нервы здалі.

Калі нарэшце а трэцяй ночы ўсе заціхлі па сваіх кутках, Маша заявіла, што стамілася і хоча спаць. Я, прытушыўшы жаданне да раніцы, таксама побач прылёг. А раніцай, яшчэ й на дзень не займала, Маша ўстала і пайшла мыць посуд. Яна зноў засяроджана драіла гэтыя чортавы кубкі. Праглынуўшы крыўду са слінай, я апрануўся і адправіўся следам. Я напружана мучыў губкай талеркі, цвеpазеў і разумеў, што напярэдадні яна весялілася з усімі, але толькі не са мной. Нас магла выратаваць ноч, але Кармэн адмовіла. Посуд жа зараз быў не больш чым зачэпкай, каб адмовіць мне і з ранку.

Я не цяміў, навошта яна зладзіла на развітанне гэты спектакль. Мы ж маглі расстацца адразу пасля Новага года. Няўжо яна проста хацела стрымаць сваё слова? Я сноўдаўся з паверха на паверх, прыбіраў, мыў посуд і ніяк не асмельваўся загаварыць. А можа, адцягваў момант прысуду? Пакуль ён не быў прамоўлены, заставалася хоць маленечкая надзея. Можа, я ўсё прыдумаў? Навошта ж тады

столькі высілкаў? Некалькі дзён прыбірання, усе гэтыя стравы, святочны торт, навошта фламенка і ружа? З нядобрым прадчуваннем я адцягваў размову, а калі рашыўся, пачалі выбірацца з пакояў заспаныя госці. Маша адразу павесялела і ўзялася зноўку накрываць на стол.

— Маэстра! — крычала з запалам пані Мальвіна, разліваючы па кілішках каньячок. — Распавядзіце пра вашы творчыя планы!

— Так, так! Мне таксама цікава! — чокаўся з ёю пан Скамароха. — Кажуць, палкоўнік, вы нядаўна вярнуліся з-пад Сталінграда і збіраецеся напісаць пра гэта новы раман?

Я адчуваў, што на другім паверсе ў спальні ляжыць нехта з казлінаю маскай замест галавы, аднак усміхаўся, быццам нічога не адбылося.

— А вось яшчэ, кажуць, нядаўна пад Лагойскам у полі знайшлі апельсін памерам з вядро! — уступаў у гутарку пан Твардоўскі, прыкусваючы каньяк вінаградзінкай. — І што ж вы думаеце? Яго разрэзалі — а ўсярэдзіне іерогліфы. Запрасілі кітайца, а ён прачытаў: «Боская кара!»

— Які шарман! А я мяркую, гэта Чарнобыль! Кажуць, ад радыяцыі апельсіны звярэюць, шалеюць і робяцца памерам з кавун! Палкоўнік, чаму вы змрочны? Можа, вам выпіць?

— Канечне, кідайце вы гэту машыну, выпіце, палкоўнік!

Я адчуваў, што выпіць трэба. Калі я не вып’ю, то спахмурнею яшчэ больш. Маша ўжо два разы за раніцу задавала пытанне: «Чаму ты такі?» Я не стаў удакладняць, што яна мела на ўвазе: чаму я такі пахмурны менавіта сёння ці чаму я ўвогуле такі. Я мусіў яшчэ сесці за руль, каб развесці ўсіх. Аднак чым змрачнейшым я рабіўся, тым меней заставалася надзеі. Трэба было штосьці неадкладна змяніць. Бліцкрыг! Дранг нах остэн! Шашкі нагала — ды

наперад! У рэшце рэшт, ёсць жа таксоўкі! Трэба неадкладна выпіць і зноў стаць вясёлым самавітым палкоўнікам.

— Ілля Засімовіч не любіў апельсінаў. Але яшчэ больш недалюбліваў ён людзей, — я адкаркаваў падараваную мне бутэльку віскі і наліў сабе чарку.

Заўважыўшы, што Маша ўзнялася наверх, я адправіўся следам. Не памятаю, з чаго ўсё пачалося. Здаецца, я проста хацеў абняць, а яна ўхілілася. Я спробу паўтарыў, але яна мяне адштурхнула. А потым панеслася.

Калі б яна крыкнула: «Пайшоў на хуй!» ці проста «Казёл!», то, можа, ён бы і не прачнуўся. Але яна кінула ў твар: «Пайшоў прэч з майго дому!» І ён ашалеў.

Звер душыў яе, роў пра каханне, ізноў адкідваў на ложак. Яна, зрываючы з мяне эпалеты, крычала, што ненавідзіць. Я звярэў яшчэ болей, зноў даганяў і спрабаваў утрымаць яе рукі, якія хвасталі мяне па твары. Зразумеўшы, што гэта канец, я атупела апусціўся на ложак. Яна вынесла свой прысуд ды выпырхнула з клеткі. Я ўстаў і, асуджаны, пайшоў да гасцей.

— Панове! Шляхта, курва-маць! Прашу ўзняць вашы шляхетныя азадкі! Панове, вып’ем за пана палкоўніка!

— Сто лят! Сто лят!

— Люба, замоўце таксоўку!

— А бацька ваш, нех му земя легка бэндзе, якой душы быў чалавек! Памятаю, мы яшчэ шкалярамі ў Полацку былі, ён кажа мне: «Час табе, Скамароха, сапраўдным мужчынам зрабіцца! Хочаш, я цябе з дамай Інсектай пазнаёмлю? Яна цябе цноты пазбавіць!»

— То кеды она яшчэ кобетой была? Ік…

— Люба, тэлефануйце 152.

— А адрас?

— Яка кобета? Ды не, пузней! Дык вось. Прыводзіць ён мяне ўначы да драўлянай галавы Сакрата, што ў нас у кале-

гіуме ў калідоры стаяла. Бачу, а над ёю жамярыца, падобная на моль, круціцца. Прыглядзеўся, а гэта ніякая не моль, а кабета, толькі така малютка-малютка і з крыльцамі!

— Дазвольце, ааа як жа яна моллю стала?

— Маша, а які ў вас нумар дома? Дзевятнаццаць? Дом нумар дзевятнаццаць! Так, калі ласачка, чакаем!

— Ад нянавісці, васпане! Так яна мужчын не любіла, што ад нелюбові гэтай чэзнуць пачала. Чэзла, чэзла, пакуль да молі не змарнела. Ха-ха-ха!

Я сядзеў у вялікай зале з відам на возера і разумеў, што гэта канец. Бяздарны фінал недарэчнага рамана. Кармэн і стары дурны палкоўнік зададраным эпалетам. За вокнамі падаў снег і бялела возера. На стале ляжаў пісталет. Заставалася яго падняць і націснуць на курок.

— Маэстра, таксоўка пад'ехала!

— Ды пайшла ты, сука, сцерва, курва, блядзь! Канец — дык канец! — я схапіў пісталет — бутэльку віскі, падараванага Машай, і запусціў яе ў акно так, каб даляцела да возера.

## 75

— Нявеста павінна быць моцнай! У-га-га! — стукаў Шкіпер пляшкай па сваёй жалезнай назе, імкнучыся перакрычаць шум у «Субмарыне». — Палкоўнік, нявеста мусіць быць моцнаю, як мая нага! У-га-га, — паўтараў ён, шклянеючы зрэнкамі з кожным адпітым глытком, і ўсё болей нагадваў ліверпульскага боцмана, які адслужыў на каралеўскім флоце мноства гадоў і выйшаў у адстаўку па стане падарванага ромам і Мар'яй Іванаўнай здароўя.

— Моцная нявеста! Ха! А што, клёвая тэмаха! — іржаў у адказ Джэф. — Ёсць нявесты саладавыя. Падаюцца ў піўных бутэльках. Звычайна рудыя і недарагія. Імгненна

спаталяюць смагу, але ненадоўга. Выпіў — і пабег за другой! Каб нажэрціся, патрэбная скрыня! Аднак і пахмелле не з прыемных! Далей ідуць нявесты вінныя на вінаградным спірце! Градус невялікі, але піць можна, доўга расцягваючы задавальненне. Трапляюцца ў разнастайнай вытанчанай тары. Бываюць — бландзінкі, бываюць — брунеткі. Інтэлігентныя, але часам трапляюцца сцервы. Кошт — ад пяці баксаў да супердарагіх баб у сабаліных манто! Наступныя — нявесты пладова-ягадныя! Напой танны, але моцны. У момант дах зносіць! Хочацца паслаць на хуй ужо пасля другой шклянкі. Звычайна фарбаваныя, з дадаткам хіміі. Тара кічавая, дый этыкеткі пошлыя. Любяць папсу, жывуць у прамзонах, разліваюцца ў ПТВ.

Мы ужо трэцюю гадзіну сядзелі ў перапоўненай «Субмарыне», у невялікім і вузкім, бы тая падводная лодка, клубе, апошнім у горадзе месцы, куды яшчэ пускалі «кепскія» гурты. З невысокага подыума, выцягнутага ўздоўж сталоў, спяваў «Плутоній». Платон, да якога яшчэ ўчора я раўнаваў Машу, у шапцы з бразготкамі шалеў на сцэне. Час ад часу ён забіраўся на стойку, што аддзяляла сцэну ад залы, і пачынаў заводзіць і без таго ўжо ладна разагрэтую публіку. «Субмарына» весела ішла на дно, апускаючыся ў глыбіню ночы, а разам з ёю патаналі і мы.

— Нявеста мусіць быць моцнай, як мыліца! У-га-га! Сорак абаротаў вінта ў хвіліну! — крычаў Шкіпер, які нядаўна вярнуўся з Лондана, дзе пражыў нелегалам амаль дзесяць гадоў, пакуль не трапіў пад амністыю і не займеў пасля аварыі жалезную нагу, нейкую не жартоўную страхоўку і ангельскі пашпарт.

Апошнімі гадамі пад псеўданімам Жыжын ён вёў у «Артабрэзе» адмысловую рубрыку «Лісты з Лёндану», дзе змяшчаў вар'яцкія аповяды са свайго жыцця. Ён знайшоў мяне пад вечар у «Шклатары», дзе я чакаў Грышу. Піць яму

было нельга. Усялякі раз, напіваючыся, ён зноў рабіўся героем чарговага вар'яцкага апавядання. Але, убачыўшы, як са «Шклатары» выносяць у таксоўку ўшчэнт п'яную Барбару Радзівілаўну, рэдактарку яго ўлюбёнага «Артабрэза», гэтак уразіўся, што тут жа пабег у гастраном за пляшкай. Мне ж ужо было ўсё адно, з кім піць, толькі б забыцца на тое, што здарылася зранку. Хацелася апусціцца на дно.

— Сорак абаротаў — гэта мая Грыша! Моцная, зараза!

— Джэф, хопіць трындзець! Перастань убівацца! — зноў пераключалася на мяне Грыша. — Самаедствам нічога не зменіш! Вернецца да цябе твая нявеста!

— Гэтым разам не вернецца! Пакрыўдзіў я яе моцна! Маша хацела зрабіць мне свята, а я, скаціна, спачатку гэта ідыёцкае шоу вясельных генералаў зладзіў! Потым душыў. Дык мала, бачыш, падалося! Фінальнай кропкі казлу не хапала! Бутэльку, ды не проста бутэльку, а яе падарунак, класны марачны віскі, афэлак, у акно захуячыў! Добра хоць, не патрапіў, аб сценку разбілася!

— Віскі! Так, палкоўнік, гэткая нявеста нам падыходзіць! Баявая паплечніца! У-га-га! Сапраўдны цыцкасты сябра!

— Саракаградусныя! Згодны. Гэтыя моцныя! Калі п'еш, могуць і ў нос, і ў рыла. Але больш за адну не рэкамендуецца. Калі дзве запар, то і прыгод знойдзеш на сваю дупу, і пахмелле цяжкое, ды ўвогуле званітаваць можна. Затое якая разнастайнасць! Неверагодная! Ад вяснушкаватых натуральных бландзінак да рудых фарбаваных шатэнак і брунетных бальзамаў кшталту «Егермейстара». Шклатара таксама вельмі разнаітая. Сустракаюцца бязгрудыя з тонкімі дупамі ў высокіх стылёвых бутэльках а-ля «Грапа». Але бывае і баба-пузыр. Могуць быць без смаку, як гарэлка. Але часцяком трапляюцца з афігенным букетам. Секс з гэткімі — сапраўдная асалода для гурмана!

— Джэф, колькі можна пашліць! Хадзем патанчым! — ухапіўшы за руку, Грыша пацягнула мяне да барнай стойкі, адзінага ў «Субмарыне» шырокага месца.

Праціснуўшыся за сцэну, я ў цемры паклаў далоні Грышы на талію, потым апусціў ніжэй. Агарнуўшы мяне мускусам сваёй парфумы, яна прыціснулася шчыльней і на вуха шапнула:

— Ты ўпэўнены, што гэтага хочаш? Калі мы зараз з'едзем, я да Джэфа не вярнуся.

Я прамаўчаў. Вядома, я хацеў яе ў гэты момант, але стрымаўся. Віскі пасля бальзаму — пахмелле было б жахлівым.

А другой ночы «Субмарына» апусцілася на дно ў нейкай закінутай на ўскрайку горада цёмнай прамзоне. Мы выйшлі на п'яны, вільготны і мяккі ад адлігі пясок і пачалі выклікаць таксоўку. Ашклянелы ўшчэнт Шкіпер, абдымаючы за горла чарговага цыцкастага сябра, рваўся назад і патрабаў сабе нанач нявесту. Але два моцныя матросы з аховы падлодкі яго не ўпускалі. Неўзабаве таксоўка павезла нас па начным бязлюдным дне сярод гаражоў і нейкіх тужліва заснежаных прамысловых пабудоваў. А я ўсё не мог прымірыцца з думкаю, што Машы ніколі болей не будзе.

## 76

**Я** Імператар! Я не люблю апельсінаў! У маёй Кароне яны не салодкія, дарагія і заўжды таўстаскурыя. А я не люблю тоўстую скуру. Але ў маім імператарскім горадзе ўсе дамы абцягнутыя апельсінавай скурай. У маім імператарскім горадзе ёю абцягнутыя твары людзей. Па вечарах, сабраўшыся ў кола пад апельсінавым абажурам, яны ядуць апельсінавую картоплю. З апельсінавымі тварамі яны ядуць па вечарах картоплю, па начах бачаць картапляныя сны, а раніцай едуць будаваць з картоплі мой забаронены горад.

У маім забароненым горадзе паўсюль картапляныя твары. А я ненавіджу картоплю. Яна нагадвае жоўтых людзей пад абажурам і жоўтае сонца. А сонца не жоўтае, а аранжавае, як мандарын. Сонца аранжавае, як юная дзявочая скура.

Я Імператар! Я люблю мандарынавую скуру. Я люблю мандарынавых прынцэсаў з аранжавымі валасамі і мандарынавымі вачыма. Але ў маім забароненым горадзе за маім ложкам нязменна стаяць картапляныя старыя. Я ведаю, уначы ля ўзгалоўя яны чакаюць майго абуджэння. Чакаюць майго абуджэння, каб ненадоўга знікнуць. Калі я прачынаюся, сны кульгавымі пацукамі разбягаюцца па падлозе. Сны апельсінамі рассыпаюцца па падлозе і знікаюць на час у мандарынавым сонцы.

## 77

Усю ноч мы танулі. А ў панядзелак на самым дне, у каламутнай ціне я шукаў адзіны ключ ад машыны. Я поўзаў, шнарыў пальцамі па пяску, але чыпа, згубленага дзесьці ў паніцы напярэдадні, не знаходзіў. Вада душыла, звінела ў вушах, ціснула на грудзі. Кожны рух даваўся з нечалавечым намаганнем. Задыхаючыся, я атупела глядзеў на рыб, што праплывалі міма, і стараўся не думаць пра Машу. Але яна па-ранейшаму доўгім пранржавелым цвіком сядзела ў скронях.

У аўторак ключ раптам знайшоўся ў бармена з «Субмарыны». Я зразумеў, што цяжару болей не вынесу, і пачаў памалу ўсплываць. Трохі падняўшыся, я заўважыў у мутнай вадзе штосьці цёмнае і вялікае над галавою. Гэта было дно гіганцкага судна. Я наблізіўся і наткнуўся на прабоіну ў борце. Нырнуўшы ў яе з плынню вады, я выскачыў на паверхню ў велізарным змрочным труме. Убачыўшы ў канцы яго напаўзатопленую лесвіцу, што вяла да металічных

дзвярэй, я падплыў, узабраўся, штурхануў іх і апынуўся ў прапахлым цінаю пустым калідоры.

У сераду я выкінуў у мора ўсе дыскі, якія мы слухалі з Машай. З тугой зірнуўшы на Гарыка Сукачова, адправіў за борт і яго, а потым пачаў прыбірацца ў труме. Увечары, бязмэтна бадзяючыся па палубах, я старанна абмінаў месцы, дзе мы сустракаліся. У чацвер я зноўку ўвесь дзень думаў пра Машу. Джэф, натуральна, меў рацыю. Нельга выпіваць другую, не працверазеўшы ад першай, а тым больш іх змешваць. Да ночы мяне хістала і ванітавала ў мора ад думкі, што я сам ува ўсім вінаваты.

У пятніцу я па-старому, пяром з крыла чайкі і атрамантам з крыві кальмара на адсырэлай паперы, напісаў Машы ліст. Удзень, нырнуўшы на Камароўку, нарваў букет белых лілеяў, потым дастаў з клеткі голуба Колю, прывязаў усё да ягонай нагі і выпусціў у ілюмінатар. Я ўжо ні на што не спадзяваўся, але хацеў, каб яна хаця б даравала. Я пісаў, што спалохаўся яе страціць, а таму ашалеў, але маліў даць зверу хоць маленькі шанец.

Увечары яна нечакана патэлефанавала. Звар'яцеўшы ад неспадзяванага шчасця, я гойсаў па апусцелым труме і слухаў, як бляклым голасам яна казала, што п'е з нядзелі. Я рваўся да яе паехаць, але яна адказвала, што не варта, і дзякавала за лілеі. Я рваўся да яе зноўку, але яна абяцала, што заўтра патэлефануе. Усю ноч я ўсхвалявана снаўдаў па палубах, разумеючы, што яна яшчэ раз скінула нітачку. Калі асцярожна за яе пацягнуць, каб, крый божа, не парвалася, можна было выцягнуць і вяровачку і паспрабаваць падняцца да Машы. З верхняй палубы я пазіраў на вялікае чырвонае воблака над цёмна-бардовым морам. З воблака глядзеў звер і неяк дзіўна мне ўсміхаўся.

У суботу, як сцямнела, яна патэлефанавала. Пагаслым голасам сказала, што выпіла мора, і кінула трубку. Я паг-

лядзеў у вакно. Мора сапраўды знікла, злілося з чарнатою неба. У пустым ілюмінатары я не бачыў нічога апроч свайго адлюстравання — упалыя шчокі на змарнелым твары і цёмныя пад бровамі правалы.

Наступным днём я зноў чакаў званка ад Машы. Нарэшце, не вытрываўшы, набраў яе сам. Ніхто мне не адказаў. Неўзабаве прыйшоў эсэмэс: *«Маша памерла ад запалення мозгу».* Я тэлефанаваў і тэлефанаваў, пакуль яна раптам не ўзяла трубку і не заявіла, што піць болей няма чаго, скончыліся грошы і цыгарэты. Я крыкнуў, што зараз жа прыеду, але яна катэгарычна адказала: «Не!» — і адключылася.

Калі я пад'ехаў да дома на возеры, святло гарэла толькі ў пакоі на другім паверсе. Дзверы ніхто не адчыніў. І на званок не адказаў. Уначы яна ўсё ж трубку зняла — заявіла, што сваёю ўпартасцю я ўсё толькі псую і каб больш ніколі ёй не званіў.

## 78

**А**прытомнеўшы, Ян пачуў лёгкае пабразгванне лыжачкі па краях кубка. Крыху расплюшчыўшы вочы, ён няясна разгледзеў перад сабой знаёмы твар, паспрабаваў прыўзняцца, але тут жа паваліўся на падушку.

— Марыся!

— Ляжыце, ляжыце! Вам яшчэ нельга ўставаць! Кулю дасталі, але рана пакуль не зацягнулася.

— Дзе я?

— Вы ў Скірмонтах. Вас знайшлі непрытомным ля брамы.

— Я ў фальварку сляпога Францішка?

— Пакаштуйце, гэта верне вам сілы, — Марыся паднесла Яну лыжку.

— Як доўга я спаў?

— Амаль двое сутак.

— Марыся! — Ян паслухмяна пачаў есці, раптам схамянуўся, схапіў яе за руку. — Як дзіўна! Мяне быццам нехта вадзіў па лабірынце. Я два разы спрабаваў прыехаць у Скірмонты, а цяпер сам не памятаю, як сюды патрапіў. Быццам нейкія дзверы, якіх я раней не бачыў, расчыніліся. Дзверы! Вядома! Дзверы! — прастагнаў Ян. — Ён жа так і сказаў, ў свой час вам трэба будзе адкрыць усяго адны дзверы. Цяпер разумею! Божа, я ж гэта зрабіў! Марыся, я чалавека забіў! Марыся!

— Яне! Даражэнькі! Вам няможна зараз хвалявацца! Паспіце! Вам трэба набрацца сіл.

— Марыся, мне ехаць трэба! Адзінае выйсце — збегчы ў Еўропу! Паслухайце, можа, гэта прагучыць недарэчна, але... але я хачу ехаць з вамі! Зараз не час, разумею, але іншага выпадку не будзе! Марыся! З таго самага імгнення, як я ўбачыў вас у Камаедах. Вы цяпер мой сэнс і мая надзея. Мы ж можам усё пачаць наноў. Усё ж яшчэ магчыма выправіць! Паедзем у Еўропу! Я папрашу благаславення ў вашага бацькі. Ён дасць згоду! Ён жа зычыць вам шчасця! Марыся, я вас кахаю!

## 79

**М**ясцовасць падавалася знаёмай, ён быццам тут ужо быў, але цяпер яна выглядала нашмат злавесней. Насустрач ішлі голыя людзі і неслі на плячах два велізарныя жоўтыя вухі, працятыя вялікай іголкай. Іншыя страшэнна крычалі і некуды беглі, трымаючы ў акрываўленых руках лязо гіганцкага нажа. На ўскрайку дарогі зграя сабак раздзірала рыцара ў латах. Манах з кнігай у руках скакаў верхам на голым чалавеку. Крыху наводдаль на дрэве вісела распусніца. Да яе па лесвіцы караскаліся людзі з вялікімі заячымі галовамі і казыталі яе агнём паходняў. Жудасны лямант рас-

пусніцы заглушаў працяглы барабанны дробат. З барабана крычалі жоўтыя твары.

Удалечыні палаў велічэзны карабель. За спінай гучаў трубны покліч, набліжалася кавалькада. Пачуўшы над галавою біццё крылаў, Ян узняў вочы і ўбачыў вялікую птушку, падобную на гіганцкага крумкача, якая імкліва яго наганяла. Здавалася, яшчэ колькі ўзмахаў крыламі, і яна будзе ўжо над ім. Ян прышпорыў каня, як заўважыў, што птушка кінулася ўніз. Яшчэ імгненне — і яна яго схопіць. Ян закрычаў і, падскочыўшы ў ложку, убачыў Марысю.

— Цішэй, цішэй, вы ў бяспецы! Гэта проста сон. Кашмарны сон. — яна паклала руку Яну на лоб. Супакойцеся, вы ў Скірмонтах. Кладзіцеся, вам трэба яшчэ паспаць.

— Марыся! Яны скачуць сюды! Мне трэба зараз жа бегчы! Я не хачу падвяргаць вас небяспецы! Гэта не сон! Яны набліжаюцца! Я ўжо чую! Вершнікі! Тупат! Капыты! — ускочыўшы з ложка, Ян пачаў спешна апранацца.

— Але як жа? Вы яшчэ слабы!

— Марыся, любая, я вярнуся за вамі. Абяцайце! Дайце слова, што мы паедзем! Паедзем разам! Я не магу паехаць без вас! Марыся, я прашу вас! Прашу вашай рукі! Прашу быць са мной! Я буду кахаць вас да сканчэння веку! Давайце зараз жа папросім благаславення вашага бацюхны! Марыся, адкажыце мне! Не мучце! Адкажыце!

Марыся пільна ўгледзелася Яну ў вочы:

— Мілы Яне, я згодная!

— Марыся! Любая Марыся! Вы не ўяўляеце, што вы зараз сказалі! Цяпер вы — мой сэнс! Вы вяртаеце мяне да жыцця! Цяпер я дакладна ведаю, што трэба рабіць! Толькі зараз я мушу знікнуць! Я не магу дазволіць, каб яны і вас у гэта ўцягнулі! Але я вярнуся! Вельмі хутка вярнуся, і мы паедзем! Анёл мой, мы паедзем у Еўропу! Хадземце зараз жа! Зараз жа! Да вашага бацюхны!

***

Сляпы Францішак сядзеў ля каміна ў вялікім цёмным пакоі. Ян ніколі раней з ім не сустракаўся, зараз жа, пабачыўшы, злёгку збянтэжыўся. Было ў абліччы сляпога штосьці старазапаветнае: сівая барада, постаць, грыва даўгіх валасоў. Здавалася, ён не сядзеў, а ўзносіўся, нібы быў не сляпым, а месіяй. Але болей за ўсё Яна ўразілі вочы — велізарныя белыя бельмы. Два пустыя вокі Фрацішка ва ўпор глядзелі на Яна так, нібы бачылі наскрозь.

— Ведаю, пра што ты папросіш, — глухім глыбокім голасам вымавіў старац. — Але ці ведаеш ты?

— Так, ведаю! Блаславіце нас, ойча! — Ян прыпаў на калена.

— Каханне асляпляе. Здараецца, прасвятленне прыходзіць, а нічога ўжо не зменіш. Ці не баішся зноў пачаць бачыць? Ці разумееш, чаго просіш?

— Так, ойча!

— Ці гатовы пайсці за ёю і ў рай, і ў пекла?

— Так, ойча! Я кахаю яе! — Ян узняў вочы на пустыя мутныя бельмы Францішка.

— Ты тры разы сказаў «так»! Блаславяю вас!

## 80

Ян здалёк пазнаў яе ў цемры. Яна па-ранейшаму стаяла на развілку дарог у падранай сукенцы і, наўпрост гледзячы яму ў вочы, худымі рукамі працягвала яблык.

— Думаеш, па якой дарозе паехаць? Усё адно. Па якой ні паедзеш, усё роўна трапіш да Адама. На, перадай яму яблык! Ку-ку! Ку-ку! Перадай, перадай яму гэты яблык! На, адвязі яму яблык!

Адмахнуўшыся ад Плачкі, Ян выбіў яблык на зямлю, хвастануў каня і паскакаў. Тая кінулася следам, падхапіла яблык і прыпала вухам да дарогі.

— Чую! Чую! Яны едуць сюды! Скачуць па тваю душу! Ку-ку! Ку-ку! Ку-ку!

Ян ляцеў праз цёмнае поле, а наўздагон яму неслася:

— Ку-ку! Ку-ку! Ку-ку! Адвязі яму яблык! Ку-ку! Ку-ку! Ку-ку!

Неўзабаве ён уехаў у лес. Хутка зноў паказалася поле. Ян яшчэ крыху праскакаў, як раптам далёка наперадзе заўважыў вочы, што свяціліся з цемры. Прытрымаўшы каня, ён прыгледзеўся і зразумеў, што гэта не вочы, а агні паходняў, якія рухаюцца яму насустрач. Ян тут жа завярнуў каня і паляцеў назад да лесу. Зрэдку кідаючы погляд за спіну, ён бачыў, што вершнікі гоняцца следам.

Вярнуўшыся да апусцелага развілку, Ян убачыў яшчэ агні, што насоўваліся цяпер спераду. Не разважаючы ні секунды, ён прышпорыў каня і паляцеў па трэцяй, пакуль свабоднай дарозе. Азірнуўшыся, Ян краем вока прыкмеціў, што агні на скрыжаванні зліліся і панесліся следам.

Хутка Ян разгледзеў у цемры чараду вялікіх чорных крыжоў. Мясцовасць была тут адкрытая. Калі б непадалёк знаходзіўся лес, ён, вядома, схаваўся б у ім. Але зараз выбару не было. Дарога няўмольна вяла яго да Адама. Неўзабаве паказаўся другі ланцуг крыжоў. Ян нёсся да наглуха замкнёнай брамы, а яго ўжо наганяла пагоня. Калі да брамы заставалася зусім нямнога, яна раптам расчынілася, а са сцяны замігацелі агні: з амбразур стралялі ў вершнікаў. У адказ тыя таксама адкрылі агонь. Пад свіст куль Ян уляцеў усярэдзіну. Брама тут жа зачынілася. Два вершнікі перад ёю паваліліся з коней, астатнія развярнуліся і панесліся назад у цемру.

Неўзабаве стрэлы сціхлі. Чулася толькі, як недзе ў начы вые патрывожаная воўчая зграя.

## 81

Я даўно не падымаўся ў такім вузкім ліфце. Здавалася, зайдзі ў яго другі чалавек — і давядзецца стаяць, шчыльна прыціснуўшыся жыватамі адзін да аднога. З усіх аб'яў *«Варажу на картах Таро. На маятніку. На касцях. На іголках»* гэта падалася мне найбольш цікавай. Унізе стаяла маленькая прыпіска: *«Імператарам вялікія зніжкі!»*

«У мяне ёсць яе фатаздымак і калготкі». — «Не трэба, я і так усё ўбачу», — яна дастала калоду карт.

Дзіўна, як сюды паднялі гэты цяжкі разны стол. Відаць, учатырох цягнулі па лесвіцы.

«У ёй нібы два чалавекі. Яна можа быць мяккай і пяшчотнай, хоць да раны прыкладай. Але, калі прачынаецца другая, лепей блізка не падыходзіць, перачакаць гэты час на адлегласці. Ты сам эгаіст, але яе эгаізм у параўнанні з тваім будзе ў квадраце. Яна штосьці зробіць толькі таму, што так захоча, і нават не стане нічога тлумачыць. У яе ёсць ключык да цябе, які адкрывае ў табе найгоршае. Самае патаемнае. Але гэты ключык цябе і трымае».

Я ведаў, што гэта за ключык. Яна падабрала ключык да клеткі, у якой я трымаў звера. Я заўсёды з асалодаю выпіваў чарговую, але не кахаў. П'янеў ненадоўга, а потым хутка цверазеў. Спачатку ж я і яе ўсяго толькі хацеў, але яна падабрала ключык і выпусціла звера на волю. А той за гэта яе пакахаў. Не я, а менавіта ён — звер — кахаў яе. Я ж розумам усведамляў, што нам лепей расстацца. Разам мы здольныя адно падаць. Але звер болей не мог без яе. Знудзіўшыся ад адзіноты ў клетцы, ён з тугою чакаў яе вяртання, скавытаў, месца сабе не знаходзіў.

«Што зараз з ёй адбываецца?» — «Дэпрэсія. Яна адчувае сябе ў тупіку». — «Ці магу я чымсьці ёй дапамагчы?» — «Не. Ты цяпер слабейшы за яе. А слабы слабому не дапаможа. Вывесці яе з тупіка можа толькі моцны».

Вядома, яна мае рацыю. Яе ж дэпрэсія пачалася яшчэ да таго, як мы сустрэліся. Яна казала, што хоча ад усіх закрыцца, што ненавідзіць сацыяльныя сеткі, што любіць начамі піць у самоце ля акна і глядзець на белае возера. Увесь час яна нібыта ў нечым сябе вінаваціла. Але ў чым? І чаму? Можа, якраз наша сустрэча і дала ёй невялічкую надзею. Але ў які момант яна раптам зламалася? Можа, калі зразумела, што яе кахае звер, і спужалася. Альбо адчула, што звер кахае не яе, а звера ў ёй? Таго звера, якога яна сама баіцца і трымае пад замком. Дзіўным чынам разьба супала, і два звяры нечакана сустрэліся.

«Што я мушу цяпер рабіць?» — «Чакаць». — «Але ж чакаць чаго? Хіба яна вернецца?» — «Магчыма. Але пойдзе за табою, толькі калі ты пакажаш ёй шлях». — «Я гатовы яе чакаць, але яшчэ не пачуў галоўнага». — «Пачуццё ёсць, але розумам яна ў яго не верыць. Развеяць ейнае няверʼе табе будзе цяжка».

Дзіўны ліфт водазмяшчэннем на аднаго чалавека. За праезд Імператарам зніжка. Дзве вузкія драўляныя дзверцы адчыняюцца ўнутр. Калі трэба вынесці стол, давядзецца спускаць па сходах. За маленькімі акенцамі праплываюць лесвічныя пралёты, перакрыцці і ў клетачку сетка. На вуліцы нязвыклая пустата, жоўты снег і рэдкія людзі навыцяжку. Сёння дзень інаўгурацыі Імператара.

Чаму ў канцы, калі я ўжо сыходзіў, яна ўсё ж папрасіла паказаць фотаздымак? І чаму, зірнуўшы на яго, нечакана сказала: «Забудзься на яе! Вам лепей расстацца!»

## 82

**Я** — Імператар! Я еду па пустым шэрым горадзе з ускраіны ў цэнтр. Чаму не вераць яны, што я Імператар? Чаму, каб гэта ім даказаць, я мушу штораз ускладаць на сваю

галаву карону? Калі гэта здарылася ўпершыню, яны любілі мяне, а цяпер ненавідзяць. За што яны ненавідзяць? Я ж абяцаў ім хлеба і раз за разам даваў. Я абяцаў ім парадак — і слова трымаў. Гэты шэры пустэльны горад, па якім я еду з ускраіны ў цэнтр, — самы чысты на зямлі горад. Але чаму ж гэты найчысцейшы ў свеце жоўты праспект сёння настолькі бязлюдны? Гэтыя жоўтыя твары ўздзжоўж дарогі — мая ахова. Але чаму я ім не веру? Можа, таму, што іх твары жоўтыя, а я не люблю жоўтага колеру. Я люблю белы. Я люблю белы, а яны вымелі нават снег з вуліц, па якіх я еду. Яны сталі жоўтымі, нібы залітыя сонцам. Але сёння ж няма сонца. Сёння сонца няма, неба шэрае і пустое, як гэты горад.

Яны пасыпалі перада мною жоўтым пяском дарогу. Пасыпалі жоўтую дарогу пяском і пафарбавалі дамы ў жоўты. Сваімі жоўтымі позіркамі яны афарбавалі ў жоўты колер неба. Нават неба яны афарбавалі ў жоўты. Яны пабудавалі жоўтыя лесвіцы. Прыставілі да дамоў жоўтыя дзверы, жоўтыя вокны, коміны, вітрыны. Усе распусніцы гэтага горада маюць жоўтыя грывы. Нават распуста ў гэтым горадзе з жоўтаю грывай. І дрэва, што расце ў мяне пад акном, лісток за лістком афарбавалася ў жоўты. Кожнай зімою яно глядзіць на мяне жоўтымі вачыма. Яны лічаць, што Імператарскі горад мусіць быць жоўтым. І нават мора, у якім мы тонем. Я ведаю, потайкам ад усіх яны фарбуюць яго ў жоўты колер. Я бачу, як уначы, калі горад спіць, з вялікіх пажаўцелых ад іржы труб у мора выліваецца жоўтая фарба.

Я Імператар, але люблю зялёны і белы. Зялёны і белы. Зялёны заўсёды пахне дзяцінствам, хваёвымі лапкамі, дажджом і летам. А белы — першым лістападаўскім снегам, Новым годам, хлебам і цёплаю печчу. Жоўты колер пахне трывогай. Ён пахне трывогай і нібы папярэджвае, што зялёны хутка зменіцца белым, а белы — чырвоным. Чаму яны фарбуюць мой горад у пах небяспекі? Небяспекай фар-

буюць мой горад і будуюць залатую клетку. Будуюць залатую клетку і спрабуюць афарбаваць у жоўты нават маю душу. Але яна ж не жоўтая, а бурая, бы шэрсць мядзведзя. Чаму яны ўсе баяцца і глядзяць на мяне трывожным жоўтымі вачыма?

Бо я — Імператар! Бо ў гэтым самым жоўтым горадзе свету не бывае сонца. Бо ў чорных вершнікаў перад маім картэжам пад тварамі залатыя маскі. Бо ў імператарскім палацы ў вялікай залатой зале мяне чакаюць залатыя людзі, залатая карона і трон пад залатым цярновым вянком. Пад залатым цярновым вянком Імператарская карона.

Часам здаецца, што ўсё гэта мне толькі сніцца. Гэта ўсё жоўты сон, а я баюся прачнуцца. Прачнуцца а шостай раніцы з першымі гукамі гімна з радыёкропкі і адчуць за цёмным акном пах белага снегу і хваёвых лапак. Прачнуцца і ўбачыць у куце астылую печ, пустую пліту і адданыя вочы сабакі. Баюся прачнуцца, бо, пакуль я сплю, я —Імператар!

## 83

Падводную лодку ўсё ж знайшлі. Спачатку пра яе напісаў «Наш Тытанік», потым з'явіліся артыкулы ў «Тытанік тудэй», «Тытанік гуд морнінг», і ўсе адразу загаманілі. Штовечар па каналах карабельнага тэлебачання паказвалі сведчанні людзей, якія бачылі ў тую ноч субмарыну за бортам. Адны сцвярджалі, што ішла яна пад імперскім арлом Рэчы Паспалітай. Другія — што арол на штандары быў, але прускі, маўляў, гэта немцы выпусцілі ў нас тарпеду. Тым, хто лічыў, што арол быў расейскі, двухгаловы, слова не давалі. Тым болей што неўзабаве апаненты знайшлі кансенсус: арол сапраўды быў двухгаловы, але польска-нямецкі.

Еўропа пакрыўдзілася, бо менавіта яна спрабавала выратаваць Тытанік, адвесці яго ад небяспечных крамлёўскіх

рыфаў. Больш за тое, балістычная экспертыза паказала, што стралялі з усходу. У выніку Еўропа склала спіс асоб з Канцылярыі, якім будзе адмоўлена ў швартоўцы. Маўляў, калі тыя надумаюць з карабля збегчы, еўрапейскія парты іх шлюпкі не прымуць.

У адказ, быццам у насмешку, газета «Тытанік тудэй» заявіла, што сувязь з польска-нямецкай падлодкай ажыццяўляў Макарэвіч. Менавіта ён наводзіў тарпеды на цэль, а да таго рэгулярна выбіраўся на субмарыну за кантрабанднымі скрынкамі грошай для падполля. Што нават ягоныя скандальныя заклікі забараніць піць бырла і круціць у таксоўках блатны шансон звязаныя з нелегальнымі вылазкамі на падлодку. Маўляў, кожную ноч перад адпраўкаю гандальеры-таксісты дзеля смеласці перакульвалі шклянку, а як везлі задаволенага Макарэвіча са скрынкай грошай назад, ладна псавалі яму настрой «Владимирским централом».

Пакрыўдзіўшыся канчаткова, Еўропа заклікала неадкладна адпусціць Макарэвіча і ўсіх іншых вязняў ніжніх трумаў ды заявіла, што і надалей будзе дапамагаць падполлю. Не толькі скрынкамі грошай, але нават гатовая знізіць для яго кошт уязных візаў. На што Канцылярыя правяла некалькі паказальных ператрусаў у пошуку ўжо дастаўленых скрынак і папярэдзіла, што будзе тапіць усе незарэгістраваныя шлюпкі ў сваіх водах, хоць бы нават везлі яны памперсы, а на санкцыі адкажа *жэстачайшэ*. Сёйтой нават прапанаваў на злосць Еўропе перайменаваць Тытанік у што-небудзь больш патрыятычнае, напрыклад, у «Дынама» альбо «Тарпеда». І, адпаведна, тры галоўныя газеты перайначыць у «Наша Дынама», «Дынама тудэй» ды «Тарпеда гуд морнінг».

Тутэйшыя пасажыры, разумеючы, што хутка давядзецца з карабля бегчы, масава скупалі валюту, якая, у адрозненне ад судна, пачала рэзка падымацца. За адзін даляр

давалі ўсё болей і болей папяровых тытанікаў. Праўда, варыянтаў збегчы з карабля было нямнога. Каб даплыць да еўрапейскіх партаў, патрабаваліся грошы і добры катар. А большасць тутэйшых на сваіх лядачых чаўнах магла толькі вярнуцца назад да таго берага, ад якога Тытанік адчаліў і не паспеў яшчэ далёка адплысці. Тыя ж, хто ў карабель страляў, разлічвалі менавіта на гэта.

Навошта братве з усходу спатрэбілася гэтая велізарная, але састарэлая пасудзіна, тлумачылі па-рознаму. Хтосьці казаў, што справа ў вялікай дзермацінавай трубе на Тытаніку, якая ім неабходна, каб пампаваць дзермацін у Еўропу. А яны з гэтага жылі, бо нічога іншага, акрамя як пампаваць дзермацін, не ўмелі. Другія сцвярджалі, што братве патрэбныя слясарныя, кавальскія і сталярные варштаты на судне, якія калісьці славіліся сваімі ўмельцамі. Трактар маглі змайстраваць не горай за амерыканскі Катэрпілер. Нехта небеспадстаўна заяўляў, што справа ў вялікай кучы ўгнаенняў, зваленай некім вельмі даўно ў складскія трумы. Маўляў, калі гэту кучу лайна прадаць, адправіць усё па той жа дзермацінавай трубе кітайцам, можна выручыць немалыя грошы.

Іншыя запэўнівалі, што справа нават не ва ўнікальным батанічным садзе, што раскінуўся на аранжарэях, куды, аплаціўшы папярэдне за расхуячанае шкло, можна прыехаць папаляваць на зуброў. Але сапраўдная мэта — вярнуць тутэйшых пасажыраў. Наўрад ці братву цікавілі іх сціплыя пажыткі. Проста яна не хацела адпускаць нікога, таму тапіла ўсе караблі, што адчалілі ад яе берага. Калісьці некалькім суднам, меншым ды троху спрытнейшым, усё ж удалося вышмыгнуць у Балтыйскае мора. Але потым братва схамянулася. Драбы ўжо падстрэленых караблёў тырчалі верхнімі палубамі з вады, сеўшы чэравам на мелкаводдзі каля берага. Альбо яны яшчэ дымілі ржавымі тру-

бамі, але ледзь рухаліся, быццам нехта знарок перабіў ім вінты.

## 84

Напрыканцы зімы зняволеных пачалі пакрысе выпускаць. Пад хатні арышт вызвалілі Валошына, рэдактарку «Поклічу» Таню Фядорчанку, жонку Лапаціна Ірыну Бязрукаву. Выпусцілі таксама і Макарэвіча. Відаць, зразумелі, што без дапамогі Тытанік доўга на плаву не пратрымаецца, таму трэба зноўку аднаўляць стасункі з Еўропай. Праўда, за кратамі яшчэ заставаліся тыя, хто біў шкло ў Доме ўрада, а таксама Лапацін і Хоміч. Канцылярыя пакрыўдзілася на іх *жэстачайшэ.* У павучаннеператасоўвала іх у ніжніх трумах з адной блатной камеры ў другую.

З Макарэвічам, аднак, выйшла прамашка. Перад вызваленнем яго прымусілі падпісаць прашэнне на імя Імператара, а таксама нейкія, з кампраматам на яго, паперкі. Але, апынуўшыся на волі, той нечакана абходнымі шляхамі збег на нейкім неапазнаным катары. Даплыўшы да Еўропы, Макарэвіч заявіў, што падмахнуў усё пад катаваннем. На што Канцылярыя моцна раззлавалася, зноў пачала спяваць яму пра *Владимирский централ* і праз Інтэрпол патрабаваць выдачы. Але, дазнаўшыся пра катаванні, Еўропа пакрыўдзілася яшчэ болей і заявіла, што ніякай дапамогі Тытанік не атрымае.

Затое з братэрскай дапамогай пацягнулася братва з усходу. Тыя, хто пааўтарытэтней, швартавалі свае трохпавярховыя яхты проста да борта ды, растапырыўшы пальцы, з гаспадарскім выглядам расхаджвалі па палубах і прыкідвалі, што б такога за бясцэнак забраць. Намякалі, што, калі карабель тоне, належыць яго аблегчыць. Казалі, што трэба як мага хутчэй пазбыцца баласту, выкінуць за борт усе цяж-

кія прадметы, маўляў, тады на плаву даўжэй пратрымаецца. У першую чаргу, сцвярджалі, трэба выкінуць слясарныя, трактарныя, аўтарамонтныя майстэрні, а таксама хімічную вытворчасць: маўляў, патонуць — экалогіі шкода будзе. Прапаноўвалі за невялікія грошы арганізаваць самавываз.

Але, колькі яны па фені ні боталі, колькі з канцылярскімі на брудэршафт ні пілі, Імператар заявіў, што задарма нічога не аддасць. І выставіў такі кошт, што браткі пакрыўджана сказалі: «За гэткія грошы можна купіць ажно дзве пасудзіны панавей і куды быстраходнейшыя». Таму, папаляваўшы ў аранжарэі на зуброў, пагуляўшы ў казіно на верхняй палубе, палузаўшы дзевак у «Дашкін-клубе», прыхапіўшы нейкую драбязу накшталт срэбранага падсвечніка ці разнога сталовага гарнітура, яны адчальвалі назад. Казалі, што вернуцца, калі вада падымецца вышэй. Тады і каманда на караблі зробіцца болей згаворлівай.

Праўда, вялікую дзермацінавую трубу давялося ўсё ж аддаць. Падагналі з Масквы гіганцкі сухагруз, закінулі ў яго трубу ды адчалілі. Напаследак сказалі: «Нам патрэбней, а вы пакуль устаўце шкло ў аранжарэі, каб зубры не памерзлі. Пазней і яе забярэм, надта ўжо нам вашае паляванне даспадобы».

Разумеючы, што Тытанік трэба ўсё ж ратаваць, Канцылярыя стала шукаць дапамогі ў арабаў з кітайцамі. Уважліва агледзеўшы карабель, арабы заявілі, што дзір латаць не будуць. Маўляў, няма ў іх гэткіх тэхналогій і матэрыялаў. Затое запрапанавалі пабудаваць на верхніх палубах дарагія гатэлі. Сказалі, як сядзе Тытанік канчаткова пузам на водмель, вада падымецца акурат да гэтых гатэляў, і можна будзе зладзіць шыкоўны курорт з добрымі пляжамі і экзатычным дайвінгам у затопленых трумах.

Кітайцы ж прапанавалі трымаць карабель на плаву з дапамогай мноства танных надзіманых матрацаў. Праў-

да, заявілі, што надзімаць іх могуць толькі самі кітайцы, пад якіх на карме давядзецца ўзвесці двухмільённы Кітай-горад. Карабель гэта, вядома, абцяжарыць, але яны падгоняць яшчэ болей матрацаў і яшчэ болей кітайцаў, для якіх пабудуюць Кітай-гарады на носе, на фальшборце, штырборце, бакборце і ў машынным аддзяленні.

Бліжэй да вясны пачаліся сур'ёзныя перабоі з валютай. У абменнікі выстройваліся даўжэзныя чэргі, але купіць даляры-марачкі было амаль немагчыма. На чорным рынку даляр каштаваў ужо ў два разы даражэй, але Тытанбанк упарта трымаў курс ранейшым. Ідыётаў прадаць валюту па такім курсе знаходзілася нямнога. Здавала пераважна заезджая братва, якой усё было похуй, арабы з гатэльнага бізнесу ды камандзіраваныя *батанікі* з Еўропы. Каб дачакацца чаргі на пакупку, тутэйшыя людзі вялі спісы, ля абменнікаў начавалі і штовечар прыходзілі на пераклічку.

Праўда, кіраўнік Тытанбанка Кандрат Кандратавіч Кандратовіч перыядычна з вялікага плазменнага экрана на цэнтральнай палубе супакойваў пасажыраў. Казаў, што праблемы з валютай няма. Тытанік і яго Тытанбанк у цудоўнай форме, а паніка выкліканая штучна.

Яму падтаквалі газеты «Наш Тытанік», «Тытанік тудэй» і «Тытанік гуд морнінг». Пісалі, што ажыятаж зладзілі самі пасажыры, калі пачалі масава скупаць за валюту імпартныя катары і ратавальныя шлюпкі, пасля таго як даведаліся, што ўлетку на іх узнімуць мытныя пошліны ажно на 2000 адсоткаў. Узлёт тарыфаў на парадак з гакам пралабіявала за брудэршафтамі братва. Каб пасажыры Тытаніка ратаваліся не на дыхтоўных заходніх катарах, на якіх маглі даплыць да Еўропы, а на іх надзіманых гумовых лодках, якія каштавалі даражэй, а па якасці былі горш за кітайскія матрацы. Дабрацца на гэткай лодцы да Еўропы было нерэальна. А магчыма, дый то прыхапіўшы на ўсялякі вы-

падак кітайскі матрац, даплыць толькі да найбліжэйшага берага на ўсходзе.

Таму, пакуль яшчэ не позна, тутэйшыя скупалі еўрапейскія катары і валюту на чорным рынку. На Тытаніку нават з'явілася сваё ноу-хау — першая ў свеце падпольная электронная біржа з мільённымі абаротамі штодня. Пакупнік выходзіў на сайт www.kondratovi.ch, дзе яго сустракаў банер з парадным партрэтам кіраўніка Тытанбанка Кандрата Кандратавіча Кандратовіча, і бачыў мноства прапаноў па рэальным курсе. Потым стэлефаноўваўся з прадаўцом, прызначаў сустрэчу, праводзіў гешэфт праз легальны пункт Тытанбанка, а розніцу даплочваў за рогам.

Праз нейкі час услед за валютай з крамаў пачалі знікаць тавары. Пагаворвалі нават, што, калі ўсё знікне канчаткова, набыць іх можна будзе толькі праз электронную падпольную біржу. Што на кожны тавар з'явіцца свой сайт, дзеля канспірацыі зарэгістраваны на швейцарскім дамене. На кілбасу — www.kilbasevi.ch, на крупы — www.makarevi.ch, на бульбу — www.bulbashevi.ch, на рыбу — www.skumbryevi.ch і далей па спісе: www.kefirovi.ch, www.salevi.ch, www.maslovi.ch, www.smetanovi.ch, www.malakevi.ch, www.miasnikovi.ch, www.karpovi.ch, www.voblavi.ch, www.cukerevi.ch, www.harbatovi.ch, www.vaflevi.ch, www.kavovi.ch, www.perlovi.ch, www.sukharevi.ch, www.kazlovi.ch, www.baranovi.ch, www.kapytovi.ch, www.vusovi.ch, www.shkurevi.ch, www.khvastovi.ch, www.rylovi.ch, www.jajkovi.ch, www.khlebovi.ch, www.batonavi.ch, www.sushkevi.ch, www.ahurkovi.ch, www.chasnykevi.ch, www.kapuscevi.ch, www.percovi.ch, www.petrushevi.ch, www.cybulevi.ch, www.harelkevi.ch, www.pivovi.ch, www.kanjakevi.ch, www.byrlovi.ch, www.ebanevi.ch, www.akhuevi.ch, www.opizdenevi.ch.

## 85

Я сустрэў Мінатаўра ў лабірынтах гаражоў за старым тралейбусным дэпо. Ён роў, пагражаў, трос галавою ў цемры, кляўся Зеўсам і ўсімі багамі, што будзе судзіцца. Крычаў, што пра маю ганьбу даведаюцца Афіны. Размахваючы рукамі і даўгавымі распіскамі, патрабаваў ключы ад машыны і грошы на пашырэнне лабірынта. А я раптам адчуў, што магу ўлажыць яго адным ударам. Я ўжо не быў тым кволым Тэсеем. Злосць дадавала мне сілы. Я мог выдраць яму жмут валасоў. Схапіўшы за рог, паваліць на зямлю, сунуць колца ў ноздры і прывязаць да сцяны лабірынта.

Аднак я зрабіў іначай. Падышоў, паглядзеў Мінатаўру ў вочы і спакойна сказаў: «А ці не пайшоў бы ты на хуй!» Хацеў быў даць наўздагон штурхяля, але, пабачыўшы яго разгублены позірк, перадумаў. Потым развярнуўся і нечакана заўважыў у адным з гаражоў прыадчыненыя дзверы, да якіх не вяла сцяжынка. Каля ўсіх астатніх снег быў пантаптаны. Сляды маіх ног віліся ўсюды. Сцежкі падыходзілі да дзвярэй, агіналі будынкі, упіраліся ў глухія сцены. Тут жа снег быў чысты і некрануты. Патанаючы ў ім па калена, я наблізіўся да дзвярэй, адчыніў, крочыў унутр і знянацку апынуўся на вуліцы.

З цёмнага вохрыстага неба на горад спадалі ледзь заўважныя белыя ніці. Адышоўшы ад лабірынта на некалькі кварталаў, я завітаў у кавярню, замовіў кубачак кавы, дастаў з кішэні тэлефон і назаўжды выдаліў з памяці нумар Мінатаўра.

## 86

— Віншую! Вам казачна пашанцавала! Вы — першы пакупнік рамана «Шклатара»! Уручаю экзэмпляр нумар

адзін, пляшку каньяку «Версаль» з аўтографам аўтара на этыкетцы, а таксама ўнікальны ілюстраваны дапаможнік па грамадзянскай абароне! Спадары і спадарыні! Мадам і месье! Шаноўне паньства! Нагадваю, найвялікшую колькасць прызоў атрымаюць пакупнікі першых ста нумарных экзэмпляраў! Не саромеемся, не тармозім, налятаем ды набываем!

Прэс-канферэнцыя з нагоды выхаду «Шклатары» пятнаццаць хвілін як скончылася. Пачыналася прэзентацыя з брудэршафт-марафонам. Асцерагаючыся раней часу сысці з дыстанцыі, я зазірнуў у кабінет Сцёпы, з'еў два слоікі смятаны, каб не бегчы на галодны страўнік, і выйшаў да народу, што ўсё прыбываў у «Шклатару». Ля вялікага стала з пачастункамі і прызамі, я пляскаў у кнігу пячатку, нумараваў, ставіў аўтограф, віншаваў пакупніка з падарункам і чакаў з'яўлення Машы.

— Нумар дзесяць! Непазбежная класіка! Пляшка гарэлкі і плаўлены сырок «Дружба» дастаюцца тытану, флагману нашага флоту, найбуйнейшаму выдаўцу літаратуры для Гета! Рады! Вельмі рады! Чытай, Сцёпа, пра цябе там таксама напісана! Пачакай, ты куды? А брудэршафт? Добра, без сліняў! Проста, па-братэрску!

Яна нечакана патэлефанавала праз тыдзень. Сказала, што болей не п'е, але настрою няма, сядзіць за горадам, на працу не ходзіць. Голас Машын быў бякла-жоўтым. Я ведаў, што ў яе дэпрэсія, адчуваў сваю віну, страшэнна хацеў ёй дапамагчы, але пакуль не ўяўляў як.

— Нумар дваццаць адзін! Мельхіёравы падшклянак з відам на Чырвоную плошчу!

— Дваццаць два! Сталовы сервіз на тры персоны з калекцыі выдаўца Сцёпіна! Цудоўны падарунак! Музейны рарытэт! Рэч, вартая Пергамона! Менавіта з гэтых гранёных шклянак тытаны, аўтарытэты з законе — Сцёпін, філёза-

фы Баброў і Адамовіч — звычайна пілі ва «Угарні» каньяк.

Мы сазвоньваліся два разы на тыдзень. Баючыся яе зноўку спудзіць, я глядзеў на жоўтае воблака за акном і чакаў, пакуль Маша сама патэлефануе. Яе бляклы голас мучыў мяне. У адказ я штосьці жвава распавядаў, імкнучыся выглядаць аптымістам, і, здаецца, ужо ведаў, як вярнуць яе да жыцця. У галаве выспяваў план уцёкаў. Я павінен быў вывезці яе з горада жоўтага лютаўскага снегу з намаляваным поглядамі сонцам туды, дзе сонца жывое.

— Нумар 42! Афігенны пластыкавы кантэйнер на трыццаць яек! Колер — бардо! Гэтае неперасягнутае бардо беларускага хімпрама дастаецца загадчыцы «Шклатары» Любе Валяевай! Віншую, Люба! Даруй, што ў рамане твой вобраз слаба прапісаны! Ну, зразумей, раман жа — гэта жанчына, якая мусіць быць вытанчанай і зграбнай. Калі яго раздуць, цела стане друзлым і непрыгожым. Дый выдаўцы незадаволены. Кажуць, друкаваць дорага. Не крыўдуй, давай вып'ем! І наступным разам, калі ўбачыш іншапланецян, калі ласка, не пасылай іх на хуй!

— Ну! Нарэшце! Спадары з «Партызанфільма»! Выдатныя нумары! Аднак жа, 45! Коля, служба дастаўкі кветак! Табе — калода эратычных карт! 46! Гэта вам, Наста, вяхотка белая кучаравая, у выглядзе сабачкі! Вытанчаная штучка! Шкада, што Канаваленка з'ехаў у Маскву! Ён жа ў «Шклатары» — ледзьве не галоўны герой! Аднак адмыслова для нашага Сяргей Сяргеіча Паратава ў белым паліто і капелюшы кніга пад нумарам пяцьдзясят і ўнікальны рэцэпт рыбнага супу! Вяртайцеся! Чакаем на прывозе! З мяне тры брудэршафты і ў прыдачу цыганы!

Мне вельмі хацелася яе ўбачыць. Я прапаноўваў сустрэцца, але Маша ўсё не рашалася. Нарэшце мы прызначылі дзень, але напярэдадні яна патэлефанавала і са слязьмі прагаварыла, што яе сябра, які разбіўся, памёр. Яна знікла

на некалькі дзён, а я з’ехаў у Берлін. І ўсё ж гэта нарэшце здарылася. Я забраў Машу ля пад’езда на Маркса, і мы паехалі ў «Віцязь», тую самую рэстарацыю, за той самы столік, дзе сядзелі, калі толькі яшчэ пазнаёміліся. Я прывёз ёй з Берліна кучу падарункаў. Мы пілі на тэрасе каньяк. Я нешта ўсхвалявана расказваў. А яна расквітнела, па-дзіцячы цешылася з падарункаў і, здавалася, зноў зрабілася ранейшай Машай. Потым я прапанаваў працягнуць у кватэры, якую папярэдне зняў у суседнім доме. Спачатку яна адмовілася, але я настаяў. Сказаў, што нічога не будзе, проста пасядзім, каб ніхто не замінаў. Вядома, я схітраваў. Насамрэч я спадзяваўся, што ноч пагодзіць нас канчаткова.

Дапазна мы сядзелі на кухні. Маша з адчужанай ўсмешкай слухала мае расповеды пра планы ўцёкаў, потым гаравала па памерлым сябры. Я адчуваў, што за ейным смуткам стаіць нешта яшчэ. Яна нібы ў нечым сябе вінавацiла. Я тужыў разам з ёй, спрабаваў, як мог, суцешыць. Потым мы ў абдымку заснулі. Ясна, мне хацелася большага, але настойваць я не стаў. У гэтую ноч мне хапіла таго, што яна проста вярнулася. Калі раніцай я адвёз Машу дахаты, яна на развітанне сказала, што вельмі рада сустрэчы, што неўзабаве мы абавязкова ўбачымся зноў.

— Так, бля! Проста апіздзеневіч! Такога мы яшчэ не бачылі! Выхад ніводнага сусветнага бестс… пардон, ..селера не суправаджаўся гэткаю колькасцю прызоў і падарункаў! Амаль да кожнага трэцяга асобніка набытай «Шклатары» вам прапануюць якую-небудзь сымпатычную, а галоўнае, карысную хуёвінку! Аднак на брудэршафт, панове, і вернемся да спіса!

— Нумар 61! Накладны шыньён. Колер валасоў — карычневы, кучаравы! Класная хрэнь!

— Нумар 63! Партманет дамскі, інкруставаны саломкай!

— Нумар 65! Вау! Мазгі пластмасавыя, навучальныя! Правае паўшар'е! Хрэн яго ведае, чаму толькі правае. Левае, пэўна, хтосьці спіздзіў. А! Забыўся. Яшчэ брудэршафт.

— Нумар 66! Свінка, якая грае на скрыпцы. Вось гэта рэч! Цацка дзіцячая, гумовая! Абрагатацца можна!

— Нумар 69! Кілішак каньяку «Версаль»! Гэй, Сцёпа, ты куды? Толькі змесціва! Кілішак вярні! Вунь колькі яшчэ народу хоча з класікам выпіць!

— Нумар 70! О! Ну нарэшце! Прыз для мяне! Панове, увага! Брудэршафт і доўгі пра… пранікнёны пацалунак ад аўтара рамана! Для незамужніх дам, дарэчы, класік пакуль таксама не жанаты, зніжка, афігець, ажно 40 адсоткаў!!! Пры сабе мець пашпарт. А! Грыша! Эх, Грыша, Грышанька, ды не патрэбны мне твой пашпарт! Кніжку я табе і так падару! Шкада, што мы раней не сустрэліся! А цяпер такая вось, сама ведаеш, хрэнь атрымалася! Каханнем завецца! А мы ж маглі б стварыць ідэальную сям'ю. Лепей нават, чым з Зязюлей! Уяўляеш, Грыша і Міша! Ну добра! Выпілі, давай цалавацца.

На наступны дзень яна патэлефанавала і бясколерным голасам паведаміла, што я, напэўна, яе не так зразумеў. Што мы можам застацца толькі сябрамі. Што нікуды са мною не паедзе, што шчыра жадае мне шчасця і сапраўднага кахання.

— Нумар 72! Лічыльнікі драўляныя, касцяныя!

— Нумар 73! Манумент «Никто не забыт, ничто не забыто!». Паменшаная копія, матэрыял — пластмаса з алюмініевымі ўстаўкамі! І, натуральна, будэр… цьфу ты, брудэршафт!

Потым яна захварэла. Я слаў ёй кветкі, слоічкі з малінавым варэннем — мёд чамусьці яна не любіла — і кніжкі. Яна казала, што адчувае вакол пустэчу. А я хацеў хоць нечым яе запоўніць.

— Ну гэта ваашчэ ахуевіч! Зірніце, якія прызы! Джэф, троху меньш, палову чаркі, не дацягнем да фінішу! Так, мюсье і мадмуазелі! Эх, гуляй, «Шклатара»! Ну, каб да кожнай кніжыцы ды столькі файных піздзюлек! Дзяўчына, а як вас завуць? Лена? А хочаце, я вам падару бру… нeяк я ўжо набухаўся, будэршафт і вось гэты рулон італьянскай цыраты! Класная! Зірніце, якія папугайчыкі! У райскім садзе! Блін, гэта ж сапраўдны вырай! Не якая-небудзь пад’ёбка! Згодныя? Супэр! Давай, Джэф, налівай!

— Ну-умар 76! Грэлка гумовая са шлангам! Колер — кобальт сіне-зялёны. Чуеце, як гучыць? Ко-о-о-обальт! Амаль як філо-о-о-осаф! Каа-аа-ааньяк! Кіркегаа-аа-аард!

— Нумар 76! Бляць, ізноў 76! Мухабойка пластмасавая ў выглядзе чалавечай пяцярні! Ха-ха! Каапeратыўшчыкі некалі неслаба вычвараліся!

— Нумар 79! Набор галосных літар раскладны! Гало-о-о-осных! Ну, Сцёпа, бум? Дайце чаго зажэрці!

Потым яна зноў доўга не рашалася на сустрэчу. Мы прызначылі дзень, але яна напярэдадні тэлефанавала і кобальтавым голасам казала, што выглядае кепска, што нікога не хоча бачыць.

— Вау! Ну нарэшце, Барбара Радзівілаўна! Рэдактар нашага ўлюбёнага «Артабрэза»! Што ж гэтак позна? Вось ваш экзэм… слова ідыёцкае якое, проста экзэма нейкая, ваш экз-эм-пляр! Шкада, што роля ў вас эпі… бляць, ізноў крэцінскае слова! Не вымавіць! Эпі-задычная! Усяго пару рэплік. Затое які падарунак! Адмыслова для вас! Нумар 81! Дыванок насценны! Сюжэт: заяц грае на барабане, мішка выціраецца ручніком! Ачмурэнны дыванок! Глядзіце, і праўда! Мішка выціраецца ручніком! Добры мішка! Мішка-чысцёха!

— А гэта проста ебаневіч! Ну, гамон неверагодны! Вось што трэба выпускаць белпраму! Гэткіх бы рэчаў ды пабо-

лей! Нумар 82! Настольны будзільнік з нагамі! У натуры, з нагамі! Пачынае хадзіць, як зазвоніць! Уявіце, раве і бегае па тумбачцы! А потым — піздрык на падлогу! Каб не ўпаў, трэба прывязваць яго да батарэі! Ну, Сцёпа, давай і мы піздрыкнем!

— Нумар 85! А ё-маё! Спадар Габрыловіч, гэта ж для вас! Бюст Уладзіміра Ільіча — скарбонка! А ё-маё! Матэрыял — гіпс! Аўтар, праўда, невядомы! Хаця па сакрэце скажу! Гэткія лепіць Зязюля! Кажуць, вы тады на Плошчы з помніка Леніну файна спелі! Шкада, не чуў! Але ж не пайшоў прынцыпова! Чаму? Ай, доўга распавядаць! Пачытайце лепей «Шклатару», там усё напісана! Давайце за рэвалюцыю на брундзершаўт! Цяпер паспрабуйце не даць Гедройца!

Яна патэлефанавала пасля набору пластмасавых вантузаў, перад рыжскімі шпротамі ў алеі і паведаміла, што не прыйдзе. Сказала, што па-ранейшаму не хоча нікога бачыць.

— Гэй, шаноўная публіка! Пастойце, куды ж вы? Разумею, стаміліся! Ведаю, што позна! Ды ведаю, што заябаў! Я і сам заябаўся! Блін, таўшчэзны выйшаў раман! Ды хрэн з ім, з метро! Хай зачыняюць! Усіх развязу! «Шклатара» гуляе! Наперадзе яшчэ ж галоўны прыз! Экзэмпляр нумар сто! Фінал! Інтрыга ўсяго! Каму дастанецца казліная галава? Ха-ха! Жартую! Вядома, галава свіная! Прыкіньце! Неўябеннае свіное рыла проста з Камароўкі!

## 87

Ваўкі вылі ўжо другую ноч запар. Здавалася, гэта не зграя, а цэлае полчышча ваўкоў, што пасыходзіліся з усіх навакольных лясоў. За крыжы яны не заходзілі, стаялі па перыметры далейшага кола.

— Затаіліся, — Адам адхінуўся ад амбразуры. — Ахрэм, пакінь двух чалавек, астатнім дай троху паспаць. Я таксама пабуду.

— Паспалі б і вы, вашамосць. Можа, сёння і не палезуць.

— Не спіцца мне. А палезуць напэўна. Чуеш, як ваўкі завываюць? Гэтыя іх чуюць.

Адам павярнуўся і накіраваўся да дома. Ён заспеў Яна ў вялікім пакоі. Той драмаў ля каміна. Асцярожна, каб не разбудзіць, Адам прысеў на крэсла побач, як нечакана Ян расплюшчыў вочы.

— Даруй мне, дзядзьку! Гэта я іх прывёў!

— Не вінаваць сябе, Янку. Іх нячыстая сюды прывяла, калі ты яшчэ і не нарадзіўся! Усіх маіх блізкіх яна пазабірала! Не хачу я табе гэткай долі. Сыходзіць табе трэба, Янку! Чую, гэтая ноч будзе апошняй! Не стрымаем мы іх. Мала нас.

— Адаме, усім сыходзіць трэба!

— Я застануся. Жыццё сваё я ўжо пражыў, чарцям не кланяўся і зараз кланяцца не хачу! Відаць, час мне ўжо перад Богам паўстаць.

— Адаме! Але як жа…

— Не пярэч! Я ведаю, што кажу! Са сваёй зямлі не сыду! Не хачу ваўком па лясах бадзяцца! Чуеш, як выюць? Гэта яны з тугі. На гэтай зямлі я нарадзіўся, тут і памру! Вунь і бялізну чыстую ўжо падрыхтаваў.

Ян паглядзеў на бялізну, што ляжала побач на крэсле, і зноўку ўзняў вочы на Адама.

— Хачу запытаць цябе, дзядзьку. Вось ты да Бога ў белай бялізне сабраўся адправіцца… А ты ж забіваў?

— Эх, Янку, не простае пытанне, — узняўшыся, Адам прайшоўся па пакоі. — Народы толькі спрабуюць жыць паводле законаў Хрыстовых. Але насамрэч жывуць яны паводле законаў сваіх багоў. Хрыстос таму і прыйшоў, каб аб'яднаць, даць народам адзін закон на ўсіх. Яны ж і хо-

чуць яго прыняць, толькі старыя багі таксама не адпускаюць. Таму і не атрымліваецца ў іх. Але я не забіваў! Я жыццё сваё бараніў. А гэта іншае. Даруй, Пане, мой грэх, я стараўся, як мог стараўся! — Адам тройчы перажагнаўся. — Як увяжамся ў бой, будзеце прарывацца. Ахрэм вас павядзе. Я ўжо ўсё падрыхтаваў. Зараз паспі трохі. А я пайду. Пераапрануцца мне трэба.

***

Ян прачнуўся і зірнуў на гадзіннік. Стрэлка набліжалася да трох гадзін ночы. Спаласнуўшы твар вадой, ён прыхапіў стрэльбу, што стаяла ля сцяны, і выйшаў у двор. Некалькі чалавек ажыўлена размаўлялі пры вогнішчы.

— Апранаю кажух і хаджу па гародзе. Вусні думаюць, што зіма надышла, і ад холаду дохнуць! Ха-ха-ха!

— Паніч прачнуўся! Не жадаеце крупніку сагрэцца перад боем, ваша міласць?

— Заснуў я, — нібы апраўдваючыся, прамовіў Ян.

— Гэта добра, пан Завальня, гэтай ноччу вам сілы спатрэбяцца! — Ахрэм працягнуў Яну гарачы кубак. — Пасля ўчарашняга яны да нас днём болей не сунуцца. А вось пад раніцу палезуць.

— Ахрэм, жыва ўзнімай людзей! Здаецца, пачалося! — данёсся са сцяны ўстрывожаны голас Адама.

Ян падбег да амбразуры, прыпаў да яе, але нічога асаблівага не ўбачыў.

— Чуеш? — шапнуў яму на вуха Адам.

— Ціха.

— Вось і я пра тое ж. Ваўкі замоўклі. Чуеш, якая мёртвая цішыня? Гэта яны знак падаюць: ідуць! Ты пакуль тут заставайся, а я — на той бок.

Узвёўшы затвор, Ян ізноў зірнуў у амбразуру. За маленькім акенцам ён бачыў асветленую святлом месяца да-

рогу, цёмнае поле, сілуэты чорных крыжоў, але больш нічога не дзеялася. Усё быццам замёрла ў цішыні, якая, здавалася, звінела ў вушах да болю. Мінула некалькі хвілінаў пакутлівага чакання, як раптам удалечыні паказалася нешта, ахопленае полымем. Прыгледзеўшыся, Ян выразна разгледзеў вогненнае кола. Яно кацілася па дарозе наўпрост да брамы сядзібы. Неўзабаве кола падляцела, грукнулася і паваліласа побач. Адразу ж удалечыні паказалася мноства агеньчыкаў. З паходнямі ў руках, аглушаючы гіканнем цішыню, да драўлянай сцяны несліся вершнікі.

— Панёс чорт на дзіравы мост! Ну, даруй божа, пачалося! Пакуль не страляць! — выкрыкнуў Адам.

Пачакаўшы, пакуль вершнікі наблізяцца, ён гучна скамандаваў:

— Што стаіцё як у Бога за печчу? Плі!

Пад шквальны агонь вершнікі падляцелі да сцяны, кінулі ў яе паходні і тут жа вярнуліся ў цемру. Ян заўважыў, як адзін з нападнікаў паваліўся з каня. Астатнія, выхопліваючы на хаду з-за спіны новыя паходні, аддаліліся на бяспечную адлегласць, падпалілі іх і паскакалі назад.

Вершнікі набліжаліся, кідалі паходні і зноўку сыходзілі ў цемру. Ахопленыя полымем галавешкі падалі ў падножжа сцяны, пераляталі ў двор, а ў дальнім куце ўжо займаўся агнём дах свірна.

— Пане Адаме! Зірніце! Крыжы падпальваюць!

Ян заўважыў, як некалькі пешых людзей мітусіліся ля бліжэйшай чарады крыжоў. Яны палівалі іх нечым гаручым і тут жа падпальвалі каля падножжа. Ян прыцэліўся, стрэліў і ўбачыў, як адзін з нападнікаў, ускінуўшы рукі, паваліўся на зямлю. Але паходню адразу ж падхапіў іншы, падпаліў крыж і кінуўся ў цемру.

— Чортава кодла! За агнём схавацца хочуць! — ускрыкнуў Адам, стрэлам наўздагон улажыўшы ўцекача.

Агонь ужо займаў умацаванні. Сцяна палала ў некалькіх месцах. У паветры патыхала даўкім гарам. Неўзабаве агонь са свірна перакінуўся на старожку. Языкі полымя заскакалі таксама па даху флігеля для гасцей. Вершнікі да сцяны болей не набліжаліся. Схаваўшыся за ланцугом ахопленых агнём крыжоў, яны стралялі з цемры і чакалі, пакуль пажар выкурыць абложаных вонкі.

— Гарым! З усіх бакоў гарым! Жывымі спаліць хочуць, ірады! Пане Адаме, прарывацца трэба!

— Сам бачу, што час! — стрэліўшы, Адам адарваўся ад амбразуры. — Давай, Ахрэм! Здымай абарону з дальняй сцяны! Падкінь туды яшчэ агеньчыку, каб іх звіло і скруціла, ды ўсіх на коней! Хутчэй! — ён кінуўся да дома і праз імгненне выскачыў, трымаючы ў руках воўчую шкуру. — Янку, хадзі сюды!

Накінуўшы на пляменніка шкуру, ён прыціснуў яго да грудзей:

— Бывай, Янку! На гэтай зямельцы ўжо не пабачымся. А там, дасць Бог, сустрэнемся! Не здымай яе, пакуль не праскочыш крыжы! Гэтая шкура хоць і ваўчыная, але загаворанаяя! Ад кулі цябе зберажэ!

— А як жа вы, дзядзьку?

— Не бядуй па мне, Янку! Памрэм — дык на тым свеце адпачнём! Няма ўва мне страху! Я ўсё жыццё за нашую зямельку ваяваў і зараз смерць за яе з чыстым сэрцам прыму! Чуеш, ваўкі зноўку завылі? — прамовіў Адам, падпяразваючы шкуру. — А ведаеш, гэта не ваўкі! Яны раней людзьмі былі, дый толькі ад нянавісці ваўкамі сталі! Яны і хацелі б нам тут памагчы, ды толькі за крыжы пераступіць не могуць. Але калі вы да крыжоў даберацеся, там яны вам дапамогуць! Калі да крыжоў даскочыце — лічы, выратаваныя! Толькі вось што, Янку. — Адам паглядзеў Яну ў вочы, — Ваўком не рабіся! Застанься чалавекам! Жыві

не з нянавісцю, а з любоўю! Бывай, Янку! І ты, Ахрэме, бывай! Беражы яго, як мяне бярог!

***

Больш за сотню ваўкоў вылі з цемры, назіраючы за агорнутай агнём сядзібай Адама. Ланцуг з падпаленых крыжоў акрэсліваў вакол яе роўнае вогненнае кола. Раптам брама маёнтка адчынілася, і з яе вылецела калясніца. Двойка вараных ашалелых ад страху каней неслася па дарозе і цягнула за сабой ахопленую полымем павозку. Адразу за калясніцай паказалася кавалькада з трынаццаці вершнікаў. Шэсць уланаў з вялікімі крыламі, якія гарэлі ў іх за спінамі, скакалі па баках. У цэнтры знаходзіліся сем вершнікаў у ваўчыных шкурах.

Казакі, якія чакалі іх за крыжамі, тут жа адкрылі па кавалькадзе агонь. Кулі траплялі ў крылатых уланаў, але не рабілі ім шкоды. З тых толькі сыпаўся пясок і апілкі. Уланы аказаліся пудзіламі, якія прыкрывалі тых, хто хаваўся за імі. Вогненная кавалькада з ахопленай полымем калясніцай наперадзе імкліва набліжалася да шыхта казакаў на дарозе. Праз імгненне яна пратараніла клінам казачыя шэрагі, змяшала іх, і тут жа з кавалькады выскачыў вершнік.

— Скачыце да крыжоў, вашамосць! А мы іх прытрымаем! — данёсся да Яна голас Ахрэма.

Пачуўшы за спінай шабельны звон, Ян абярнуўся і заўважыў, што людзі Ахрэма ўступілі ў бой. Але з вогненнага месіва тут жа выскачылі некалькі казакаў і кінуліся за ім наўздагон. Не вагаючыся ні секунды, Ян прышпорыў каня і паляцеў далей па дарозе. Да крыжоў заставалася няшмат. Ян чуў за сабою тупат пагоні, а наперадзе ў водблісках пажару бачыў чорныя абрысы крыжоў, за якімі свяціліся з цемры сотні вачэй. Гіганцкая воўчая зграя, збіўшыся ў кучу, стаяла проста на ягоным шляху.

Калі да зграі заставалася зусім нямнога, Ян раптам разгледзеў, што наперадзе стаялі не ваўкі, а людзі, якія трымалі ў руках калы і вілы. Як толькі Ян да іх падскочыў, натоўп нечакана расступіўся, дазволіўшы яму праехаць. Але адразу ж у яго за спінай ізноў злучыўся. Праз імгненне Ян пачуў страшэнныя крыкі. Абярнуўшыся, ён убачыў, як людзі цягнулі казакаў з каней і тут жа азвярэла рвалі на часткі.

***

Смяротна паранены Адам ляжаў каля амаль дагарэлай брамы. На яго пачарнелым ад гару твары іграла ледзь прыметна ўсмешка.

— Ну что, пан Завальня, не уберегли кресты вашу земельку?

З намаганнем узняўшы вочы на фон Меера, Адам ціха прахрыпеў:

— Цяпер... яна і ваша. Барон. Чуеце? Ваўкі выюць. Яны нікога з вас адсюль жывым не адпусцяць...

## 88

Прывязаўшы каня падалей ад дома, Ян праз зараснікі пачаў прабірацца да чорнага ўваходу. Нават калі ў Камаедах засада яго не чакала, то пагоня магла наскочыць ў любую хвіліну. Але пакуль усё выглядала на дзіва спакойна. Ян увайшоў ў дом і толькі пачаў узнімацца па лесвіцы, як раптам пачуў за спінай голас:

— Не спяшайцеся, васпане, гэтай ноччу пагоня сюды не заявіцца. Яны ўсе, пэўна, ужо забітыя. Так што, пакуль з Полацка вышлюць падмацаванне, час пройдзе.

Ян павярнуўся і ўбачыў у падножжа лесвіцы Генрыха. Зрабіўшы некалькі крокаў насустрач, той працягнуў:

— А, разумею! Спяшаецеся ў Скірмонты! Па нявесту. Збіраецеся ўцякаць. Можа, вам грошы на дарогу патрэбныя? Як жа ў Еўропе без іх? Трэба ж уладкаваць гняздзечка на новым месцы. Марыся, вядома, панна дабрадзейная, але ўсё ж. Маладая прыгажуня. Як жа без сродкаў? Дык не праблема ж! У палацы хапае залатых манет. Можаце прыхапіць прыстойны пасаг, — Генрых кінуў на падлогу талер Казіміра.

— Пайшлі прэч! — Ян зрабіў яшчэ пару крокаў наверх.

— Пачакайце, а як жа сумленне? Не будзе вас раздзіраць? Столькі ахвяраў! Адам, Ахрэм, ягоныя людзі. У рэшце рэшт, Станіслаў. І ўсё праз вас. І ўсё марна.

— Навошта ж вы спынілі мяне ў Пецярбургу? Здарся ўсё тады, і гэтых ахвяр не было б!

— Што ж, патлумачу. Тады ў Пецярбургу вы не былі да гэтага гатовы. Вы сумняваліся. У вас не было яшчэ належнай нянавісці, надзвычай патрэбнай для гэтай справы. Цяпер жа вы саспелі, але вас трымае іншае. Каханне! Каханне заўсёды эгаістычнае. Дзеля яго чалавек гатовы ахвяраваць і дабром айчыны, і ўласным розумам, і нават, як ваш бацька, душу д'яблу прадаць. Зрэшты, хай гэта застанецца на вашым сумленні. Не смею затрымваць! Едзьце ў Еўропу. А за свабоду народа няхай ахвяруюць жыццём іншыя.

— Дзіўна, пан аканом, ад вас гэта чуць. Вы і свабода народа!

— Крыўдзіце мяне, васпане! Разумею, вы лічыце мяне паганцам. А я ж патрыёт! І нават больш за тое. Вы ж здрадзілі нашым багам. А народы жывыя, пакуль жывыя іх багі. Памірае вера ў іх — паміраюць народы. А я гэтым багам, у адрозненне ад вас, служу! Аднак вернемся! Была яшчэ адна прычына вас спыніць. Вы дарма б сябе загубілі. Думаеце, вялікі шанец забіць Імператара? Паверце мне, мізэрны. Адзін на тысячу. Ведаеце, колькі дробных акалі-

чнасцяў мусяць скласціся ў адно, каб гэта адбылося. Мы ж акрэслім вам дакладнае месца і час, дзе гэты тысячны шанец магчымы.

— Калі вы ведаеце, чаму ж не зробіце гэтага самі?

— Васпане, гэта мусіць здзейсніць такі чалавек, як вы. Так бы мовіць, нявіннае ягня ахвярнае. Наша задача іншая — усяго пасыпаць перад Імператарам дарогу залатым пяском. Ведаеце, ёсць у нас такое павер'е: калі зычыш чалавеку смерці, пасыпай перад ім дарогу жоўтым пяском.

— Але забойства аднаго Імператара нічога не зменіць!

— Вы шмат чаго не здольныя ўбачыць. Не зараз, але пазней Імперыя падзе. І ў гэтым мы ёй дапаможам! Вы ж не будзеце спрачацца, што гэта Імперыя — зло? А зло само сябе пажырае. Механізм яе разбурэння ўжо запушчаны. Вы — толькі малая яго частка. Гэтаксама як многія людзі, што, як ім здаецца, аддана Імперыі служаць. Напрыклад, фон Меер. Ведаеце, дурні ў гэтай справе вельмі карысныя. Калі б ён так старанна вас не шукаў, не гнаўся, нібы ганчак, за вамі, мажліва, нічога б не здарылася. Але ёсць людзі, якім дастаткова даць намёк, а далей яны ўсё дадумаюць самі. Знойдуць змову там, дзе яе насамрэч і не было.

— Досыць, пан аканом! Гэтым разам вы ў сваіх хітраспляценнях памыліліся. Не ўлічылі, што каханне можа зблытаць вам карты.

— І ўсё ж не спяшайцеся з адказам. Перш чым прымеце канчатковае рашэнне, вам варта сустрэцца з пасланцом ад Яго.

— Гэта нічога не зменіць! Мы ад'язджаем!

— Не спяшайцеся! Мяркую, вы зменіце сваё рашэнне. Падыміцеся наверх. Вас даўно чакаюць у пакоях Станіслава.

Благое прадчуванне ахапіла Яна. Нічога не адказаўшы, ён імкліва ўзняўся па лесвіцы і кінуўся да пакояў Станісла-

ва. Расчыніўшы дзверы, ён зрабіў крок і заціх. Няздольны што-небудзь прамовіць, Ян з хвіліну стаяў у поўным змярцвенні. Потым падышоў да труны і ўтаропіўся на цела Станіслава. Пастаяўшы нерухома яшчэ крыху, ён схапіў казліную маску і з нянавісцю кінуў яе на падлогу.

— Дзе яго галава?

— Вы знойдзеце яе ў старой капліцы.

— Што я мушу зрабіць?

— У вас яшчэ ёсць выбар. Вы можаце паехаць.

— Паехаць? Адзін? Пасля ўсяго, што здарылася?

Ян падняў казліную маску, павольна падышоў да акна, расчыніў яго і кінуў маску ў цемру.

— У мяне будзе адна ўмова. Вы вызваліце ад дамовы ягоную душу.

— Добра! Гэта вашае права. Каля ўваходу чакае экіпаж. Ён даставіць вас у Пецярбург. Вы зменіце імя і адрас. Але спачатку адпраўляцеся ў капліцу. Там знойдзеце ўсё, што вам спатрэбіцца.

Ян на імгненне застыў, узняў вочы і ціха прамовіў:

— Бывай!

Ён накіраваўся да дзвярэй.

— Даруй мне, Яне!

Ужо на парозе разам з ветрам, што ўварваўся ў пакой, да Яна даляцелі словы, кінутыя наўздагон Марысяй:

— Хіба ведзьма не можа кахаць?!

Абярнуўшыся, Ян убачыў у апусцелым пакоі ля цела бацькі толькі белую сароку. Зрабіўшы колькі крокаў па труне, яна ўзняла на яго вугальнае вока і тут жа выпырхнула ў чарнату вакна.

***

У старой капліцы ўнутры прыадчыненай грабніцы з толькі выбітым надпісам *Станіслаў Завальня* Ян знайшоў саква-

яж. У ім ляжала галава бацькі, бомба, пачак асігнацый і дакумент на імя Ігнацыя Грынявіцкага. А яшчэ запоўнены магічнымі знакамі пергамент. На другім яго баку змяшчаўся надпіс:

Санкт-Пецярбург. Набярэжная Екацярыненскага канала. Сто метраў на поўнач ад Нова-Канюшанага моста. 1 сакавіка 1881 г. 14.57.

## 89

Бомба выбухнула на «Кастрычніцкай» у 17.56. Яна разнесла левы бок платформы па кірунку цягнікоў на Уручча. У самы час пік нехта пакінуў торбу, набітую выбухоўкай з цвікамі каля лаўкі непадалёк ад эскалатара. Адзінаццаць чалавек загінулі на месцы. Чатыры сканалі пазней. Болей за дзвесце людзей даставілі ў шпіталі.

Калі мінуў першы шок, адны закрычалі: «Імператар кінуў бомбу ў народ! Яму патрэбна нагода, каб задушыць падполле!» Другія, што гэта падполле цэлілася ў Імператара, хацела яго спалохаць. Трэція сцвярджалі, што гэта справа рук кагосьці з найбліжэйшага кола, маўляў, дзеля таго каб па-новамуператасаваць вакол Яго калоду.

Але прайшоў час, а падполля ніхто не крануў. Дый навошта яго чапаць? Заганяць цытату ў падполле, каб яно стала не постмадэрнісцкім, а сапраўдным падполлем. Тады ж яно зробіцца небяспечным, няўлічаным, няясным, без інвентарных нумароў і бірак. Палохаць Імператара таксама не мела сэнсу. У Жоўтым Горадзе, дзе дарогі пасыпаюць жоўтым пяском, і так усе даўно ўсяго баяцца. Зрэшты, калода таксама засталася ранейшай. Дый навошта яе тасаваць? Усе ж ролі даўно распісаныя, а гэта ўсяго толькі гульня. Гульня ў дыктатуру. Гульня ў дэмакратыю.

Цытата з Гітлера. Цытата са Сталіна. Цытата з Цяньаньмэнь. Цытата на злачынства. Цытата на пакаранне.

А можа, постмадэрнізм калі-небудзь сканчаецца? І ў гэтай гульні ў пустых міжрадкоўях цытат нараджаюцца рэальныя *бесы*? Імператар я? Ці права маю?

І тады Народ кідае бомбу ў Народ.

## 90

Мы сустрэліся ў сярэдзіне сакавіка. Ноч пакрысе адступала. Дні рабіліся даўжэйшымі, таму звер забіраўся на воблака ўсё пазней і пазней. Напэўна, і знікаў ён раней, але на світанку я ўжо спаў. Аднак зіма па-ранейшаму моцна трымала горад у абдымках калючага, пачарнелага ад доўгіх начэй снегу. Часам здавалася, што яна ніколі не скончыцца, а гэты акамянелы снег так і будзе ляжаць да наступнага года.

Я прыехаў да Машы на возера з поўным планам уцёкаў і прадчуваннем, што гэта сустрэча ўсё вырашыць. Я ўжо дакладна ведаў, як вывесці яе з дэпрэсіі. Трэба было пакінуць дэпрэсію ў гэтым згубленым сярод бясконцай зімы горадзе, сесці на карабель і адправіцца ў далёкае, магчыма, даўжынёю ў жыццё, падарожжа. Маршрут я складаў кожны дзень, пакуль мы з Машай не бачыліся. Ён пачынаўся з двух тыдняў у Грэцыі, куды ў красавіку мяне запрасілі з праектам. У траўні мы мусілі паехаць ў Татры. На пачатку ліпеня нас чакала Венецыя. Затым зноў Польшча — два тыдні ў прыгор'і пад Казімежам Дольным. Пасля — два месяцы ў Берліне. Сябры з Германіі прапанавалі стыпендыю ў пісьменніцкім доме, дзе я збіраўся пачаць новы раман. У верасні была Швецыя. Куды потым, пакуль я не ведаў. Але «потым» ужо не мела значэння. Галоўнае — каб яна пагадзілася

Да паездкі ў Салонікі заставалася зусім крыху часу, трэба было ўжо купляць квіткі. Каб дапамагчы мне з праектам, з намі ляцеў Зязюля. За два тыдні да сустрэчы я адправіў Машы ілюстраваны даведнік па Грэцыі. Потым патэлефанаваў і жартам папрасіў скласці нам з Зязюлем экскурсію па Афінах. Але яна з сумам сказала, што нікуды не паедзе. Я спрачацца не стаў у спадзяванні пераканаць яе пры сустрэчы.

Калі я з'явіўся за горадам, ужо сцямнела. Маша кветкам не ўзрадавалася, халадна кінуўшы, што я зноўку ўзяўся за старое. Потым, прыхапіўшы пляшку каньяку, мы адправіліся блукаць вакол возера. На пустым заснежаным беразе я ўгаворваў Машу ляцець са мной да паўднёвага мора, казаў, што сонца нас уратуе. Я пераконваў, настойваў, маліў, маляваў перспектывы. Казаў, што шчасце зусім побач, варта толькі працягнуць руку. Але яна быццам не чула, а можа, не верыла. Потым прамовіла, што ёй зімна, і ў цемры па тонкім сакавіцкім лёдзе, пратоптваючы ў снезе сцяжынку, мы праз возера пабрылі да ейнага дома.

Не памятаю, хто пачаў першы. Відаць, я. Здаецца, я кінуў ёй, што сыходжу. А можа, яна. Але дакладна тое, што здарылася гэта пад «Дэпеш мод». Мы вярнуліся, і яна якраз паставіла «Violator», А можа, не «Violator», а нейкую зборку. Але там пэўна быў «Personal Jesus».

Reach out and touch faith... Your own... personal... Jesus...

Яна ламала мае кветкі, адрывала ружам бутоны, кідала іх на падлогу, у шаленстве таптала...

Нейкі дзіўны правал. Я нават не памятаю, што тады гучала. Калі «Personal Jesus», было бы лепш. Яскравей і пафасней. Пакет апельсінавага соку. І гэтая талерка, не памятаю з чым. Здаецца, з фаршаваным карпам. Так, дакладна з карпам. Я купіў яго па дарозе ў «Кароне». Пад «Personal Jesus» яна б уляпілася ў сцяну прыгажэй.

Your own... personal... Jesus... Someone to hear your prayers... Someone who's there...

Я кідаў талеркі ў белыя сцены. Біў і біў чысціню яе ціхага дома. Таптаў ненавісную мне чысціню і посуд, які яна заўсёды ўтрапёна мыла, калі не верыла і не хацела са мной гаварыць.

А можа, гэта быў «Little fifteen». Пад «Little fifteen» было б яшчэ прыгажэй. І рамантычней. Бо «Little fifteen» — гэта ж яна, а я — стары звар'яцелы палкоўнік. Уяўляю, як я быў ёй ненавісны. Мой скручаны ў шаленстве твар. Дзікія звярыныя вочы. Пад «Little fifteen» яна павінна была б ненавідзець мяне яшчэ болей.

Я нават не памятаю, што яна мне крычала. Але нешта дакладна крычала. Хвастала мяне па твары. Зрывала акуляры. Кідала іх на падлогу і зноўку таптала.

You help her forget the world outside You're not part of it yet And if you could drive You could drive her away To a happier place To a happier day That exists in your mind

Дзіўны правал. Я нават не памятаю, што тады гучала. Быццам бы і выпіў няшмат. Можа, з марозу развезла? Мароз дакладна быў. На возеры было цёмна і холадна. Яна ішла наперадзе па калена ў снезе і высока падымала ногі. Штосьці пра кошку казала. Кошка сапраўды была. Здаецца, шэрая. Адразу, як я прыехаў, яна зашыпела і збегла. Спалі яны разам. Яна змайстравала для кошкі хатку з полагам у сябе на ложку. Можа, наўмысна? Каб зразумеў, што спаць разам мы гэтай ноччу не будзем.

Я, нібы кошку, кідаў яе на канапу. Душыў. Крычаў, што кахаю...

Напэўна, гэта было штосьці іншае. Калі б «Personal Jesus», я б запомніў. Мозг быццам бы адключыўся. Не ўвесь. Можа, адно паўшар'е. Правае. Ці левае. Здаецца, гэта было штосьці нейтральнае. Халоднае і пустое. Нібыта з косма-

су. Здаецца, нешта падобнае я чуў у Цукермана ў «Вадкім небе». Маленькая іншапланетная талерка з прыхаднямі, якія забіваюць усіх, хто спрабуе з ёю пераспаць. Усё ж «Personal Jesus» быў бы болей да месца.

Reach out and touch faith... Reach out and touch faith... Reach out and touch faith...

Потым яна ўцякла наверх, а я застаўся ў зале. Расплюхваючы каньяк на абрус, я наліў сабе і тупа ўтаропіўся ў пустое акно. За ім не было больш возера. Толькі мой цьмяны адбітак ў чорным шкле.

## 91

**Я** пазнаёміўся з імі на вуліцы Соду, непадалёк ад вакзала. Другую браць не хацеў. І ў цемры было заўважна, што яна — баба-пузыр. Маладая, але рыхлая, з поўным піўным целам. Першая на твар была страшная, але задніца хударлявая, амаль як у Машы. П'яны, я падышоў і нахабна так запытаўся: «Чего скучаем? Не хотите ли коньяку?». Яна адказала: «Я не скучаю! За час пятьдесят!» — «Долларов или литов?» — «Баксов, конечно!»

Але тут умяшалася соладавая таўстуха. Сказала, што ёй у гэтую ноч якраз сумна, што за тыя ж грошы гатова скласці кампанію. Я спачатку не зразумеў, але яна ўдакладніла: «Пятьдесят за двоих!» Мне яе не хацелася, але адбыць рытуал з дзвюма падалося забаўней. Прайшоўшы метраў пяцьдзясят па вуліцы Соду, я пазваніў у цёмныя з маленькім акенцам дзверы. Неўзабаве ў хостэле запалілася святло. З'явілася картапляная старая і незадаволена прабурчала, што з танных ёсць толькі вольны пакой на другім паверсе. Дваццатка за гадзіну, калі даўжэй, давядзецца даплочваць.

Потым яна доўга па-літоўску сабачылася з бачуркай і худой. Сэнсу я не ўлоўліваў, але па словах «заебала»

і «блядь», якія праскоквалі ў размове, зразумеў, што яны знаёмыя. Старая лаялася брыдка, таму яе і прыдушыць было не шкада.

Чаму ў апошнюю ноч на азёрах яна раптам сказала, што абавязкова з ім сустрэнецца і пераспіць? «Але навошта?» — «Нінавошта. Проста ён мой сябра». — «А як жа я?» — «Вярні з адстаўкі старых каханак». Учора я амаль пра яе не думаў. Дакладней, узгадваў, але хутчэй з раздражненнем. А раніцай, прыехаўшы ў Вільню, зразумеў, як я яго ненавіджу. Яна хутка прыедзе ў гэты горад на сесію, будзе трахацца з ім, а я нават не ведаю, хто гэты казёл у чалавечай масцы. Можа, ён? Той, што зараз прайшоў міма па Гедэміна? Ці вось гэты хлопец за стойкай? Я зазіраў у мужчынскія твары на вуліцах, спрабуючы выявіць яго пад маскай, і, не разумеючы, хто ён, ненавідзеў усіх.

Раскладная канапа ў куце цёмнага паўпустога пакоя. Два высокія завешаныя парцьерамі вокны выходзяць у двор. Святло запальваць я не стаў, хапала таго, што прабівалася праз акенца з лазенкі. Часу на рытуал заставалася няшмат, а плаціць яшчэ дваццатку старой не хацелася. Прасцей было яе засекчы. Таму я адразу ўліў тоўстай і худой па кілішку і адправіў памыцца. Калі яны выйшлі з лазенкі, я ўліў ім у рот яшчэ па адным і выцягнуў тапор.

Калі яна так сказала яшчэ на азёрах, значыцца, ужо тады ўсё пастанавіла. І нават яшчэ да таго, як я душыў яе першай раніцай новага года. Гэтае рашэнне я ўбачыў на ейным твары, калі мы толькі збіраліся ад’ехаць на Блакітныя азёры. Звычайна яна казала мала, але я заўсёды без слоў разумеў яе па вачах. Менавіта ж яны паклікалі мяне з прыступак «Шклатары» тым летам, а потым зноў на прэм’еры. Але той раніцай напярэдадні Новага года я, зірнуўшы ў ейныя вочы, адразу ўсё ўцяміў. Я ўсё зразумеў і дзіка занерваваўся ад страху прызнацца сабе ў тым, што паба-

чыў. Яна вачамі нібыта прамовіла: «Я сыходжу!» І гэта адразу ж пасля дзвюх запар пяшчотных начэй.

Можа, прычына была ў тым хлопцы, які разбіўся? Яна запэўнівала, што ён проста сябра. А калі падманула? Можа, яны рассталіся, а я спатрэбіўся, толькі каб развеяць нуду. Чаму ж яна адразу перамянілася пасля весткі пра катастрофу? І ў той дзень упершыню прамовіла: «Мы не разам!»

Спачатку я даў ім тапор аблізаць. Соладавая зубы мела лепшыя. У худой жа замест пярэдніх зеўрала некалькі цёмных правалаў. Тое, што худая шапяляе, я заўважыў яшчэ на Соду, калі яна сказала: «Я не скуцаю! За цас пяцдэсят». Шкада, што валасы ў яе былі не даўгія, можна было б прыкрыць імі твар. Але ў яе тапырылася кароткая, вожыкам, стрыжка. Таўстуха мела валасы хоць і даўгія, але іх усё адно б не хапіла, каб прыкрыць яе цела.

Калі мне надакучыла, я дастаў тапор з іхных зубоў, уліў ім у рот яшчэ па кілішку і павярнуў абедзвюх спінай. Гэта кампазіцыя мне спадабалася больш. Дупа ў худой была амаль як у Машы. У бачуркі адразу ж правіс жывот, талія абцягнулася, так што і азадак стаў апетытнейшым. Паставіўшы іх поплеч на калені, я зірнуў на дзве чорныя з чырвонымі бялкамі кашачыя зрэнкі. Недзе ў глыбіні гэтых вачэй хавалася таямніца жыцця. Але зараз яна была да мяне раўнадушная. Маша заўсёды глядзела па-іншаму. Яе погляд бударажыў і нібы ўцягваў ў сябе апроч маёй волі. Ён сам нібы быў увасабленнем волі. Гэтыя ж вочы, калі і ўвасаблялі ў сабе волю свету, то гэта воля была абыякавая. Яна не кахала, а проста тужыла.

«А ты ничего!» — лашчыла зрэнкай тапор таўстуха. «Хоросый топор! Крэпкий есцо!» — шапяляла худая, уцягваючы яго ў глыбіню свайго чорнага вока. «Даже у молодых топор послабее!», — праварочвала яго ў зрэнцы таўстуха. «Да, хороший топор. А я его собирался зарыть. Целибат!» —

«Сто, сто? Какой сэлібат?» — «Да, тебе, ежик, не понять! Зарок вернасці. Каханне!» — «Език тозе кахаў! А сто концыть не мозес, это понятно. Выпил много. Пьяный концыць не мозет». — «Это правда. Пьяный не кончит. Хочешь, я попробую ртом?» Таўстуха пацягнулася да ляза тапара, але: «Время вышло!» — пагрукала ў дзверы старая.

Эпілог 1

Імператар Аляксандр II быў забіты беларускім шляхціцам Ігнацыям Грынявіцкім 1 сакавіка 1881 года ў 2.57 папоўдні на набярэжнай Екацярынінскага канала непадалёк ад Нова-Канюшанага моста. Праз некалькі гадзін ад атрыманых ран Грынявіцкі памер. Перад смерцю свайго імя ён не назваў. Неўзабаве яго адсечаная галава была выстаўленая ў Пецярбургу на публічнае апазнанне.

Эпілог 2

Абвінавачаныя па справе аб выбуху ў мінскім метро Канавалаў і Кавалёў 30 лістапада 2011 года былі прысуджаныя да расстрэлу. Прысуд прыведзены ў выкананне 16 сакавіка 2012 года.

Эпілог 3

А шостай раніцы я прачнуўся. У радыёкропцы зайграў гімн, і я пачуў, як стары, што жыў за сценкай, пад «Мы, беларусы, з братняю Руссю...» з крэхтам узняўся і пачаў грукаць посудам. Ён кідаў нешта ў рондалі, ставіў іх на пліту і, лаючыся сам з сабой, карміў сабаку. Я павярнуўся да Машы і раптам адчуў жудасны страх, што яна знікне. У гэтай згубленай у снягах хаце, здавалася, цяпер увесь сэнс

толькі ў ёй. Варта ёй сысці, і ты назаўжды застанешся тым старым, закінутым у адзіноту кухні, дзе сярод рондаляў і тазоў цябе пачуе толькі сабака, а ты — адно гімн і навіны з радыёкропкі.

Часам, калі я гляджу на жоўтае воблака за цёмным акном, на памяць прыходзіць гэты ўспамін аб нашай апошняй ночы на Блакітных азёрах.

Я тэлефанаваў, дасылаў ёй эсэмэсы, але Маша так ніколі і не адказала. Канаваленка слушна кажа. У кіно толькі дзве эмоцыі. Каханне і нянавісць.

Нянавісць. І Каханне.

*Берлін — Мінск, 2011—2012 гг.*








# БАХУСЫ І ДЫСКУРСЫ

МАРКЕТЫНГ І МЭНАДЖМЕНТ ВЫДАВ…ТВА

100 мл

ДЫЯЛОГІ АБ РЫБАЛЦЕ

200 мл

DEEP SPOUT

*Hard erotic bestseller!*

300 мл

ФІЛАСОФСКАЯ ДУМК…

400 мл

ПСІХАЛЁГІЯ СТАСУНКА…

500 мл

КАЗКІ КАЛЫХАНКІ

